# ЗМЕСТ Крыніца

# ТЫ Алена ВАСІЛЕВІЧ



*Божа, хто ён,*
*гэты чалавек?*
*Можа, вар'ят?*
*Я хачу толькі аднаго:*
*вызваліць свой рукаў.*
*Мне боязна.*

**З Аленай ВАСІЛЕВІЧ гутарыць Леанід ГАЛУБОВІЧ**

"СХІЛЯЮСЯ НАД БЕЛАЮ СТАРОНКАЙ.. "

**АХ, СВЕТ, СВЕТ...**

НЕ ТОЛЬКІ ПРА АЛЕНУ ВАСІЛЕВІЧ
ПАРТРЭТ НА ФОНЕ СОСНАЎ
"ДЗЯКУЙ ЛЁСУ, ШТО ЁСЦЬ ВЫ.. "





*З Табой:*

# З Аленай ВАСІЛЕВІЧ гутарыць Леанід ГАЛУБОВІЧ

**– Шаноўная Алена Сямёнаўна, жанчыны мяне заўсёды бянтэжылі, інтрыгавалі, спакушалі і, невядома за што, падтрымлівалі ў пераломныя хвіліны жыцця і творчасці. Не кажу ўжо тут пра маці і жонку... Яшчэ на пачатку маіх літаратурных намаганняў і па выхадзе першай кніжачкі мной апекаваліся і Вера Палтаран, і Алена Васілевіч, і Жэня Янішчыц, і Таіса Бондар, і Вера Вярба...**

**Адназначна, што я перад жанчынамі, у тым ліку і творчымі, у неаплатным даўгу.**

**І ўсё ж жанчын я не ведаю. Давайце пагаворым пра жанчын-літаратараў, што, мажліва, Вам дасца лягчэй.**

**У літаратурнай сусветнай класіцы наогул адзінкі выбітных жаночых іменаў...**

Што **літаратура для жанчыны** і што **для літаратуры жанчына? Наколькі ўвогуле жанчына асоба літаратурная?**

– Ну, вось, бачыце . А то ўсё вам, мужчынам, кепскія жанкі . Але ж каб жанчыны, гэтак, як у Вашым выпадку, заўсёды ведалі, каго апекаваць-падтрымліваць! Каго ганараваць-любіць, каму слаць пуховыя падушкі. А то ж – ці раз такое здараецца! – чаго толькі не здольная ўбіць сабе ў галаву жанчына.

І Вы думаеце, жанчыны-літаратары выключэнне? Памыляецеся наадварот!

Ну, а што датычыць творча-сакраментальнага. "**Што** літаратура для жанчыны і **што** для літаратуры жанчына?", дык тут я спашлюся лепш за ўсё на аўтарытэт Льва Талстога: "Мужчинам литература заменяет деторождение, поэтому женщины пишут так мало и так плохо. " Пераканаўча? Думаю, можна было б паспрачацца з Львом Мікалаевічам хіба толькі адносна яго сцверджання, што жанчыны пішуць мала. Мала?!

Але ж Леў Талстой жыў у іншым – не да рэшты зэмансіпіраваным яшчэ часе.

# "СХІЛЯЮСЯ НАД БЕЛАЮ СТАРОНКАЙ..."

**Ёсць літаратары, якія на злом галавы імкнуцца ўхапіць момант. Не момант ісціны, а той самы, вокамгненны, хвілінны, так званы актуальны. І яны мітусліва падладжваюцца пад час: то вынаходзілі канфлікты добрага з лепшым, то мадэліравалі сюжэты пра перадавыя метады будаўніцтва, то кідаліся ў літмарш, асвойваючы харчовую праграму; апошнім часам яны ўзахліп галёкалі пра інтэрдзяўчынак і бізнесхлопчыкаў, пра какаіністаў і марфіністаў, шоуменаў і іншых фін- і літрэнтабельных персанажаў найноўшых часоў.**

**Алена Васілевіч ніколі не мітусілася, выдаючы "літхарч" шалёна грамадскага попыту. Вы не знойдзеце ў яе "распрацовак" праблем, што не сыходзілі з матэрыялаў першых калонак газет – учора, сёння, заўтра. Як, дарэчы, не сустрэнеце метафізічных пытанняў вечнасці, глабальных узрушэнняў, палу нечуваных парыванняў, лабірынтных сітуацый. Ніякіх сенсацый. Няма і падрабязных апісанняў пра тое, як людзі корпаюцца ў гародзе, п`юць гарбату, сварацца з начальствам, вядуць гаворку з суседзямі...**

**Алене Васілевіч не ўласцівае захапленне падрабязнасцямі – не таму, што матэрыяльныя рэаліі жыцця ёй чужыя, яны прысутнічаюць, і дастаткова**

**– З цяжкасцю ўспрымаю жанчыну-палітыка альбо грамадскага дзеяча... Куды цікавей яна бачыцца і разумеецца на кухні, за столікам у кафэ ці ў кавярні, урэшце, прабачце, – пры начным святле таршэра...**

**Спачувальна ўяўляю яе і за пісьмовым сталом...**

**Яшчэ зусім нядаўна адна таленавітая паэтка змагалася на мінскіх марозных вуліцах за дэпутацкі мандат... Госпадзе, роспачна думаў я, на якую "кухню" яна прэцца?! Там жа яе самую засмажаць...**

**Своечасова ў такіх выпадках прыходзяць на памяць радкі Жэні Янішчыц: "Дзяўчынцы хочацца ў паэты, што ў катаржанкі, – дзе ж ёй знаць?!"**

**Наколькі для Вас творчасць ёсць катарга, наколькі – воля?**

– Не бядуйце па жанчынах-палітыках, па заўзятых змагарках-дзяячках... Яны ведаюць, чаго дамагаюцца! Вы не ведаеце, які гэта магутны і н с т ы н к т у жанчыны – імкненне ўзвысіцца, кіраваць, падначальваць! Пры жыцці ўзвесці помнік – мужчыны ж сабе ўзводзяць!.. А калі не ўдаецца б р о н з а, дык ёсць нешта і зусім процілеглае: пакорлівае памкненне далучыць сябе да ліку с в я т ы х. Зараз гэта ў модзе. Хіба Вы не чуеце паднебных жаночых галасоў з трыбун ці па радыё, не бачыце на блакітным экране святых грэшніц, гатовых ледзь не з тэлевізійнай студыі адразу ж кіравацца ў манастыр?..

..Мне падабаецца Ваш ідэал жаноча-хатняга ўкладу Гэтакі, ведаеце, сучасны л і б е р а л ь н ы д а м а с т р о й! Жанчына – няхай сабе без асаблівай прынукі – у лёгкім халаціку і хвартушку мітусіцца на кухні (а за сцяною кухні няхай сабе таксама с в а й г о патрабуюць дзеці...). Ну, а мужчына? Госпадзе! Ва ўсе часы Бог заставаўся на мужчынскім баку...

"Соколовский хор у "Яра" был когда-то знаменит..." Цяпер гэтыя "яры" распаўзліся па ўсёй ужо ЭСЭНДЭШНАЙ зямлі! І не трэба "троек с бубенцами" Да сённяшніх "яроў" рулююць "мерседэсы!" А калі іх няма?.. То я згаджуся з Вамі: прывабным вечар з жанчынай можа стацца і за столікам кафэ ці ў кавярні. Што ўжо казаць пра спакуслівае "начное святло таршэра"! З "Псіхеяй-душачкай".. Жанчынай!

...А калі ёй лёс наканаваў "пісьмовы стол", як Вы кажаце? Пісьмовы стол, вядома ж, – не кафэйны столік! З Галгофай бліжэй яму параўнанне. Ды што ўжо тут "с т е н а т ь"...

Вы вельмі дарэчы ўспомнілі Жэню Янішчыц... І ўсё ж – за ўсё сваё нядоўгае трагічнае жыццё – ні адзіным радком не пажалілася яна на сваю п а э т ы ч н у ю долю.

*Які зайздросны свет паэта –*
*З нябачных промняў вобраз ткаць,*
*І – заміраць на схіле лета,*
*І – ў вольным слове ўваскрасаць!*

...Наколькі для мяне – асабіста – "творчасць ёсць катарга, наколькі – воля"?

**адчувальна. Аднак пісьменніцу больш цікавіць аўра матэрыі, псіхафізічны стан, што адухаўляе наша быццё, стварае яго настрой, вызначае яго танальнасць. Калі выяўляюцца характары і адметнасці асобы, калі дэталі высвечваюць трагіфарсы, трагікамедыі, драмы нашага жыцця.**

**І ў тым, мне здаецца, прывабнасць яе пяра. Пяра тонкага, лірычнага. Гэта вы можаце прасачыць ва ўсіх яе творах. У шматлікіх, шматлікіх выданнях... Алена Васілевіч – з тых аўтараў, якіх рэкамендуюць чытаць у школе, творы якіх перакладзены на многія мовы. Рэкамендуюць, уключана ў праграму, школа – ад гэтага заўсёды трошкі патыхае гербарыем, але свет прозы Алены Васілевіч нехрэстаматыйны, не высушаны, ён яркі, дынамічны, прыцягальны.**

**Вы адчуеце гэта, прачытаўшы яе тэтралогію "Пачакай, затрымайся...", яе апавяданні "Пісар страявой часці", "Мыс Добрай Надзеі", "Марыула", "Адно імгненне", "Хто дурань?", "Колер марской хвалі", "Гаварылі трынаццаць хвілін", "Зімовая дарога", яе эсэ, артыкулы... Пералічваць можна доўга.**

**Алена Васілевіч вядзе гаворку нібыта не пра галоўнае, пра выпадковае, пра дробязі, мілыя недарэчнасці. Аднак выпадак не так проста стрэліў у голаў, згадаўся, пабачыўся. Ён выбраны, уключаны ў пэўную сістэму каардынат. Празаіку трэба весці пра гэта размову. І менавіта ў тым ракурсе, які яна прапануе чытачу.**

**Ну, да ўзору, апавяданне "Колер марской хвалі". Сюжэт, калі не самы распаўсюджаны, то кожным разам дастаткова**





Гэты стан, гэты с в е т ні з чым не параўнальны. Нават з каханнем – калі ты нібыта і па зямлі не хадзіла, а нібыта толькі лунала недзе... Пад аблокамі! Не параўнаеш нават з мацярынствам, калі туліш да перапоўненых пяшчотай грудзей сваё дзіця... Гэты стан душы назвы не мае!

А што датычыць вызначэнняў: катарга, ланцугі, наручнікі... Усё гэта тады і ў таго, мабыць, хто сапраўды не здольны існаваць без творчых "кайданоў" ("Працую над раманам!..", "Пішу паэму!" – і не менш!). Не здольны, не можаш – адкладзі! Пахадзі б о с ы м і н а г а м і па зямлі... Леў Талстой і той а р а ў і к а с і ў і нават ш ы ў б о т ы... (І, пэўна, т а к ратаваў сябе ад "к а т а р г і"?..)

Ды і ў Вас жа самога ёсць вершы:

*Калі не пішацца –*
*Не муч душу ныццём.*
*Няхай суцішыцца,*
*Дыхне жыццём.*
*Няхай натоліцца*
*Быццём...*

Ну, а пра жанчыну – пісьменніцу-паэтку – і казаць няма чаго!

Добра разумею, што такое разважанне не надта сур'ёзнае Напэўна, нават не прафесійнае. Яно выспела выключна на маім уласным вопыце Сама я "ратуюся" тым, што паперад жанчына, чым пісьменніца Я не ведаю п а к у т ад л і т а р а т у р ы Мне хапае майго ж ы ц ц я...

Гэта, аднак, зусім не азначае, што пішацца мне лёгка. Гэтак узяла, прысела – мімаходзь – да стала і пайшла.. с т р а ч ы ц ь! Кожны сказ на кожнай новай сваёй старонцы – сама з сабою – я прамаўляю, а г у ч в а ю не адзін раз, не два, не сем разоў часам! Пакуль – на слых – не загучыць ён у адпаведнай – на гэты момант – адзіна патрэбнай мне танальнасці... Іншая справа, што праз нейкі час – не раз так здараецца – усё зноў ляціць, зноў патрабуе новага пошуку. Але хіба гэта пакута, катарга?.. Гэта – найсаладзейшая, найжаданая няволя!

**– Вы – укаранелая традыцыяналістка ў літаратуры. Але ж, пэўна, адчуваеце, як літаратура пачынае задыхацца сама ад сябе – ад напісанага, назапашанага, напластаванага стагоддзямі...**

**Ды і тое выцясняецца з духоўнага ўжытку тэлеэкранам, кіно, камп'ютарнымі праграмамі... Ці не таму адны кідаюцца ў пошукі формы, стылю, мыслення, а іншыя зарабляюць грошы на дэтэктыўнай, эратычнай ды падобнай ім маскультуры.**

**Што рабіць Слову, каб не** ўпусціць **чалавека?**

**трывіяльны. Муж цёткі Лёлі на дзевяць гадоў маладзейшы за яе, і гэта прычына недаверу, папрокаў, рэўнасці. Ну, і што? Ці мала на нашым свеце раўнівых жанчын? І маладых мужоў? Але апавяданне іскрыцца, мігціць, палоніць – ірoніяй, гумарам, дабратой. Мастацтвам партрэта і ўменнем пабачыць у звычайнай сітуацыі каларытныя постаці, постаці, што даюць магчымасць адчуць "гульню прыроды".**

**Мікалай Іванавіч, улюбёнец жыцця, прыхільнік Бахуса, заўсёды абаяльны – нават пад шафэ, нават калі дарагая жонка гатовая спляжыць яго: за маладжавасць, за несакрушальны мужчынскі шарм... Ён не апускаецца да вульгарнай лаянкі і манер заўсёдніка шынка, памятае пра сваю старадаўнюю класічную адукацыю (ён, кухарчын сын, атрымаў яе), памятае пра сваё чалавечае і мужчынскае рэнаме. Як сапраўдны джэнтльмен і чалавек, што зазнаў плён асветы, паблажліва мармыча: "Лёлечка! Ты Ксанціпа!.. Ксанціпа таксама аблівала Сакрата памыямі..."**

**Мы разумеем, што адмысловы гарнітур да хатняй вячэры і выкшталцоны адзетак да выпадку сустрэчы шаха і шахіні ў складзе дэлегацыі ад горада – не даніна рытуалам і не прыхільнасць да ўрачыстых рэквізітаў, гэта ўменне жыць са смакам, адчуваючы вось тую самую "гульню прыроды" і крыху падыгрываючы ёй, ва ўнісон з рытмамі быцця, ён іх чуе, угадвае, ведае. З іх збілася цётка Лёлечка – з-за недарэчных дзевяці гадоў, на якія спазніўся нарадзіцца яе муж. Цётка Лёлечка – таксама не проста старая і раўнівая жанчына, яна і вайну прайшла**

– Я сапраўды – "укранелая". Я не навучылася ні хадзіць на галаве, ні станавіцца на катурны... Я, пэўна, лічылася б у адстаючых, каб, не дай Божа, трапіла ў "школу" скандальна вядомай расіянкі Валерыі Нарбікавай... Мала чаму навучылася б, відаць, і ў сваіх, таксама не меней "сучасных", штукароў ад літаратуры...

І ўсё ж я не магу не пагадзіцца з Вамі: наша беларуская літаратура мае вельмі надзённую патрэбу ў абнаўленні. Найперш, можа, стылю, творчай манеры, ды і мова, і побыт, і насельнікі яе. . А то ўсё яшчэ тупаюць па старонках мастацкай літаратуры дзяды Астапы ды Петручкі ў шарачковых портках.

Я не пагаджуся з Вамі, мусіць, у адным толькі, што літаратура "задыхаецца" – "ад напісанага, назапашанага, напластаванага стагоддзямі".. Госпадзе, калі б мы толькі ўмелі гэтым "назапашаным" (калі яшчэ захаваліся такія "запасы"?) па-гаспадарску, цывілізавана, адукавана(!) разабрацца... Што ж датычыць нашага тэлеэкрана, то не кажыце мне ні пра яго "праграмы", ні "паказы", ні "шоу-вячоркі" . Што ж тут дзівіцца, калі ўсе, хто на што здатны, каго куды цягне, – кідаюцца "ў пошукі" Хто ў эротыку, хто ў дэтэктыў... А пошук "формы, стылю, мыслення" (глыбіні?) – гэта заканамерна і заўсёды прагрэсіўна! І трэба толькі вітаць такія пошукі

І самае істотнае – па-мойму – з Вашага да мяне допыту: "Што рабіць Слову, каб не **ўпусціць** чалавека?"

"Избави нас от лукаваго..."

Шчырае Высокае Слова – яно мае гэтакую ж боскую ўладу, калі звернута да розуму, да сэрца і сумлення (калі яны ёсць у Чалавека) А калі "сатана правит бал"?

Слова ўжо ўпусціла чалавека. А яшчэ болей упусціла грамадзяніна.. У нашай дзяржаве.

**– Алена Сямёнаўна, усё ж Вы празаік лірычны, цёплы, сямейны... Ваша раўнівае стаўленне да паэзіі яскрава праявілася ў кніжцы эсэ "Люблю, хвалююся – жыву". Паэзія ўвогуле паняцце жаночае, хоць і на гэтым душэўна-інтымным астраўку жыцця жанчыне ўсё цяжэй разнявольвацца пад самотна-пафаснымі поглядамі лірычных мужчын...**

**Наколькі ўтульна Вы сябе пачуваеце ў сённяшняй беларускай літаратурнай хаце?..**

**Ці часта Вы бываеце ў нашым Доме літаратара, які яшчэ напрыканцы 80-х С. Дубавец параўнаў няйначай як з жалезабетонным дотам. І сапраўды, холадна і несамавіта цяпер творчаму чалавеку ў тых сутарэннях...**

**Вы маглі б параўнаць той савецкі СП і сучасны?**

– "Паэзія – паняцце жаночае"? Не, Вы сапраўды кепска ведаеце жанчын! Я магла б, але не буду, называць імёны жанчын (нават літаратараў!), якія ніколі не чытаюць вершаў . Што ўжо казаць пра жанчын наогул? Сёння жанчыне, наадварот, лягчэй "разнявольвацца" . пад паглядамі забяспечаных, упэўненых у сабе суперменаў на іншамарках. А што ўжо ёй тыя "самотна-пафасныя пагляды лірычных мужчын", калі не кожны з іх мае з чаго паднесці сваёй даме сэрца адну ружу (Адну ўсяго!). Не тое, каб "миллион, миллион алых роз"!.. (Дарэчы, супермены-мільёншчыкі сённяшнія – таксама надта не раскідваюцца!)

...Вы пытаеце, наколькі ўтульна пачуваюся я ў сённяшняй беларускай літаратурнай хаце. Калі Вы маеце на ўвазе змест і вагу бытавання гэтай нашай хаты, дык што тут сказаць? Я і сама – перш за ўсё – не самы актыўны і не такі, можа, і "змястоўны" яе насельнік... Таму ў Доме літаратара я бываю рэдка. Не ведаю, ці адпаведнае азначэнне сённяшняга ДЛ як "жалезабетонны дот"... Цяпер ён так нашпігаваны! Хто толькі зараз там не ашываецца. Усё там нейкія саўкі з выглядам дзялкоў шмыгаюць. І хоць бы адзін адухоўлены твар...

Што датычыць параўнанняў: "савецкі СП" і "сучасны"... "Савецкі", як Вы кажаце, быў на вуліцы Энгельса (цяпер ужо мала хто пазнае тое месца). Гэта быў невялікі ўтульны цёплы таварыскі (як і незабыўныя Каралішчавічы) наш Дом пісьменнікаў Наш! А зараз? Вы ж самі бачыце...

**– Што апошнім часам штурхае да пісьмовага стала, што адштурхоўвае?**

– Адштурхоўвае што? Гады... Узрост .. Хаця людзі і сядзяць жа за сталамі, і пішуць.

А штурхае што да стала? "Апошнім часам"? . Прымус, няйначай. Прыемны ўдзячны прымус... Нехта пазвоніць з рэдакцыі. Як вось, скажам, Вы – з "Крыніцы" – пазванілі. Ці з майго "ЛіМа" (якая саманадзейнасць – "майго"? Сапраўды, я ж мала **дзе яшчэ** друкуюся). Ну, і... Пішу.

"Ні дня без радка" – гэта не пра мяне сказана.

**– Не памятаю ўжо ў каго, называлася кніжка "Усе мы з хат". Здаецца, так. І сапраўды, яшчэ да нядаўняга часу ўсе нашы беларускія літаратары былі выхадцамі з хатаў (з вёскі). І тут нічога надзвычайнага я не бачу: дзе жыла мова, там і жыў яе творца. Сёння сітуацыя крыху змянілася. Прыходзіць у літаратуру і гарадская моладзь.**

**Калі Вам даводзілася чытаць, скажам, Глобуса, Асташонка, Дубаўца, то ці з'яўлялася ў Вас уражанне, што ў нашым пісьменстве адкрываецца новы зрэз беларускага жыцця, новы на яго погляд, новы светапогляд увогуле?**

– "Усе мы з хат" – гэта цудоўная кніга Янкі Сіпакова! Сапраўды: усе мы – з хат

І проста выдатна, што ў нашу беларускую літаратуру за апошнія гады ўлілася і тэматычна яе пашырыла і ўзбагаціла, надаўшы ёй новыя колеры і гукі, гарадская моладзь. Праўда, у кожным з названых Вамі імёнаў я бачу ўжо даўно "не мальчика, но мужа"...

Вы мяне рассмяшылі! "Калі Вам даводзілася чытаць. " Што значыць "даводзілася

**(капітан медыцынскай службы), і дзяцей чужых, у тым ліку дачку Мікалая Іванавіча, выгадавала, была прыгажуняй – праўда, пяцьдзесят гадоў назад. Менавіта гэту красуню, Лёлю, кружыў на вачах усёй вёскі яе муж (памёр ад туберкулёзу напярэдадні вайны). Аднак – не была б то Васілевіч – яна не дасць нам сентыментальна расслабіцца, падкіне смяшынку: якраз за гэтага чалавека, мужа цёткі Лёлі, займела цвёрды намер пайсці замуж апавядальніца, што на той момант мела пяць ці шэсць гадоў.**

**Гэтае спалучэнне драматычнага і камічнага – асаблівасць пісьма Алены Васілевіч. У рэчаіснасці ж няма падзялення на камічную і трагедыйную палавіны.**

**Алена Васілевіч не завастрае, не абвастрае нічога: сарказм не яе зброя. Аднак патрэба высветліць драматычныя эпізоды ўсмешкай – арганічная, як і ўменне памятаць аб трагічным грунце свята жыцця. І рэалізуецца гэта, мне здаецца, асабліва ўдала ў выпадках, калі герой ці гераіня – асоба, не вельмі аблашчаная лёсам. Можа, таму так абвострана ўспрымаюцца апавяданні "Марыула" і "Хто дурань?". Мы не проста спачуваем сіротцы Марыуле, той самай цыганачцы, што ўчэпіста выпрошвае: "Падары брошку! Падары! Падары!", і не толькі пра сябе ўсміхаемся сітуацыі ў другім названым апавяданні, дзе майстар на якую заўгодна справу і выпівоха Валодзька Аўсянік, атрымаўшы ліст, дзе да яго звяртаюцца: "Уладзімір Іванавіч", "глыбокапаважаны", "дарагі" і просяць дапамогі: паставіць шыбы, – адразу цверазее, надзявае новую кашулю ("маладзец, халера, жонка, не дала прапіць майскую прэмію"), купляе халву, арэхі і піва, на яго погляд, неверагодна гарманічныя інгрэдыенты, – і ідзе, каб выявіць сваё ўмельства майстра і прыязнасць гжэчнага кавалера.**

**Мы ўяўляем сабе і няўтульнасць жыцця маленькай Марыулы, яе сірочай долі пры жывых бацьках, і разумеем, што ў былога бортмеханіка Аўсяніка, некалі ліхога хлопца, гэта была ці не апошняя спроба вырвацца з эмацыянальнай нішчымніцы, з чарады запойных і пахмельных дзён. Мы прымаем пазіцыю Алены Васілевіч, якая не прапануе шаманскіх рэцэптаў лекавання праўдай, не мае на ўвазе намеру даць урокі маральнага або эстэтычнага ўратавання. Яна дае нам магчымасць згадаць пра вечныя і высокія ідэалы, пра адчуванне меры і гармоніі. Ненавязліва, недыдактычна.**

**Алена Васілевіч валодае ўменнем весці гаворку пра тое, што нібыта ніяк не праглядаецца падзейна, пазначаецца пункцірам. Аднак гэты намёк на факт або арыентацыя на яго існаванне дае магчымасць перадаць тыя пачуцці і настроі, калі здаецца, што ўсе рэчы ажываюць і трансфармуюцца, калі абрысы свету рэальныя, але маюць адзнаку суб'ектыўнай фантазіі герояў і аўтара. Як у апавяданнях "Мыс Добрай Надзеі", "Адно імгненне", аповесці "Гаварылі пятнаццаць хвілін" і г.д.**

**...Апошнім часам, і так званым "застойным", і "рамонтна-перабудовачным", і нібыта дэмакратычным у літаратуры сталі асабліва модныя адзюльтэры, розныя інтымныя шматкутнікі, неверагодныя падрабязнасці, на-**

чытаць"? – Асташонка? Дубаўца?.. Ды я не толькі, як сваю Даманшчыну, ведаю Глобусава Койданава. Я, можна сказаць, прайшла "навуку" ў яго "Амстэрдаме"!..

Нам, у к а р а н е л ы м і ў т р а в я н е л ы м, маладыя – і не толькі гарадскія! – цікавыя. Мы іх чытаем. І ганарымся. Якія таленавітыя хлопцы прыйшлі ў літаратуру! Якія з'явіліся Асобы!

**– Чаму, на Ваш погляд, у нашай літаратуры амаль нічога з забароннага па тых часах не засталося ляжаць у пісьмовых сталах літаратараў? Ці было такое змірэнне з пануючым ладам жыцця, што ўжо і не верылася, і не думалася пра магчымае іншае будучае? Званні, ордэны, прэміі, ганарары, сталы заказаў, кватэры, дамы творчасці – адным словам** закормліванне пішучай браціі, **вядома, давала патрэбны плён, атрафіравала творчасць...**

**Як Вы сябе пачувалі ў той сітуацыі і як чалавек, і як пісьменніца?**

– Цяжка вытлумачыць, чаму ў нашых, беларускіх, шуфлядах-сталах нічога ("як у людзей") не засталося "дысідэнцкага". Можа, гэта праз "ментальнасць" нашу – асцярожнасць беларускую... Напішаш, пакінеш, схаваеш.. А там прыедуць уначы, знойдуць... Ды, вядома ж, і павязуць!.. "Навука" была добрая – усёй нацыі. (А, можа, у каго што яшчэ і дагэтуль, у якой шуфлядзе, прыхоўваецца? Захоўваецца, як тыя злашчасныя партбілеты ў "прававерных".)

.. Што датычыць званняў, кватэр, ордэнаў, ганарараў, сталоў заказаў, дамоў творчасці.. Дык мілыя мае праведнікі! Назавіцеся мне хоць адзін, хто з вас адмовіўся – учора, пазаўчора, **сёння** не даюць! – ад кватэры ці ганарара, ці таго ж стала заказаў ці Дома творчасці? Ці не імкнуўся – на злом галавы – у члены Саюза пісьменнікаў? (Выключэнне, мабыць, толькі Анатоль Сідарэвіч і Сяргей Дубавец.) Гэтакага зараз зняважанага, абіранізаванага, патаптанага моднымі сённяшнімі красоўкамі.

І што – Вы ўсур'ёз так думаеце пра "атрафіраваную" творчасць? А такое імя – адно толькі! – як Іван Мележ – Вам нічога не гаворыць? Ці, можа, сёння нехта з "новых" апярэдзіў ужо яго?

..У мяне самой заўсёды быў – так склалася жыццё – найперш бясконцы жаночы марафон. (Самой гадаваць, вучыць, ладкаваць дзяцей. Не заўсёды паспяхова, не заўсёды, як хацелася...) Літаратура – хацела я таго ці не хацела – была як бы на другім плане. Што, аднак, не пакідала ў мяне адчування ні абдзеленасці, ні няшчаснасці. Тым больш не выклікала зайздрасці: ні да чужога поспеху, ні да чужых лаўраў ці дабрабыту.. Зайздросціла я, грэшніца (і не знаходзіла ў сабе ні розуму, ні моцы стрымаць сябе!) жанчынам-мацяркам: у каго былі... ружовыя тоўсценькія дзеці! Мае былі – сухарызялёнкі... Вам смешна? А я вось выказалася – і як быццам зняла грэх з душы..

**– Вы, Алена Сямёнаўна, прынамсі вонкава, чалавек не прыгнечаны і, наколькі я магу лічыць, аптымістычны...**

**груваштчанасць прыземленых рэалій побыту, натуралістычнасць – і ўсё большае занядбанне маральных пачаткаў. Не буду весці гаворку пра тое, што ўсё гэта цывілізаваны свет "праходзіў" яшчэ ў Старажытным Рыме, каб потым надышла пара жорсткай аскезы сярэднявечча... Згадаю толькі зноў, Алена Васілевіч не імкнецца быць маралісткай, хаця этычныя высновы яе прозы відавочныя, а мараль часцей за ўсё "мікшыруецца" прыёмамі іроніі і самаіроніі: "Тая першая зіма", "Рахмат", "Трэцяя палата", "Пісар страявой часці"... Усе гэтыя апавяданні відавочна аўтабіяграфічныя. Даўно створаныя – 1964, 1966 гады... Але не губляюць сваёй някідкай прыцягальнасці.**

**...Памятаю, як недзе ў 73-м годзе, у выдавецтве "Мастацкая літаратура", калі ўсе рэдакцыі месціліся ў адным пакоі і пакойчыку, Іван Паўлавіч Мележ неяк прамовіў: "Пісар страявой часці"... Такі празаік... А ніхто нічога не піша". Сам Іван Паўлавіч згадваў імя Васілевіч побач з самымі высокімі імёнамі сучаснікаў-літаратараў. У гэтым "ніхто не піша" было, безумоўна, перабольшванне, як і ў сентэнцыях даследчыцы Дасаевай у мінулагоднім "Полымі". Пра Алену Васілевіч пісалі, і досыць многа: і Рыгор Шкраба, і Віктар Каваленка, і Барыс Бур`ян, і Алесь Разанаў, і Міхась Тычына, і Серафім Андраюк, і Сцяпан Александровіч, і... Бібліяграфія немалая. (Я таксама, дарэчы, пішу пра яе не ўпершыню).**

**А "Пісар страявой часці" і зараз прачытваецца свежа і з цікавасцю – хаця пра вайну з той пары пісалі многа і па-рознаму. Аднак, магчыма,**





**Якімі Вам бачацца перспектывы беларускай мовы і літаратуры на ўваходзе ў трэцяе тысячагоддзе?**

– Прэзідэнт Украіны Кучма ў Канадзе – пры афіцыйным пратаколе, – пакуль не забяспечылі яму перакладчыка з яго роднае – украінскае! – мовы, на ч у ж о й мове не сказаў ні слова! Гонар нацыі.

У Беларусі – пасля п р э з і д э н ц к а г а рэферэндуму – жыхарства рэспублікі атрымала з а к о н н ы (?!.) дазвол адмовіцца ад беларускае мовы. Мовы н а ц ы і!

І прэзідэнт рэспублікі і дагэтуль нават не здольны ўразумець, як ён перад усім цывілізаваным светам с а м с я б е... в ы с е к!

..Пра якую перспектыву можна весці гаворку пры такім лікбезаўскім узроўні дзяржаўнага "мыслення"?

**– У Вас даволі многа кніг. Я маю на ўвазе хатнюю бібліятэку. Што Вы чытаеце сёння? Ці з'яўляюцца ў Вашай бібліятэцы новыя выданні, на якія ў кожнага з пішучых не хапае грошай? Класіку перачытваеце?**

– Я ніколі не чытаю адну кнігу. З прозай у мяне заўсёды суседнічае паэзія. Я любіла (раней. ) купляць розныя выданні адной і той жа кнігі. Розны фармат, непадобнае мастацкае афармленне . Цяпер новых кніг не купляю. Ды і Бог з імі – з новымі. Мне хопіць суцяшэння і радасці ад тых, якія стаяць на маіх кніжных паліцах. Хопіць "на всю оставшуюся жизнь" .. Ці перачытваю класікаў?.. Ну, не ўсё, каб упрыцён... Але ж вядома!

Зараз перачытваю "Алхімію слова" Яна Парандоўскага. "Страшэнна сумна быць толькі пісьменнікам, быць ім заўсёды і ўсюды, год за годам, месяц за месяцам, у любую пару дня і ночы. ."

Паспрабуйце знайсці вызначэнне б о л ь ш к л а с і ч н а е.

**– Ваш любімы літаратурны твор, пісьменнік, паэт?**

– Я не адважуся далучыць сябе да ліку выключных абраннікаў – а д н а л ю б а ў. Ні ў жыцці, ні ў літаратуры... У мяне не а д з і н любімы: Твор. Пісьменнік. Паэт.

Ну, а калі ўсё ж абавязкова адзін?. "Хаджы Мурат". Якуб Колас. Пушкін.

Гэта яшчэ – з дому, з дзяцінства, са школы.

**– Можаце прачытаць па памяці верш для душы?**

– Для душы?..

*Души потрачено так много.*

**менавіта таму "тылавая" вайна Алены Васілевіч, дзе няма жорсткіх і бязлітасных адкрыццяў, а ёсць жаноцкая мяккасць, выратавальны гумар, свая эмацыянальная афарбоўка, прымушае прыняць прапанаваны пісьменніцай ракурс. Ёсць тут і свой "літфокус": апавяданне невялікае, нібыта ўсё не паказана, а распавядана, аднак яно выклікае суперажыванне. Як і творы апошніх дзесяцігоддзяў – "Верка", "Першая жонка нябожчыка" – хаця гэта апавяданні зусім іншай танальнасці, эмацыянальнай насычанасці, іншага настрою. А зблiжае іх зусім неадналінейнае выяўленне падзей, калі зыходны момант – "этычныя магчымасці жыцця" (Л. Гінзбург), а рэальнае быццё пацвярджае выснову, што і ваенны час, і пара мірнага існавання бываюць момантамі і выпрабаванняў, і падзенняў, і ўзвышэнняў.**

**Як і тая даваенная пара, калі адбываюцца падзеі аўтабіяграфічнай тэтралогіі Алены Васілевіч "Пачакай, затрымайся...". Пісалася тэтралогія ў 60—70-я гады, атмасфера ў грамадстве не вельмі спрыяла суцэльнай адкрытасці. Мабыць, сёння былі б дапісаныя, дамысленыя многія старонкі. Аднак тое, што надрукавана, чытаюць, успрымаюць... Урэшце – выхоўваюцца на гэтых старонках, на гэтым лірычным, эмацыянальным пісьме. Ёсць тут свой, вызначальны каларыт.**

**І хаця час падзей – 20—30-я гады – яшчэ больш складаны, як той, калі стваралася трылогія, аднак Алена Васілевіч не лакіравала, не глянцавала, не рабіла рэчаіснасць пафасна-параднай. Яна пісала пра тое, што існуе пры ўсіх рэжымах,**

*Бог знает, на кого, зачем...*
*А эта зимняя дорога...*
*На ней не встретиться ни с кем.*
*Чугунный мостик в два пролета.*
*Душа опять среди ветвей*
*Мечтает высмотреть кого-то.*
*Еще помучиться бы ей!*

(Не, ужо хапіла – і марыць, і мучыцца...)

Вершы гэтыя належаць паэту не "майму" – каго б я чытала бясконца і хацела б перачытваць, як гэта бывае з паэтамі "маімі". А вось жа! Улада вершаў, улада паэзіі непрадказальныя.

**– Раскажыце якую-небудзь літаратурную показку ці неардынарны выпадак з Вашага літаратурнага жыцця?**

– Не ўмею займальна расказваць. (Ёсць златавусты!) Тым больш "літаратурную показку ці неардынарны выпадак"..

Можа, хіба, як я была.. "сталіністкай"?

...Пачалося гэта з Курска, калі я там жыла і пісала свае "Шляхі-дарогі" Выходзілі ж яны ў Мінску, і выдавецкім рэдактарам маім быў Міхась Клімковіч Дарэчы, ён мо, як ніхто іншы і па тым часе, вельмі добразычліва ставіўся і стараўся заўсёды памагчы маладым пісьменнікам. (Цэлыя старонкі часам перапісваў за аўтара – па аўтарскім тэксце...)

Ну і вось трапілі на яго стол мае "Шляхі-дарогі". . Захавалася яго пісьмо да мяне ў Курск. "Родненькая Вы мая! – пісаў мне Міхась Мікалаевіч.— У якім часе і пры якой уладзе жывуць Вашы героі і жывяце Вы сама?.. Памяркуйце толькі· ідзе ў вас святочны, прысвечаны Вялікаму Кастрычніку, калгасны сход. Выступаюць з дакладамі парторг калгаса і сам сакратар райкома партыі. І што ж мы ў вас чуем? Ніводнага слова ні пра нашу Камуністычную партыю, ні пра таварыша Сталіна, ні пра наша шчаслівае савецкае жыццё... (А "Шляхі" мае пісаліся пра першы толькі пасляваенны год.. ) Як толькі атрымаеце гэты ліст, – пісаў-загадваў мне ў канцы мой выдавецкі рэдактар, – адразу ж сядайце за стол, закасвайце рукавы і перапісвайце ўвесь гэты раздзел пасапраўднаму! Інакш кніга Ваша свету не ўбачыць!"

Што зрабілі б вы – сёння?.. У сорак восьмым годзе я села і перапісала ў в е с ь свой крамольны раздзел! І адаслала яго з Курска ў Мінск, у выдавецтва. Вядома ж, ужо і з Камуністычнай партыяй, і з таварышам Сталіным, і з нашым шчаслівым савецкім жыццём..

І "Шляхі" мае свет убачылі!

.У сакавіку 53-га года памірае Сталін. Кругом вялікі плач Мітынгі. Натоўпы лю-

**насуперак ім: пра святло юнацтва, пра мары маладосці, пра каханне, пра тое, чым жывуць (жылі) яе равеснікі. Яна пісала рамантычна-лірычны варыянт праўды жыцця, які заўсёды не мае на ўвазе ўсёй праўды. Але дае прастору светлым эмоцыям, усмешцы, гумару. Раскрыем кніжку:**

**"Што ж датычыць маёй уласнай "музы", дык яна "пад Маякоўскага" не здольна збудаваць нават самага прымітыўнага вершыка. І як бы я ні муштравала яе, як бы ні дапякала на адзіноце, самнасам з чыстым аркушам паперы, – муза мая ўпартая, як каза... Як я ні б'юся, мая муза – "мяшчанка", ёй бы толькі ўздыхаць пры месячным ззянні пра каханне, пра вясну... Праўда, мая муза яшчэ вельмі добрасумленна абслугоўвае свой уласны прытулак – сёмы пакой у інтэрнаце на вуліцы Смідовіча, 42...**

*Восем іх было у сёмай,*
*Дружных і сварлівых.*
*Колькі дзён для іх прабегла,*
*Радасных, шчаслівых!..*

**Выдатныя гэтыя вершы, вядома ж, перш за ўсё ідуць на агульны ўжытак нашага пакоя і становяцца яго "класікай": усе дзяўчаты, як адна, ведаюць іх на памяць ад першага да апошняга радка! Вершы гэтыя прыгожа запісваюцца таксама ў мой агульны сшытак – бязмоўную труну ўсіх мёртванароджаных дзяцей мае музы...**

**У інстытуцкім альманаху, адціснутае Мікалаем Ламакам, недзе на самай апошняй старонцы, самае апошняе месца займае маё паэтычнае мяшчанства – вершы пра каханне.**

**Дзяўчаты згрызаюць мяне,**





дзей – з кветкамі, з вазонамі, у каго не было кветак, з малымі дзецьмі за руку і на руках – кіруюцца да манумента Сталіна – насупраць – праз сквер – сённяшняга прэзідэнцкага палаца.

У нашым Саюзе пісьменнікаў (па Энгельса) таксама мітынг, таксама слёзы

Лена, – падзывае мяне Пятрусь Усцінавіч Броўка, тагачасны наш Першы сакратар, – вам неабходна выступіць на мітынгу.. Ад маладых.. Як жанчына!

– Пётр Усцінавіч! – малюся я. – Я не здолею... Я буду плакаць.

– Дык і добра! Плачце! . Мы ж усе – бачыце – плачам!

І я... п л а к а л а за той жалобнай трыбунай. (Усе плакалі. )

І гэта быў яшчэ не ўвесь мой "плач"

У "Работніцы і сялянцы", куды ўзялі мяне на работу, калі я з сям'ёй пераехала з Курска ў Мінск, галоўны рэдактар Аляксандра Паўлаўна Ус дала мне заданне напісаць у жалобны нумар часопіса І я напісала... "Будзем дастойнымі вучнямі Сталіна". .

Хто з маіх тагачасных сучаснікаў без граху ("сталінскага") – кіньце ў мяне каменем

Не чакаю амністыі ад маладых. Не дарую́ць. Не павераць, што мы т а д ы в е р ы л і Каму́ верылі, у што́ верылі – гэта ўжо зусім іншы адказ.

...Гэтак, як некалі Адуеў-малодшы здзекаваўся з дзядзькі Адуева-старэйшага, пагражаючы чытаць уголас любоўныя пісьмы дзядзькавай маладосці, мой сын – пры выпадку – гэтак жа са смехам нагадвае цяпер мне самой "Будзем дастойнымі вучнямі Сталіна"?

**– Напрыканцы Вашай, ужо згаданай мною кніжкі, ёсць вельмі запамінальны радок: "Схіляюся над чыстаю старонкай..." Што ў хуткім часе з'явіцца ці магло б з'явіцца на гэтай старонцы?**

– Ніколі гэтага не ведаю. Ніколі не захоўвала (а шкада!) і не карысталася запіснымі кніжкамі Не вяла дзённікаў (І не заўсёды веру "люстэрку", якое адбівае твар таго, хто свой дзённік – пры жыцці! – аддае ў друк.)

У мяне няма загадзя прадуманага і складзенага плана, пра што я буду пісаць. Хоць гэта самае ш т о і перапаўняе-спальвае ўсю маю істоту "Я мыслю рукою ." Не памятаю ўжо, у каго я прачытала гэта.

Я д у м а ю р у к о ю. Калі схіляюся над чыстаю старонкай

**– Дзякуй Вам за гутарку, за шчырасць, за творчасць. Дабра, творчага плёну, здароўя і жаночага зямнога шчасця.**

**чаму я не надрукую ў альманаху верш пра наш пакой... Каму не хочацца славы і бяссмерця! А я, дурная, замест таго, каб узводзіць помнікі, замуроўваю сяброўства".**

**Тэтралогія – той самы твор Алены Васілевіч, што прызначаны неабходным для выхавання маладых пакаленняў. І яны чытаюць яго. Безумоўна, не заўважаючы, што часам эмоцыі набываюць залішні напор, а слодыч шчырасці перавышае эстэтычную норму. "З гэтага самага перона майскім ранкам сорак першага года цягнік павёз насустрач вайне маё каханне. І не вярнуў.**

**Бывай, Рагачоў.**

**Бывай, маё юнацтва.**

**Чаго ж ты, сэрца, плачаш?"**

**Такі ж канцэнтрат шчырасці і эмоцый: перад вачамі стракаціць "сэрцамі", "светам", памяншальнымі суфіксамі, лірычна-сентыментальнымі заклікамі, – заўважны, калі Алена Васілевіч піша пра дзяцей і часам пра жанок – асабліва тых, што ўжо па тым баку дабра і зла. І тут нельга папракнуць яе – я і не папракаю, толькі канстатую.**

**Таму што яна адразу адгукнецца – дзеля памяці. Дзеля таго, каб заўважылі новае пісьменніцкае пяро. Трошкі хітруючы, яна абавязкова кіне, што, маўляў, не крытык і не літаратуразнаўца – ну, хто ж не згуляў пры зручным выпадку каменьчыкам у крытычны гарод – немаведама што робяць, прафесіяналы гэтыя, вось аматары: паэты, празаікі, драматургі, гэта зусім іншае... Яно і сапраўды, майстар слова – гэта майстар, а з недарэчным жанрам усё няпэўна: дзе межы, дзе статуты, дзе грунт. Вобразнае**

# АХ, СВЕТ, СВЕТ...

## ДАКУМЕНТЫ

*Дзіму Юраву*

Прыехаў у госці.

Ужо начаставаўся, набудаваўся, намаляваўся... Надакучыла. Стаміўся. Але таму што без занятку быць не ўмее – ходзіць па кватэры, шукае ўсё ж яшчэ сабе нейкую справу.

Заходзіць, разглядаецца ў маім пакоі.

– Алена Сямёнаўна, прыбярыце, калі ласка, вашы дакументы.

Так найсапраўдна – "Алена Сямёнаўна" – звяртаецца ён да мяне, калі яшчэ не агарнула яго, ці, наадварот, адкацілася ўжо хваля пяшчоты і любасці.

– Навошта мне іх прыбіраць?

("Дакументы" – старонкі рукапісу пасля машыніcткі – ляжаць на тумбачцы пры маёй канапе.)

– Мне трэба скакаць.

(З гэтай самай тумбачкі – на канапу. Ён ведае: у мяне гэта дазваляецца. У шаснаццаць год з гэтай тумбачкі на гэту канапу скакаць ён пэўна ўжо не будзе...)

– Пачакай, бачыш, пакуль што мой стол заняты.

– А чаму ў цябе так многа дакументаў?

– Н-ну... Гэта мая работа.

Скептычна круціць галавою:

– Дакументы – гэта не работа. (Вуснамі дзіцяці?..)

– У твае мамы такое работы няма?

З адчуваннем перавагі:

– Няма! – разумець трэба яшчэ і шырэй: "А навошта маёй маме т а к а я работа?

– А ў Наташы ёсць дакументы? – Наташа – другая, маладая бабуля.

Ну, гэта ўжо зусім смешна!

– Наташа не такая ж старэнькая, як ты!

Гм... Вось ужо сапраўды ўспомніш паэта: "Мне заезжий парикмахер комплименты говорил..."



## СЯРОД МАСТАКОЎ

*(Пасля вернісажу)*

Сябры-таварышы пасля палкіх вітанняў, пасля кветак і абдымкаў – вяртаючыся з выставы сябра-таварыша.

– Он бьет на эффект!

– Он делает грубо!

– Он переигрывает!

– Короче говоря, он нашел метод производительных рисунков.

– Фактычна, гэта паўторы, паўторы, паўторы!

– Але ўмее!

– У него нет любви к живописи.

– Он не наслаждается.

– Откуда ж это обаянье?

– Ха! Ты не ведаеш, як робіцца о б а я н ь е?..

## ПЛАНЁРКА

*(з жанру фантастыкі)*

Мінулася. Забылася. Быллём парасло...

Анекдот? Немагчыма паверыць? Але – факт.

Ідзе чарговая планёрка ў вядучым рэспубліканскім выдавецтве. Загадчыца вытворчага аддзела робіць справаздачу. Дае інфармацыю за тыдзень.

– Выбіваецца з графіка, затрымліваецца ў рэдакцыі мастакоў ДЭФА.

("Планёрка" пераглядваецца, пасміхаецца, адводзіць вочы ўбок... Усе разумеюць: гаворка ідзе пра Даніэля Дэфо – выдаецца раман "Рабінзон Круза".)

– Та́гара чытаюць яшчэ карэктары.

(Трэба зноў здагадвацца: на ўвазе маецца Рабіндранат Тагор.)

– Шырму пасунулі назад, замест яе паставілі Купалу.

(Тут ужо язык нават не варочаецца ўдакладняць-тлумачыць, ш т о – к а г о – к у д ы пасунулі, дзе паставілі.)

– Па ўважлівай прычыне затрымліваецца ў рэдакцыі прозы раман (імярэк). Яму ўжо

---

мысленне не ўспрымаюць калегі, разумова-аналітычны стыльназаляе – чытаюць у залежнасці ад таго, пра каго пісана і як: хваляць ці ганяць.

Аднак гаворка не пра тое. Алена Васілевіч абавязкова адгукнецца на таленавітае слова пачынаючых, як то было з Нінай Мацяш, Верай Вярбой, Яўгенам Лецкам, Леанідам Галубовічам, Міхасём Клебановічам. І парадуецца ўдаламу вопыту сяброў па пяру... І скажа нестандартна, вобразна, шчыра – пра Івана Мележа, Яна Скрыгана, Уладзіміра Караткевіча... Згадае сваё, асабістае – пра Льва Талстога, Змітрака Бядулю, Янку Маўра...

Звычайна яна піша пра тое, што ёй блізка. І, мабыць, калі надарыцца выcловіць нешта толькі з добрых адносін да пэўнага літаратара, які па творчых варунках далёкі пісьменніцы Алене Васілевіч, дык шчырасць эмоцый абрынецца на абароненае ці не абароненае прызнаннем пісьмо зусім не хваласпеўным вадаспадам.

Мне здаецца, вось такі погляд ёй будзе пэўна чужы, дарма, што аўтар тут Барыс Пастарнак: "Але быццё, на мой погляд, – быццё гістарычнае, чалавек не жыхар якой-небудзь геаграфічнай кропкі. Гады і стагоддзі – вось што можа быць для яго мясцовасцю, краінай, прасторай. Ён насельнік часу". Алена Васілевіч прымае і ўспрымае чалавека, занятага канкрэтнай справай у канкрэтных абставінах, рэальнага, у канкрэтна вызначаных, нават калі і не пазначаных, каардынатах.

Дзеля такога канкрэтнага чалавека Алена Васілевіч кіне ўсё – распачатую старонку ўласнай працы, рукапісы іншых, самыя неадкладныя справы... Калі спатрэбіцца яе дапамога: дзецям і ўнукам, чужым дзецям, знаёмым людзям, незнаёмым... Таму што для яе ідэалы, якіх яна прытрымліваецца ў творчасці, не адстароненыя паняцці, яны – ідэалы жыццёвыя таксама.

Можа, таму так мудра-неметуслівa зроблена апавяданне "Зімовая дарога". Канец жыццёвага шляху аднаго вось з тых канкрэтных, звычайных людзей. У звычайных абставінах. Калі няма жонкі – толькі памяць пра яе, па сутнасці, няма і жыцця – толькі памяць пра яго... Апошнія крокі... Гэтыя апошнія крокі трэба зрабіць з годнасцю, спакойна, не бессэнсоўна баючыся непазбежнага канца, а развітацца з жыццём з адчуваннем зробленага і пражытага. Апавяданне не зусім у рэчышчы прозы Алены Васілевіч, аднак адасабляць яго, мабыць, не выпадае. Розныя жыццёвыя пласты, розныя характары, розныя інтанацыі... Няма аднастайнасці, ёсць асаблівасці творчага почырку.

І няма зацягнутых творчых паўз. Алена Васілевіч ведае цану імгненняў, часоў, дзён. Не тое, каб яна кожнага дня прывязвала сябе да стала дзеля абавязковага радка, але творчае імгненне яна не прапусціць, не сапсуе мітуснёй. Пра тое сведчыць зробленае ёю. Пра тое сведчыць і новы рукапіс, пакладзены цяпер, травеньскім днём 96-га года, на стол галоўнага рэдактара выдавецтва "Мастацкая літаратура".

А яна – зноў "схіляецца над белаю старонкай"... Любіць, хвалюецца – жыве.

Ала СЯМЁНАВА

споўнілася восемдзесят гадоў. Ён выступае па пытаннях кахання. Ён хоча паглыбіць гэту праблему навуковымі прыкладамі.

"Планёрка" пацяшаецца.

Справаздача працягваецца.

# АФТАЛЬМАЛОГІЯ

***

...Гаворка ў палаце, вядома, пра адно і тое ж: пра лекі, пра хваробы. Мала сваіх, дык яшчэ і пра чужыя.

— Адна тут ляжала, якраз тут, дзе паклалі вас. Дак казала, адно вока ёй рэзалі. Дак яна цяпер бачыць ім усё чысценька! І нічагутка... Дак казала, будзе яшчэ прыязджаць другое рэзаць.

***

— Закапвацца! Закапвацца!

Ах, які не ўсмешлівы, не ласкавы — металёвы з іржой голас... Дзяжурыць Анжэла — самая прыгожая ў аддзяленні медсястра. З самага першага ранку (таксама было яе дзяжурства) спрасоння аж вусцішна зрабілася: дзе, куды закапвацца?.. ад каго?..

Няма яшчэ і сямі гадзін раніцы. За вокнамі цемра. Па шыбах, злуючыся, тузаючыся, то прыпусціцца-забарабаніць, то шорстка шаргане, як дашчэнту змеценым дзеркачом, дождж. Няўтульна. Холадна. А трэба ўставаць...

— Закапвацца! Закапвацца!

Першымі закапвацца на пост да дзяжурнай сястры цягнуцца мужчыны. Затым будзе жаночая чарга. Як у вясковай лазні. Першыя — мужчыны. Ах, бедныя вы мае, няўклюдныя! Вочы б на вас не глядзелі... Хто шоргае, ледзь перастаўляе ногі, баючыся спатыкнуцца. Хто грукае кійком, абмацвае падлогу... Амаль усе ў зялёных павязках. Пасля аперацыі — спіртавы брыльянтавы зялёны раствор!.. Ураджанне такое, што мужчыны тут усе старыя! — у зношаных шэра-сініх піжамах... Не бальніца — а нейкі прытулак бомжаў!

Свежая ружовая Анжэла (нібыта і не гнулася яна ўсю ноч на халоднай дзяжурнай канапцы, а песцілася на цёплай мамінай пярыне) не кажа нікому ні слова, на вітанні нават адказвае цераз аднаго на сёмага... Злоўчана, спрытна — толькі шкляныя аднаразовыя піпеткі падзынькваюць аб эмаліраваную формачку — Анжэла, як пясок, прасейвае мужчынскую чаргу.

— Наступны! Наступны!

(А тут ужо на падступах і жаночая палова. Тыя, каторыя ўвішнейшыя, паспелі нават і прычапурыцца ўжо: як-ніяк, а на калідоры мужчыны!)

— Наступны! Наступны!

І хоць бы раз, ну, хоць бы аднаму катораму ўсміхнулася, Анжэла!..

Мужчынам, нарэшце, канец.

Не — не канец яшчэ!

— ЗачЭм крычыш так рана?

Не паспеў з усімі — спяшаецца яшчэ адзін. Адкуль ён толькі такі ўзяўся тут? Малады, высокі, чарнавалосы... Прыгажун! У шыкоўным спартыўным гарнітуры. У нейкіх адмысловых белых красоўках: не ходзяць — самі ляцяць у паветры! Ніяк не ашукаешся: адразу відзён арол "каўказскай нацыянальнасці"...

— ЗачЭм спаць нэ даеш — будЫш рана? — прыгажун робіць выгляд, што мае намер з разлёту абняць медсястру Анжэлу.

— Кладзіся ў пару, дык выспішся! — са смехам адхіляецца Анжэла.

— Друз'я, панымаеш! Заходят. Помнят.

— І ты іх таксама доўга будзеш памятаць... — шматзначна, са смехам, прамаўляе Анжэла.

— ЗачЭм так гаварыш?

— Правільна гавару! Давай хутчэй садзіся!

Анжэла не толькі закапвае каўказцу адно вока (зялёную павязку на другім чамусьці не чапае), але і старанна, не надта, аднак спяшаючыся, апрацоўвае глыбокі шрам у яго на шчацэ.

— А-э-х! — тузаецца ад болю на крэсле каўказец.

— Нічога, нічога, вытрываеш!

— Ай, ай! Такая красывая дэвушка і такой дэспот!

Анжэла заходзіцца ад смеху. Анжэлу немагчыма пазнаць. Зусім не тая Анжэла! Зусім не той нават голас!

Анжэлачка, усміхайся часцей! Часцей смейся!

І не толькі з прыгажунамі "каўказскай нацыянальнасці"...

***

Нядзеля. Дзень наведвальнікаў. Дзень адчыненых дзвярэй. Нават белых халатаў ніхто не патрабуе. Заходзь у палату, у чым прыйшоў.

— Дэмакратыя ў дзеянні, — такі іранічны каментар пад гэту выгаду наведвальнікам падае мая суседка па ложку Ніна Пятроўна. Былая выкладчыца асноў марксізму-ленінізму ў Рэспубліканскай Вышэйшай партыйнай школе, былая пенсіянерка таксама рэспубліканскага значэння... Тут жа, у афтальмалогіі — звычайная хворая: катаракта...

...Першыя госці завітваюць да Марфы Зміграўны. Прыходзяць сын з нявесткаю. Абое ў імпарце. Абое ў добрым яшчэ ўзросце. Нявестка невысокая, шчуплая, з выгляду ўсмешлівая і прыветная. А сын — адразу відно — з сённяшніх "новых": спартыўна-самаўпэўнены, іранічна-спагадны... Гучна вітаюцца. Пра здароўе надта не распытваюць. Сын уладкаваў маці сюды

# НЕ ТОЛЬКІ ПРА АЛЕНУ ВАСІЛЕВІЧ

*

Чытач па большасці сваёй суб'ект да крайнасці эгацэнтрычны. У залежнасці ад настрою адзін і той жа твор ён можа пахваліць і можа не пахваліць. Калі ж ён успамінае штосьці раней чытанае, дык найперш згадвае не сам твор, а сябе ў тыя часіны, і абставіны, пры якіх твор чытаўся.

І нічога з гэтым не паробіш.

*

У Чэхава ёсць надзвычайная па мастацкім уздзеянні навела — як старэнькія непісьменныя бацька з маткаю прыйшлі да мясцовага пісарчука прасіць, каб той напісаў за іх у горад ліст да замужняе дачкі. Пісарчук, нядаўні салдат, грубы, цынічны, дзеля забаўкі запісвае і адразу перачытвае ім уголас здзеклівую бязглуздзіцу, кшталту: "Ворагі Чалавека падзяляюцца на знешніх і ўнутраных. Галоўны наш унутраны вораг ёсць: Бахус..." і г.д. Бацькі, нічога не зразумеўшы, думаюць, што гэта такая асаблівая абавязковая форма, дзякуюць пісарчуку, расплачваюцца апошнімі грашыма, а "ліст" пасылаецца ў горад. Дачка, нават не раскрываючы канверт, плача ад радасці, успамінае вёску, любых старых і пачынае пераказваць маленькаму сыну замест ліста, — душою, сэрцам амаль слова ў слова ўгадваючы тое, што бацькі і хацелі ёй паведаміць.

Чамусьці захацелася пераказаць гэтую навелу – вядома, не ў дачыненні да творчасці нашага выдатнага Майстра слова Алены Васілевіч, адной з маіх самых любімых беларускіх пісьменніц, а найперш для сябе-чытача, – каб разабрацца ў нашай чытацкай сутнасці.

*

Бываюць пісьменнікі, так бы мовіць, "жорсткія", якія адразу ўцягваюць чытача ў арбіту сюжэта, прывязваюць да тэксту гіпнатызмам стылю, прымушаюць злівацца з героямі, іх думкамі, дзеяннямі і не выпускаюць чытацкую фантазію за строга акрэсленыя імі, "жорсткімі" пісьменнікамі, рамкі.

А бываюць "мяккія", "імпрэсіўныя", якія не стараюцца ўладарыць над чытачом, а ідуць з ім поруч, здзіўляюцца разам з ім, даюць яму волю для асацыяцый... Вось на мяне акурат такое ўражанне рабілі і робяць творы Алены Васілевіч.

*

Спакуса ўзяць любы з трох тамоў Выбранага Алены Васілевіч, працытаваць адтуль колькі мясцінаў, абставіць гэта словамі, сто разоў пра пісьменніцу сказанымі і напісанымі, – "чалавечнасць, высокая духоўнасць, светлы талент, замілаванне праявамі жыцця..."

...Усё ж як лёгка і хутка ад бяздушнага, усюднага паўтарэння выціраюцца, губляюць сваю важкасць і кошт самыя цудоўныя, самыя, здавалася б, несумненныя словы!

на прафілактычнае лячэнне (каму б яно пашкодзіла?..). Ды і былі яны ў яе тры дні ўсяго назад. Апраставяюць пакаўныя сумкі: бананы, апельсіны, яблыкі, нейкія папяровыя пакункі, нейкі заморскі сок у фацэтнай пасудзіне-бутлі... На тумбачцы і ў тумбачцы не хапае месца.

– А мае вы дзеткі! Ці я ж паем усё гэта, што вы гэтулькі мне настараліся? – назірае за сынам і нявесткаю, седзячы на сваім ложку, Марфа Зміртаўна.

– Ешце, мама. Ешце. Не складвайце ў тумбачцы. Заўтра Славік ці Ленка пасля школы падыдуць, дык паднясуць яшчэ. Свежага.

– А вой, а вой! Навошта яшчэ Славікава ці Ленчына сюды хада? – пратэстуе Марфа Зміртаўна. – Дзе я з усім гэтым едлам спраўлюся, як дам рады? Нас жа тут троха кормяць...

– Ешце, ешце, мама! Самі мы пасярэдзіне тыдня недзе прыедзем.

– А вой-вой! – махае на сына з нявесткай рукамі Марфа Зміртаўна. – Ці ў вас, мае дзеткі, не хапае іншага клопату, як толькі да мяне сюды ездзіць?

– А што мне за праблема прыехаць? – смяецца сын. – Стась усё роўна сядзіць у машыне, чытае газету. (Стась, можна здагадвацца, шафёр, які яго возіць.)

– Я ўчора купіла вельмі ўдалы качан капусты. Якраз на галубцы. Дык нагатую – і прыедзем.

І нявестцы, адчуваецца, н е ц я ж к а я свякруха. Сядзяць, гамоняць. Маці распытвае – сын з нявесткаю цярпліва расказваюць. Тая ж гаворка была і на мінулым тыдні.

– Дзеткі мае, то мо ўжо вы сабе і едзьце. Ці ў вас там не хапае работы дома... – успамінае першая маці.

Сын і нявестка развітваюцца, цалуюць яе, жадаюць нам усім у палаце хутчэй ачуньваць. І – здаровыя людзі – весела адыходзяць.

Поўная, шырокая, мультановая наша Марфа Зміртаўна латвей сядае на ложку, сама ўжо ладуе на тумбачцы і ў тумбачцы сынава і нявестчына г у м н о – так у іх дома кажуць, у іх Змяёўцы пад Красным Берагам.

– Як я тут упраўлюся адна з усім гэтым едлам? – сама з сабою гамоніць-развужае Марфа Зміртаўна. («Едла» – гэта ў яе са Случчыны, адкуль яна родам, з Машчыч. А Красны Бераг – за светам – зманіў яе некалі замужжам.)

– Сын ваш, відно, на добрай рабоце робіць? – пытаецца ў Марфы Зміртаўны Насця – суседка яе ад акна. Сама Насця – швачка з былой "Камсамолкі". Зараз беспрацоўная.

– А то не на добрай... Дырэктар рэстарана. Вялікага!

(То ці не таму і наведвае штодня – асабіста – нашу самую здаровую ў палаце Марфу Зміртаўну с а м а загадчыца аддзялення?..)

– Ну, то дзіва што... – міжвольна ўздыхае Насця.

– А нявестка ваша што робіць? – цікавіцца Ніна Пятроўна.

– Шчатаводам рабіла. А цяпер не робіць.

– Маючы гаспадара дырэктара рэстарана, на чорта ёй тая работа сённяшняя! – рашуча выказваецца Насця.

*

Калі ўспамінаю, як у пятым класе захварэў і не пайшоў у школу і хлопцы прынеслі мне з бібліятэкі "Пачакай, затрымайся...", згадваецца не кніга, а чамусьці снег, сена на снезе, конскія мерзлыя "яблыкі" і адчуванне проста незямнога Свята Жыцця, бясконцасці яго; вось нібы спаў і не да канца прачнуўся, а штосьці паміж сном і яваю, і сон быў салодкі, а ява будзе яшчэ лепшая. Упарта здавалася, што я ўжо жыў недзе, і быў дарослым, і быў канём, і Ганькаю, і снегам, і сенам, і вераб'ём, які растрыбушвае конскія "яблыкі" на снежнай дарозе...

*

Пасля кнігі нататак Алены Васілевіч "Люблю, хвалююся – жыву" (1986) я напісаў сваё першае апавяданне. Думалася, узбагачаны такім цудоўным разглядам чужых твораў, навучаны на чужых памылках, лёгка пазбегну сваіх...

Уражаны быў (цытую па памяці) сказамі: "Чытаючы "Хаджы-Мурата", спатыкаешся аб такое: "Накурившись, между солдатами завязался разговор". Значыць, і ён – як і мы, грэшныя, калі мог не заўважыць такое? І яшчэ бліжэй нам ад гэтага..."

*

Пакуль на Беларусі будуць існаваць людзі, якія хацецьмуць стаць пісьменнікамі, ім давядзецца ўвесь час вяртацца да нашай "залатой абоймы", да нашых Імёнаў, перачытваць іх творы, вучыцца, браць ад іх лепшае. У прыватнасці, для мяне ў гэтай "залатой абойме" ёсць і нязменна застанецца Алена Сямёнаўна Васілевіч.

Андрэй ФЕДАРЭНКА





– Цяпер за граніцу ездзіць, – як хваліць нявестку, кажа Марфа Зміртаўна.

– Ездзіць за граніцу?! – Ніна Пятроўна – чалавек адукаваны і дастаткова падкаваны, добра ведае, што значыць, і як гэта проста ў нас ездзіць "за граніцу".

– Ну, але. Гандлюе.

– І куды ж ездзіць? – гэта ўжо усім нам цікава.

– Усюды! У Польшчу ці раз ездзіла? У Турцыю. У Кітай... У Кітаі мо разы ўжо з чатыры была.

Матка Боска! Чатыры разы была ў Кітаі. Гандлявала там.

– І чым жа яна там, у тым Кітаі, гандлюе?

– А ўсім. Посуд наш там вельма любяць і хваляць кітайцы. Кубкі і талеркі...

Людзі добрыя! Кітайцы любяць і хваляць наш посуд... Ім кепскі, ім горшы той, уласны іх фарфор (ды які яшчэ!), што вынайшлі-здабылі яны першыя ў свеце...

– Ну, і гэтыя, як іх, што адразу поўна ўсяго: і кубкаў, і сподкаў, і талерак...

– Сервізы?

– Ну, але. І сервізы... У яе і самое дома гэтага посуду мора.

– Але як яго давезці туды, у Кітай, гэты... гэтыя сервізы?

– Анічагутка! Тут, у Мінску, пасядуць сабе ў аўтобусы. А ў Кітаі, калі пад'едуць ужо блізка, то зноў перасядуць на кітайскія. А там, на месцы, і прадаюць ужо.

– І што адтуль прывозяць?

– Таксама ўсё! Гардзіны на вокны вельма харошыя. Гэтакія бліскучыя! Брызентавыя рукавіцы...

Канец свету! З Мінска ў Кітай ехаць купляць брызентавыя рукавіцы!

– Рукавіцы ў нас вельма добра купляюць... А то яшчэ штаны хлопцам і мужчынам прывозіць. (Джынсы?) Курткі... Папрадае тут, а пасля зноў паедзе... Налаўчылася ўжо.

"Налаўчылася"... Каб сказаў ужо хоць была якая-небудзь гром-баба, гэта яе нявестка. А то ж тоненькая, шчуплая. З выгляду нават інтэлігентная... Як яна цягаецца з тымі непадымнымі карабамі ў дарозе – з цягніка на цягнік, з аўтобуса на аўтобус... З Мінска да Варшавы... У Стамбул... Да Кітайскай Сцяны... (Малюе атарапелае ўяўленне.)

– Вельма ж хваліць кітайцаў, – кажа пра нявестку Марфа Зміртаўна. – Вельма ж добра да нашых яны адносяцца... А палякі дык вельма ж паганыя! Лаюцца па-свойму на нашых... А нашы каторыя то і ведаюць па-іхняму, але ж усё роўна маўчаць. Што ж ты, прыехаўшы туды, будзеш усчынаць з імі сварку? Дык і маўчаць...

Маўчаць. Бо і самі ж лаялі гэтак жа і палякаў, калі і яны – ці даўно тое было? – гойсалі-гандлявалі па Беларусі.

Ах, свет, свет... Ах, людзі, людзі...

– Што яны мне нанеслі тутака? Гэтулькі грошай аддаць за адны гэтыя бананы ды

# ПАРТРЭТ НА ФОНЕ СОСНАЎ

Бог ведае, чаму я ўзяла ў бібліятэцы менавіта гэтую кнігу. Ніколі раней падобным чытаннем не захаплялася. Хіба што настроілі на лірычную хвалю сосны вакол Дома творчасці пісьменнікаў "Іслач" ды часовае вызваленне ад хатніх клопатаў.

Па лясной сцяжынцы ішла пісьменніца, якая прыехала ў Дом творчасці адначасна з намі, і несла дакладна такую самую кнігу... Залатыя літары назвы люстравалі іслачанскае сонца.

Нeяк не хочацца гаварыць пра выпадковае супадзенне.

Кніга называлася "Любовь в письмах великих людей VIII–XIX веков".

Пісьменніца была Алена Васілевіч.

...Ёсць меркаванне, што самыя псіхалагічна дакладныя творы пра жанчын напісалі мужчыны. Прыгадваю паказаную ў адной з тэлеперадач гутарку з вядомымі амерыканскімі мадэльерамі. Карэспандэнт пытаўся, хто, на іх думку, лепшыя мадэльеры жаночага адзення – мужчыны ці жанчыны?

Мадэльер – прадстаўнік моцнага полу адказаў, што, вядома ж, мужчыны, бо кабета заўсёды думае пра тое, ці падыдзе яе прыдумка ёй самой, ці будзе яна такое насіць. І гэта абмяжоўвае ейную фантазію.

Мадэльерка ж лічыла, што найлепшыя ў іх прафесіі – жанчыны, бо лепей разумеюць іншых жанчын, "ведаюць іх добрыя дні і благія дні, моцныя хвіліны і слабыя хвіліны...".

Таму тое, што жанчына скажа (ці напіша) пра жанчыну, мужчына не выдумае і не зразумее. Асабліва,

апельсіны толькі! – хутчэй нават грозіць на сына з нявесткай Марфа Змітраўна – за іх безразважную неашчаднасць.

І выбірае самы большы апельсін і як бы ўзважвае на далоні яго нетутэйшы залаты кошт. Потым гэтак жа ўзважвае крамяны чырванабокі яблык.

Ён, пэўна, здаецца ёй за больш танны. Ад яблыкаў і ў яе ўласным садзе гэты год голле гнулася...

У палаце нашай стаіць апельсінавая пахата́.

Сіцылія. Корсіка. Марока...

# РУЖЫ Ў ЗАКОНЕ

*Не надо прав мне человека –*
*Я сам давно не человек.*

Ул. Сакалоў

Раніца – не давядзі Госпадзі! Віскуцень на вуліцы з ног збівае, зрывае з галоў шапкі. Сухую бабульку падхапіў і перанёс цераз дарогу, нібы пёрка. А ўсё роўна ж беднай трэба цягнуцца. У крамы, у чэргі...

Насустрач мне – рослы, яшчэ не вельмі ў гадах мужчына (што́ яму гэты вятрыска?). Бязважкая сінтэтычная адзежына нарасхрыст – полы што крылы матляюцца. Без шапкі. Каўнер кашулі расхлістаны. Не зважае ні на святлафоры, ні на машыны, шыбуе напрасткі. Не прыпыняючыся, выцягвае з кішэні цыгарэты, на хаду закурвае. З кішэні ва ўсе бакі разлятаюцца паперкі. Адна трапляе якраз пад мой чаравік.

Ды яшчэ "мядзведзь"!

– Спыніцеся! Пачакайце! – крычу я ўслед расхрыстанаму чалавеку і наступаю чаравікам "мядзведзю" на лапу.

Чалавек не азіраецца. Ці то не чуе, ці не звяртае ўвагі: крычыць баба, няхай сабе крычыць.

– Спыніце! Затрымайце яго! – заклікаю я людзей і паказваю на чалавека, сама не кратаючыся з месца.

Вецер жа не я – што яму адолець гэтага "мядзведзя"?

Нехта прыпыняе чалавека, і той азіраецца. Я махаю яму рукою, паказваю на асфальт, на "мядзведзя" пад маім чаравікам.

Чалавек здзіўлена перасмыкае плечуком і вяртаецца да мяне.

– Чаго вы хочаце?

– Забярыце. Вы грошы выцяглі з кішэні, як закурвалі, – паказваю я на прыціснутага маім чаравікам "мядзведзя".

Чалавек абыякава схіляецца і бярэ свайго папяровага звера ў рукі. А я, нібыта і



сапраўды вызваліўшы сябе ад адзінаборства з сіберным мядзведзем, раблю вальнейшы крок убок.

– Дык чаго вы мяне клікалі? – круціць у руках паперку чалавек.

– Каб вы забралі свае грошы.

– А навошта вы гэта зрабілі?

– А вы хіба зрабілі б інакш?

– Я вас не паклікаў бы.

– А што ж бы вы зрабілі?

– Нагнуўся б, узяў грошы і паклаў бы сабе ў кішэню, – як быццам насміхаецца з мяне чалавек.

– Вы на сябе нагаворваеце абы-што, – раблю я намер ісці далей сваёй дарогай.

– Чакайце! – кранае ён мяне за рукаў. – Вазьміце сабе гэтыя грошы.

– Сабе? Навошта?

– Дык у вас жа, напэўна, няма грошай? – крытычным позіркам мерае ён маё аблічча.

– Чаму гэта няма? – яго шыкоўны жэст, у пэўнай ступені, мяне нават абурае. Хоць і не надта дзівіць.

Як на тое ў гэты ранішні абход я скіравала сябе ў старым сваім паліто. Ды і чаравікі мае столькі мне паслужылі, што не грэх было ўжо і выкінуць іх. Але хіба падымецца зараз рука выкінуць старыя чаравікі?

– Ну... Адкуль ім быць у вас? – зусім упэўнены, нават не пытаецца, а хутчэй сцвярджае мой эканамічны статус незнаёмец.

– А пенсія? – годна імкнуся адстойваць я ўласны сацыяльны цэнз.

– Ха-ха! – някрыўдна смяецца ён мне ў твар. – Пенсія! Колькі яе там вам даюць?..

– А мае дзеці?! – яшчэ не хапала, каб ён тут, на вуліцы, надумаўся шкадаваць мяне. – Мае дзеці нядрэнна зарабляюць. І яны не пакінуць мяне без...

– У вас ёсць дзеці?.. – з сумненнем пытаецца гэты дзівакаваты чалавек, нібыта ўпершыню чуе, што ў жанчыны могуць быць дзеці.

– А як жа!

– Дзеці... Гэта добра...

Я зноў раблю спробу спыніць наш дыялог – якраз у гэты час павінны завозіць у недалёкую лаўку гарачы хлеб, і там, пэўна, ужо стаіць чарга...

– Паслухайце! – зноў затрымлівае мяне за руку незнаёмец. – Я вас вельмі прашу: вазьміце ў мяне грошы! Што мне гэта паперка! – камячыць ён "мядзведзя" ў руках і выхоплівае недзе з унутранай кішэні тоўсты пачак грошай. – Бачыце, колькі іх у мяне!

– Ну і цудоўна! – што яшчэ здольная сказаць я пра чужыя грошы.

– Хоць усе вазьміце! Мне не шкада. Да заўтра ад іх у мяне ўсё роўна нічога не застанецца.

Божа, хто ён, гэты чалавек? Можа, вар'ят? Я хачу толькі аднаго: вызваліць свой рукаў. Мне боязна ўжо і гэтага чалавека, і гэтага пачка ягоных грошай... Добра, што раніца, што светла і людзі кругом. Нейкі спагадлівы мужчына, відаць, пазнаўшы неардынарнасць нашага дыялога, і сапраўды прыпыніў крок:

---

калі пісьменніца надзяляе гераінь сваімі рысамі, праводзіць шляхамі ўласных пачуццяў.

І калі рабіць нейкія аналогіі і дапускаць нейкія здагадкі, дык гераіні твораў Алены Васілевіч кахаюць у нечым так, як у VIII–XIX стагоддзях, і сапраўды вялікія людзі: адначасова аддана і горда.

Заўсёды – аддана. Заўсёды – горда.

Простыя сялянскія дзяўчаты, якія здольныя вытрываць вайну і нястачу, непасільную працу і цяжкі шлях да ведаў. Сарамлівыя, сціплыя, чыстыя ў пачуццях...

Урэшце, Прасвятая Дзева Марыя таксама была простай сарамлівай вясковай дзяўчынкай... І менавіта ёй, а не якойсь прынцэсе ці князёўне, выпала стаць Царыцай нябеснай...

А яшчэ маю ўпэўненасць, што празаік Алена Васілевіч пісала вершы, і наўсур'ёз. Бо ў апавяданні "Мыс Добрай Надзеі" алхімія ўзнікнення паэзіі апісана так, як можна апісаць, толькі ведаючы.

А яшчэ, каб не абранасць у прыгожае пісьменства, яна была б добрай настаўніцай. І не таму, што некалі скончыла настаўніцкі інстытут. А проста яна разумная, добрая, строгая і справядлівая. Калі вы лічыце, што для ідэальнага педагога тут ёсць лішняе азначэнне ці нейкага не хапае, я з вамі не згодная.

Хаця простай настаўніцай яна б не была. Як мінімум зрабілася б дырэктарам школы. Нічога не паробіш – маштаб асобы...

А тады, у Іслачы, мы хадзілі па вакольных лясных сцяжынках з аднолькавымі кніжкамі ў руках, спярша – паасобку, потым – час ад часу – разам... І нелітаратурнага кола адпачываючыя (а такіх у Доме творчасці цяпер абсалютная большасць) паказвалі адзін аднаму на яе постаць, захутаную ў шаль, і, дакладна не ведаючы, але "вылічыўшы", беспамылкова здагадаўшыся, з павагай казалі:

"Пісьменніца прыехала..."

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ



# "ДЗЯКУЙ ЛЁСУ, ШТО ЁСЦЬ ВЫ..."

Вельмі шчыра, ад чыстага сэрца паўтараю ўслед за незабыўнай Жэняй Янішчыц з яе колішняга ліста да мілай і майму сэрцу Алены Сямёнаўны Васілевіч: "Мілая Алена Сямёнаўна, дай Бог здароўя, бо жаль наш нескончоны. Дзякуй лёсу, што ёсць Вы і Ваша глыбокае сэрца. Ваша творчасць!!."

"Нешта, пэўна, блізкае і сугучнае, адчувала і яе душа на маіх... старонках", – прызнавалася Алена Сямёнаўна на старонках "ЛіМа" (16.IX.1994). Па дзіўнаму супадзенню роўна праз два гады, я яшчэ раз прызнаюся Алене Сямёнаўне і яе чытачам у сваёй даўняй шчырай закаханасці да яе таленту і яе лепшых твораў, якую я ўжо неаднойчы выказваў публічна. Колькі ж не менш кваліфікаваных чытачоў знаходзілі ў яе творах гэтае сугучча – Вера Палтаран і Барыс Бур'ян, Ала Сямёнава і Міхась Стральцоў, Марыя Барсток і Нічыпар Пашкевіч, Юлія Канэ і Аляксей Кулакоўскі, Серафім Андраюк і Віктар Каваленка, Васіль Вітка і Рыгор Шкраба, Таццяна Шамякіна і Міхась Тычына...

Ажно палавіну сваёй першай кнігі "Цеплыня чалавечнасці" я *аддаў* ім, маім самым дарагім

— Чаго ён хоча ад вас? — спытаў.

— У нас свая гаворка! — мой незнаёмец зрабіў рукою рашучы знак таму чалавеку, і той, паціснуўшы плячыма (сапраўды, ці мала пра што можа ісці гамонка ў людзей), пайшоў у свой бок.

— Мне трэба ісці... Хлеб прывезлі... Мяне дома чакаюць...

Сітуацыя была — не прыдумаеш такую.

— А вы ведаеце, хто я? — не збіраючыся выпускаць мой рукаў і не зважаючы на мае праблемы, ні то загадкава, ні то з выклікам звярнуўся да мяне гэты дзівак.

Я не хацела ведаць, хто ён. Я хацела толькі аднаго — хутчэй скончыць наша знаёмства.

— Я — злодзей!

— Злодзей?.. — такое прызнанне я сапраўды чула першы раз у сваім жыцці.

— Злодзей. Я дваццаць два гады адседзеў у турме.

— Але ж усё роўна вы — чалавек...

— Чалавек? Вы завяце мяне чалавекам і звяртаецеся да мяне на вы?

— А як жа інакш? Калі мы незнаёмыя...

— Вы, відно, з былых?

— Чаму з былых? З самых сучасных.

— Не, зараз няма такіх людзей.

— Як гэта няма?

— За дваццаць два гады ў зоне я ні разу не пачуў, каб хто-небудзь назваў мяне чалавекам!

— Гэта жахліва!

— Ніводзін начальнік... А калі на волю трапляў, дык вы што думаеце, нехта лічыў мяне за чалавека? А вы мне кажаце: "чалавек"!

...Дваццаць два гады па турмах, у "зоне", як ён сказаў... Нават на гэтым пранізлівым віскутні... Нават пры звыклых такіх ужо штодзённых "перабежках" з чаргі ў чаргу... Такі тэрмін уявіць сабе было немагчыма... Звыклай стыхіяй сённяшняга людскога існавання валодаюць як быццам толькі ўжо яны адны, знелюдзелыя шэрыя чэргі. А турмаў, тэрмінаў, этапаў — іх як быццам і не існуе ўжо... (Калі не ведаць, а яшчэ спакайней — не памятаць — лічбаў і тэлепаказаў. Сённяшніх.)

— Божа мой, дваццаць два гады!.. Вы ж яшчэ... Вам жа не так яшчэ многа гадоў... За што ж вас стрэла такое пакаранне?

Чалавек глядзеў на мяне з насмешкай.

— За што?.. Праз два гады... Не, яшчэ менш. Пасля дзіцячага прытулку трапіў у кампанію. Навучылі. Загадалі і прыгразілі. І — украў. А што было рабіць? Куды падацца? Дзіцячы прытулак... З яго парога пакручастая сцежачка вілася толькі да турэмных варот!

— А бацькі? У вас не было?..

— А хто пра іх што ведаў — пра бацькоў? Пасля другога ўжо тэрміну зусім выпадкова я даведаўся, што бацькі ў мяне не было. Ну, вы ж разумееце, як не было... А маці... Дык у мацеры такіх, як я, яшчэ чацвёра ці пяцёра было. Таксама параскіданых па дзіцячых прытулках... Маці любіла весела жыць.

— І ўсе гэтыя дваццаць два гады?..

Ён зразумеў мяне:

— Не, вы думаеце, што ўвесь гэты тэрмін я ад званка да званка?.. Я садзіўся разоў шэсць ці сем. І мяне вызвалялі. Але з чаго я мусіў пачынаць кожны раз сваё новае жыццё? Не маючы ў руках ніякага іншага ўмення, як толькі тое, якое ў турме я толькі ўдасканальваў... Мяне ж зроду нічому іншаму, як красці, ніхто нідзе не вучыў.

— І ў вас ніколі не было ўласнае сям'і? Жонкі? Дзяцей?

— Чаму не? Ёсць жонка.

— Дык гэта ж ваша выратаванне! Што ёсць да каго прыхіліцца... Закрэсліць усё нядобрае, што было ў вашым жыцці...

— Закрэсліць?! — неяк штучна засмяяўся ён, і твар яго перасмыкнуўся ні то ад імгненнага болю, ні то яшчэ ад нечага, што я не здолела зразумець. — Слухайце! — відаць, і ў яго ўжо таксама не было жадання працягваць наша знаёмства. — Вазьміце ў мяне грошы!

— Божа мой, навошта мне вашы грошы?!

— А мне яны навошта?

— Паслухайце! — не ведаю сама нават, адкуль раптам узнікла ва мне гэта надзея. — Паслухайце! Сядайце на метро, даедзьце да Камароўкі і купіце там сваёй жонцы... Ружы!

— Ружы? Жонцы? Ды навошта яны ёй?

— Здзівіце яе! Зрабіце яе шчаслівай...

— Навошта ёй ружы! Ёй трэба бутэлька.

Гэта быў край. Я, нарэшце, вызваліла свой рукаў.

— Ведаеце што! Дайце мне свой адрас, і я сапраўды паеду на Камароўку, куплю ружы і падару вам!

(Гэта былі якраз тыя ружы, якіх толькі і не хапала мне ў маім жыцці...)

— Не бойцеся! Не бойцеся! Я вам толькі падарую ружы і ніколі болей... Толькі дайце ваш адрас!

— Падарыце ружы жонцы. І няхай гэты сённяшні дзень... Можа, ён перайначыць вашу долю.

(Я даўно не адчувала такой стомы. Нават у чэргах.)

...На рагу недалёкага гастранома, з якога я нядаўна выйшла, вілася пакорлівая калейка з мужчын і жанок.

— Чаго яны стаяць? — паказаў на чаргу мой знаёмы незнаёмец.

— Чакаюць гарэлкі.

— Ф'ю-ю-ю!.. — неяк выключна музычна прысвіснуў ён. — А я тут з вамі тары-бары разводжу... Бывайце, з Богам! — лёгка махнуў ён рукою, адпускаючы на ўсе чатыры бакі маю душу.

— З Богам! — удзячная, адгукнулася яму мая душа.

Божа літасцівы! Ці пачуў ты нас? Ці ўбачыў?..

1993 г.

---

тады празаікам — Івану Мележу, Янку Брылю, Яну Скрыгану і Алене Васілевіч, назваўшы гэты раздзел — "Сагрэтая сэрцам". Яны ж сапраўды тады сагрэлі не адно чытацкае сэрца...

Перачытваю свой тагачасны артыкул "Шчыры і добры талент", складзены з публікацый 1972—1976 гг., і дзіўлюся — колькі там, апрача слоў захаплення, і маіх крытычных заўваг, накшталт: "пісьменніцы не заўсёды стае... сапраўднай заклапочанасці тым, каб слова не штосьці называла, а паказвала жыццё ва ўсім яго канкрэтным, індывідуальным, непаўторным абліччы. Некаторыя эпізоды і цэлыя раздзелы напісаны не "розумам сэрца", як любілі гаварыць Л. Талстой і А. Платонаў, яны проста пераказваюць тыя факты і падзеі, якія хоць і былі відавочна, у жыцці, але не сталі фактамі, асэнсаванымі па-мастацку, якія б працавалі на стварэнне аб'ёмнага паўнакроўнага мастацкага характару. Яны напісаны неяк агульна, безадносна да духоўнага вопыту Ганькі, якая ў трэцяй, а яшчэ больш у чацвёртай аповесці "Пачакай, затрымайся..." траціць рысы непаўторнай, жывой, духоўна багатай чалавечай асобы, ператвараецца ў статыста... Аўтар часам піша як бы не дзеля таго, каб яшчэ адным нюансам, яшчэ адным душэўным, псіхалагічным жэстам акрэсліць выразней і выявіць паўней складаны шлях духоўнай эвалюцыі сваіх герояў, а каб паведаміць, што ў гэты час у краіне адбывалася нейкая падзея (раздзелы "Забілі Кірава", "Іспанія", "Гартаванне")".

І гэта — пра найлепшую на той час кнігу, якая ў тым жа 1976 годзе адзначана Дзяржаўнай прэміяй БССР.

Але і цяпер... я не адмоўлюся ад тых крытычных слоў. Такая ўжо наша доля — не вучыць, як і пра што пісаць, але ўсё ж прагнуць найперш сапраўднае мастацкасці, тым больш, калі яна пад сілу таму, пра каго ты пішаш... Свой жа трохтомнік выбраных твораў яна падпісала: "Мілы Шупенька! Дарагі Геначка... Дзякуй Вам за тыя добрыя словы і пачуцці, якія былі гэтак патрэбны мне на маіх не такіх ужо лёгенькіх "шляхах-дарогах". Шчасця Вам!"

І сёння я не магу пакрывіць душою — сказаць, што мяне, чытача, надта ўзрушылі апошнім часам ужо даволі рэдкія яе "Новыя старонкі" ("ЛіМ", 21.XII.1994) — занадта ж многа ў гэтых мініяцюрах чыста літаратурнага "шарму". Калі нешта жывое, сапраўды не прыдуманае, а перажытае душэўна і асэнсаванае духоўна крыху "праяўляецца" ў мініяцюры "Нікало Паганіні", нягледзячы на тое, што і тут яна "заангажыраваная" нашымі надзеямі нядаўніх гадоў, то, чытаючы эскіз "Фабіо і Маня", проста не надта цямлю, што тут да чаго...

Затое якая сіла эмацыянальнага ўзрушэння і чалавечай гістарычнай праўды паўстала з адной газетнай старонкі ў апавяданні "Хашкелэ" ("ЛіМ", 21.1.1994).

Колькі, здавалася б, ужо прачытана пра такое. Але чаму ж пранікае ў самыя глыбіні сэрца крык здурнелае Рыўкі: "Хашкелэ!.. Хашкелэ!.. Майнэ гутэ тохтарке!.."?

Як жа многа ўсё-такі можна сказаць, пішучы памяццю сэрца!..

"...Не толькі ў мястэчку — на ўсю акругу няма чалавека, які б не ведаў Рыву з Урэчча. (Аўтар,

# ПРА КАХАННЕ

**– Скажы мне, Анюта, – з усіх сяброў адзін толькі ён зваў яе гэтым імем, – скажы мне, чаму я табе ніколі не падабаўся? Ты ніколі не была нават захопленая мною...**

**– Ну, ты памыляешся! Ты падабаўся мне заўсёды.**

**– Я не пра тое! Не пра нашы з табою поспехі – калі можна іх так лічыць – нашы згрэмзаныя старонкі.**

**– Я цябе зразумела... Ведаеш, мне заўсёды неабходная была найперш узаемнасць. Без яе ніколі я не пакутавала ні ад кахання, ні ад захаплення – да страты прытомнасці. А ты... Табе падабаліся іншыя жанчыны.**

**– Гэта так... Мне сапраўды падабаліся тады іншыя жанчыны...**

**– Ну вось бачыш, як проста ўсё тлумачыцца.**

**Сябры з даўніх маладых яшчэ гадоў, яны трапілі і выпадкова сядзелі ў вялікім святочным застоллі побач, шчыра ўзрадаваныя гэтай выпадковай стрэчай. Яна асаблівa была прыемная ім у гэтым стракатым галасным гурце, хоць вакол былі ўсе як быццам таксама даўнія іх таварышы і сябры – адны найболей блізкія, іншыя толькі ветліва вітальныя... Як і самі яны, абое, большасць гэтага таварыства на доўгай дарозе паспела таксама ўжо страціць свой незаменны запас, што надзейней за ўсё цепліць чалавечае існаванне ў старасці. Такую неабходную і неацэнную патрэбнасць адчуваць разуменне і спагаду людзей, самых блізкіх табе на зямлі, заставацца самому некаму цікавым. На пустэльным беразе ўласнага жыцця, дзе тулілася цяпер толькі самотная адзінота...**

**Святочная чарка, як і заўсёды, і гэтаму застоллю надавала душэўнага сугрэву і ўзнёсласці і нават, нібыта, выкрэслівала гады, не зважала на ўзрост... А ўспамінам і жартам надавала маладой адвагі і раскаванасці.**

**– Тлумачыцца ўсё сапраўды проста... А калі я табе назаву сёння такое і м я?..**

**– О, гэта было маё патаемнае каханне!**

**– Тваё?.. Я ведаў іншае: т ы была каханнем майго сябра.**

**– Хто табе сказаў?!**

**– Ён сам, і неаднойчы казаў мне.**

**– Божа!.. Чаму ж ты мне не сказаў? Ніколі раней?!**

**– Не было выпадку.**

**– Не было выпадку... Затое была Клаўдзія Мінаўна... Яе варта была неадступная і неадольная.**

**– Гэта праўда.**

**– І ўсё роўна! Чаму ты не сказаў мне?! Калі ён б ы ў яшчэ на зямлі...**

..........................................................................................................

**І ўвесь астатні той лёгкі святочны вечар раптам патух. Нікому не бачнае, ціха плакала толькі ўсё непапраўнае.**

---

**дарэчы, вучылася некалі ў рэальным мястэчку Урэчча, што на Любаншчыне. –** *Г.Ш.*). **Нават па вёсках дражняцца Рываю, калі адна суседка хоча дапячы другой: “Рыўка ты ўрэцкая!”**

**А ў мястэчку хлапчукі, басота, абы стрэлася яна ім на дарозе, не даюць ёй праходу, з рогатам дражняцца, пацяшаюцца з няшчаснай.**

**– Рыўка, Рыўка, тваю Хашкелэ парэзалі на кавалкі і зварылі ў катле!..”**

**А было яно так. У невялічкім мястэчку, дзе жыло шмат яўрэяў, жыла і дзівоснай прыгажосці Рыва.**

**“Старыя набожныя яўрэі, праводзячы Рыву доўгім позіркам, казалі адно ўсяго толькі слова:**

**– Рывэ?..”**

**І сапраўды ж – адно гэтае слова было красамоўнейшае за мноства самых гучных слоў. А гэта, відаць, рэальная чалавечая драма, якая да гэтага часу заставалася ў душы Алены Васілевіч, давала ёй матэрыял на вялікую аповесць. Ёй жа на гэты раз хапіла невялічкага апавядання...**

**Рыва так закахалася ў аднаго актора з прыехаўшага на гастролі тэатра, што пайшла за ім, нават не развітаўшыся з бацькамі, як толькі той узяў яе за руку. Але “каралеўскага кахання хапіла ненадоўга...” Праз год, “халодная і знябытая”, яна з нейкім дзіўным брудным скруткам на руках пастукала ў дзверы да бацькоў. Страціўшая памяць, Рыва гадамі сядзела на вышках у хаце і... карміла грудзьмі пяцігадовую дачушку. Маці “чарнела і сохла” ад гора, не ведала, “якую даць раду”. А рада ўсё ж знайшлася... Сваякі ўкралі дзіця і завязлі ў горад да бяздзетнае радні. Прайшло пятнаццаць гадоў, а Рыва не мінала ніводнага пасажырскага**





# КАРАЛІШЧАВІЧЫ, КАРАЛІШЧАВІЧЫ...

**Сястра-гаспадыня Карлаўна – нібыта нават вінілася:**

**– Таварышы пісацелі, я вельмі прашу вас не пазніцца на вячэру. Дзяўчатам і Вікторыі Іванаўне – вы ж ведаеце – як ісці ноччу дадому...**

**Дзяўчаты – былі афіцыянткі. Вікторыя Іванаўна – шэф-повар. А дадому ісці і сапраўды – каму было ў Сіняло, каму – у Апчак. Свет няблізкі. Ды яшчэ лесам. Ды зімою.**

**І, вядома ж, мы не пазніліся. Прыходзілі ў час. Садзіліся – у кожнага сваё аблюбаванае месца – за вялікім авальным сталом пад хрусткім, гэтак туга накрухмаленым, бялюткім абрусам, з абавязковай зялёнай зімовай галінкай у вазе – хваёвай ці яловай. Для свежасці і пахаты!**

**Заезд той быў, памятаю, як на падбор з адных амаль рагатуноў-штукароў: Сева (Усевалад) Краўчанка, Анатоль Астрэйка, Антон Бялевіч, Алесь Рылько... Былі Макар Паслядовіч, Тарас Хадкевіч, шляхетны Сцяпан Майхровіч... І сярод іх – я – адна жанчына...**

**У Каралішчавічах, у Доме творчасці ў той заезд яшчэ “працаваў над раманам”, як ён сам акцэнтаваў, і Аляксей Кулакоўскі. (Гэта пасля таго ўжо, як стварыў ён літаратурны запіс кнігі В.І. Казлова “Людзі асобага складу”.) Тады была якраз эра яго парторгаўскай у Саюзе пісьменнікаў дзейнасці. Тады пры ім быў забаронены ў Саюзе і більярд... Каб не швэндаліся розныя Шарапавы (асы більярда!) і розныя іншыя абібокі... Каб не перашкаджалі п р а ц а в а ц ь С а ю з у!..**

**Не памятаю ўжо, ці то Аляксей Мікалаевіч прыехаў пазней за ўсіх нас, астатніх, ці то з выключнай павагі да яго парторгаўскага статуса, але яму быў накрыты стол асобна. Такі невялікі ўтульны квадратны стол – гэтаксама пад бялюткім закрухмаленым абрусам і з хваёвай для паху галінкай у вазе. Але асобны...**

**Аляксей Мікалаевіч меў звычку: на вячэру – абавязкова пазніцца! І бедная Карлаўна ледзь не плакала:**

**– Ай-яй, гэтакая завея на вуліцы! А дзяўчатам жа дадому ісці...**

**Але ж вымову Аляксею Мікалаевічу не зробіш... Пакрыўдзіцца. Абразіцца. Ды яшчэ накрычыць!.. Нешта ўсё ж трэба было прыдумаць...**

**Мы ўсе павячэралі ўжо. Стол наш прыбралі. Самы час быў даць разгарненне жартам, пазубаскаліць...**

**– Слухайце, хлопцы! – абвёў усіх нас прыжмураным, жулікаватым позіркам Сева Краўчанка і кіўнуў галавою на дзверы, з якіх павінен жа быў, нарэшце, узнікнуць наш парторг: – Слухайце ўсе мяне!**

**Вядома, усе мы змерлі.**

---

**цягніка з надзеяй затрымаць яго і забраць сваю дачушку...**

**Даўно ўжо мне нават у самай знакамітай “ваеннай” прозе не даводзілася чытаць такі лаканічны, але такі трагічны, балючы фінал.**

**Нямецкія салдаты летнім ранкам сорак першага года гоняць з аўчаркамі вялікі натоўп яўрэяў у лес. Раптам пачуўся свісток паравоза і з натоўпу “вырвалася ўскалмачаная, сівая, у рыззі жанчына. Натоўп знямела глядзеў ёй услед... Грымнула аўтаматная чарга, жанчына спатыкнулася і, як падстрэленая птушка, з распасцёртымі рукамі ўткнулася тварам у гарачы пясок.**

**– Хашкелэ... Майнэ...”**

**...Неяк гады са два назад, здаецца, недзе каля Дома літаратара мы абняліся па-брацку і пакляліся ў “клясавай” салідарнасці: калі не спыніцца тагачасная вакханалія па “ўдасканаленню” нашае мовы – замоўкнем...**

**Мілая Алена Сямёнаўна! Нельга Вам маўчаць, калі ў Вас хапае яшчэ душэўнай сілы пісаць такія творы!..**

**І ўжо зусім нават нечаканая радасць – “Радкі без часу” ў “ЛіМе” ад 14 сакавіка ўсё таго ж 1994 года:**

*“Скасіла хараство каса.*
*І склала роўненька ў пракосы*
*Смех красак*
*У ірдзяных росах.*
*Травы зялёны адгалосак...*
*– Прачніся, боская краса! –*
*Ціхутка шэпча дожджык босы”.*

**Як жа гэта хораша, прыгожа гучыць на фоне “распаведаў” некаторых нашых “выратоўцаў” – ад самаўпэўненых маладых да самазваных “апосталаў”...**

**Не магу ўтрымацца, каб не працытаваць “Замест эпітафіі”:**

*“Спыніцеся!*
*Пастойце не ў скрусе.*

– Я яго, хлопцы, ад гэтай шляхецкай яго замашкі – пазніцца! – адвучу! Толькі – дамова. Што б я ні казаў, каб ніводзін з вас не пікнуў нават! Не зарагатаў...

У гэты самы момант за дзвярыма, у халодных летніх сенцах, пачуўся грук: з'явіўся Кулакоўскі, збівае снег з ботаў, абтрэсваецца, каб прыстойна зайсці ў сталоўку.

Мы ўсе так і напружыліся: якую ж тут штуку выкіне Сева?

– Добры вечар! – спаважна вітаецца Аляксей Мікалаевіч і скідае шэрую каракулевую шапку-папаху (як у Хрушчова – тады ад яго на такія папахі была ў мужчын якраз мода), паволі затым расшпільваецца, вешае – таксама на асобную вешалку – сіняе зімовае паліто з гэтакім жа шэрым каракулевым каўняром.

– Добры, браце, вечар! – за ўсіх нас адгукваецца Сева Краўчанка.

– Я, здаецца, прыпазніўся крыху, – кіруецца да свайго стала Кулакоўскі.

Стол чакае яго. Закуска. Кефір. Хваёвая галінка...

– Прыпазніўся, браце Алёша, прыпазніўся, – добразычліва-весела згаджаецца Сева.

Мы ўсе чакаем, як пойдзе разгортвацца яго сцэнар далей.

– А мы павячэралі ўжо, – кажа далей Сева, – ды вось цябе чакаем...

– А я запрацаваўся... – салідна паведамляе нам, не такім стараннікам за пісьмовым сталом, Кулакоўскі.

– Гэта добра! – зноў дае сваю згоду Сева Краўчанка. – Толькі ты, браце, уважліва паглядзі. – Прыўстае ён і паказвае кіўком галавы Кулакоўскаму на яго кефір і закуску.

– А што такое? – насцярожваецца Кулакоўскі.

– Ды, разумееш, каты́... Мы тут прыйшлі. Я якраз першы адчыніў дзверы... Дык ён, халера, з твайго стала, як гайсане! Гэты рыжы, з чорным хвастом... Хвост, як памяло, толькі шмаргануў па тваёй закусцы!

– Як гэта... хвост па закусцы?!. – Было ад чаго страціць мову.

– А чаго ты дзівішся? Вунь Макар учора і не тое застаў! Кацяняты гойсаюць па стале і нюхаюць сыр!

– Мой сыр нюхаюць?! На маім стале?!.

– Не толькі мо на тваім, браце... Але што ты ім забароніш ці растулумачыш, чый стол, чый сыр... Макар бачыў!

Макар Паслядовіч ад такой нечаканай імправізацыі толькі заціскае рукавом рот і адварочваецца да акна. Мы ўсе, астатнія, таксама душымся смехам.

– Трэба, хлопцы, на вячэру ўсім нам прыходзіць раней. А то не ведаеш, можа яны, халеры, гэтыя каты, і кефір хлебчуць... – ужо зусім невядома што пляце Сева.

...Нічога больш не слухаючы і не пытаючыся, як б о с к а я   г р а з а, у адной руцэ з талеркай закускі, у другой з кубкам кефіру Кулакоўскі кіруецца да кухні.

– Карлаўна! – як у сваім парторгаўскім кабінеціку, дзе ён любіць рабіць вымовы правінным партыйцам, грыміць ён на хаду.

– Я вас слухаю, Аляксей Мікалаевіч! – імгненна ўзнікае ў дзвярах магутная і гэтак, як усё тут, накрухмаленая і храбусткая – ад халата да белага каптура на галаве – напалоханая Карлаўна.

---

*Засмейцеся!*
*Успомніце мяне...*
*Я вас пачую,*
*Я вам адгукнуся*
*З майго*
*Далёку. "*

Хочацца цытаваць і цытаваць – і з даўняга, аднаго з лепшых ва ўсёй нашай зайздроснай па сваёй мастацкай сіле прозе, апавядання "Пані старшыніха прыехала", і з яе эсэістыкі з кніг "Люблю, хвалююся – жыву" і "Элегія". Дазволю ўсё-ткі нагадаць нашаму элітарнаму чытачу (а "Крыніца" сапраўды ж, кажучы яе словамі, "элітарны часопіс") адзін невялічкі ўрывачак:

"...У гэтым самым крэсле, памятаю, аднойчы пасля адпаведнай нагоды заснуў у позе нявіннага дзіцяці малады яшчэ Валодзя Караткевіч. Памятаю, як тады ж, яшчэ таксама па-маладому ўзбягаючы па лесвіцы на другі паверх, як быццам няўзнак, зусім бяскрыўдна, з аднаму яму прысутным гумарам кіўнуў на "заснуўшага Вакха" Янка Брыль:

– Караткевіч, як Вальтэр у крэсле..."

І вось што хочацца нагадаць Алене Сямёнаўне.

Як жа мы некалі ўмелі змагацца з "дурнотамі" нашага жыцця! Як тут не прыгадаць нашы "банкеты" ў часы антыалкагольнай кампаніі – тую адзіную бутэльку шампанскага, якой нам хапала ажно на шэсць чалавек у кампаніі з Верай Сямёнаўнай Палтаран, Алай Сямёнавай, Алесем Разанавым і Міколам Мятліцкім у рэдакцыі крытыкі нашага выдавецтва. Цяпер жа, відаць, ёй, як і мне, самотна і балюча...

Сведчанне таму – гутарка з Галінай Каржанеўскай ("У кожнага сваё свята" – "ЛіМ", 29.XII.1995).





– Я пытаюся, што ў вас тут робіцьця? (Такая ў яго была, у Аляксея Мікалаевіча, шляхецкая слуцкая форма на "-ця").

– А што ў нас тут?.. – бялее Карлаўна.

– Каты!.. Распладзілі катоў!.. – ледзь не шпурляе пад ногі сястры-гаспадыні талерку з закускай і кубак кефіру саюзны парторг. – Замяніце мне ўсё!

Карлаўна, як фокуснік, умудраецца схапіць і талерку і кубак...

– Заменім! Заменім, Аляксей Мікалаевіч!

І ў гэты самы момант з кухні пад ногі ёй на аксамітавых лапах нячутна выступае рыжы кот – з пушыстым, як новы венік, чорным хвастом.

– Мя-я-ў! – выгінаецца кот і абмахвае хвастом-венікам спачатку цупкі халат Карлаўны, а потым, пераступіўшы, гэтак жа абмахвае і штаны Кулакоўскага.

– Вы бачыце! – як ад тыгра адскоквае ад ката Кулакоўскі.

Карлаўна махае на ката талеркай. Кот шмыгае і хаваецца пад нашым авальным сталом.

– Дзяўчаты! Дана! Ніна! .– крычыць на ўсю сталоўку, заве афіцыянтак Карлаўна.

З дзвярэй на кухню выскокваюць Дана і Ніна – маладзенькія прыгожанькія афіцыянткі. Дана – бялявая, Ніна – чарнявая. Аляксей Мікалаевіч умомант астывае і ўжо ўсмешліва-прыхільна пазірае на дзяўчат:

– Што ж гэта вы, дзяўчаткі, гэтулькі катоў тут развялі?

– Ды ў нас адзін усяго толькі кот! – пырскаюць смехам у кулакі афіцыянткі.

– Дык ганіце ж яго хутчэй! – загадвае Карлаўна.

Дзяўчаты не ведаюць, дзе шукаць ката. І ён сам ім памагае.

Спружыніста тэпае па чалавечых нагах пад сталом, выходзіць з-пад стала, плытка выгінаецца і мякка-нячутна кіруецца да стала Кулакоўскага. І як спружынай, ускідвае сябе на яго крэсла...

– Ты бачыў, Алёша?! – аж падскоквае ад захаплення Сева Краўчанка.

Кулакоўскі стаіць знямелы. Мы ўсе ляжым на сваім авальным стале нежывыя ад рогату.

– Н-ну, сабака! – стогне Антон Бялевіч.

Дзяўчаты-афіцыянткі з ручнікамі, і Карлаўна ўсё яшчэ з талеркай і кубкам у руках, ганяюць ката па сталоўцы. Кот носіцца, як ашалелы! Кот шукае ратунку!

Коласавы "Начаткі" ды й толькі!

...Затое, як сем баб адхадзіла! З таго разу Аляксей Мікалаевіч на вячэру ўжо не пазніўся.

***

"І ўсе яны памерлі..." Такія жывыя. Такія не падобныя адзін на аднаго. Усе адышлі назаўсёды...

А я – жыву? Можа, гэта т р э б а, каб я ўспомніла, сёння, што яны б ы л і? Успомніла іх імёны?

1996

---

Яна не збаялася сказаць і такое:

"...Часы і гады – самі па сабе – яшчэ нічога не вызначаюць... Усё залежала – заўсёды! – ад людзей ці нелюдзяў, якія ўзнікаюць у пэўныя часы-гадзіны і прыходзяць (ці захопліваюць яе) да ўлады. І ўжо тады – ад бога ці ад д'ябла – твораць яны сваю волю-ўладу над людзьмі. Дзе і як стукне катораму ў галаву...

Хіба ў нас сёння іначай?"

Але ж колькі тут і, кажучы словамі Міхася Стральцова, "духаўздымнага" – і пра апошнія вершы Яўгеніі Пфляўмбаўм і пра Міколу Купрэева, якога "Крыніца" "двойчы за гэты год... акрапіла сваёй жыватворнай вадой"...

Гляджу на складзены мною на аснове шасцітомнага біябібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі" "рэестр" нашых жанчын-пісьменніц. Іх, пачынаючы з Цёткі, зафіксавана там 83 чалавекі. А колькі ж іх, на шчасце, яшчэ "не зафіксаваных", яшчэ зусім маладзенькіх з'яўляецца на старонках "Першацвету" і "Маладосці", колькі ж сярод іх сапраўдных талентаў!..

Пераважная большасць з іх – паэты і крытыкі. Празаікаў-жанчын у нас чамусьці не так і шмат. І адно з самых першых месцаў не толькі сярод іх, але і ўвогуле ў нашай нябеднай на таленты прозе, займае па праву Алена Васілевіч.

Дазволю пад канец паўтарыць ужо сказанае мною раней: "Нам дораг ваш шчыры і добры талент. Не стамляйцеся быць чалавечнай... Таму Вы так і дорагі нам, што ўсё жыццё застаяцеся сама сабой. Вам выпаў шчаслівы лёс – любіць свой народ, жыць яго жыццём. Хай жа надоўга яшчэ стане Вам сілы служыць аднаму яму".

Генадзь ШУПЕНЬКА

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ



*Калі ў гэтым недасканалым свеце ўсё-ткі сустракаюцца такія рэчы, як ружы, лебедзі, захад сонца на фоне развалінаў старога замка горада Б* і мігдалавы торт, павінны ў ім быць і шчаслівыя людзі.*

# СТАРАСВЕЦКІЯ МІФЫ ГОРАДА Б*





## СІДОН І ТРАЯНЦЫ

*"Падчас Траянскай вайны грэк Сідон перабег да траянцаў і пераканаў іх увесці ў Трою драўлянага каня са схаванымі ў яго чэраве ахейцамі".*

**(Старажытнагрэчаскі міф)**

У горадзе Б* было трое могілак – праваслаўныя, каталіцкія і габрайскія

І калі нехта сумняваўся ў тым, што тутэйшыя жыхары шануюць памяць продкаў, яму варта было прайсціся сярод крыжоў, пафарбаваных бронзавай фарбай, каменных анёлкаў ды каменных дрэў з абсечанымі галінкамі, пачытаць кранальныя надпісы ў вершах. . А як урачыста ўспаміналі шаноўных памерлых у касцёле з жоўтай цэглы, драўлянай беленай царкве і аздобленай бурачковай кафляй сінагозе!.

Жыхары горада Б* любілі сваіх памерлых. Яны пілі за іх вечны супакой і куплялі ім штучныя кветкі. Што яшчэ могуць патрабаваць нябожчыкі ад жывых? Калі гэта не ёсць памяць, дык на якую халеру яна трэба, істэрычная слязлівая паненка?..

Пан Бурдэйка з'явіўся ў горадзе Б* спачатку ў выглядзе афішы. З платоў і сценаў пазіраў мефістофельскага тыпу мужчына ў дзіўным квадратным капелюшы, з аднаго рога якога звісаў шнурок з кутасом. "Толькі адзін сеанс! – хорам чыталі цікаўныя жыхары горада Б* – Вялікі медыум Альфонс Бурдэйка з асістэнткай Амандай Дэльмар! Галасы з таго свету! Завеса таямніцы прыадкрываецца!"

Хто расклеіў тыя афішы, і калі – сапраўды засталося за завесай таямніцы

Тры дні ля касцёла, ля царквы і ля сінагогі жыхары горада Б* абмяркоўвалі нешараговую падзею, што мусіла адбыцца.

– Нізавошта не пайду! – крычала цётка Крыся, шаноўная ўдава ціхмянага ветэрынара Юзькі. – У Бібліі сказана – пакарай Сідонскую вядзьмачку! Не пайду губіць сваю вечную душу! – і чорная з блішчынкамі хустка цёткі Крысі ўзвышалася на сабраных у высокі вузел валасах як вастраў непадкупнай дабрадзейнасці.

– Звычайнае шарлатанства! – паблажліва тлумачыў наведвальнікам кавярні выкладчык мужчынскай гімназіі пан Вабішчэвіч, які любіў памарыць за філіжанкай кавы ў згаданай кавярні пра сваё таемнае каханне да гордай дачкі губернатара, вядомае ўсяму гораду Б* – Наш былы супрацоўнік пан Капуцкі ўчыняў спірытычны сеанс. Пасадзіў усіх за круглы стол, прымусіў трымацца за рукі, запаліў эфірнага спірытусу, і пачуўся голас Напалеона. Высветлілася, за парцьерамі стаяў настаўнік фізкультуры . Дурнота, панства! рамантычныя тонкія вусікі Вабішчэвіча скептычна варушыліся

– Тры рублі білет! Траціць такія грошы на ўсякае страхоцце! – паціскала плячыма мадэмуазель Гарабец, чарнявая незамужняя таўстуха, якая нядаўна перабралася ў горад Б* аднекуль з-пад Чарнаўцоў і адчыніла маленькую швейную майстэрню пад шыкоўнай шыльдай "Пашыў элегантных сукенак і ўрачыстых касцюмаў", – такія сеансы вельмі небяспечныя! На іх адбываюцца рэчы, невыносныя для слабых нерваў Мой дарагі бацька, палкоўнік кавалерыі, не ўхваліў бы падобныя экзерсісы!

Меркаванню шаноўнага памерлага палкоўніка кавалерыі пана Гарабца, чые жыццё і смерць адбыліся, на жаль, па-за межамі горада Б*, нельга было запярэчыць.

І як вы думаеце, колькі прыйшло жыхароў горада Б* на падазроны сеанс пана Бурдэйкі?

Правільна, прыйшлі ўсе.

Невялікая зала таварыства аматараў цвярозасці аказалася набітая людзьмі, якія з усіх сілаў дэманстравалі адзін аднаму выразамі твараў, тонка разлічанымі жэстамі і шматзначным хмыканнем, што яны тут выпадкова і з вяршыні свайго навукова прававернага кругагляду паблажліва пазіраюць на імпрэзу.

Пан Бурдэйка аказаўся лысым і невысокім Вакол яго адчувалася магутная аўра таннага адэкалону і слівянкі, якая яшчэ пару гадзін таму знаходзілася ў графіне рэстарацыі гатэля "Эсперасьён" Чатырохраговага капелюша з кутасом не было.

Выйшла на сцэну і немаладая мадам Дэльмар з пукам чорных страусавых пер'яў на галаве. Яна ўселася на крэсла пасярод сцэны, і магнетызёр загаварыў.

– Шаноўнае панства! Прыемна бачыць,

што ў горадзе Б* столькі прагрэсіўных людзей з навуковым мысленнем...

Пасля кампліментаў гастралёр распавёў навуковае абгрунтаванне існавання бессмяротнай існасці чалавека, будову іншасвету, карысць зносінаў з ім і горача прапанаваў прысутным аднавіць у памяці тых жыхароў іншасвету, з кім хацелі б паразмаўляць. Выключна навуковая тэрміналогія знізіла напружанне ў зале. "Біятокі", "экстрапаляцыя", "гіпермедыум" ды "кантактаванне" сваёй супакаяльнай незразумеласцю надавалі імпрэзе добрапрыстойны сэнс.

І ў гэтую падступную хвілю кожны жыхар горада Б*, збяднелы на тры рублі, падумаў "Чаму не?" або "Можа быць..."

– Вось вы, мадам, – звярнуўся медыум да паважнай цёткі Крысі, чыя высокая прычоска пад чорнай хусткай з блішчынкамі ўзвышалася ў першым радзе. – У вас, напэўна, ёсць у іншасвеце блізкі чалавек, якога пяшчотна любілі і з якім марыце злучыцца ў вечнасці... Вы хацелі б задаць яму некалькі пытанняў, пачуць ягоны голас?

Цётка Крыся ўздрыгнула. Вышыня ўдовінай велічы не магла пахіснуцца на вачах горада Б*. І цётка няўпэўнена хітнула галавой на знак згоды.

– Памятайце толькі, – злавесна папярэдзіў Бурдэйка, – што душы, якія прайшлі скрозь браму смерці, могуць непазнавальна змяняцца, але выяўляць сваю сапраўдную сутнасць...

Медыум стаў за спіной мажной Аманды і пачаў рабіць імклівыя рухі над ейнай галавой з чорнымі пёрамі, быццам плыў супраць небяспечнай плыні. Пер'і на галаве мадам Дэльмар калыхаліся, азызлы набелены твар застыў, падобна антычнай масцы, вочы заплюшчыліся. Замагільным голасам мадам апавядала, што яе душа аддзяляецца ад цела і саступае яго ўсім жадаючым вольным духам, якія будуць прамаўляць з яго нетраў.

Пан Бурдэйка абвясціў, што бачыць, як цела асістэнткі насяляе дух, выкліканы палкім жаданнем глядачкі з першага рада.

– Я тут, каханая жоначка! – хрыплы голас, зусім не падобны на няўпэўнены тэнарок нябожчыка-ветэрынара, чуўся не з крывава-чырвоных вуснаў мадам Дэльмар, а, здавалася, аднекуль з ейнага жывата. – Ты чуеш мяне?

Цётка Крыся жаласна ўсміхнулася, паспрабавала зірнуць па баках у пошуку падтрымкі, але сустрэлася з прагнымі цікаўнымі позіркамі і сумелася. А голас усё заклікаў:

– Жоначка мая! Ці чуеш мяне?

Цётка Крыся няўпэўнена вымавіла:

– Та-ак.

– Я сумую па табе, жоначка, – працягваў вяшчаць непазнавальны голас Юзькі. А разгубленая цётка Крыся ўжо без унутранага супраціву прымала шматлікія прыгожыя словы, што прамаўляў нябожчык, які пры жыцці нічога падобнага не гаварыў дый не ўмеў такога гаварыць Часам дух памыляўся, напрыклад, калі расказваў, як часта дарыў каханай жоначцы кветкі – праставаты Юзька быў да такога няздольны. Але цяпер ва ўяўленні ўдавы былы муж паўстаў іншым, і ўсе гэтыя словы пра кветкі, і палкія пацалункі – вядома, усё было! Так, як марыла ў дзеўках! Усё было, проста яна забылася. І ветэрынар быў не прыгорбленым лысаватым недарэкам, а стройным мажным мужчынам з тым менавіта позіркам, ад якога ў сапраўднай жанчыны салодка шчыміць у грудзях... І ад раптоўнага ўсведамлення, што гэты прыгажун, на якога яна мела выключнае права, цяпер бясплотны дух, які сядзіць у жываце медыумавай асістэнткі, цётка Крыся нечакана гучна ўсхліпнула...

Пан медыум зараз жа перастаў махаць рукамі над галавой Аманды і аб'явіў, што ў цела рэцыпіента можа ўсяляцца наступны дух... Вось, напрыклад, той, пра якога так настойліва думае гэты малады пан з вусамі. Пан Вабішчэвіч не паспеў запярэчыць, як з жывата мадам Аманды пачуўся голас, па ўсёй верагоднасці, той, пра каго думаў пан Вабішчэвіч. А думаў ён пра сваё таемнае каханне Чаму прыгажуня Мэры, якая ў гэты час сядзела за піяніна ці кніжкай у адным з пакояў губернатарскага дома, прамаўляла да яго з таго свету, – Вабішчэвіч і не думаў, ашаломлены хваляй пяшчоты і палкага пачуцця. Аказалася, недаступная Мэры пакутуе без настаўніка Вабішчэвіча, думае пра яго ўвесьчасна і марыць злучыцца калі-небудзь свой вечны дух з ягоным...

Цяпер духі пачалі змяняць адзін аднаго ў Амандзіным целе вельмі хутка. Ліхвяру Губерману, які пахаваў чатырох жонак, адна з іх (невядома, каторая) паабяцала адплаціць на тым свеце пяшчотай і клопатамі, якія мела ад яго на зямлі. Губерман збялеў і доўга выціраў вялікай клятчатай насоўкай узмакрэлы лоб. Па настойлівых просьбах прысутных мадэмуазель Гарабец мусіла перамовіцца слоўцам са сваім шаноўным бацькам-палкоўнікам кавалерыі, пра якога кожны дзень чулі з вуснаў мадэмуазель. Як апошняя ні аднеквалася турбаваць гэтак важны дух, ён з'явіўся і самым кранальным чынам пачаў пераконваць дачку ў сваёй пяшчотнай любові, заклікаў адкінуць гонар і забабоны і не адвяргаць любячых яе блізкіх асобаў і не ўпускаць свайго шчасця. Аднак мадэмуазель Гарабец чамусьці не расчулілася і, ярасна абмахваючы маленькім веерам пачырванелы твар, сярдзіта глядзела на магнетызёра.

А духі зляталіся, як мухі на мёд. Яны былі красамоўнымі, дабрадзейнымі, велічнымі і перапоўненымі любоўю да жывых. Прысутных ахапіў хваравіты ажыятаж. Кожнаму хацелася прадэманстраваць, што яго памерлыя не горшыя за іншых. Пасля ўзбуджэнне змянілася бояззю. Спакушаныя жыхары горада Б* не ўсвядомілі, але адчулі, што неасцярожна наклікалі ў свой горад сотні мерцвякоў, якія дагэтуль спакойна займалі адведзеныя ім нішы і задавальваліся паніхідамі і вянкамі. Цяпер яны блукалі між жывых і патрабавалі ўвагі да сябе. Мінулае рэстаўравалася, як царква, у якой фрэскі чатырнаццатага стагоддзя, суровыя, строгія, патрэсканыя, замазалі прыемнай воку белай крэйдавай фарбай, на якой добра глядзяцца выявы ружовашчокіх херувімаў з пазалочанымі кудзеркамі.

Але перш чым боязь прысутных вылілася вонкава, вопытны гастралёр перапыніў сеанс, вярнуў душу асістэнткі на законнае месца, яшчэ раз ухваліў прагрэсіўных жыхароў горада Б*, раскланяўся і знік назаўсёды разам з мадам Дэльмар і саквояжам з грашыма...

Назаўтра горад Б* трэсла ад чутак. Перад царквой, перад касцёлам і перад сінагогай расказвалі, што цётка Крыся зрэзала ўсе ружы ў сваім гародчыку і занесла іх на магілу ветэрынара, што настаўнік Вабішчэвіч уварваўся ў губернатарскі дом з непрыстойнымі крыкамі; што ліхвяр Губерман зварочвае справу...

Адна мадэмуазель Гарабец не каменціравала спірытычныя падзеі.

Горадам Б* уладарылі мерцвякі. Людзі мінalі касцёл, сінагогу, царкву і карчму і накіроўваліся на могілкі. Там глядзелі на крыжы, каменныя слупы, папяровыя вянкі, але сувязь між звыклымі прыстойнымі атрыбутамі і тым невядомым, што было закапана пад імі, парвалася. Магілы нагадвалі пустыя коканы, а невядомыя істоты, што вырваліся з іх волю праклятага гастралёра, лёталі над лопухамі і чарнабылам, над бялявымі галоўкамі дзетак і лысінамі паважных дзядзькоў, дасканалыя, вечныя, любячыя... Адчуванне было – як падчас спякоты на лясной сцяжынцы, калі да потнага цела ліпнуць аваднi і павуціннe, зумкаюць над вухам камары, а ў вочы лезе нахабная машката...

І горад Б* пачаў вызваляцца ад свайго кашмару. У зале гарадскога тэатра сіламі выкладчыкаў мужчынскай гімназіі і рэальнай вучэльні арганізавалі лекцыю пра шарлатанскую сутнасць спірытызму. Пан Бурдэйка ды ягоная таўсматая пасія – проста шараговыя чэрававяшчальнікі, і ніякіх духаў яны не выклікалі, а гаварылі падрыхтаванымі фразамі, чаму сведчанне – шматлікія недарэчнасці. У храмах усіх канфесій асуджалі тых, хто спрабуе зносіцца з духамі, бо па сваёй грахоўнай зямной існасці дастане толькі візіту дэманаў. І ўрэшце нябесныя сілы спаслалі апошні аргумент – нумар губернскай газеты, у якім паведамлялася, што сярод ахвяр чыгуначнай катастрофы на станцыі N быў вядомы спірытуаліст Б-ка са сваёй жонкай і асістэнткай, з якой накіроўваўся на чарговыя гастролі ў Маларасію.

Вось вам і "вечная таямніца" ..

Жыццё круціла свае нетаропкія жорны, і ўсё сталася друзам, тлом, ценем ..

Нябожчыкі вярнуліся ў труны пад папяровымі вянкамі і вершаванымі надпісамі, у карчомцы застукаў келіх аб келіх. "Вечная памяць!"

Памерлыя страцілі голас, веліч і любасць, зноў зрабіліся звычайнымі, хворымі, лысымі, кульгавымі, звяглівымі, ілжывымі, слабымі... Нічым не лепшымі за жывых.

Ліхвяр Губерман ажаніўся пяты раз. Мадэмуазель Гарабец нечакана атрымала спадчыну і пераабсталявала майстэрню, дзе цяпер некалькі мясцовых дзяўчатак страчылі пад яе наглядам на машынах "Зінгер", а сама мадэмуазель, трымаючы ў пульхнай руцэ з пярсцёнкамі кубак з

горбатай, другой раскладала бясконцыя пасьянсы "Піраміда" і "Магіла Напалеона". Пан Вабішчэвіч таксама жаніўся, з дачкой выкладчыка лацінскай мовы, якую за вочы называлі "Верка-Прышчэпка" А цётка Крыся ўдастойвала свайго ветэрынара папяровым вянком на Радуніцу ды паніхідамі ў вызначаныя памінальныя дні.

За вечны супакой у той год было выпіта ўтрая больш звычайнага. Вечная вайна мёртвага і жывога скончылася часовай эфемернай перамогай апошняга. Жыццё паказала бяззубай смерці ружовы язык і садрала з мінулага фальшывыя фальбоны ..

Але...

Але ніхто не наважыўся б сцвердзіць, што горад Б* не шкадаваў аб тых нябожчыках, спароджаных у неабдымным чэраве шарлатанкі Аманды, што чорныя страусавыя пер'і не ўскалыхваюцца час ад часу над ураўнаважаным местачковым жыццём .. І што такое тры рублі ў параўнанні з вечнай прагай душы – жаданнем цуду і несмяротнасці...

***P.S.*** Хадзіла яшчэ чутка, быццам былі прысланыя на пошту горада Б* у якасці часткі спадчыны чарнявай мадэмуазель Гарабец шматлікія каробкі і скрыні і быццам быў там сакваяж, надта падобны да таго, які бачылі ў руцэ спірытуаліста Бурдэйкі. А калі адчыніла мадэмуазель вялікую круглую каробку, нібыта калыхнуліся там чорныя страусавыя пер'і . Але мадэмуазель Гарабец з плачам схілілася над імі, так што пэўнасці ніхто даць не мог...

# СЕМЕЛА
# І ЮПІТЭР

*"Аднойчы Юпітэр пакахаў зямную прыгажуню Семелу. Па намове раўнівай жонкі Юпітэра Юноны Семела папрасіла, каб каханы паказаўся ва ўсім бляску боскай славы. Невыноснае для зямных вачэй відовішча забіла Семелу".*

**Старажытнагрэчаскі міф**

Калі ў гэтым недасканалым свеце ўсё-ткі сустракаюцца такія рэчы, як ружы, лебедзі, захад сонца на фоне развалінаў старога замка горада Б* і мігдалавы торт, павінны ў ім быць і шчаслівыя людзі.

Хаця ружы, лебедзі і мігдалавы торт, не кажучы пра захад сонца, сустракаюцца куды часцей.

У горадзе Б* не было больш шчаслівага чалавека за паненку Аўгінню Яна жыла ў прыгожым доміку з зялёнымі аканіцамі, яе бацька быў мудры сівагаловы брандмайстар, а малады муж – лепшы падначалены бацькі, бравы пажарнік Міхась Кудыка. Паненка – цяпер ужо пані – Аўгіння вязала самыя прыгожыя ў свеце карункі, людзі шанавалі яе рамантычную натуру і любілі за рахманы нораў. А які гародчык быў у Аўгінні! Не банальныя памідоры-бабы раслі там, а пераселеныя з лесу і выгану кветкі, якія жыхары горада Б* лічылі за звычайнае пустазелле. Ля плота ўзвышаўся царскі скіпетр, свяціліся дробныя кветачкі бабінага лета і чарнакораню, узбіраўся на сцены дома бружмель, калыхаў свой цёмны агонь скрыпень, трымцела пушыстае божае дрэўца і нават сядзела ля ганку нетутэйшая расліна самшыт – жалезнае дрэва.

Аўгіння называла мужа Мішэлем і была шчаслівай, нягледзячы на тое, што з дзяцінства мела вельмі кепскі зрок. Між навакольным светам і поглядам паненкі калыхаўся вясёлкавы туман Гэта надавала яе хадзе рамантычную запаволенасць і няўпэўненасць. Але людзі былі такія добрыя, што зусім не злаваліся, калі Аўгіння, плывучы ў сваім тумане, натыкалася на іх ці блытала іх імёны. Ды і як можна было злавацца на гэтую пяшчотную асобу з пышнай прычоскай, упрыгожанай кветкамі, з вечнай усмешкай. Мішэль прыходзіў дадому, стомлены і мужны, цалаваў жонку ў шчаку і спажываў вячэру, прыгатаваную ўмелымі рукамі кухаркі Парaскі. А юная пані Кудыка тым часам улагоджвала яго слых пераказам зместу чарговага рамана, прачытанага з дапамогай моцнай лінзы, і хуталася ў самавязаны белы шаль з кутасамі.

– Ох! Ах! Прабачце, калі ласка! – гэта пані Аўгіння выносіла мігдалавы торт з кандытарскай. Чалавек, з якім на гэты раз сутыкнулася чароўная паненка, пах дарагім адэкалонам, а на твары яго паблісквала пенснэ. Аўгіння сарамліва ўсміхнулася Незнаёмец уважліва паглядзеў на няўклюдную тубылку і далікатна ўзяў з яе рук каробку з тортам.

– Дазвольце, я крыху дапамагу вам. Не палічыце нахабствам – я тут чалавек выпадковы, выкраіў дзень заехаць пракансультаваць жончыну сваячку. Дазвольце пазнаёміцца – Самсон Рыгоравіч Іваноўскі, маскоўскі ўрач-афтальмолаг . Ну, калі прасцей – спецыяліст па захворванні вачэй. У мяне да вас некалькі прафесійных пытанняў..

Увесь вечар Аўгіння ўсхвалявана хадзіла па доме, наторкваючыся на шматлікія вазы з сухімі кветкамі, расстаўленыя ў кутах. Белы вязаны шаль спаўзаў з плячэй.. Невялікая аперацыя, да таго ж бясплатна, як цікавы навуковы "прэцэдэнт", і Аўгіння раз і назаўсёды пазбавіцца ад сваёй блізарукасці. Аўгіння не наважылася распавесці пра атрыманую ад доктара прапанову ні паважнаму брандмайстру, ні заклапочанаму мужу . А як было б цудоўна паўстаць перад імі выратаванай Папялушкай! Растане плыткі туман, што не дае ёй любавацца прыгажосцю свету, і тады. .

.Аднойчы раніцай белая столь, у незнаёмай сетцы трэшчын і пісягоў, абрынулася на Аўгінню.. Паненка махнула рукой перад вачыма... Гэта – яе рука?! Аўгіння ўскочыла галава круцілася, як ад першага веснавога ветру Бы скрозь туман, успомніўся пакой палатовай бальніцы, недарэчная прысутнасць мясцовых дактароў, непрыстойна цікаўных і ўсхваляваных, боль, страх, расчараванне – і абяцанне перамен праз дванаццаць гадзінаў, калі скончыцца дзеянне абязбольваючых сродкаў.

Прадметы наступалі на Аўгінню, бязлітасныя ў сваёй канкрэтнасці Яны рэзалі прастору вострымі абрысамі, адмяжоўваліся адзін ад аднаго цвёрдымі плоскасцямі і дыктавалі адлегласці. Гэта быў свет яркі, дакладны і жорсткі .. "І прыгожы Вядома, прыгожы!" Аўгіння кінулася да люстэрка.

Хто гэта? З вычварнай бронзавай рамы дзівакавата пазірала на яе блага прычасаная велікаротая асоба, бляклая, як начны матыль. . Дотык бязлітаснага шкла пераканаў Аўгінню, што гэта. Не, гэтыя пачырванелыя вочы, запалыя шчокі не яе!..

Слёзы на хвілю вярнулі звыклы вясёлкавы туман, у якім жыла паэтычная танклявая прыгажуня .

А вечарам прыйдзе Мішэль! Як мог ён кахаць яе, такую пачвару! Далоў – шаль, звязаны сляпой курыцай, далоў – шпількі і балотную сукенку! Колькі вакол безгустоўных рэчаў, якія па-дурному расстаўленыя!

Да танклявай жанчыны ў прыгожай бэзавай блузцы з вялікім карункавым каўнярoм, з акуратна падведзенымі вуснамі і вейкамі, з упрыгожанай кветкамі антычнай прычоскай падыходзіў каржакаваты няголены тып з чырвоным тупым тварам (а рот разяўлены), з вачыма юрлівымі і чамусь спалоханымі. Са скурай порыстай, вугреватай, тлустай... За ім сунуўся гэткі ж чырванатвары стары ў касцюме брандмайстра (два гузікі віселі на нітках), самазадаволены, з неахайнымі пукамі сівых валасоў у ноздрах і вушах.. Бывай, мужны Мішэль! Бывай, вобраз ідэальнага бацькі!

Жорсткі жарт сыграў ты з беднай правінцыялкай, маскоўскі медычны бог!

Аўгіння схавалася ў сваім пакоі, дзе так недарэчна глядзеўся вялікі двухспальны ложак.. Але і тут прадметы даставалі яе сваёй пачварнай канкрэтнасцю. На фотаздымку, які паставіў Мішэль на тумбачку, аказалася зусім не Аўгіння, а незнаёмая нахабная брунетка. У вазоне – поўна расцёртых недапалкаў і, не можа быць! – наплявана. . А на куфэрачку, што падарыла лепшая сяброўка, які Аўгіння расчыняла кожны дзень, проста на накрыўцы надрапана дробнымі літарамі "дурніца"

Людзі смяяліся са "слепурындалы", крамнікі недадавалі рэшту, бацька ледзь спіхнуў недарэку свайму падначаленаму, а той, куплены за пасаг і пасаду, суцяшаўся ў зіркатых красунь горада Б*...

Аўгіння схавалася ў самы цёмны і засмечаны кут некалі чароўнага саду. Што цяпер? У кляштар? Проста пайсці – з дому, з горада, з жыцця? Аўгінні хацелася выдзерці свае вочы, вярнуцца ў плыткае шчасце невядання Але зведаўшы аднойчы – ведаеш назаўсёды, на памяці драпіны не зацягваюцца, калі гэта – драпіны ад аскалёпкаў шчасця .

Над горадам Б* заходзіла сонца. Прырода не здрадзіла Аўгінні, бо не здраджвае ніколі. Дрыжэла прыўкраснае божае дрэўца, і на светла-зялёных лістах жывакосту адлюстроўваліся промні.. А калі ў гэтым свеце ўсё-ткі існуюць півоні, захад сонца, лебедзі, мігдалавыя тарты і

жанчыны, якія ўсім прабачаюць, то не так усё безнадзейна, жорстка і несправядліва...

Празрысты, як вэлюм нявесты, смех растаў у лістах бэзавых кустоў... Што ж, дзяцей, якія будуць, яна ўбачыць не праз вясёлкавы туман...

Ніхто не ведае, якой моцай валодаюць рахманыя людзі. Аўгіння ўзнялася. Яна навучыцца жыць і ў гэтым свеце. І паранейшаму будзе адорваць усіх усмешкамі, і не стане заўважаць, як паблажліва крывяцца сустрэчныя. І не пераверне фотаздымак з нахабнай брунеткай...

Захад дагараў цёмным бэзавым агнём. Худзенькая жанчына з высока зачасанымі валасамі ціха падышла да свайго дома.

На ганку з нечым белым у руках перамінаўся з нагі на нагу бравы пажарны Міхась Кудыка, які сумеўся пад незнаёмым, ясным і пільным позіркам жонкі

– Ты не змерзла, гм-м, даражэнькая?

І працягнуў няўмела звязаны, са шматлікімі спушчанымі петлямі шаль.

Аўгіння памаўчала і лёгка кранула цёплымі кончыкамі пальцаў шчаку мужа.

– Мусіш пагаліцца, мілы..

# УЗНЯСЕННЕ ГАНІМЕДА

*"Юпітэр скраў прыўкраснага юнака Ганімеда, сына траянскага цара, і зрабіў сваім віначэрпам на Алімпе".*

**Старажытнагрэчаскі міф.**

Ну каму якая справа да таго, што робіцца на заднім двары карчмы?

Зразумела, што месца гэтае не самае прыдатнае для рамантычных спатканняў, філасофскіх разважанняў ды сяброўскай гутаркі.

Тым больш, калі наведвальнікі згаданай установы п'юць шмат піва ..

Аднак задні двор знакамітай Бурыгавай карчомкі ў горадзе Б* не падпадаў пад такое вызначэнне.

Хаця б таму, што такога двара як бы і не існавала.

Цікаўнага сустракаў высокі шчыльны плот, спраўляць малую патрэбу ля якога перашкаджаў акуратны глыбокі раўчук. За плотам бачыліся пышныя кусты бэзу – у адрозненне ад сухіх галінак пад вокнамі самой карчмы. Рэч у тым, што жыццё гэтай піцейнай установы падзялялася на дзве палавіны З аднаго боку, так бы мовіць, з фасада, была непасрэдна карчма, зала, поўная наведвальнікаў, гучала зухаватая музыка, сам пан Бурыга, паважны, вусаты, гучнагалосы; келіхі штофы, разныя дубовыя сталы і лаўкі, вечны гуд ды гром.

А з другога боку .. З другога боку ішло годнае сямейнае жыццё Антося Бурыгі, бо няма ў карчмара іншага дому, як карчма, і ў дзяцей яго не будзе... І ці дапамогуць тут платы, раўчукі і сабакі?.

Але пастараўся пан Бурыга, каб мяжа між двух яго жыццяў была як мага большай ды непранікальнай. І ніхто не бачыў цётачкі Марысі, заўсягдайкі царквы і кірмашу, на той палове ейнага дома, дзе пілося, лілося і спявалася. Не спяшалася яна ў якасці карчмаркі-весялухі да нецярплівых наведвальнікаў з пеннымі келіхамі, не сварылася на безграшовых аматараў гарэліцы, не падміргвала зухаватым музыкам, каб паддалі жарсці, каб заглушылі нечы тужлівы лямант аб незваротнай салодкай маладосці ды горкім старым жыцці...

Хоць елі ды нахвальвалі наведвальнікі стравы, прыгатаваныя цётачкай Марысяй, але не была яна карчмаркай. Зумкала пчолкай на заднім двары, абгароджаным высокім плотам, гадавала свае кветнікі ды любага сыночка-званочка, кучаравенькага анёльчыка Данілку А якім разумненькім ён рос! Ну хіба месца такому ў карчме!

І збіраў грошы Антось Бурыга, адкладваў старанна, каб не меў сынок патрэбы ў грэшным карчомным рамястве, каб выйшаў у людзі! Ды не тут, у горадзе Б*, а недзе там, дзе не карчомкі, а вялікія рэстарацыі, з шырокімі люстранымі вокнамі, дзе жыве далёкі сваяк, стрыечны брат цётачкі Марысі, пан Квяткоўскі, які ходзіць у сурдуце і цыліндры, курыць тонкія, як саломіна, цыгарэткі, а на пытанні пра занятак з годнасцю адказвае "Я, брат, чыноўнік высокага класа, служу на карысць грамадству".

А пакуль малодшы Бурыга рваў кашулькі-вышыванкі ў хмызняках, што на ўскраіне горада Б*, і ўзначальваў атрады непаўналетніх тутэйшых жыхароў у вечных хлапечых войнах ды іншых забавах, прыдумляць якія быў вялікі майстар.

Чатыры гады настаўнікі пачатковай вучэльні горада Б* перад тым, як увайсці ў клас, узносілі госпаду малітву, каб сёння той неўтаймаваны распешчаны карчмаронак ляжаў дома з ангінай. Але чырванашчокі Данілка вызначаўся добрым здароўем. І дацягнуў да сканчэння вучэльні.

Тады пан Антось Бурыга надзеў пінжачную пару, абсалютна новую, і капялюш, і лакіраваныя чаравікі, і паклаў ва ўнутраную кішэню пінжака тоўсты-тоўсты партманет. І пайшоў да дырэктара мужчынскай гімназіі горада Б* пана Вярэдзіча. Праз тыдзень пачыналіся ўступныя іспыты ў гімназію... Бедны пан Бурыга! Бедны дырэктар – столькі праклёнаў з вуснаў патомнага карчмара вытрывае не кожны.

І па граматыцы, і па арыфметыцы, і па законе божым юны Данііл Бурыга атрымаў адзнакі цвёрдыя, але нездавальняючыя.

Заставалася два шляхі Казённая рэальная вучэльня і духоўная семінарыя На жаль, навукі прыродазнаўча-матэматычныя, якім аддавалася перавага ў вучэльні, былі найменш даступныя інтэлекту Данілкі, а быць святаром.. Антось Бурыга задуменна глядзеў на жыццярадасную фізіяномію сына і мімаволі скептычна хітаў галавой.

Заставалася спадзявацца на вышэйшую справядлівасць. І яна з'явілася – у асобе згаданага напачатку дзядзькі Квяткоўскага, пры цыліндры, сурдуце і тонкай цыгарэтцы. Пан Квяткоўскі паважна пацягваў густое піва швагра, адставіўшы мезенец з вялізным залатым пярсцёнкам, і паглядваў на сціпла расчасанага на прамы прабор Данілку. Той у новай вышыванцы ціхенька сядзеў у куце і чакаў вырашэння свайго лёсу, час ад часу крадма душачы неасцярожных мух.

– Добра, паедзе са мной! Уладкуем! – муха вырвалася з кулака ўзрадаванага хлапчыны.

– Чалавекам будзе! – шчаслівa плакала цётачка Марыся на базары і перад царквой у гаманлівым коле кабетаў. А наведвальнікі Бурыгавай карчомкі шэптам паведамлялі адзін аднаму, што Данілка вучыцца ў самой Маскве, пад апекай дзядзькі, такога важнага пана, і сам будзе панам, і будзе ганарыцца ім горад Б* і асабліва гэтая карчомка... Дык вып'ем жа, спадарства, за здароўе нашых дзяцей, каб гэтак жа пашчасціла ім, як нашчадку карчмара!

І прыязджаў на летнія вакацыі ў родны горад паніч Данііл, і з кожным годам круглеў ён і мажнеў, і блішчэў ягоны твар, а прабор у кучаравых валасах быў усё больш роўны і набрыялінены Дзе там тыя вышыванкі! Сурдут, шаўковая кашуля з гальштукам, першыя вусікі, першыя цыгарэты! Хоць і каштавала тое вучэнне, вынікі былі наяве. Данілка з веданнем справы даваў бацьку парады па найлепшаму ўладкаванню карчомнай справы, сам пераглядаў разліковыя паперы. Мова сталічнага навучэнца цяпер была перасыпаная элегантнымі "чиво", "как-то так-то" і "опридилённо". Да мясцовых дзяўчатак ён звяртаўся не інакш, як "мамзэлі", а да былых сяброў па дзіцячых забаўках і ўвогуле незразумела-вытанчана: "Мон амі"

– Опридилённо, мон амі, – казаў Данілка ўважлівым слухачам, – ёсць у мяне там добрыя перспектывы Дзядзька ўладкаваў каля сябе, как-то так-то і яго месца займу..

Што то за месца, чым займаецца Данілка ў горадзе, ніхто дакладна не ведаў, нават бацькі. Сам юнак адказваў няпэўна. "Мы па гандлёва-эканамічнай частцы". Але ў горадзе Б* людзі лёгка верылі ў добрае і надзялялі кожнага, хто выбіўся ў "вялікі свет", нечуванымі вартасцямі. .

Але ж горад Б* не быў ізаляваны ад гэтага "вялікага свету". Вось і дырэктар мужчынскай гімназіі пан Вярэдзіч, што некалі не спакусіўся зместам тоўстага партманета карчмара, наведаў Маскву... "А можа, Данілку там сустрэне?" – марыў Бурыга і ўяўляў, як у нейкай важнай канторы сустрэне ганарлівы дырэктар шыкоўнага Данілку, і сумеецца, і як з роўным прывітаецца. .

Між тым прыехаў "на пабыўку" і сам Данілка, які ў свае васемнаццаць выглядаў на добрых дваццаць пяць.

– Вы, папа́, зусім прага́рыце, – ракатаў малады басок сына. – Што гэта за музыкі, вобче говоря, нейкія полечкі.. Вы б заказалі сабе музычную машыну. Ручку пакруціў – і грае вальсу ці раманс. Вы, папа́, ведаеце, што такое вальса?

Замілаваны Бурыга паслухмяна хітаў

галавой, аднак і не думаў нешта мяняць у адладжанай гаспадарцы. Ён справядліва лічыў, што карчма горада Б* можа быць толькі такой, якой упадабалі яе многія пакаленні жыхароў, з усімі яе драўлянымі лаўкамі і штофамі, з яе традыцыямі і паданнямі пра карчомнага скрыпача Гірша, які перайграў заезджую сусветную знакамітасць, пра п'янтоса Чарацілу, які цалаваўся з русалкай і ад таго зрабіўся задумлівы, пра красуню Ксеню, па ад'ездзе якой піва ейнага жаніха, мясцовага піўвара, тры гады гарчыла...

А як урачыста ішло сямейства Бурыгаў да царквы ў нядзельны дзень! Як важна шпацыравала маленькая кругленькая цётачка Марыся папераздзе сваіх мажных высокіх мужчын! І зусім недарэчы было сутыкнуцца ля царквы з дырэктарам гімназіі, і зусім незразумелым быў ягоны іранічны паклон у бок абсурдучанага Данілкі, і не да месца паблажлівыя словы.

А, малады чалавек, не забываеце, так бы мовіць, родныя пенаты? Маскоўская служба клопатная, так-так Ну ды кожнаму сваё .

Але яшчэ больш незразумелымі былі паводзіны Данілкі, які пры сустрэчы з панам Вярэдзічам памкнуўся ўцячы і, мабыць, упершыню ў жыцці сумеўся, зачырванеўся і страціў мову

А на другі дзень зазбіраўся "на службу"

Ну не дурань жы быў Антось Бурыга! Змог жа ён утрымаць бацькоўскую карчму і ўладкаваць яе, і прыбытак добры мець. І не маглі ў яго не ўзнікнуць некаторыя сумлівы наконт таямнічай вучобы-службы сыночка...

І аднойчы зачыніў Бурыга сваю карчму, на гора мясцовым заўсёднікам, і паехаў у далёкі горад Маскву, прытрымліваючы левым локцем тоўсты партманет у глыбокай унутранай кішэні пінжака. Што здарылася з шаноўным карчмаром у тым горадзе, дакладна невядома. З асобных выказванняў звычайна гаваркой цётачкі Марысі можна скласці толькі прыблізную карціну...

Тлум і гуд Масквы, пэўна, не здзівілі патомнага карчмара А вось тое, што па адрасе, куды ён столькі гадоў адсылаў грошы, знаходзіўся рэстаран, здзівіла, і непрыемна. Дамы з аголенымі плячыма, паны ў зграбных сурдутах знікалі за дзвярыма, якія паслужліва адчыняў барадаты дзядзька ў шыкоўным мундзіры. Адчыніў ён дзверы і перад карчмаром з горада Б*.

– Прасю за столік, – малады чалавек у белай кашулі і шэрай шаўковай камізэльцы, з перакінутым цераз руку ручніком вынырнуў аднекуль збоку.

Так, так. Данілка служыў афіцыянтам у рэстарацыі, дзе метрдатэлем быў ягоны стрыечны дзядзька пан Квяткоўскі І што з таго, што згаданы Квяткоўскі быў там жа ва ўсёй красе, пры чорным сурдуце, белай манішцы і лакіраваных чаравіках? Бурыга быў не дурны. Ён выдатна разумеў, што гэта – такі самы карчмар, як ён, ды яшчэ ў чужой карчме

Да таго ж, Бурыгу клікалі наведвальнікі з пашанаю пан, а Квяткоўскага ў яго сурдуце падзывалі паблажліва "Чалавек!"

Дзеля праўдзівасці заўважым, што дзядзька спрабаваў уладзіць Данілку некуды вучыцца, і прабыў Данілка колькі часу ў сталічнай вучэльні.. Але навука тамтэйшая аказалася зусім непрабівальнай для правінцыйных мазгоў.

Затое ў навуцы карчомнай Данілка быў выдатнікам.

І хутка выпадковаму наведвальніку Бурыгавай карчомкі пачало дваіцца ўваччу два карчмары, з аднолькавымі пшанічнымі вусамі на чырвоных тварах, у аднолькавых вышыванках сустракалі яго. Зблізку ўсведамлялася, што адзін з карчмароў маладзейшы і больш жвавы, і ў мове яго трапляюцца дзіўнаватыя слоўцы.

– Чіво-чіво, мон амі? Гарэлкі? А вось рэкамендую вінь-шампань, не жадаеце?

– Не сцялі языком, студэнт! – грукатаў бас старэйшага карчмара, і малодшы пакорліва змаўкаў і падаваў аматару гарэлкі жаданую чарку, абавязкова перакінуўшы цераз руку бялюткі ручнік

– Прасю!

І што тыя платы і роўчыкі, якімі спрабаваў бедны Бурыга падзяліць сваё жыццё

Эх, карчомка – са шкляным богам пабачыцца, каваную свінку купіць, як Марцін мыла, набрацца, усё забыць, і, што не было, успомніць, і – грайце, музыкі, спявайце, музыкі, пра таго казачэньку, што паехаў за палі-лясы і не вернецца ніколі да дзяўчыначкі-галубы

Стаіць карчма ў горадзе Б*, стаіць – і будзе павек стаяць, такой, якой збудавалі яе прапрадзеды



Масей СЯДНЁЎ

У НАС



*Зьніклі анёлы.*
*І хацеў ён ісьці за імі...*

# Мікола Бугроў

*(трагічная паэма)*

Я ня выдумаў яго і ягоных сяброў,
ёсьць на сьвеце такі — Мікола Бугроў.

У бацькоў ён быў пятым ці шостым якім,
нарадзіўся ён у вёсцы Мокрым Другім,

што ад Касьцюковічаў-гораду наўпрост
ляжыць у заходнім кірунку за трыццаць вёрст.

Зьбег цяпер з роднае вёскі ён,
баіцца — насьцігне яго праклён:

камуніст Мікола Бугроў
праліў нявінную кроў.

І нікуды ніколі ня будзеш магчы
ты ад кары Гасподняе уцячы.

Загубіў ты маці маю,
доўга мучыў ахвяру сваю,

біў, прывязваў да калёс,
зачапляў вяроўкай, цягнуў яе, вёз,

адчапляў, нагамі таптаў
і "Дзе сын твой?" пытаў,

"ён — вораг наш, а я чыст,
я, Мікола Бугроў — камуніст".

Падымаў з долу маці маю,
да дрэва стаўляў,
да твару наган падстаўляў,
дула пхаў у яе рот —
"выстралю зараз, вот"
і біў абцасамі у жывот.

Няпрытомнай маці тады
ён даваў вады
піць,
каб зноў яе біць,

каб жыла яна даўжэй
і каб біць яе дужэй.

Заглядаючы ёй у вочы, у твар —
"Забівае цябе камісар,

камуніст Мікола Бугроў —
маць тваю ў печань і кроў.





У мяне, бачыш, цэлы партызанскі атрад,
я забіць цябе, падла, рад,

галава твая зараз паляціць у кусты,
б'ём цябе, хоць невінаватая ты".

"Ну, Сяргуха, чаго стаіш,
на яе глядзіш? —

Жаласьць маеш, што ль?
Помсту сваю задаволь!"

І "Сяргуха" у твар яе хрась!
утаптаўшы яе у гразь.

І колькі ў каго было сілы,
па чарзе яе білі.

Мае добрых, надзейных сяброў
камуніст Мікола Бугроў!

"Сын твой — вораг наш закляты,
што нарадзіла яго — вінавата".

Валялася маці цела,
памерці яна хутчэй хацела.

Ды прывязалі яе яшчэ раз да павозкі
і галопам пацягнулі праз вёску.

Людзі стаялі (гэта было ў нядзелю)
і моўчкі на ўсё гэта глядзелі.

"Мы яе перахапілі, псіну, —
ішла яна да свайго сына
ад свае нявесткі
перадаць немцам зьвесткі. —
Няхай ведаюць, наглядзяцца,
як умеюць партызаны распраўляцца".

Прывязаная маці ісьці не магла,
на дарогу, прывязаная, лягла:
"сьмертухна настане калі?" —
цела яе коні волакам валаклі.

На дарозе матчына ўсюды кроў —
літасьці ня мае камуніст Бугроў.

"Выцягну з цябе я ўсю душу,
мёртвую цябе я дапрашу".

Быў ён ужо хутка з адрадам сваім
у логаве партызанскім лясным.

Паставіўшы маці між хвой,
страляў над яе галавой,

а каб яна стаяла, ня ўпала,
па бакох яе пад рукі трымалі

Каб ня ведала яна, адкуль
столькі сыплецца куль,

вочы ёй завязаў
і ўсё некуды міма цаляў:

ён хацеў дабрынёю слыць —
страхам сэрца яе умярцьвіць.

Ды хоць маці сабою ужо ня была,
ня ўмірала яна — усё жыла.

Ды прыкончыць яе — будзь здароў —
камуніст Мікола Бугроў.

Падставіўшы пад падбародак брытву,
ён пачаў яе дапытваць:

"Ты ўсё ходзіш у Касьцюковічы,
ну скажы мне што-колечы —

чым займаецца сын твой там,
скажаш — свабоду дам!"

Стаўляў ён пытаньне раз за разам,
ды ня было — адказу:

лежачы пад зямлянкі шулам,
яна ўжо яго... ня чула.

І з болем, і з жалем,
з нейкай ухмылкай сірочай,
як няжывая ляжала,
заплюшчыўшы вочы.

"Ты ведаеш, з сынам тваім мы былі дружбакі,
хоць вы — багачы, а мы — жабракі.

Хадзіў я ў школу разам з сынам тваім,
ты давала есьці нам абаім.

Ты галодным мяне ня выпушчала з-за стала,





ты як маці мне была.

І цяпер цябе я заб`ю —
маці маю.

Мне лёгка глядзець на любую кроў,
я — камуніст, Мікола Бугроў.

Я ведаю, у цябе няма віны,
ды станеш ты ля сьцяны.

Не перадавала ты немцам ніякіх зьвестак,
але я учыню над табою зьверства.

Выдумаў нарошна я гэтую справу,
каб расстраляць цябе была падстава.

Сэрца маё чыста,
як у камуніста.

Адным словам,
я чалавек прынцыповы:

сын твой не на нашым баку:
захачу — змалачу,
як той сноп на таку.

Ты любіш сына свайго,
ходзіш да яго,
ён у цяпле,
я ў зямлянцы-дупле,
ня жыву — забіваю,
такая жысьць мая баявая.

Напасьледак, апроч усіх спраў,
твой сын маю нявесту забраў,
з нашага сяла
ты яе да яго адвяла,
мы, партызаны,
не маглі яе ўзяць перавязваць раны.
Я насыплю солі ў твае раны.

Мне нянавісна чужая кроў,
я — камуніст, Мікола Бугроў.

Ты — чужая кроў, нянаская,
а мая — пралетарская.

Ворага сустракала ты з хлебам-сольлю
і саджала яго за сваё застольле,

за тое самае, дзе калісьці мяне частавала –
расстраляць цябе замала,

“будзе табе яма,
дарагая мама”.

Ходзіш ты ў Касьцюковічы –
ну скажы мне што-колечы!”

Стаўляў пытаньне камуніст Бугроў
раз за разам.
Ды ня было – адказу.

Лежачы пад зямлянкі шулам,
маці яго ўжо... ня чула.

У болі, у жалі,
з усьмешкай нейкай сірочай,
як няжывая ляжала,
заплюшчыўшы вочы.

Бугроў ударыў яе нагой –
адной і другой,
ляжачую пад шулам,
за тое, што... ня чула.

Узьняўся аднекуль “Сяргуха”.

“Мікола, паслухай! Паслухай!

Заюшыўся ты, мой браце Бугроў,
глядзі – каб не праліў сваю ты кроў”.

Зьбялеў камуніст Мікола Бугроў,
вылаяўся ў печань і кроў:

“Праспаў ты, Сяргуха, мацць тваю ў жылы,
нас акружылі!”

Трывогу забілі,
усё узьнялося у той-жа хвілі.
Маці маю падхапілі.
Уцякаў, пакідаў логава-дуброву
партызанскі атрад камуніста Бугрова.

Уцякаючы, каля вёскі Ціхіх Віроў
расстраляў маю маці камуніст Мікола Бугроў.

............. .......................................

На дзень які, можа, шосты





знайшлі яе ў лесе дочкі,
мае сёстры.

Плакалі, вылі
у горы моўчкі.
Цела яе абмылі
гаротныя дочкі.

Усё, што мелі
ёй, каханай,
каб не балела,
клалі на раны.

Як на Прачыстую
жаласьлівыя дочкі
з куфра чыстую
дасталі сарочку,

што яна напрала,
стомленай, пахілай,
што яна саткала
і на сьмерць пашыла.

Палажылі яе у покуце на лаўцы,
прад вачыма нашага Збаўцы.

Ня спускае з яе вачэй Ён,
міласэрны да сваіх чадаў.
Можа будзе лягчэй ёй
пад Ягоным паглядам.

Вяскоўцы перад ёю
сур‘ёзна стаялі,
серабрыстай сьлязою
ёй доўг аддавалі.

На спагадных такіх –
знаёмая, усё тая,
з покуця на іх
глядзіць, як жывая.

Прашчэньня просіць вачыма.
Твар увесь завайстрыўся.
У муках спачылі
пакутныя рысы.

Ціха-ціха зрабілася ў хаце,
і ня было сілы
ад слёз устрымацца,
як з хаты яе вынасілі.

Болей ня ўчуем яе хады,
болей ня прыдзе яна сюды.

Толькі ўначы, як настане ціша,
прылятаць яе будзе сюды душа.

Пад зямную сваю павець —
зноў у хаце усё паглядзець.

.............................................

Ходзіць па вёсцы Бугроў Мікола,
невясёлы — вочы долу.

З маімі сёстрамі пры сустрэчы
галаву уціскае ў плечы.

Бляск вачэй — воўчы,
заглянуць ня можа у вочы.

Праліў нявінную кроў
камуніст Мікола Бугроў.

Вярнуўся ён з лесу цэлым
у Мокрае асіраццелае:

як і ва ўсёй Беларусі,
рэдка хто з фронту вярнуўся.

Толькі Бугроў Мікола
не угнаіў долу.

Як на якім маргінэсе,
адседзеўся ў лесе.

Гойсаў ён па аколіцах вокал,
па жанчынах і дзецях шпокаў.

Адсьветкаваў ён Дзень Перамогі —
ў яго цэлы рукі і ногі.

Што там яму калекі? —
гэта толькі няўмекі.

Ён не такога роду —
вяяваў і атрымаў узнагароду —
не абы якую —
сапраўдную, баявую.

Шэньціць Бугрову ў гэтым сьвеце —
старшынёю калгасу яго вызначылі ў сельсавеце.





Пасьмялеў Бугроў Мікола,
галаву узьняў — не глядзіць ён долу.

Размахвае рукамі,
круціць бялкамі,
сьмяецца...
Сёстрам маім недзе дзецца.

Ня бывае такога дня,
каб перад імі ня мільгаў старшыня

камуніст Мікола Бугроў.
У сясьцёр ледзянела кроў:

у сваёй няўстойцы
не маглі глядзець на забойцу.

Не праходзіў так сабе міма —
працінаў ён іх вачыма.

І ягоныя вочы
сьніліся ім уночы:
сінявою цяжкою, бы ў дыме,
схіляюцца над імі,
заглядаюць у вочы,
смокчуць,
быццам
цябе выпіць хочуць.

Сёстры ў страху вялікім
прачыналіся з крыкам.

З тугі раставалі хутчэй ад воску —
жыць пайшлі яны у чужую вёску.

Вытрымаць не маглі такое пакуты —
разьвіталіся з сваім родным кутам.

Пры сваёй няўстойцы
пайшлі ад забойцы.

.............................................

Штосьці ссунула бровы
у Міколы Бугрова.

Быццам іншы які —
маўклівы, негаваркі.

Невясёлы
Бугроў Мікола.

Хацеў-бы ён жаніцца,
ды ніводная маладзіца
ня хоча ісьці к яму ў хату,
хоць здаровы ён і багаты.

Маладзіца
пайсьці за яго баіцца:
у Міколы-камуніста
душа ня чыста.

У вадным ня было няхваткі –
ліплі да яго салдаткі.

Хоць і ўдзячны ён быў такой "нявесьце",
не хацеў ён у хату такую весьці.

Няўжо ён пракляты,
што ня йдуць за яго дзяўчаты?

Уначы яму ня сьпіцца –
баліць паясьніца,
сон усё і той самы сьніцца:

дзьверы адчыняе нехта быццам
і заходзяць у белым тры анёлы:
"Прыйшоў час твой, Мікола, –
гаворыць адзін з іх: – Рыхтуйся!"

Анёлы зьнікаюць. І прылятае
душа, самотная такая:

"Ты за што адзьдзяліў
мяне ад цела,
яшчэ жыць я там хацела?

Ты за што мяне так мучыў?
Мне й цяпер яшчэ балюча.

Па якому праву
на той сьвет адправіў?

На тым белым сьвеце
сохнуць мае дзеці.

Сьлёзна ім і цяжка,
што мяне нямашка.

Доля іх такая –
ад цябе ўцякаюць.

Спаць я ў гэтым сьвеце





не лажуся –
на той прылятаю
і усё кружуся

над сваёй хатай, бядою спавітай,
апусьцелай, сумнай і ушчэнт разьбітай.

За нішто якое, без правіны
палажыў мяне ты ў дамавіну.

З яе вось я ўстала,
як пара настала".

Бугрову далей сьніцца:
дзьверы адчыняе нехта быццам,

зьяўляюцца зноў тры анёлы:
"Прыйшоў час твой, Мікола, –
гаворыць адзін з іх: – Рыхтуйся!"

Зьніклі анёлы. І хацеў ён ісьці за імі,
ды дарогу яму адцерлі.
Як у прадоньне, у дыме,
праваліўся ён у цемру.

У той цемры дбала
груганьнё яму вочы дзяўбала.
Сваім чорным крыльлем
усяго яго накрыла.

І хацеў ён быццам
ад іх бараніцца,
ды яны ніяк не адляталі –
каб сьвету ня бачыў,
ўсё дзяўбалі й дзяўбалі.

*Красавік, 1984*

*г. Глен Коў*

ЁН

# Кнут ГАМСУН



1859 –1952







# ЦАРЫЦА САЎСКАЯ

## 1

Мне шмат даводзіцца бываць у падарожжах, вандраваць ад месца да месца, раз-пораз сустракацца праз нечаканыя павароты лёсу з людзьмі, спатыкаць іх раптоўна, у нечаканых месцах – так што ад неспадзяванкі зусім забываешся зняць капялюш і павітацца.

Гэтак са мною бывае часта, нават вельмі часта. І з гэтым нічога не зробіш.

Тое, з чым я сутыкнуўся ў 1888 годзе, дзіўным чынам звязана з адной цяперашняй падзеяй, што мела месца недзе тыдзень таму, падчас маёй невялікай паездкі ў Швецыю. Гэта зусім простая і зразумелая гісторыя; усё тут ішло звычайна, само сабою; мажліва, яна не вартая таго, каб яе тут расказваць. Ды я ўсё-такі паспрабую гэта зрабіць, наколькі ў мяне атрымаецца.

Ты пытаўся, калі мы апошні час бачыліся... Ну, ты, напэўна, сам згадваеш, пра што ты пытаўся, таму мне гэтага табе паўтараць не трэба. Але тады я адказаў, што мне ніколі нічога не дапамагала, колькі б я ні спрабаваў; заўсёды нешта перашкаджала, мяне праганялі, выстаўлялі за дзверы. І я не маню, я дакажу табе, што гэта праўда; так блізка, ад гэтага, як той апошні раз, я яшчэ не быў ніколі, і ўсё роўна я быў ветліва выстаўлены за дзверы. Нічога тут не зробіш.

У 1888 годзе ў мяне з'явіліся грошы, каб куды-небудзь паехаць – я кажу так, як яно ёсць. Я пераехаў у Швецыю і з радасцю выправіўся ў пешую вандроўку ўздоўж чыгункі – у гэты час штодня побач імчалі цягнік за цягнікам. Мне сустракалася шмат людзей, і ўсе гэтыя людзі віталіся са

### Пра ЯГО

***4 жніўня 1859 г.*** *– У Ломе (Гудбрансдаль, Паўднёвая Нарвегія) у сям'і вандроўнага краўца Педэра Педэрсена нарадзіўся сын Кнуд, будучы пісьменнік Кнут Гамсун.*

***1862.*** *– Педэр Педэрсен перавозіць сваю сям'ю ў Гамар'ёй, на падворышча Гамсун, дзе атрымлівае зямельны надзел і невялікую сялянскую гаспадарку.*

***1868.*** *– Будучага пісьменніка аддаюць на выхаванне і слугаванне да аднаго з багацейшых дзядзькоў, Кнуд Педэрсен пачынае наведваць сельскую пачатковую школу.*

***1873.*** *– Пасля заканчэння школы ён выпраўляецца ў першую сваю вандроўку па Нарвегіі, зарабляе на пражыццё гандлярствам.*

***1876.*** *– Кнуд Педэрсен пачынае вучыцца на шаўца ў Бодэ; падпрацоўвае таксама партовым рабочым, абшчынным пісарам і хатнім настаўнікам.*

***1877 78.*** *– З'яўляюцца першыя літаратурныя творы – сентыментальна любоўныя навелы “Загадкавы чалавек” і “Б'ёргер”*

***Канец 70-х – пачатак 80-х гг.*** *– Гамсун працуе дарожным рабочым у Гудбрансдалі, на сваёй радзіме.*

# “ЗАЛАТАЯ ЦЕМРА ПЕРАЛІВАЕЦЦА ЎВА МНЕ...”

*(ПСІХАЛАГІЗМ КНУТА ГАМСУНА. ВЫТОКІ І ПАЭТЫКА)*

**Перспектыва псіхалагізацыі літаратуры, раскрыццё персанажа ў яго цэласнасці і складанасці акрэслілася ў другой палове XIX ст. надзвычай выразна. Прынцып аднабакова апісальнага падыходу да асобы, згодна з якім ідэя вышэй за індывідуальнасць, у пэўнай ступені не задавальняла нават тых пісьменнікаў, у чыіх творах ён пераважаў. Да прыкладу, англійскі празаік Энтані Тролап, маючы на ўвазе гэтак званы тыповы характар, у 1873 г. пісаў: “Калі такі вобраз ствараецца дзеля таго, каб паказаць, якім чалавек павінен быць, – ён слушны. Але калі ён створаны, каб паказаць, якія людзі насампраўдзе, – ён ілжывы”. Паслядоўны рамантык Жорж Санд напрыканцы творчага шляху падзялілася запаветным жаданнем: “Я хачу бачыць чалавека не добрым і не дрэнным, а такім, які ён ёсць.**

***1882.*** – *Пачынаецца яго першая вандроўка ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Там Гамсун працуе на ферме, у гандлёвым прадпрыемстве, сакратаром пратэстанцкага прапаведніка.*

***1884 г.*** – *Пасля цяжкай хваробы на лёгкія Гамсун вяртаецца ў Нарвегію, дзе спрабуе зарабляць на хлеб журналісцкай працай. Галодны час для яго, які дасць матэрыял для будучага рамана "Голад".*

***1886–88.*** – *Другая паездка Гамсуна ў ЗША: праца кандуктарам трамвая ў Чыкага, сельскагаспадарчым рабочым у Паўночнай Дакоце і інш.*

***1889.*** – *З'яўляецца кніга нарысаў, створаных у рэалістычнай манеры, пад назвай "Духоўнае жыццё Амерыкі".*

***1890.*** – *Выходзіць першы раман "Голад", які адразу ж прыносіць аўтару вядомасць не толькі ў Нарвегіі, але і па-за яе межамі.*

***1892.*** – *Друкуюцца раманы "Містэрыі" і "Рэдактар Люнге"*

***1893.*** – *Гамсун едзе ў Парыж, дзе знаёміцца з Полем Гагенам, Аўгустам Стрындбергам, Юханам Боерам і іншымі вядомымі творцамі. Выходзіць яго раман "Новая зямля".*

***1894.*** – *Напісана аповесць "Пан".*

***1895.*** – *Пачатак драматычнай трылогіі – "Каля брамы імперыі".*

мною, кажучы: "паздароў Божа"; і я таксама адказваў: "паздароў Божа", бо нічога іншага сказаць я не ўмеў. Калі я дайшоў да Гётэборга, першая пара маіх чаравікаў парвалася ўшчэнт, але не пра гэта тут ідзе гаворка.

Яшчэ перад тым, як я апынуўся ў Гётэборгу, надарылася тая падзея, пра якую я збіраюся расказаць. Як ты мяркуеш: калі пэўная паненка спачатку абдорвае цябе позіркам з акна, а потым абсалютна не звяртае на цябе ўвагі, дык ты што – пакідаеш, каб яно ўсё ішло, як ідзе, і не будуеш у сувязі з гэтым аніякіх версій? Ты, вядома, быў бы дурнем, калі б нешта ўяўляў сабе пасля аднаго гэтага няшчаснага позірку. Аднак калі паненка не толькі з вялікай цікавасцю разглядае цябе, але і нават пакідае табе свой пакой ды свой ложак на шведскай паштовай станцыі, то ці не здаецца табе тады, што ў цябе ёсць пэўныя падставы верыць у сапраўднасць яе намераў і цешыць сябе пэўнымі надзеямі?

Мне гэтак здавалася, я спадзяваўся да апошняга; тыдзень таму гэта мне каштавала пакутлівай паездкі да Кальмара..

Я даехаў да паштовай станцыі Бэрбю. Быў позні вечар, а маё падарожжа доўжылася ад самага рання, таму я вырашыў на сёння спыніцца тут Я зайшоў у карчму і замовіў сабе вячэру і начлег.

Ну, павячэраць тут было магчыма, але з начлегам не атрымлівалася: усе пакоі былі занятыя, усё было запоўнена.

Я меў размову з юнай дзяўчынаю – як высветлілася пазней, гэта была дачка гаспадара. І вось гляджу я на яе і ўдаю з сябе, нібыта яе не разумею. Ці яна хацела даць мне адчуць, што я – нарвежац, яе палітычны праціўнік?

– Якая безліч павозак тут стаіць! – кажу я з абыякавасцю ў голасе.

– Вядома ж, гэта людзі з кірмашу; яны тут начуюць, – адказвае яна. – Таму і няма ніводнага вольнага ложка.

Пасля яна выходзіць і замаўляе мне вячэру. Вярнуўшыся, зноў пачынае гаворку пра тое, што ў доме няма ніводнага вольнага месца. Яна кажа:

– Вы можаце прайсці пехатою да наступнае станцыі – яна называецца Ютэрон – або праехаць крыху на цягніку. Тут жа, як я казала, аніводнага месца няма!

Я прабачыў наіўнаму дзіцяці за яе словы, і ў мяне не было ахвоты зрабіцца ёй непрыемным, але ж, натуральна,

**Ён і добры і дрэнны адначасова". Хацець хацела, аднак яе ўласным персанажам, іх паводзінам і ўчынкам уласціва была нейкая адна вызначальная якасць. Рэалістычны герой у параўнанні з рамантычным становіцца больш будзённым і – праз гэта – цікавейшым для шырокага кола чытачоў, бо тыя маюць з ім больш агульнага, і разам з тым – жывейшым, больш супярэчлівым, індывідуалізаваным. Але і рэалістычны персанаж быў дэтэрмінаваны, перадусім – сацыяльным асяродкам, што не магло не мець сваім вынікам пэўных межаў у адлюстраванні душэўнага жыцця, псіхалагічных патэнцый героя і, вядома ж, у мастакоўскім самавыяўленні. Паказальная ў гэтым сэнсе думка Генры Джэймса пра Дзікенса: "Ён нічога не дадаў да нашага ведання чалавечага характару". Што датычыцца слыннага Бальзака, дык сучасны нямецкі псіхолаг К. Леангард, даследуючы праблему асобы ў мастацкай літаратуры, у кнізе "Акцэнтуіраваныя асобы" найперш звяртае ўвагу на бальзакаўскае "вольнае абыходжанне з такім паняццем, як цэласнасць асобы": "Ён, магчыма, і добры псіхолаг, паколькі добра разумее людзей і здольны бліскуча апісаць іх асобныя характаралагічныя рысы. Аднак вобразы яго не валодаюць цэласнасцю, героі адметныя чыстай зменай рэакцый. Рэакцыі ж пададзены гэткімі, якімі яны патрэбны аўтару для здзяйснення яго сюжэтнай задумы, для таго, каб дапамагчы стварэнню прыдуманых ім яркіх сітуацый, а не глыбокаму паказу псіхалогіі". Аб гэтым баку кніг французскага пісьменніка гаварылі і раней, яшчэ пры ягоным жыцці,**





я зусім не збіраўся да наступнага рання некуды рухацца з гэтага месца. Я ж знаходзіўся на агульнадаступнай паштовай станцыі і павінен быў атрымаць нейкі ложак!

– Надвор'е ні з чым не параўнаеш! – заўважыў я.

– Напраўду, – адказала яна. – Таму ісці ў Ютэрон будзе адным задавальненнем. Тут недалёка, з якую мілю хады.

Мне ўжо гэта крыху ўстыла, і я сказаў павольна і сур'ёзна:

– Мне здаецца само сабой зразумелым, што вы сёння тут забяспечыце мне начлег: я не жадаю ісці далей, я стаміўся.

– Дык што, калі ўсе месцы занятыя! – адказала яна.

– А пры чым тут я?

З гэтымі словамі я ўсёй вагою свайго цела ўзваліўся на крэсла.

Зрэшты, мне было шкада гэтую дзяўчыну; не выглядала, што яна стварае мне цяжкасці толькі са злосці. Твар яе быў шчыры, сваёй нянавісці да нарвежцаў яна адкрыта не выказвала.

– Вы можаце размясціць мяне, дзе заўгодна, хоць бы на гэтай канапе, – сказаў я праз нейкую хвілю.

Але высветлілася, што і канапа ўжо была некаму паабяцаная.

Тут мне пачало рабіцца крыху вусцішна. Калі прайсці яшчэ "са шведскую мілю", дык нічога добрага чакаць не выпадала; гэтае "з якую мілю" ў Швецыі не мае канца – я ўжо добра ведаў.

– Але, далібог, хіба вы не бачыце, што ў часе вандроўкі ў мяне зусім парваліся боты! – усклікнуў я. – Вы ж не выганяеце на вуліцу людзей у гэткіх атопках!

– Не, але вашыя боты да раніцы лепшымі не зробяцца, – заўважыла яна з усмешкаю.

І праўда, тут яна мела рацыю, і я нейкую хвілю проста не ведаў, што мне рабіць. У гэтае самае імгненне адчыняюцца дзверы і сюды залятае яшчэ адна дзяўчына.

З нечага, што яе напаткала або пра што ёй думалася, яна смяецца, пасля адкрывае рот, каб расказаць пра гэта. Заўважыўшы мяне, яна ні на драбок не бянтэжыцца, адно доўга глядзіць, нарэшце нават падміргвае. Пасля ціха пытаецца:

– Што такое, Лота?

***1896.*** – *Другая п'еса драматычнай трылогіі "Гульня жыцця" Гамсун вяртаецца з Парыжа.*

***1897.*** – *Трэцяя частка драматычнай трылогіі "Вечаровая зара".*

***1898.*** – *З'яўляюцца зборнік навел Гамсуна "Сіеста", куды ўключана "Царыца Саўская", і аповесць "Вікторыя". Пачатак доўгага перыяду вандровак пісьменніка па Фінляндыі, Расіі, Персіі, Турцыі.*

***1902.*** – *Вершаваная п'еса "Манах Вэнт"*

***1903–04.*** – *Зборнік навел "Зімовы лес" і зборнік вершаў "Дзікі хор"*

***1906.*** – *Раман "Пад восеньскімі зоркамі".*

***1908.*** – *Раманы "Беноні" і "Роза".*

***1909.*** – *Раман "Вандроўнік грае пад сурдзінку".*

***1911.*** *Гамсун канчаткова вяртаецца ў Нарвегію, набывае фальварак каля Гамар'ёя ў Паўночнай Нарвегіі, дзе прайшла частка яго дзяцінства.*

***1912.*** – *З'яўляецца раман "Апошняя ўцеха".*

***1913.*** – *Раман "Дзеці свайго часу"*

***1915.*** – *Раман "Гарадок Сегельфос"*

***1917.*** – *Раман "Плёны зямлі".*

***1918.*** – *Гамсун набывае маёнтак Нёргальм каля Грымстада ў Паўднёвай Нарвегіі,*

**гаварылі ўсе: ад выдаўцоў да крытыкаў, натуральна, аддаючы даніну павагі таленту Бальзака, бо агульнапрызнана:да мастацтва пэўнага часу трэба і падыходзіць з адпаведнымі гэтаму часу крытэрыямі...**

**Якой жа паўставала асоба са старонак твораў скандынаўскіх пісьменнікаў, у прыватнасці – нарвежскіх? І тут тэндэнцыя да цэласнай абмалёўкі вобраза – насуперак натуралізму і эстэтызму – набыла дастаткова інтэнсіўны характар; праўда, пазней, чым у шэрагу іншых еўрапейскіх літаратур. З цягам часу гэтая тэндэнцыя атрымае ў нарвежскай крытыцы найменне "новы рэалізм". У 1918 г. нарвежскі пісьменнік і крытык Хрысціян Эльстэр-малодшы падкрэсліць: "мастак з цеплынёй ставіцца да жыцця, якое ў сапраўднасці багацей, чым яго паказвалі пісьменнікі прыземленага рэалізму, яно больш разнастайнае... гэтае няшчаснае, нярэдка праклятае чалавечае жыццё. У новым рэалізме прысутнічае пакуль яшчэ слабая праява новага жыццеадчування, новай містыкі... Яны (прыхільнікі новага рэалізму. – Е.Л ) вяртаюць пачуццю яго важкасць менавіта як пачуццю, яны схіляюцца перад яго веліччу і веліччу таямнічага сэнсу чалавечага жыцця. Простыя рэчы зноў набываюць сваю каштоўнасць. Калі размова ішла аб адносінах паміж мужчынам і жанчынай, рэалізм, а пазней натуралізм мелі сваёй задачай найперш сарваць покрыва хлусні і ханжаства, хаваўшыя натуральнасць гэтых адносінаў. У рэшце рэшт гэта прывяло да таго, што каханне стала паказвацца толькі як жывёльны інстынкт, як разбуральная прыродная сіла. Новы рэалізм вярнуўся да пачуцця".**

*дзе з кароткімі перапынкамі жыве да канца жыцця, займаючыся літаратурнай, а напачатку і сельскагаспадарчай працай.*

***1920.*** *– За раман "Плёны зямлі" атрымлівае Нобелеўскую прэмію. Выходзіць раман "Жанчыны каля студні"*

***1924.*** *– Раман "Апошні раздзел"*

***1927.*** *– Раман "Валацугі" – пачатак трылогіі.*

***1930.*** *– Раман "Аўгуст" – другая кніга трылогіі.*

***1933.*** *– Раман "А жыццё ідзе" – заканчэнне трылогіі.*

***1936.*** *– Гамсун выказвае публічную падтрымку лідэру нарвежскай фашысцкай партыі Квіслінгу Выходзіць раман "Кальцо замыкаецца".*

***Канец 30-х – сярэдзіна 40-х гадоў.*** *– У сваіх артыкулах і прамовах пісьменнік неаднаразова ўхваляе гітлераўскі рэжым у Нямеччыне, падтрымлівае нямецкую акупацыю Нарвегіі.*

***1948.*** *– Нарвежскі суд вызначае віну Гамсуна як "здрадніка Радзімы"*

***1949.*** *– Выходзіць мастацкая аўтабіяграфія Кнута Гамсуна "Па зарослых сцежках"*

***19 лютага 1952 г.*** *– Кнут Гамсун памірае ў Нёргальме.*

**Падрыхтаваў**
**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

І Лота ёй адказвае, гаворыць пра нешта, чаго я не чую; але я разумею, што яны шэпчуцца пра мяне. Я сяджу, прыслухоўваюся, нібыта зараз павінен вырашыцца мой лёс. Цяпер яны крадком пазіраюць на мае боты, і я чую, як яны перасмейваюцца. Дзяўчына, што ўвайшла пазней трасе галавою і збіраецца выйсці.

Падышоўшы да дзвярэй, яна раптоўна павярнулася, быццам бы ёй нешта знянацку прыйшло ў галаву, і сказала.

– Але ж сёння ўначы я магу паспаць з табою, Лота; тады ён можа заняць мой пакой.

– Не, – адказала Лота, – гэтага, фрэкен, вы сапраўды не можаце зрабіць.

Ну чаму ж? Вядома, магу

Паўза. Лота абдумвае яе словы.

– Ну, калі вы, фрэкен, так хочаце

І пасля, павярнуўшыся да мяне, Лота дадала:

– Паненка, гэткім чынам, хоча вызваліць вам свой пакой.

Я ўскакваю з месца, ляскаю абцасамі і раблю паклон. Здаецца, у мяне гэта добра атрымалася. Я сказаў паненцы таксама словы падзякі, дадаў, што яна зрабіла мне ласку, якой мне яшчэ ніхто ў маім жыцці не рабіў, і напрыканцы я растлумачыў, што ў яе сэрца такое добрае, як і прыўкрасныя яе вочы, і ў мяне гэта атрымалася гэтаксама добра, як і раней

Напраўду, усё гэта я прарабіў выдатна. Дзяўчына зачырванелася і, гучна засмяяўшыся, пабегла да дзвярэй. Лота паспяшалася ўслед за ёю.

Я застаўся на месцы і стаў думаць над тым, што адбылося. Усё складвалася як найлепш: яна смяялася, чырванела і зноў смяялася; лепей пачацца яно ўвогуле і не магло. Божа мой, якая яна была маладзенькая, наўрад ці мела нават васемнаццаць, з ямінкамі на шчоках ды ўпадзінкай на падбародку! Аніякай хусткі на шыі, нічога ўвогуле на шыі, нават сукенка была без карункаў, а толькі з уплеценаю стужкаю. А ў дадатак змрачнаваты моцны позірк вачэй на прыгожым твары. Я ніколі дагэтуль нічога падобнага не бачыў. Ну, але ж і яна з цікавасцю пaглядала на мяне.

Праходзіць гадзіна, і я бачу яе на пляцоўцы, знадворку; яна ўселася на вольнай каламажцы і ляскае пугаю. Якая ж

**Аднак "зварот да пачуцця", які ў 1918 г. ужо канстатаваўся як факт, даваўся нарвежскай літаратуры некалькіх папярэдніх дзесяцігоддзяў нялёгка. Роля Гамсуна ў гэтым працэсе – выключная. Яго канфлікт з традыцыйным "аб`ектыўным аналізам", з традыцыйнымі, "пазнавальнымі" персанажамі-тыпамі быў такім палка катэгарычным, радыкальным, што і па сёння пакідае ўражанне кроўна асабістага. На думку Гамсуна, нарвежскае мастацтва слова было сацыяльна ангажыраваным, на шкоду псіхалагізму, у значна большай меры, чым у іншых літаратурах. У праграмным артыкуле "Псіхалагічная літаратура" (1891) малады аўтар кідае сапраўдны выклік мастакам-суайчыннікам: "Мы да гэтага часу іграем на катрынцы – на трох-чатырох асноўных пачуццях, на якіх іграў яшчэ Шэкспір...". Задаючыся пытаннем, чаму ж тады Шэкспір працягвае цікавіць і кранаць, Гамсун выкладае тры асноўныя прычыны: па-першае, Шэкспір аўтарытэтны; па-другое, ён абавязаны поспехам тэатру, бо ў сцэнічным увасабленні выглядае значна мацней, чым пры чытанні, што з`яўляецца заслугай акцёраў, а не самога Шэкспіра; па-трэцяе, яго персанажы захоплены пачуццямі з ліку "вечных"; апошняе вабіць, аднак зусім не робіць Шэкспіра сучасным. Прыкладна тым жа можна патлумачыць папулярнасць Дэфо з яго "Рабінзонам Круза", Дантэ з "Боскай камедыяй", Гётэ з "Фаўстам" і многіх іншых творцаў і твораў. Пазней, у кнізе нарысаў "У казачным царстве" (1903), Гамсун асудзіць і Л. Талстога за рэзанёрства і штучнасць: "Філасофія Талстога – гэта сумесь старых банальнасцяў і далёкіх ад**





яна маладзенькая і вясёлая· сядзіць вунь адна і напявае нешта сабе пад нос ды ляскае пугаю, быццам бы павозка запрэжаная. Я падыходжу бліжэй, мне мроіцца, як я, выпрагшы коней, сам пацягну гэтую каламажку... Я ўздымаю капялюш і збіраюся нешта сказаць. .

Тут раптам яна падымаецца, высокая і поўная годнасці, нібы царыца-ўладарка, з нейкую хвілю разглядае мяне і сыходзіць з каламажкі. Гэтага я ніколі не забуду; хоць у яе не было ніякай прычыны так кепска паставіцца да майго ўчынку, але яна выглядала сапраўды цудоўна, вось так падымаючыся і сыходзячы .. Я насунуў свой капялюш і, збянтэжаны і засмучаны, праслізнуў паўз каламажку. І падбіў жа мяне д'ябал спрабаваць цягнуць гэтую павозку!

З іншага боку· што ёй зрабілася? Хіба ж гэта не яна толькі што пакінула мне свой пакой? Навошта тады гэткая ганарыстасць?

"Гэта ўсяго толькі прытворства, – сказаў я сам сабе, – яна адно ўдае з сябе такую, гэтыя хітрыкі я ведаю, яна хоча змусіць мяне трымцець; добра, я згуляю ў гэтую гульню – буду трымцець!"

Сеўшы на сходах, я запаліў піпку. Вакол мяне гаманілі кірмашоўцы, некалькі разоў я чуў, як у доме адкаркоўваліся бутэлькі і звінелі келіхі. Паненкі болей не было відаць.

Адзіным чытаннем, што я меў з сабою, была мапа Швецыі; вось так я сяджу, палю піпку, нервуюся; нарэшце, выцягваю тую мапу з кішэні ды пачынаю яе вывучаць. Так прамінае некалькі хвілін, у дзвярах паяўляецца Лота, яна хоча паказаць мне, калі я таго жадаю, мой пакой. Надышла дзесятая гадзіна, я падымаюся з месца і іду з ёю. У вестыбюлі мы спатыкаем паненку

Тут адбываецца нешта такое, пра што я ўспамінаю да найдрабнейшых дэталяў Сцяна ў вестыбюлі свежа пафарбаваная; але я таго не ведаю і, спаткаўшыся з паненкаю, рэзка адступаю ўбок – і вось, непрыемнасць адбылася.

Паненка здушаным голасам крычыць. "Фарба! "

Але занадта позна. я ўсім сваім левым плячом прыткнуўся да сцяны.

Яна глядзіць на мяне, моцна збянтэжаная, потым – на Лоту, пасля кажа.

– Што будзем з гэтым рабіць?

А Лота адказвае:

– Гэта мы чым-небудзь адатром!

Пасля чаго яны абедзве пырскаюць смехам.

І вось мы зноў ідзём па сходах на двор, Лота нешта нясе, каб адцерці запэцканае месца.

І я сядаю побач з паненкаю!

Потым мы пачынаем гаманіць..

Ты можаш верыць мне альбо не, але я кажу табе, што, калі я развітваўся ў той вечар з паненкаю, у мяне былі самыя лепшыя спадзяванні. Мы гаманілі і балбаталі, смяяліся з усяго, з чаго было магчыма, і я пераканаты, што мы праседзелі і прагаманілі там на сходах добрую чвэрць гадзіны А што ж далей? А далей не было нічога! Ну, у мяне тут няма ніякае пыхі, але ж я не мог сабе і падумаць, што юная паненка, падарыўшы мужчыну не як іначай, а сам-насам, цэлыя чвэрць гадзіны кампаніі, не думала ні пра які працяг. Калі мы ўрэшце

**дасканаласці ўласных адкрыццяў". У той жа час Дастаеўскага Гамсун ставіць надзвычай высока, і менавіта за яго глыбокае пранікненне ў чалавечую натуру, за "бездакорную псіхалагічную чуйнасць". Ён называе Дастаеўскага "празорцам" і прызнаецца: "Дастаеўскі – адзіны мастак, у якога я нечаму навучыўся, ён – найвялікшы сярод рускіх гігантаў". Нядзіўна, што кніга "У казачным царстве", напісаная пад уражаннем ад знаёмства з "радзімай Дастаеўскага", выклікала мноства папрокаў у адрас аўтара, самым характэрным сярод якіх быў папрок у звышсуб`ектыўнасці. Канстатавалася, што такіх суб`ектыўных дарожных нататак літаратура яшчэ не ведала, што Гамсун не столькі аб Расіі ці Каўказе распавядае, колькі аб уласнай у вышэйшай ступені своеасаблівай асобе. Прынамсі, адно відавочна: і рускую літаратуру пісьменнік, так бы мовіць, "выпрабоўвае" на псіхалагізм, і тут Гамсунам рухае пошук сапраўднай чалавечай глыбіні. Таго ж шукаў – і не знаходзіў – мастак у абшарах амерыканскай літаратуры, наконт якой у кнізе "Аб духоўным жыцці сучаснай Амерыкі" (1889) выказаўся недвухсэнсава: "Амерыканская літаратура безнадзейна далёкая і бедная на таленты... няма ў ёй самастойнага жыцця, няма духоўнага руху".**

**Не бачыў Гамсун сапраўднага псіхалагізму і ў айчыннай літаратуры, якая, паводле яго меркавання, развівалася пад знакам Заля, чый "аналіз душэўных станаў надзвычай нішчымны", чые кнігі – "быццам таварныя вагоны, нагружаныя прадметамі шырокага спажыву". (Ад сябе дзеля справядлівасці дадамо, што Заля і не меў на мэце**

развіталіся, яна два разы, да таго ж, пажадала мне добрай ночы; напрыканцы яна яшчэ раз прыадчыніла дзверы і выразна сказала "дабранач" трэці раз, а потым ужо зусім зачыніла дзверы. Пасля гэтага я пачуў, што яны з Лотай там, у доме, зноў зайшліся вясёлым смехам. Напраўду, яны былі ў самым добрым гуморы.

І вось я іду ў свой пакой, у яе пакой.

Ён быў пусты, гэты зусім звычайны гасцявы пакой з голымі пафарбаванымі ў блакітны колер сценамі і вузкім нізенькім ложкам. На стале ляжаў пераклад рамана Інграма[1] "Прынц з Давідавага роду". Я пачаў чытаць гэтую кнігу. З Лоцінага пакоя ўсё яшчэ чуліся хіхіканне і смех дзяўчат. Што за сімпатычнае, вясёлае дзяўчо, і гэтыя цёмныя вочы на юным твары! Як гарэзліва яна ўмела смяяцца, хоць і была з выгляду такая ганарлівая!

Мяне апанавалі думкі; успамін пра яе нема і моцна пёк у маім сэрцы.

Уранні я прачнуўся ад таго, што нешта цвёрдае муляла мне ў баку – выявілася, што я спаў разам з "Прынцам з Давідавага роду".

Я ўстаў і апрануўся, была дзевятая гадзіна.

Сышоўшы ў шынок, я сядаю снедаць; паненкі нідзе не відаць. Урэшце я вельмі далікатна пытаюся ў Лоты, дзе маладая панна.

– Яна з'ехала, – адказвае Лота.

– Як – з'ехала? Хіба яна не служыць пры гэтым доме?

– Не, яна з гаспадарскага двара, што наверсе. Сёння раніцой яна ад'ехала цягніком; збіралася ў Стакгольм.

Я замаўкаю. Вядома ж, яна не пакінула мне ні ліста, ні якога-небудзь цэтліка, а я быў у такой роспачы, што не спытаўся нават пра яе імя. Усё мне зрабілася абыякавым. Не, на жаночую вернасць ніколі разлічваць не варта.

З разгубленасцю ў позірку і з болем у сэрцы я выпраўляюся ў Гётэборг. Хто б толькі мог падумаць: яна, з ейным шчырым і поўным годнасці выглядам! Ну, няхай сабе; я хацеў стрываць гэта па-мужчынску; ніхто ў гатэлі не павінен быў бачыць, як я пакутую. .

Гэта было якраз прыблізна тады, калі Юліюс Кронберг[2] выставіў у Гётэборгу сваё вялікае палатно "Царыца Саўская". Як і ўсе іншыя, я таксама пайшоў на выставу, каб паглядзець на тую карціну; а ўбачыўшы яе, па-сапраўднаму адчуў захапленне Самае дзіўнае было тое, што сама царыца, як мне здавалася, была вельмі падобная да маёй паненкі з таго дома – не тады, калі яна смяялася або жартавала, але ў той хвілі, калі яна, выпрастаўшыся, стаяла ў пустой каламажцы і знішчала мяне сваім позіркам, бо я хацеў выпрагчы яе коней.

Бог за сведку, я зноў сэрцам гэта адчуваў. Карціна не пакідала мяне ў спакоі: занадта выразна нагадвала яна маё страчанае шчасце, аднае цудоўнае ночы яна натхніла мяне на вядомы мой мастацтвазнаўчы артыкул пра "Царыцу Саўскую", які з'явіўся ў газеце "Дагблад" за 9 снежня 1888 года. У гэтым артыкуле я напісаў пра "Царыцу" наступныя словы:

"Гэта сучасная эфіопка[3], дзевятнаццаці гадоў, зграбная, прывабна-гожая; велічнасць і жаноцкасць у адной асобе Леваю рукою яна якраз прыпадымае вэлюм і скіроўвае свой

**псіхалагічнага аналізу чалавека.) Інакш кажучы, нарвежская літаратура заставалася пераважна сацыяльнай. У гэтай сувязі процьма закідаў мела ад Гамсуна нарвежская "вялікая чацвёрка" – Юнас Лі, Аляксандр Х'елан, Б'ёрнст'ернэ Б'ёрнсан і, зразумела, Генрык Ібсен. Яшчэ пры жыцці Гамсуна, ды і пасля ягонай смерці, адным з улюбёных сюжэтаў самых розных даследаванняў стаўся матыў "Гамсун супраць Ібсена". Як вядома, на сконе жыцця Ібсен зазвычай чуў хваласпевы. А тут "нейкі" пачатковец, яшчэ да з'яўлення якога на свет Ібсен паспеў стварыць нямала значных п'ес і набыць устойлівае рэнаме тэатральнага рэфарматара, асмеліўся ў сваім артыкуле "Нарвежская літаратура" (1891) абвясціць: "Калі і ёсць у нашай літаратуры чалавек, што стварыў "характар" ва ўсёй яго прамалінейнай адназначнасці, калі і ёсць хтосьці, хто ўмеў бы дасягнуць такой "вытрыманасці", такой ненатуральнай абмежаванасці ў апісанні вобраза, пры якой цалкам выключаецца наяўнасць у ім якіх-небудзь "патойбочных", "неістотных" рыс, дык гэта менавіта ён", Ібсен. Пазней, у лісце да Георга Брандэса ад 1898 г., Гамсун наогул залічыць Ібсена, як, дарэчы, і Шэкспіра, у "нязначныя асобы". Адзінае апраўданне для іх ён усё ж знаходзіць: драматург не можа праявіць сябе тонкім і праніклівым псіхолагам; аднабаковасць і псіхалагічная павярхоўнасць непазбежныя для такой літаратурнай сферы, як драматургія. "Скупы ў Мальера толькі скупы, шэкспіраўскі Атэла – толькі раўнівы, Яга – толькі подлы". Вось і атрымліваецца, што звычайны паштальён ці вулічны хлапчук – натуры,**





позірк на караля. Яна не цёмнаскурая, нават яе чорныя валасы зусім акрытыя яркай серабрыстай каронаю, якую яна носіць; яна выглядае, як еўрапейская жанчына, што паехала на Усход і апынулася пад подыхам пякучага сонца. Але вочы ў яе цёмнага колеру, які выдае ейную радзіму; яе пагляд аднача сна цяжкі і агністы; гэты пагляд змушае скаланацца ад сполаху таго, на каго ён скіраваны. Гэтыя вочы немагчыма забыць, пра іх будзеш доўга ўзгадваць і бачыць іх зноў і зноў у сне..."

Пра вочы сказана цудоўна, такога не кажуць, калі не адчуваюць гэтага сэрцам – няважна пра каго можа ісці размова. І з таго самага дня маё сэрца ўвесь час называла прыўкрасную паненку з паштовай станцыі Бэрбю "Царыцай Саўскаю".

## 2

Гісторыя з ёю, аднак, на гэтым не заканчваецца: праз чатыры гады яна з'яўляецца зноўку, вось зусім нядаўна, нейкі тыдзень таму.

Я еду з Капенгагена ў Мальмё, да некага ў госці; ён мяне чакае – я зноў расказваю як яно ёсць. Свае рэчы я пакінуў у гатэлі, мне далі там нумар. Потым я выходжу, каб сустрэцца з чалавекам, які мяне чакае; але напачатку збіраюся прайсціся да чыгункі, каб сабрацца з думкамі перад тою сустрэчаю. Там я сустракаю нейкага чалавека, пачынаю з ім размову, кажу яму нешта – і раптам у цягніку, які вось-вось павінен адправіцца, бачу твар асобы, што, павярнуўшыся да мяне, дапытлівым позіркам глядзіць на мяне... Божа мой, гэта ж – Царыца Саўская!

Я імгненна заскокваю ў цягнік, і праз колькі хвіляў мы рушым з месца.

Вось гэта лёс! Тое, што я апынуўся тут, убачыў яе праз чатыры гады і ўскочыў у цягнік, які ўжо адпраўляецца, – у той час як усе мае рэчы засталіся ў гатэлі – вось гэта лёс! Над гэткім немажліва быць валадаром. Дарэчы, я пакінуў у гатэлі і сваё паліто; у гэткім вось стане я апынуўся ў цягніку.

Азірнуўшыся ў вагоне, я бачу, што знаходжуся ў першым класе; там сядзіць яшчэ якая пара пасажыраў Добра, я сядаю побач з імі і спрабую ўтульна ўладкавацца з цыгараю і нейкім чытаннем Куды завядзе мяне мой лёс? Я намерыўся ехаць туды, куды паедзе Царыца Саўская; трэба было толькі быць уважлівым; там, дзе сыдзе з цягніка яна, выйду і я; адзінаю маёю мэтай было спаткацца з ёю. Калі ў купэ зайшоў кандуктар і хацеў праверыць білет, яго ў мяне не было.

Але куды я збіраўся ехаць?

Гэтага я сам добра не ведаў, але...

Ну, тады мне трэба было аплаціць праезд да Арлёфа і яшчэ сорак эрэ[4] – як наддатак. У Арлёфе я павінен быў купіць білет на далейшую дарогу.

Я зрабіў так, як сказаў кандуктар, і з радасцю заплаціў наддатак.

У Арлёфе я набыў білет да Лунда; магчыма, Царыца Саўская ехала ў госці ў Лунд, і я хацеў дапільнаваць яе.

Але ў Лундзе яна з цягніка не выйшла.

**значна цікавейшыя за ібсенаўскіх герояў. (Параўнаем з поўным самаіроніі афарызмам Гюстава Флабэра: "Кожны першы сустрэчны цікавей за пана Флабэра".)**

**Б'ёрнсан? Ну які з яго псіхолаг, разважае Гамсун, калі ён лічыць, што ў Нарвегіі чалавек не пакутуе ад "хваравітай блытаніны тэмпераменту", а таму няма патрэбы і ў яе апісанні! Маўляў, тут вам, дзякуй Богу, не Расія; нарвежац здаровы. "У перакладзе на нармальную мову гэта значыць, што ў нас у Навергіі няма тэмпераментных людзей! – піша Гамсун. – Гэта нагадвае мне анекдот пра чалавека, які падарожнічаў за мяжой, і, калі вярнуўся дахаты, яго спыталі, які там клімат, і ён адказаў, што там няма ніякага клімату, наогул няма клімату!" Аднаго са сваіх персанажаў, распавядае Гамсун, Б'ёрнсан у фінале твора вырашыў пазбавіць жыцця, але за пакутніка заступілася жонка пісьменніка, фру Б'ёрнсан: як можна, ён жа нікому не зрабіў блага. То добра, пагадзіўся муж, хай сабе жыве. І гэта – псіхалогія?!**

**Як бачым, аўтарытэтнасць прызнаных нарвежскіх мастакоў не надта палохала Гамсуна. Ён лічыў супярэчлівасць чалавечай натуры ад прыроды дадзенай, само сабой зразумелай і марыў пра герояў непаслядоўных, але непаслядоўнасць якіх не будзе адзінай і вызначальнай рысай, бо ў адваротным выпадку гэта зноўку пацягне за сабой аднабаковасць. Тым больш, што справа не толькі ў чалавечай прыродзе, – жыццё змянілася і змяніла, ускладніла чалавека: "наш мозг працуе ліхаманкава, нашы нервы гранічна аголены. І калі ўжо людзі сталі складаней, дык літаратура павінна гэта адлюстраваць". Такі падыход,**

Я мусіў зноў купляць білет у кандуктара, гэтым разам да Лакалэнгі, і зноў заплаціць сорак эрэ звыш цаны – усяго разам ужо набегла восемдзесят эрэ. У Лакалэнзе я купіў білет адразу да Гэслегольма, каб не мець клопату з далейшай дарогай, і вярнуўся ў сваё купэ, зусім знерваваны сваім поўным няпэўнасці падарожжам. Гамана суседзяў у купэ таксама мяне раздражняла: чаму, да д'ябла, мяне павінна было цікавіць тое, што ў Гамбургу пачала лютаваць пошасць яшчуру? Мае суседзі, вядома, былі вяскоўцамі, звычайнымі гандлярамі скацінаю, бо тры з паловай гадзіны запар гаварылі не пра што іншае, а толькі пра яшчур у Гамбургу. Ну, натуральна, гэта было страшэнна цікава! І апрача таго, хіба ж я не збіраўся сустрэцца з некім у Мальмё? Ну, нічога, няхай гэты чалавек пачакае!

Але Царыца Саўская не выйшла і ў Гэслегольме.

Я пачынаю злавацца, аплачваю ў кандуктара праезд да Балінгслёфа – зноў з сарака эрэ наддатку, – а ў Балінгслёфе, сцяўшы зубы, адразу ж купляю білет да.. Стакгольма. Усё гэта каштавала мне сто васемнаццаць крон.. клянуся, што – д'ябал! – я заплаціў гэтульki грошай! Але было зразумела, што Царыца Саўская, гэтаксама як і чатыры гады таму, ехала ў Стакгольм.

Мы едзем далей, гадзіна за гадзінаю, на кожнай станцыі я ўважліва пільную, але яна не сыходзіць. Бачу яе каля вагоннага акна, і яна ўважліва назірае за мною; ах, яе пачуцці да мяне ані не згубіліся – гэта я выразна бачыў, але яна была крыху збянтэжаная і, калі я праходзіў каля яе, заўсёды апускала вочы долу Я не вітаўся, кожны раз забываючыся гэта рабіць; калі б яна не была, як у скрыні, заціснутая ў жаночым купэ, я, натуральна, ужо даўно прыцягнуў бы ейную ўвагу, нагадаў бы ёй пра наша даўняе знаёмства і пра тое, што яаднойчы спаў у прызначаным для яе ложку; я парадаваў бы яе, што я тады спаў цудоўна, аж да дзевятай раніцы.

Якая гожая яна зрабілася за тыя чатыры гады· цяпер у ёй было болей, чым раней, велічнасці і жаноцкасці.

Ішла гадзіна за гадзінаю, нічога болей не адбывалася, калі не лічыць таго, што недзе каля пятай гадзіны пад колы нашага цягніка трапіла карова, мы пачулі хруст паламаных ног і на нейкую хвілю спыніліся, каб спраўдзіць, ці не пашкоджаныя рэйкі; пасля мы паехалі далей. Абодва суседзі-пасажыры пачалі размаўляць пра параходную вандроўку па Эрэсундзе, што была зноў-такі надзвычай цікаваю. Якія пакуты я цярпеў, якія пакуты! І што, хіба ж мяне яшчэ не чакаў чалавек?

Да д'ябла гэтага тыпа з Мальмё!

Мы едзем далей і далей, праміваем Эльмгульт, Ліяторп, Вісланду. У Вісландзе Царыца Саўская сыходзіць, я ні на хвілю не зводжу з яе вачэй, ну вось – яна вяртаецца. Добра, едзем далей

Потым мы прыбываем у Альвэсту

Перасадка на Ка́льмар!

Тут Царыца Саўская зноўку выходзіць на перон; я стаю і назіраю, ці сітуацыя не паўторыцца; але гэтым разам яна пераходзіць да кальмарскага цягніка. Да гэтага я быў не падрыхтаваны і, у надзвычайным здзіўленні, не мог наважыцца дзейнічаць – аж пакуль

**апрача Дастаеўскага, Гамсун усё ж знаходзіў і ў шэрагу іншых творцаў, да прыкладу – у Аўгуста Стрындберга, якога ён цаніў менавіта за псіхалагізм. У артыкуле “Крыху пра Стрындберга” (1901) Гамсун засведчыць: “Стрындберг – ці не адзіны скандынаўскі пісьменнік, які сур`ёзна паспрабаваў стварыць сучасную псіхалогію. У шэрагу драматургічных работ (такім чынам, і ў драматургіі магчымы сапраўдны псіхалагізм? –** Е.Л.**) і кароткіх навел... ён падараваў літаратуры каштоўныя псіхалагічныя даследаванні. Аднак, можа, яшчэ важней іншае: Стрындберг заўважыў і ўсвядоміў няслушнасць пануючай зараз псіхалогіі характараў, яе няздольнасць адлюстраваць душэўна раздробленага, дысгарманічнага сучаснага чалавека”.**

**Вялікі рэзананс меў знакаміты гамсунаўскі артыкул “Аб несвядомым духоўным жыцці” (1890). Паказальна, што напісаны ён быў раней, чым выйшла з друку першая кніга Зігмунда Фрэйда. Артыкул змяшчае ў сабе і аўтарскія назіранні за работай уласнай свядомасці і падсвядомасці, і паказальныя, з “нармальнага пункту гледжання не вытлумачальныя гісторыі (накшталт здарэння з селянінам, які застрэліў суседскага каня за тое толькі, што той на яго “касавурыўся”, а паколькі селянін саромеўся аб гэтым сказаць, то мусіў зносіць абвінавачванні ў прымітыўнай злосці). Гэты артыкул набліжае нас да творчых мэтаў і намаганняў пісьменніка, да асобы Гамсуна не толькі як звышадметнага мастака, але і як чалавека, набліжае, як, можа, ніводная іншая ягоная рэч. Часам амаль спавядаючыся,**





ледзьве не было запозна. На скрут галавы я лячу да кальмарскага цягніка, заскокваю ў яго якраз у тое імгненне, калі цягнік адпраўляецца.

У купэ адзін-адзіны пасажыр, які, нават не ўзняўшы галавы, працягвае нешта чытаць. Я кідаюся на вольнае сядзенне і таксама бяруся за чытанне Праз колькі хвілін чую голас:

– Ваш білет!

Яшчэ адзін кандуктар. Мой білет?

– Добра, – адказваю я і падаю кандуктару свой білет.

– Не падыходзіць, – кажа ён, – гэта ж кальмарская лінія.

– Вы кажаце, не падыходзіць?

– На гэтай лініі – не.

– Напэўна, мяне не павінна абыходзіць, калі мне прадаюць не той білет?

– А куды вы едзеце?

– Вядома, у Стакгольм, – адказваю я. – З чаго вы ўзялі, што я еду куды-небудзь яшчэ?

– Зразумела, але гэты цягнік ідзе на Ка́льмар, – адказвае ён, злуючыся.

Ну, гэтага я не ведаў, але ён паказваў сябе нікчэмным педантам, учапіўшыся за мяне вось гэткім чынам. Відавочна, што ён рабіў так толькі таму, што я быў нарвежцам, ён ненавідзеў мяне з палітычных прычын. Мне хацелася думаць пра гэта.

– Ну і што ж мы зараз будзем рабіць? – пытаюся я.

– Вы робіце гэта так.. але куды вы, уласна, хочаце даехаць? На гэтай лініі ў Стакгольм вам не патрапіць!

– Няхай сабе. Тады я паеду ў Кальмар. . Я якраз збіраўся ў Кальмар, – кажу я ў адказ. – Стакгольм папраўдзе мяне ніколі па-сапраўднаму не вабіў; не магу нават сцвярджаць, што я калі-небудзь патрачу грошы, каб зноў паехаць туды...

Гэтая д'ябальская Царыца таксама, значыць, хацела ў Кальмар, а там пакуты ўсё-такі павінны былі скончыцца.

– Тады заплаціце за праезд да Емлы і сорак эрэ наддатку, – кажа кандуктар. – Але ў Емле вам трэба будзе набыць білет да Кальмара.

– Я ж толькі што ўжо аддаў сто васемнаццаць крон, – запярэчыў я.

І ўсё-такі я заплаціў і тыя сорак эрэ – усяго ўжо набралася адна крона і шэсцьдзесят эрэ наддатку. Але тут маё цярпенне скончылася. У Емле я паляцеў да аконца касы і крыкнуў касіру:

– Дакуль я магу даехаць па гэтай лініі?

– Дакуль? Да Кальмара, – чую я адказ.

– А ці не мог бы я праехаць далей, ці не было б магчыма праехаць хоць зусім трошкі далей.

– Зусім немагчыма. Бо далей пачынаецца Балтыйскае мора.

– Добра Значыць, адзін білет да Кальмара!

– Які клас?

Ну-ну, ён яшчэ пытаўся, які клас! Чалавек відавочна мяне не ведаў і не чытаў нічога з таго, што было мною напісана. Я адказаў яму так, як ён таго заслугоўваў

– Першы, вядома.

**часам адасабляючыся (але і ў гэтым выпадку не пакідаючы месца для сумневу, што прадмет вывучэння для яго – не столькі абстрактны “сучасны чалавек з тонкай нервовай арганізацыяй”, колькі ён, Гамсун, уласнай персонай), пісьменнік імкнецца давесці, што колькасць істотаў думаючых, напружана мысляючых расце, што на ўласным вопыце яны перажываюць загадкавыя псіхалагічныя з`явы, дзіўныя душэўныя станы: “нямы беспадстаўны экстаз, прыліў унутранай энергіі, здольнасць улавіць далёкія сігналы з глыбіняў паветранай прасторы і марской стыхіі, пакутлівую і дзівосную ў сваёй вастрыні магчымасць успрымаць гукі, што дазваляе чуць нават трымценне невядомых атамаў, аб існаванні якіх толькі здагадваешся...”. Пры гэтым Гамсун цалкам усведамляе, што, надаючы больш увагі “стану душы чалавека”, літаратура рызыкуе згубіць частку чытачоў – тых, каго ў творы цікавіць знешнепадзейнае змесціва, хто задавальняецца “танным павярхоўным псіхалагізмам” і каму справы няма да “таямнічых працэсаў, што неўпрыкмет адбываюцца ў перыферыйных абласцях чалавечай свядомасці”.**

**Зрэшты, патрэбу ў містычнаалагічным адчувалі час ад часу і прадстаўнікі “вялікай чацвёркі”: яно нібы прарывалася ў тым ці іншым выглядзе на старонкі іх кніг Дазволіць сабе прайсці міма гэткіх імгненняў у творчасці “здаровых” і “нармальных” Гамсун не мог. У артыкуле “Пісьменнікі старыя і маладыя” (1904) ён спасылаецца на пярэчанне Ібсена Брандэсу, які ўгледзеў у адным з персанажаў “Пер Гюнта”,**

Я заплаціў за білет і заняў сваё месца ў вагоне

Тым часам надышла ноч, мой букаваты сусед у купэ выцягнуўся на сваім сядзенні і, заплюшчыўшы вочы, сядзеў ціха. Ён не спрабаваў нават зірнуць у мой бок. Як жа мне было забіць гэты час? Заснуць я не мог. Кожную хвілю падымаўся з месца, разглядаў дзверы, адчыняў і зачыняў вокны, мёрз і пазяхаў Да таго ж кожны раз, калі цягнік прыпыняўся, я мусіў быць напагатове, дзеля сваёй Царыцы. Памалу я пачаў зусім горка клясці яе.

Нарэшце, нарэшце надышла раніца. Мой сусед пацягнуўся і глянуў у акно. Пасля ён зусім бадзёра ўсеўся на сваё месца і зноўку стаў чытаць, ні разу не зірнуўшы ў мой бок; здавалася, што яго кніга не мае канца.

Я зазлаваў на яго, пачаў спяваць і свістаць, каб вывесці яго з раўнавагі; але яму гэта зусім не замінала. Бачачы тую маўклівую гульню ў занятак, я ўжо сам сабе жадаў вяртання тых размоў пра яшчур.

Нарэшце, усё мне зрабілася невыносным і я запытаўся:

– Ці можна пацікавіцца, куды вы едзеце?

– Ах,    адказаў ён, – мне засталося яшчэ зусім крыху

Гэта было ўсё.

– Учора мы наехалі на карову

– Як вы сказалі?

– Учора мы наехалі на карову

– Ага.

І ён зноў заглыбіўся ў чытанне.

– Ці не прадалі б вы мне сваю кнігу? – спытаў я, зусім выйшаўшы з раўнавагі.

– Кнігу? Не, – адказаў ён.

– Не прадасце?

– Не.

На гэтым усё скончылася. Ён нават не адварочваў галавы ўбок. Перад гэтай упартасцю я зусім заняпаў духам. Зрэшты, у тым, што я мусіў спаткацца з такім чалавекам, вінаватая была зноў-такі гэтая няшчасная Царыца. Яна сапраўды прынесла мне гэтулькі засмучэння. Ну, ды гэтае ўсё павінна забыцца, калі я з ёю сустрэнуся. Ах, як я абмалюю ёй усе свае непрыемнасці, раскажу пра свой мастацтвазнаўчы артыкул, пра чалавека, які чакае мяне ў Мальмё і якога я пакінуў у няведанні, раскажу пра сваё падарожжа, спачатку па лініі на Стакгольм, потым – на Кальмар.   мая паненка! Вядома ж, я зноў зраблю на яе ўражанне І ні словам, ні паўсловам не згадаю пра тыя колькі эрэ наддатку за білеты ды тыя сто васемнаццаць крон!

А цягнік імчыць далей і далей.

Ад няма чаго рабіць я ўтаропіўся ў акно. Там відаць заўсёды адно і тое самае: лес, поле, палеткі, хаты, што пралятаюць міма, тэлеграфныя слупы ўздоўж дарогі, а каля кожнай станцыі стаяць звычайныя парожнія таварныя вагоны, і на кожным з гэтых вагонаў ёсць надпіс: GOLVYTA[5].

Што такое GOLVYTA? Гэта не магло быць нумарам або чалавечым прозвішчам.

невядомым пасажыры, сімвалічнае ўвасабленне страху: “Нават калі б я стаяў на эшафоце і гэтым тлумачэннем мог бы сябе выратаваць, мне яно ўсё роўна не прыйшло б у галаву”. А што ж такое тады “чортаў невядомы пасажыр”? Адказ Гамсун знаходзіць у самога аўтара “Пер Гюнта”: “Я напісаў гэты эпізод проста таму, што мне так хацелася”. Ці ж магло каму прыйсці ў галаву, іранізуе Гамсун, што і Ібсен часам падпарадкоўваецца раптоўнаму парыванню, нечаканаму капрызу свядомасці?

Гейнэ падчас працы чуў трымценне крылаў, у Тургенева ў рамане “Рудзін” дзяўчына абдымае дрэва, – але гэта “хворыя”. Аднак жа і ў Б`ёрнсана, “гэтага асілка з выдатным душэўным здароўем і моцнымі нервамі”, у вершы “Сустрэча” герой-паэт бачыць унутраным зрокам абсалютна неверагодныя карціны, якія нельга патлумачыць паталогіяй. “Апісанне Б`ёрнсана – гэта не фантазія і не рэальнасць, гэта момант несвядомай лучнасці чалавека з прыродай”, – каменціруе Гамсун.

Такія выключэнні ў эстэтыцы папярэднікаў Гамсун успрымаў як пацвярджэнні правільнасці абранага ім самім шляху. Сапраўдная ж, глыбокая псіхалогія ў літаратуры значыла для Гамсуна “дапытаць душу персанажа”, дапытаць з усіх пунктаў гледжання, пранікнуць ва ўсе яе таямніцы, паказаць не канчатковы вынік, якім заўсёды з`яўляецца тая ці іншая падзея, а тое, што яе спакваля рыхтуе, той нябачны для вока працэс душэўнай работы, які адбываецца ў кожным чалавеку. Душа – вось месца дзеяння гамсунаўскіх твораў і асноўны аб ект яговых мастацкіх даследаванняў. Душу ён





Ці гэта была назва вялікай ракі ў Сконэ[6] або фабрычная марка, а можа, і зусім назва нейкай рэлігійнай секты? Але тут я ўзгадаў: GOLVYTA – пэўная вага; калі я не памыляўся, гэта былі 132 фунты. Але фунты. Яшчэ тыя, старыя, добрыя; і ўсё-такі амаль што з ста трыццаці трох гэткіх фунтаў складалася гэтая GOLVYTA – гэткая цяжкая яна была  .

А цягнік ідзе далей і далей.

Ну як гэты нямы ідыёт можа цэлымі гадзінамі сядзець і адно чытаць, чытаць і чытаць! Гэтую кніжку я за той час прачытаў бы ўжо тры разы, але ён нечага фанабэрыўся, літаральна выхваляўся сваёю няўцямнасцю ды зусім таго не саромеўся. Яго дурнота ўрэшце пераўзышла ўсе межы, я не мог яе далей трываць і, выцягнуўшы шыю, пагляздзеў на яго і спытаўся:

– Што вы сказалі?

Ён узняў вочы і ўтаропіўся на мяне, нібыта зваліўшыся з Месяца:

– Слухаю вас..

– Што?

Ён не зразумеў

– Што вам трэба? – спытаў ён раздражнёна.

– Што мне трэба? А што трэба вам?

– Мне? Нічога.

– Ну і мне таксама нічога!

– Ну, дык навошта вы загаворваеце са мною?

– Я? Хіба я загаворваў з вамі?

– Значыць, не, – адказаў ён і са злосцю адвярнуўся.

Потым мы зноўку маўчалі.

Праходзіць гадзіна за гадзінаю, і вось урэшце гучыць свісток паравоза перад станцыяй Кальмар.

Надыходзіў час, калі ўсё павінна было вырашыцца. Я абмацаў свае шчокі: вядома ж, я быў няголены – прынамсі, гэтак яно было папраўдзе. . Склалася ненармальная сітуацыя, што на гэтай доўгай чыгуначнай лініі не было станцый, дзе была б магчымасць пагаліцца, каб выглядаць чалавекам, калі ў тым існавала такая патрэба; я ж не патрабую штатных цырульнікаў на кожнай станцыі, але варта ўсё ж пагадзіцца з маім меркаваннем, што мець на кожнай пятай станцыі аднаго цырульніка не было б задорага. Прынамсі, такая мая думка.

Потым цягнік спыняецца.

Я адразу ж выходжу з вагона і, стоячы на пероне, назіраю, калі выйдзе Царыца Саўская; але яе раптоўна захінаюць людзі – так што ў мяне няма ніякае мажлівасці падысці да яе. Малады мужчына нават цалуе яе – значыцца, брат; ён тут жыве, мае тут сваю справу; яна прыехала ў госці да яго! Праз нейкае імгненне пад'язджае брычка, яна сядае ў яе, з ёю яшчэ двое ці трое чалавек, і яны ад'язджаюць.

Я стаю на пероне. Яна з'ехала ў мяне з-пад носа, ні на хвілю ні пра што не задумаўшыся.

Ну, няхай сабе; пакуль што ўсё адно нічога зрабіць было немагчыма; а калі я дакладней

падпільноўвае ў сне і наяве, не пакідае яе ні ў самых няўлоўных мроях, ні ў яе будзённых клопатах, ні ў яе радасці, ні ў смутку: “я слядкую за ёй тут, на зямлі, і слепа кідаюся за ёю ў іншыя светы, я перасякаю прастору, трапляю ў краіну фантазій, зор, сонечных духаў, пераходжу межы свету і апускаюся да залатога палаца... Усё гэта я раблю з цалкам усвядомленым намерам: высвеціць душу і пранікнуць у яе містэрыі”. “Мяне цікавіць душа... што адчувае і дзейнічае вольна, яна, быццам непераможная амазонка, лунае над нябёсамі і апраметнай. І таму я слядкую за ёй – неадступна”.

Пачуццё ў Гамсуна нібы матэрыялізуецца, настолькі адчувальна-бачныя ўсе яго найтанчэйшыя праявы, спантанныя рухі, незавершаныя і пералівістыя, зменлівыя і мудрагелістыя, усе яго паўтоны і адценні. Часам ён мае справу з імпульсіўнымі, лічы рэфлекторнымі рэакцыямі, амаль трапізмамі (як назаве пазней сваю першую кнігу славутая даследчыца “змроку чалавечай душы”, французская пісьменніца Наталі Сарот). Чалавечае быццё ў адлюстраванні Гамсуна пазбаўляецца штучнасці, працякае ў набліжаных да натуральнасці свядомасных межах.

Кожная унікальная літаратурная з'ява (а унікальная ў псіхалагічных адносінах – найперш) не можа не паставіць перад пытаннем: у якой ступені яна ёсць спробай авалодання агульначалавечымі, агульнаіснымі праблемамі і ў якой – уласнымі, асабістымі? У Гамсуна апошнія, бясспрэчна, займаюць не апошняе месца. У лісце да дацкага пісьменніка і сябра Эрыка Скрама ад 1888 г. Гамсун прызнаецца ў незвычайных,

абдумаў сітуацыю, дык быў ужо амаль удзячны паненцы за тое, што яна пакінула мне час, каб пагаліцца і прывесці сябе ў парадак, перш чым ёй прадставіцца.

Зараз трэба было скарыстаць гэты час!

Да мяне падыходзіць насільшчык і прапануе аднесці мой багаж.

– У мяне няма багажу.

– Як, зусім няма багажу?

– У мяне зусім няма багажу!

Ці ён не зразумеў мяне? Бо ад яго адчапіцца не ўдалося. Ён хацеў ведаць, ці не збіраюся я ехаць далей.

– Не, далей я не еду.

Наступнае пытанне было: ці не збіраюся я тут спыніцца.

– Мажліва. На нейкі час. Ці ёсць тут паблізу які-небудзь гатэль?

Тут яго зацікавіла, што я збіраюся ўвогуле рабіць; можа, я які агент або рэвізор?

Вось ізноў трапіўся чалавек, які нічога майго не чытаў!

– Не, я не рэвізор.

Дык хто ж я тады?

– Адзью! – адказаў я яму проста ў вочы і пайшоў прэч.

Гэткая во назойлівасць! Я і сам, калі трэба, знайду той гатэль. Разам з тым, я мусіў абдумаць, як надалей тлумачыць мэту майго тутэйшага побыту, якую я мог бы выказаць пры нагодзе; бо зразумела было: калі ўжо галодны насільшчык выяўляе такую цікаўнасць, дык гаспадар гатэля будзе яшчэ нашмат горшы.

Якая справа афіцыйна, перад Богам і людзьмі, магла прывесці мяне ў Кальмар?

Прыдумаць праўдападобную версію я мусіў таксама дзеля таго, каб не скампраметаваць сваю Царыцу. І я пачаў напружана думаць над тым, што я меўся рабіць у Кальмары. Калі я сеў у крэсла да цырульніка, гэтая думка ўжо не давала мне спакою. Адно было бясспрэчна: я не павінен паказвацца ў гатэлі, пакуль у мяне не будзе пэўнасці ў тым пытанні.

– Ці ёсць у вас тэлефон? – пытаюся я ў цырульніка.

Не, тэлефона ў цырульні не было.

– А ці не маглі б вы адправіць пасланца ў найбліжэйшы гатэль, каб замовіць мне нумар? У мяне бракуе часу самому ісці туды, бо маю вельмі шмат спраў

– З вялікай ахвотаю!

Вучань цырульніка ідзе выконваць гэтае даручэнне.

Я пачаў снаўдацца па завулках горада, агледзеў кірху, гавань, ішоў хутка, баючыся, што хто-небудзь мяне спыніць і запытаецца пра мэту майго знаходжання тут, у Кальмары. Нарэшце я прыйшоў у парк, прысеў на лаўку і аддаўся сваім роздумам. Нікога побач са мною не было.

Кальмар. . што мне было трэба ў Кальмары? Назва падалася мне знаёмаю, недзе я нешта пра яе чытаў. Бог ведае, ці не было тут штосьці звязанае і з палітыкай, нейкае надзвычайнае пасяджэнне рыксдага[7], заключэнне нейкага міру?.. Я пачаў узгадваць. "Кальмарскі мір", "Кальмарскае мірнае пагадненне". Ці чуў я калі пра нешта такое? Або

**"вар'яцкіх", "грэшных" ідэях і жаданнях, піша аб сваім невыносна пакутлівым стане. "Я мог бы... запаланіць свет карцінамі ліхаманкавай душэўнай мітусні. Ды калі ўжо Дастаеўскага лічаць вар'ятам, то што скажуць пра мяне? Бо ўсе тыя незвычайнасці, аб якіх піша Дастаеўскі... і нават большыя я перажываю кожны дзень... На жаль!" І далей: "Кроў падказвае мне, што я знаходжуся ў духоўнай сувязі з Сусветам, са стыхіяй. Можа, аднойчы – у далёкай будучыні – людзі перастануць быць людзьмі і зробяцца такімі істотамі, якія будуць суадносіцца з сучаснымі людзьмі, як апошнія – з аднаклетачнымі істотамі, і змогуць любіць не толькі да сябе падобных, але і, да прыкладу, ваду, агонь, паветра". Гамсуну ведама было дзіўнае прыцягненне святла, якое ён незвычайна любіў; ён распавядае, як аднойчы ноччу нават падпаліў фіранкі ў сваім пакоі і лежачы назіраў за полымем. Прычым "светлавое", як называў яго сам Гамсун, вар'яцтва давала аб сабе знаць не толькі ў дні хваробы. Пазней пісьменнік даверыць прызнанне ў "любві да сонца" шырокай публіцы, заўважыўшы, што гэтая любоў і ёсць пацвярджэнне "нашай кроўнай роднасці з усім існым". "Сын сонца" – назаве Гамсун адно са сваіх апавяданняў. Мастак ужо не пачувае сябе такім, як раней, адзінотнікам у празе святла. Такую ж прагу да святла зведалі і іншыя творцы, да прыкладу – славуты нямецкі пісьменнік Герхарт Гаўптман, у якога сонца – нязменная канстанта вобразнай сістэмы; згодна з завяшчаннем Гаўптман і пахаваны быў менавіта перад усходам сонца. Зазначым да**





гэта быў Кальмарскі дагавор? Аднак пасля пэўнага роздуму я сказаў сам сабе, што пра Кальмарскую дамову я яшчэ нічога ніколі не чуў. Раптам я падскокваю з месца: здаецца, я штосьці ўспомніў· была бітва пры Кальмары. Кальмарская бітва – гэта нешта накшталт бітвы пры Вёрце або Дзюпэлі. Вось, вось, цяпер я ўзгадаў! І тут жа я адпраўляюся ў гатэль. Калі сапраўды была бітва пры Кальмары, тады я прыехаў сюды пазнаёміцца з гістарычнымі мясцінамі, менавіта гэта было мэтай майго побыту; вось там стаяў карабель Нільса Юэля[8], вось там варожае ядро прасвістала над зямлёю і ўзарала зямлю на капусным полі, а там Густаў Адольф[9] упаў на палубу лінкора. А Кольбайн Дужы, ваяр нарвежскага конунга з "Сагі пра Улафа", спытаў· "Што цягнеш ты з такім гучным ляскатам?" "Нарвегію з тваіх рук!" – адказаў Эйнар[10]

Але, падышоўшы да гатэля, я спалохана павярнуў назад і адмовіўся ад версіі пра гістарычную бітву; пры Кальмары ніколі не было ніякай бітвы, а тая бітва адбылася на рэйдзе Капенгагена[11]!

І я зноў іду ў горад. Усё выглядае для мяне кепска.

Вось так я прашвэндаўся цэлы дзень, не еўшы і не піўшы Мяне ўжо зусім апанавала стома. Цяпер было пазнавата ісці ў кнігарню, каб купіць нейкія кніжкі пра Кальмар, бо ўсе кнігарні былі ўжо зачыненыя Нарэшце я, цяжка перастаўляючы ногі, падыходжу да чалавека, які запальвае ліхтары на слупах.

– Прабачце, – пытаюся я ветліва, – што ў свой час адбылося тут у Кальмары?

Чалавек адказвае толькі: "Адбылося?" – і глядзіць на мяне

– Ну так, – кажу я, – я добра памятаю, што ў Кальмары ў свой час нешта адбылося, да гэтага ёсць пэўная гістарычная цікавасць, таму я хацеў бы ахвотна ведаць падрабязнасці.

Мы стаім насупраць адзін аднаго.

– Дзе вы жывяце? – пытаецца ён.

– Я, уласна, і прыехаў сюды выключна дзеля таго, каб даведацца пра гэта, – працягваю я. – Гэта каштавала мне досыць вялікай сумы грошай ды нават крону і шэсцьдзесят эрэ наддатку, апроч тых сто васемнаццаці крон за білет, пра якія я і гаварыць не хачу, бо я не такі дробязны Вы маглі б запытацца, калі хочаце, у кандуктара.

– Вы з Нарвегіі?

– Ага, я з Нарвегіі.

– Вы – агент?

Хоць я быў зусім зняможаны, але тут мусіў як найхутчэй уцякаць, бо я якраз і хацеў даведацца ў таго чалавека, кім я тут уласна быў. Але ў гэтым таксама была вінаватая мая Царыца, ва ўсім была вінаватая яна, і я жадаў, хоць і ў зусім пяшчотнай форме, каб яна праз яе жорсткасць апынулася ў пекле

Потым я зноў пацёгся ў парк. Не, ніякага ратунку больш не было!

І вось я стаю, прытуліўшыся да дрэва, побач праходзяць людзі; мне робіцца неяк няёмка праз гэтае стаянне, і я цягнуся далей Праз тры гадзіны я ўжо апынуўся за горадам, у полі. Я азіраюся, бачу, што я тут адзін, і раптам перада мною ўздымаецца нешта чорнае і агромністае. Я спыняюся, каб агледзець яго, яно падобнае да

**месца, што ўніклівага даследчыка яшчэ чакае натурфіласофская праблематыка ў творчасці безумоўнага пантэіста Гамсуна.**

**Тэарэтычныя інвектывы і ўнутраныя памкненні Гамсун суправаджаў мастацкімі рэалізацыямі. Асабліва паказальныя ў гэтым сэнсе яго раннія раманы – "Голад" (1890), а таксама "Містэрыі" (1892), "Пан" (1894), "Вікторыя" (1898). Якраз у іх найбольш поўна і арганічна раскрылася псіхалагічнае наватарства Гамсуна, а падобна, што і ўвогуле яго талент. Меў рацыю Вяч.Ус. Іванаў, калі заўважыў: "калі цікавасць да Гамсуна адновіцца, яна закране пераважна "Вікторыю" і "Голад", з якіх пачыналася яго слава". Нобелеўскай прэміяй (1920) Гамсун быў, як вядома, ганараваны за раман "Плёны зямлі", аднак аўтар, па шматлікіх сведчаннях (у тым ліку Юхана Боргена), не адносіў яго да самых значных сваіх твораў. У кожным разе менавіта ў ранніх раманах Гамсуна дамінуе і карпатліва здзяйсняецца душэўная анатомія чалавека, у той час як пазней яна не тое што выключаецца з поля зроку, не, але ў адчувальнай ступені замяшчаецца сацыяльна-грамадскай. У 90-я ж гады апошняя заставалася на перыферыі яго інтарэсаў, хоць сацыяльны статус героя прысутнічаў і ўлічваўся і тады: поўнае ад яго адмаўленне ўжо б зразумелым чынам вяло да нарматыўнасці і аднабаковасці, якіх гэтак імкнуўся пазбегнуць Гамсун.**

**Як ні парадаксальна, "Голад" да псіхалагічных раманаў літаратуразнаўцы часта не адносяць, хаця ёсць і выключэнні. Ці не самая распаўсюджаная "ўверцюра" да**

вялікай гары з цэркаўкай на вяршыні. Калі я стаю і гляджу на гэта, побач праходзіць чалавек; я запыняю яго і пытаюся, што гэта за гара; з геаграфіі мне яе назва невядомая, хоць я ведаю вельмі шмат розных гор

– Гэта замак, – адказвае ён.

Замак! Ка́льмарскі замак!

Мне, вядома, хацелася б ведаць, ці ў гэтым замку не адбывалася тое, мроі пра што ўсё круціліся ў мяне ў галаве!

– Замак сёння, напэўна, выглядае сумна-запушчана, у параўнанні з тым часам, калі тут адбываліся вялікія падзеі? – пытаюся я.

– Ды не, адміністратар забяспечвае добры дагляд, – адказвае ён.

– А хто ж там цяпер жыве?.. Я маю на ўвазе, як завуць таго князя, што мае рэзідэнцыю ў паўднёвым Крыме? Ніяк не магу ўзгадаць яго імя, ды...

– Сапраўды, там цяпер поўна ўсялякага вайсковага рыштунку, мячоў і старажытнасцяў, самых розных старадаўніх рэчаў...

Тут на месцы мне ў галаву прыходзіць добрая ідэя: я ж мог прыехаць сюды, каб заняцца вывучэннем старажытнасцяў у замку!

Калі б у таго чалавека не было дарожнага мяшка за плячыма, я яго проста расцалаваў бы, мне добра помніцца, як спытаўся тады ў яго пра ягоных жонку ды дзяцей, перш чым мы развіталіся. Каля паўночы я нарэшце патрапіў у свой гатэль.

Я знайшоў гаспадара і сказаў яму, што замаўляў тут сабе нумар. "Я тут збіраюся вывучаць старажытнасці, – растлумачыў я коратка і сярдзіта, – нават скупляю старызну; гэта мая прафесія, каб вы ведалі"

Гаспадар задаволіўся гэтым тлумачэннем і праводзіў мяне да майго нумара.

Потым быў тыдзень расчараванняў і дарэмных намаганняў, цэлы тыдзень! Царыцы Саўскай нідзе не было відаць. Я шукаў яе дзень пры дні, у верхнім і ў ніжнім горадзе, наведаў паштмайстра, распытваў у яго, а таксама ў двух паліцыянтаў, рабіў у час праменадаў штодзённыя праходкі туды і сюды, уздоўж і ўпоперак парку; штодня я падыходзіў да скрыняў фатографаў, каб паглядзець, ці дзе не выстаўлена яе фота; але ўсё было марна. Я наняў двух чалавек, якія дзень і ноч дзяжурылі на чыгуначнай станцыі, каб яна зноў не выслізнула ад мяне – і ўсё чакаў канца сваёй прыгоды.

Увесь гэты час я мусіў штодня хадзіць у замак і вывучаць зборы старажытнасцяў; вялікія аркушы паперы былі спісаныя маімі нататкамі; я лічыў іржавыя плямы на шаблях ды паламаных шпорах, натаваў сабе ўсе цяжказапамінальныя лічбы гадоў ды надпісы, знойдзеныя на старых трунах ды жывапісных палотнах; я нават не паленаваўся зрабіць запіс пра мех з пер'ем, які аднаго дня знайшоў кінутым сярод старажытнасцяў і які, як потым высветлілася, належаў адміністратару замка. Я праводзіў свае доследы з адчайнай мужнасцю і з думкамі, поўнымі горычы; калі я ўжо аднойчы пачаў шукаць Царыцу Саўскую, дык кінуць гэтую справу на паўдарозе я ўжо проста не мог – нават калі тым часам я набыў бы кваліфікацыю сапраўднага даследчыка старажытнасці.

Я затэлеграфаваў у Капенгаген наконт маёй пошты і ўвогуле пачаў рыхтавацца да зімы.

аналізу ранніх раманаў – "аўтабіяграфічны "Голад" і псіхалагічныя...". Нібыта аўтабіяграфічны элемент не сумяшчальны з псіхалагізмам. Сапраўды, шмат з перажытага ў юнацтве знайшло адлюстраванне ў "Голадзе". Толькі для самога Гамсуна чамусьці надзвычай важна было, каб гэты яго твор не ўспрымаўся як раман аб голадзе – аб ім дастаткова і без Гамсуна пісалі; напрыклад, Х'елан або Заля. (З наступнікаў не магу не згадаць найталенавіцейшага Генры Мілера з яго славутым "Тропікам Рака", у якім сярод дзесяткаў імёнаў пісьменнікаў і мастакоў сустракаецца і імя Гамсуна – зноў жа, поруч з імем Дастаеўскага; пры ўсім тым "Тропік Рака", як і гамсунаўская кніга, – не толькі і не столькі аб голадзе.) Калі выйшлі з друку фрагменты будучага рамана, Гамсун ва ўжо цытаваным лісце да Э. Скрама са скрухай заўважаў, што ў "Голад" ён перанёс свае душэўныя пакуты, аднак зараз усе думаюць, што незвычайныя паводзіны героя – наступствы голаду, і толькі. "Але гэта не так. На жаль!" Зноў і зноў Гамсун тлумачыць сэнс і сутнасць твора, не пакладаючыся нават на самых праніклівых крытыкаў. У лісце да Г. Брандэса ад 1898 г. ён пераконвае: "Мяне цікавіў проста бясконцы рух душы, і я лічу, што ў "Голадзе" мне ўдалося апісаць псіхалагічныя станы, нязвыкласць і навізна якіх, у кожным разе, ніяк не могуць стамляць аднастайнасцю. З першай і да апошняй старонкі не паўтараецца ніводнае пачуццё, інакш кажучы – ніводнае не падобнае на папярэдняе ці наступнае". І далей: "Я зрабіў спробу напісаць не раман, а кнігу без жаніцьбы, паездак на прыроду





Толькі літасцівы Бог мог ведаць, як гэта ўсё мелася скончыцца. Вось так я пражыў у гатэлі цэлыя шэсць дзён! Калі надышла нядзеля, я наняў чатырох малых хлопчыкаў, якія павінны былі пайсці ў кірху як на ранішнюю, так і на вячаровую багаслужбу і прасачыць, ці не прыйдзе туды мая Царыца; але і гэта не дало ніякага плёну.

Раніцай у аўторак я нарэшце атрымаў пошту; гэты аўторак ледзь не звёў мяне са свету. Адзін ліст быў ад таго чалавека, што чакаў мяне ў Мальмё. калі я не прыехаў да тае пары, значыць і зусім не прыеду; гэткім чынам ён казаў мне "бывай!". Я адчуў глыбокі ўкол у маім сэрцы.

У другім распячатаным мною лісце было паведамленне аднаго сябра пра тое, што "Моргенблад" і яшчэ адна нямецкая газета выкрылі мяне ў плагіяце ды нібыта пацвердзілі гэта цытатамі. Я адчуў у сэрцы яшчэ глыбейшы ўкол. Але ў трэцім канверце быў рахунак: яго я зусім не стаў чытаць, бо, не могучы болей трываць, кінуўся на канапу і ўтаропіўся ў сцяну перад сабою.

І ўсё-такі келіх пакутаў не быў яшчэ выпіты мною да дна.

Чуецца стук у дзверы.

– Заходзьце! – кажу я заняпалым голасам.

У мой нумар заходзіць гаспадар гатэля разам з пажылой жанчынай; жанчына трымае ў руцэ кошык.

– Прабачце, – кажа гаспадар, – вы ж, здаецца, займаецеся скупкаю старых рэчаў?

Я няўцямна гляджу на яго.

– Старых рэчаў? Я – займаюся скупкаю старых рэчаў?

– Ну, вы ж самі мне казалі!

І тут я вымушаны імітаваць сваю цікавасць да старых рэчаў:

– Вядома, вядома... я сапраўды скупляю старыя рэчы; прабачце, што я адразу не зразумеў, пра што гаворка... Я быў заняты зусім іншымі думкамі. Натуральна, я купляю розныя старыя рэчы. Ці можна мне паглядзець на гэтую прыгажосць?

І жанчына паказвае змесціва свайго кошыка.

Я складваю рукі ў поўным захапленні і кажу, што куплю і вазьму на захаванне кожную рэч. Якія цудоўныя кліпсы, мне было б цікава даведацца: які з каралёў ужываў іх апошні раз? Ну, гэта я неяк высветлю, паглядзеўшы ў сваіх паперах, спеху тут няма. Колькі яна возьме за рагавую лыжку? Тры прапаленыя піпкі Ябэка[12] Я не вярну іх назад ні за якія грошы, як і гэтыя старажытныя вілы! Колькі гэта ўсяго разам павінна каштаваць?

Жанчына раздумвае.

– Дзесяць крон, – кажа яна пасля.

І я аддаў ёй дзесяць крон, не таргуючыся, не задумваючыся – каб толькі як найхутчэй пазбавіцца ад яе. Выправіўшы жанчыну з гаспадаром, я адразу ж паспяшаўся ў парк, каб хапянуць крыху паветра. Не, гэта пачынала ўжо выходзіць за ўсякія межы!

Дзеці, дзяўчынка і хлопчык, сядзелі побач са мной на лаўцы і спявалі; я выразна паглядзеў на іх, хочучы, каб яны замаўчалі. Праз нейкую хвілю бачу, як да нас набліжаецца нейкая пара; яны ідуць зусім павольна, трымаючы адно аднаго пад руку, па паркавай

і балю ў заможнага гандляра...".

А вось потым у творах будуць балі і пікнікі, гандляры і шлюбы; кнігі стануць сюжэтнымі, аднак застануцца ўсё тымі ж, што і "Голад", увасабленнямі душэўных парыванняў або, паводле аўтарскага вызначэння, "нервовымі містэрыямі". Псіхалагічна-пачуццёвая палітра ўжо і ў першай кнізе-калейдаскопе не зводзілася да адчування голаду; узнікае там і матыў узаемаадносінаў паміж мужчынам і жанчынай, матыў спаконвечны, аднак рэалізаваны Гамсунам надзвычай нетрадыцыйна. Зрэшты, усе тры наступныя раманы – "Містэрыі", дзе Гамсуна больш за самога Гамсуна, "Пан" і "Вікторыя", якую ён, па ўласнаму прызнанню, "пісаў удзень і ўначы" і над якой "плакаў... як вар'ят", – выглядаюць своеасаблівымі варыяцыямі адной і той жа драмы. Іх лучыць настраёвая атмасфера, трывожна-напружаная і набрынялая блізкай трагедыяй; канфлікты твораў, унутраная расстаноўка герояў, іх псіхалогія і паводзіны структурыраваны амаль па аднаму прынцыпу. Галоўнае ж, што аб'ядноўвае раманы, – гэта тэма кахання. Сусветная літаратура дужа багатая на хваласпевы каханню, аднак нямнога знойдзецца кніг, дзе ўся гама эмоцый захопленага, апантанага страсцю чалавека прайгравалася б з такой паўнатой, як у Гамсуна. У дачыненні да яго творчасці ёсць усе падставы гаварыць не толькі аб паэтыцы, але і аб філасофіі пачуцця.

Напэўна, не трэба даказваць, што любоўная калізія дазваляе гранічна цэласна і шматгранна раскрыць душу і свядомасць таго ці іншага героя. У Гамсуна

дарожцы. Я ўжо ўвесь напагатове, падымаюся, гляджу перад сабою: гэта – Царыца Саўская!

Нарэшце, нарэшце я зноў напаткаў яе, маю Царыцу Саўскую!

Яна ідзе са сваім братам – тым самым, што цалаваў яе, сустрэўшы на станцыі; яны ідуць пад руку адно з адным і ціха размаўляюць паміж сабою. Я ўжо ўвесь наструніўся! Вось яна, вырашальная хвіля – чаго б гэта мне потым ні каштавала! Я хацеў пачаць з таго, каб нагадаць ёй, што я некалі спаў на яе ложку – тады яна, напэўна, мяне ўспомніць. І калі размова мала-памалу завяжацца, дык брат, напэўна ж, зразумее, што яму варта прайсці крыху наперад.

Я выйшаў ім насустрач.

Яны абое здзіўлена паглядзелі на мяне, і ў гэтай хвілі словы майго ўступу пачалі неяк блытацца ў мяне ў галаве.

Я прамармытаў·

– Шаноўная паненка. Чатыры гады таму . – і тут змоўк.

– Што ён хоча? – пытаецца той спадар і глядзіць на яе

Тады яна паварочваецца да мяне і пытаецца пра тое самае.

– Што вы хочаце?

І прамаўляе гэта неяк звысоку

– Я хацеў бы, – пачаў я свой адказ. ... я хацеў бы толькі папрасіць прабачэння за тое, што дазволіў сабе павітацца з паннаю – хіба гэта вас датычыцца? Мы з ёю даўно знаёмыя, я нават на яе ложку ..

Каралева перапыняе мяне:

Хадзем! Хадзем!

Вось так, яна нават не захацела прызнаць мяне, яна мяне адмаўляе! Злосць бярэ мяне, і я шыбую ўслед за параю, якая спрабуе вельмі хутка аддаліцца. Раптам той спадар паварочваецца і, бачачы, што я іду за імі, заступае мне дарогу. Зрэшты, ён не выглядаў надта рашуча, відавочна, нават трымцеў.

Каралева пайшла далей, урэшце нават амаль што пабегла.

– Што вам трэба, чалавеча? – зноў спытаў ён.

– Ад вас – нічога, – адказаў я. – У мяне толькі было жаданне павітацца з паненкаю. . са спадарыняй, з якой вы прагульваецеся – бо я раней ужо сустракаўся з ёю: я толькі выключна з ветлівасці.

– Ну, па-першае, паненка, як вы ўпэўніліся, не мае жадання бачыць вас ізноў, – адказвае той спадар, – а па-другое, гэтая паненка зусім не паненка, а пані: яна замужам, гэта – мая жонка! Цяпер вы задаволены?

– Яна. што? яна – ваша жонка?

– Напраўду, яна – мая жонка, – рыкнуў ён у адказ. Цяпер вы мяне разумееце?

Жонка, ягоная жонка!

Пра што тут далей расказваць? Я проста апусціўся на лаўку Гэта быў смяротны ўдар! Я заплюшчыў вочы і адпусціў гэтага чалавека; што тут можна было зрабіць, калі сонца майго шчасця зайшло назаўжды!





Я праседзеў на той лаўцы некалькі гадзін запар, мяне апанавалі самыя змрочныя, самыя балючыя думкі.

Недзе апоўдні я пайшоў у гатэль, аплаціў рахунак і непрыкметна падаўся да чыгуначнай станцыі Пасля гадзіны чакання прыйшоў мой цягнік, і я ад'ехаў, выпетраны і прыгнечаны, прыціснуты да зямлі тым болем, што пёк мяне пасля ўсю дарогу дадому

Кошык са старымі рэчамі, куплены мною ў Кальмары, я там і пакінуў.

Бачыш, нешта заўсёды стаіць упоперак дарогі. Так блізка да поспеху, як сёння, я яшчэ ніколі не быў, і ўсё ж мае надзеі сталіся марнымі. Я не шкадую сіл, мяне не палохаюць ніякія падарожжы, ніякія выдаткі, і ўсё-такі... І ўсё-такі нічога мне ўжо не можа дапамагчы.

Гэта – лёс!

І тут анічога не зробіш.

1892

**Пераклаў з нарвежскай**
**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

*Пераклад зроблены з выдання:*
*Hamsun K. Samlede verker, bd. 4. Oslo, 1935.*

---

[1] Інграм Джозэф Г. (1809—1860) – паўночнаамерыканскі пісьменнік, аўтар раманаў на біблейскія тэмы.

[2] Кронберг Ю. (1850—1921) – шведскі мастак-жывапісец.

[3] Гістарычная Царыца Саўская была ўладаркаю старажытнай дзяржавы Сава ў Паўднёвай Аравіі (X ст. да н.э.).

[4] Эрэ – шведская дробная грашовая адзінка (100 эрэ роўныя адной кроне).

[5] Golvyta (шведск.) – "паверхня падлогі", звычайны надпіс на шведскіх чыгуначных вагонах, абазначае іх умяшчальнасць.

[6] Сконэ – мясцовасць у Швецыі.

[7] Рыксдаг – парламент у Швецыі.

[8] Нільс Юэль (1629—1697) – дацкі адмірал, які вызначыўся ў бітвах датчан і нарвежцаў супраць шведскага флоту.

[9] Густаў Адольф, кароль Швецыі, загінуў у бітве пры Люцэрне (1632 г.).

[10] Эйнар, які памянёны вышэй Кольбайн Дужы, быў адным з герояў "Старэйшай Эды", скандынаўскага эпасу пачатку XIII стагоддзя.

[11] Гаворка ідзе пра бітву датчан з англічанамі ў 1801 годзе.

[12] Пінкі Яабэка – вельмі папулярныя ў свой час у Скандынавіі пінкі, выробленыя ў форме выявы галавы вядомага тагачаснага нарвежскага палітычнага дзеяча Сёрэна Педэрсена-Яабэка (1814—1894).

**каханне паказана ва ўсіх складовых квантах; яно дзеліцца і зноў збіраецца ў адно, увасабляецца ва ўсёй працягласці свайго ўладарання над чалавекам. Мабыць, у XX ст. адно Марсэль Пруст ды Стэфан Цвэйг наблізяцца ў гэтым да Гамсуна; аднак гамсунаўскае бачанне кахання непаўторна-гамсунаўскім і застанецца. Напрыклад, у Пруста, кажучы яго ж словамі, "каханне становіцца нечым вялізным, але мы і не думаем пра тое, якую маленькую ролю выконвае ў ім рэальная жанчына...". Для прустаўскага героя каханне – гэта тое, што ім, закаханым, створана, што прыўносіцца ва ўласную пачуццёвую сферу і, у рэшце рэшт, у прадмет захаплення – каханую. Яна – ягоны твор, плён яго фантазіі і тэмпераменту, "адваротная праекцыя", негатыў мужчынскіх да яе адносінаў. Адсюль і частыя сентэнцыі персанажа накшталт наступнай: "само каханне здавалася не рэальным фактам... а толькі суб'ектыўнай асалодай". У Гамсуна ж каханне цалкам інакшае – не халодна-філасофскае, не адчужана-рацыянальнае; яно забірае чалавека ўсяго, не пакідаючы ніводнага вольнага ад сябе закутка душы. Для Пруста "існуе чароўны закон прыроды, які дзейнічае ў самых складаных грамадствах і згодна з якім мы жывём, зусім нічога не ведаючы пра істоту, якую мы кахаем". Формула гэтая, відавочна, не універсальная. У гамсунаўскіх творах каханне не сузіральнае; у каханні Ён – толькі адна з двух раўнаважкіх канстант, поруч з Ёй. Пры гэтым Яна – не прыдумана-штучная, не "эстэтызаваная", як у Пруста, а жывая да болю, і пачуццё да Яе ніякімі варункамі не можа быць зверадавана ці вычарпана. Пруст напіша аб каханні: "Нельга лічыць пажаданым узнаўленне цуду ў гэткай небяспечнай форме". Гамсун, бадай, выказаўся б на гэты конт інакш: "Немагчыма ўзнаўленне цуду ў гэткай небяспечнай форме". Адпаведна ў Пруста каханне – феномен паўтаральны, а ў Гамсуна – адзінкавы да такой ступені, што не сам нішчыцца – закаханага нішчыць. Не-выпадкова Гамсун параўноўваў каханне з забойствам; самагубствам канчае жыццё цэнтральны персанаж "Містэрыі" Юхан Нільсэн Нагель; перад гэтым (прычым з кахання да той жа асобы – Дагні Х'елан) наклаў на сябе рукі няшчасны семінарыст Карлсэн; лейтэнант Томас Глан, галоўны герой "Пана", свядома выклікае ў спадарожніку па паляванню рэўнасць і раз'юшанасць, каб атрымаць у рэшце рэшт жаданую кулю, бо яму нельга быць з Эдвардай і нельга быць без яе; падобна на тое, што не адна цяжкая хвароба, а і немагчымасць злучыць сваё жыццё з жыццём каханага, Юханеса Мёлера, зводзіць у магілу Вікторыю. На завяршэнне тыпалагічнага эскіза "Гамсун – Пруст" згадайма словы апошняга: "Сацыяльнае наша жыццё падобнае да майстэрні мастака, поўнай незакончаных накідаў, на якіх ён думаў адлюстраваць нашу патрэбу ў вялікім каханні". У гэтым сэнсе ў "майстэрні" гамсунаўскага героя такі накід будзе толькі адзін.**

**Ва ўсіх трох творах Гамсуна перад намі – каханне-дуэль, каханне-суперніцтва, каханне-барацьба, у якой няма і не можа быць пераможцаў і якой з самага пачатку наканаваны сумны фінал. Справа не ў вонкавых абставінах, не ў**

сацыяльных варунках, што раз'ядноўваюць закаханых і асуджаюць іх на непазбежныя пакуты і расстанне, а ў характарах герояў, у чалавечай прыродзе. У заключнай з трох драм кахання сітуацыя сапраўды ўскладнена сацыяльнай падзеленасцю галоўных персанажаў: Вікторыя – дачка гаспадара Замка, Юханес – плебей, сын млынара. Але вось, здаецца, усе бар'еры спрэс знішчаны: Юханес – ужо не "бедны хлопчык з млына", а вядомы пісьменнік, кумір моладзі; трагічна абарвалася жыццё жаніха Вікторыі, шлюб з якім абяцаў выратаваць яе бацьку ад банкруцтва; Каміла, нарачоная Юханеса, да якой яго падштурхнуў адчай, пакахала іншага, – але як ніколі раней Вікторыя і Юханес далёкія адно ад аднаго. "Мне так цяжка прызвычаіцца да думкі, што ўся мая зямная доля была – нарадзіцца і кахаць вас... – прызнаецца Вікторыя ў перадсмяротным лісце. – Я не магла вам гэта паказаць, многае перашкаджала мне і больш за ўсё – мой уласны характар".

У кожным з трох раманаў адна і тая ж, і адзіная, сапраўдная гераіня – страсць, праз якую Гамсун пасвячае нас у "патаемнае", у глыбіні сэрца і свядомасці. Паступова са старонак гэтых твораў паўстаюць натуры антынамічныя, дваістыя ці нават стэрэаскапічныя, з супакладзенымі ў іх самымі рознымі, часам узаемавыключанымі, пачаткамі і іпастасямі. Свядомасць герояў то бунтуе, то спрабуе адаптавацца, рэагуе то прадказальна, то нечакана; канец жа заўсёдна трагічны: ступень індывідуальнасці, незалежнасці, "самасці" персанажа (Нагеля, Глана, Юханеса) гэткая, што не можа абсарбіравацца ні грамадскімі, ні прыватнымі стасункамі, бо гэтыя персаналізаваныя стасункі (Дагні, Эдварда, Вікторыя) па названых вышэй якасцях не саступаюць грамадскім.

Дастаткова відавочная і яшчэ адна рыса характараў і паводзінаў гамсунаўскіх герояў – хваравітасць, разумець якую трэба не толькі літаральна, хоць такі аспект прысутнічае нязменна: апісанні хвароб, размовы і нават дыскусіі вакол іх займаюць значнае месца ва ўсіх творах. Справа, аднак, не ў гэтым. Гамсун пачынаў пісаць у эпоху, адзіная перспектыва якой многім бачылася ў апакаліпсісе, у час, кажучы словамі Ніцшэ, "калі дрыжыць уся зямля", калі "Бог памёр", пакінуўшы чалавека без духоўна-маральных арыенціраў. Хворы час – хворыя людзі. Іх свядомасць і падсвядомасць мусяць віраваць у пошуку калі не шляху, то хоць выратавальнай сцежкі. (Напэўна, ёсць сімвалічны сэнс у тым, што менавіта ў канцы XIX – першай палове XX стст. сфармаваліся славуты псіхааналіз Фрэйда, аналітычная псіхалогія Юнга і іншыя філасофска-псіхалагічныя сістэмы.) Прыгадайма "Запіскі з падполля" Дастаеўскага: "Клянуся вам, панове, што лішне ўсведамляць – гэта хвароба...".

Гамсунаўскі "ўскладнёны" чалавек з тонка арганізаванай нервовай сістэмай таксама ў пэўным сэнсе "надта ўсведамляе" і для атачэння – не такі, "як усе". І геройаўтсайдэр з "Голаду", і таямнічы Нагель, пра род заняткаў якога, мінулае, крыніцы існавання, прычыны з'яўлення ў горадзе і нават сапраўднае імя мы можам хіба здагадвацца, і Глан, "істота незвычайная" нават у вачах суперніка, і летуценнік Юханес – белыя вароны, чужаніцы, усе яны не прымаюць крывадушнасці, залішне шмат мысляць і мрояць. І кахаюць залішне моцна. Тут іх паводзіны набываюць характар нават ці не неўратычны, прааналізаваць які можна хіба што "па Юнгу", чыё наступнае апісанне "пакутаў душы" можа быць – з пэўнымі карэктывамі – дастасавана, бадай, да кожнага з гамсунаўскіх герояў: "рэакцыя несвядомага звычайна суправаджаецца ўтрапёнасцю пачуццяў, раздражняльнасцю, адсутнасцю кантролю, саманадзейнасцю, адчуваннем непаўнавартаснасці, капрызнасцю, дэпрэсіямі, сполахамі гневу і г.д. у спалучэнні з выцякаючымі адсюль адсутнасцю самакрытыкі, скажонымі ацэнкамі і памылкамі". Зусім не хачу сказаць, што шлях да асэнсавання Гамсуна ляжыць толькі праз Карла Густава Юнга і тым больш не маю на ўвазе яго ўплыву на мастака на даным этапе (Юнг у 1895 г. толькі паступіць у Базельскі універсітэт, а першыя работы яго з'явяцца на пачатку XX ст.). Аднак выкарыстанне юнгіанскіх прынцыпаў для глыбейшага спасціжэння прыроды, псіхалогіі гамсунаўскіх герояў можа быць карысным.

Зразумела, гэтая надзвычай складаная праблема патрабуе спецыяльнага разгляду; абмяжуюся толькі некалькімі асацыяцыямі. У Юнга адно з вызначальных паняццяў – аніма (лац. "душа"), несвядомая жаноцкасць у асобе мужчыны. Аніма ідэнтычная звышпачуццёвасці, сентыментальнасці, падатлівасці, яе развіццё дае аб сабе знаць у адносінах да жанчын, знаходзіць праявы ў мроях, снабачаннях, персаніфікуецца ў самых розных жаночых вобразах. Найяскравейшае ўвасабленне анімы маем у гамсунаўскіх персанажах, іх паводзінах, фантазіях і снах. Цікавую матэрыю ўяўляюць сабой сны і мроі галоўных герояў усіх трох раманаў – містэрыі, насычаныя персаніфікацыямі ад міфічна-казачных жаночых вобразаў ("вечная каханая" Ізеліна ў "Пане", сляпая дзяўчына-павадыр у "Містэрыях" і інш.) да рэальных. У той жа час анімус (лац. "дух"), паводле Юнга, – несвядомае ў асобе жанчыны, персаніфікаванае ў прынцыпе Логаса. Атаясамліванне з Логасам цягне за сабой схільнасць жанчыны да спрэчак і пярэчанняў, а таксама ўпартасць і жорсткасць, – усё гэта ўласціва гамсунаўскім гераіням. У кнізе "Псіхалагічныя тыпы" Юнг дае ілюстрацыі да псіхалагічнага закону (апісанага яшчэ Гераклітам), згодна з якім усё рана ці позна ператвараецца ў сваю процілегласць: Павел прымае хрысціянства, "антыхрысціянін" Ніцшэ бачыць сябе ў час хваробы Хрыстом, яшчэ раней ухвалы Вагнеру Ніцшэ зменіць на варожасць да яго, вучоны Сведэнборг ператвараецца ў празорцу і г.д. Здаецца, той жа закон кіруе і гамсунаўскімі гераінямі, у якіх пастаянна толькі непастаянства, асабліва Эдвардай і Дагні, гэтымі "бурыданавымі асламі" (адзін з улюбёных юнгіанскіх вобразаў), што ніяк не зробяць апошняга кроку, але і не адпускаюць, вабяць і адначасова адштурхоўваюць, абдаюць хваляmі то пяшчоты, то нянавісці, то прызнаюцца ў бязмежным каханні, то асыпаюць абразамі. Паводзіны гамсунаўскіх герояў багатыя на неадэкватныя ўчынкі, учынкі-казусы: пакрыўджаны абыякавасцю Эдварды Глан, не валодаючы сабой, пачынае дэманстраваць перад дамамі калекцыю штучных мух; а вось на яго зноў "нешта найшло", і ён на вачах разгубленых спадарожнікаў хапае і кідае ў ваду чаравік Эдварды; вось зняважаны яе параўнаннем з кульгавым доктарам Глан прастрэльвае сабе нагу; вось, у адказ на просьбу Эдварды пакінуць ёй на памяць сабаку, ён забівае свайго ўлюбёнца, каб паслаць Эдвардзе ягоны труп; а яшчэ раней ён учыняе наогул нешта неверагоднае: пасярод балю, публічна, плюе ў вуха свайму суперніку, барону. Гэтыя і падобныя да іх афектыўныя ўчынкі, натуральна, не могуць не выклікаць аналогій з Дастаеўскім, з тым жа Мікалаем Стаўрогіным, які ў дваранскім сходзе бярэ пана Гаганава за нос ды такім чынам праводзіць яго праз усю залу.

Нарэшце, яшчэ цытата: "Рэзкая змена настрояў, захапленне нечуванымі магчымасцямі, скокі з крайнасці ў крайнасць, ад вяршынь экстазу да глыбінь адчаю, упартая аднабаковасць, то невытлумачальная разумовая слепата, то дзіцячая даверлівасць да ілюзій, – усё гэта чыста хваравіты стан". Дастасуецца характарыстыка да таго ж Глана або Нагеля? Яшчэ як дакладна. А сказана, між тым, пра Ніцшэ (К. Ясперс, "Ніцшэ і хрысціянства"). Вось і ўсплыло імя, носьбіт якога сапраўды аказаў бясспрэчны ўплыў на Гамсуна, нябачным героем прайшоўшы ці не скрозь бальшыню яго твораў, засведчыўшы сваю прысутнасць і ў псіхалогіі персанажаў нарвежскага пісьменніка, у іх татальнай беспрытульнасці і адзіноце, адшчапенстве і супярэчлівасці, экзальтаванасці і роднасці з прыроднымі стыхіямі.

Падзейны аспект гамсунаўскага расповеду – другасны; асноўнае ж, першаснае ў ім – свет пачуццяў з іх такімі трагічнымі і адначасова – такімі салодка- захапляльнымі прыгодамі. Другаснасць сюжэта Гамсун праклямуе ў розных артыкулах, да прыкладу: "Такая літаратура, у якой безумоўна перавага аддаецца знешняму, падзейнаму боку, па сутнасці, ёсць не што іншае, як забаўляльная чытанка. Гаворачы аб гэтым так рэзка, я некалькі згушчаю фарбы, аднак іду на гэта цалкам свядома... Літаратура, аснову якой складае развіццё сюжэта, па самой сваёй прыродзе адводзіць героям не больш духоўнасці, чым таго патрабуе спагнанне доўгу ці плаванне ў Рыа" ("Нарвежская літаратура"). Магчыма, з надання сюжэту другаснасці вынікае некаторая (не выключана – наўмысная) паўтаральнасць кампазіцыйнастылявых рашэнняў. Напрыклад, усіх герояў-мужчын лёс па волі аўтара сутыкае з некалькімі жанчынамі (Нагель – Дагні, Марта, Кама; Глан – Эдварда, Ева; Юханес – Вікторыя, Каміла), непаўторнымі натурамі з індывідуальным уяўленнем аб каханні. Тое ж і з жанчынамі: Дагні – Карлсэн, Хансен, Нагель; Эдварда – доктар, Глан, барон; Вікторыя – Юханес, Ота і г.д. Паўтараюцца і шматлікія "выпрабавальныя" для персанажаў сітуацыі.

Філіграннае псіхалагічнае майстэрства Гамсуна закранула самыя розныя вербальна-мастацкія кампаненты твора. Не ў апошнюю чаргу гэта датычыцца дыялога. Чалавек, як вядома, адкрываецца і здзяйсняецца ў дыялогах трох відаў – з прыродай, Богам або рознымі формамі духу і, нарэшце, з іншымі людзьмі. У Гамсуна прысутнічаюць усе тры віды дыялогаў, часта – у непарыўнай злітнасці. Дыялог у яго выконвае функцыю нашмат складанейшую за традыцыйную камунікатыўную. Апантаныя каханнем героі прамаўляюць зусім не адпаведныя стану словы; фігуры ўмаўчання даносяць больш за рытуальны абмен фразамі, – так у гамсунаўскай паэтыцы ўвасабляецца дынаміка свядомасці і падсвядомасці, дыялектыка чалавечага пачуцця. Значная ўвага, насуперак традыцыйнаму для таго часу ўзбуйненаму рэалістычнаму малюнку, надаецца дэталі. У вышэйшай ступені адпавядае гамсунаўскаму псіхалагізму і універсальная апавядальная манера пісьменніка, якая не можа быць зведзена да якогасьці аднаго стылю і ўбірае ў сябе элементы рэалізму, натуралізму, сімвалізму і, найперш, імпрэсіянізму. Проза Гамсуна імпрэсіяністычная, так бы мовіць, прынцыпова, канцэптуальна. Праз гэтыя і многія іншыя навацыі псіхалогія ў гамсунаўскай выяве паўстала шматмернай і драматычнай у глыбокім сэнсе гэтага слова; яе мастацкае даследаванне аказалася выведзеным на новы ўзровень, каб з цягам часу пацвердзіць сваю перспектыўнасць і знайсці развіццё ў наступнікаў, у новых літаратурных школах і накірунках.

Ева ЛЯВОНАВА

# РАЗМЫКАННЕ КОЛАЎ

*Гамсун і беларускі шлях: досвед паралельнага прачытання*

Ідэалагема "беларускага шляху" ўсё часцей параўноўваецца з яе варыянтамі ў Ірландыі, Чарнагорыі, Нарвегіі. Паралелізм шляхоў абумоўлены падабенствам гістарычнай драмы, якую перажылі або перажываюць народы названых краін. Падабенства шляхоў адмысловым чынам увасабляецца ў літаратурах: праз тыпалогію знакаў, сімвалаў, сюжэтаў, архетыпаў. Досвед адной з літаратур можа стацца прароцтвам для іншай. Або карэкціравацца досведам іншай.

Гістарычныя дэкарацыі, пры якіх адбываліся нарвежская і беларуская літаратуры, параўноўваюцца без напругі. Прыгадаем нарвежскія рэаліі. Пяць стагоддзяў напаўкаланіяльнай залежнасці ад Даніі, пасля Швецыі. Унія 1814 года, што замацавала гэтую залежнасць. Нацыянальны рух, што абярнуўся выбухам пасіянарнай актыўнасці на пачатку XX стагоддзя і прынёс незалежнасць Нарвегіі ў 1905 годзе. Рэферэндум таго ж года, які ўзаконіў у краіне манархію. Беларускія паралельныя рэаліі, дзеля іхняй агульнавядомасці, можна не пералічваць.

Аналагічна склаўся лёс нарвежскай і беларускай моў, якія ў XIX стагоддзі ўспрымаліся найчасцей як вясковая, слабаапрацаваная гаворка. Пісьменнікі, што працавалі з імі, стваралі не толькі нацыянальныя літаратуры, але і нацыянальныя літаратурныя мовы. Такім патужнікам у нарвежцаў стаўся Генрык Ібсен.

Барацьба з неспрыяльнымі абставінамі, пераадоленне гістарычнага фатуму, перакладзеныя на мову метафараў і сімвалаў, расчытваюцца як пошук выйсця з замкнёнага або зачараванага кола, прарыў кола. Шлях і кола, шлях цераз кола, шлях, замкнёны ў кола, – улюбёныя пабудовы літаратараў-сімвалістаў, што імкнуліся прарвацца ў запаветную сферу трансцэндэнцыі. Прарыў кола на кожнай з моваў азначае папярэдняе звышнамаганне, звышвысілкі, а далей – пасіянарны ўсплёск, выбух, імгненнае пераадоленне адлегласці.

Даследчыкі нарвежскай літаратуры кажуць пра "сціснутасць", канцэнтраванасць нарвежскай літаратуры па прыходзе ў яе Генрыка Ібсена, Б'ёрнст'ернэ Б'ёрнсана. Літаратуразнаўца Віктар Каваленка адзначае "паскоранасць" беларускай літаратуры на пачатку XX стагоддзя. У абодвух выпадках з'ява азначае канцэнтраванасць літаратурнага працэсу, калі за адно – два дзесяцігоддзі засвойваецца досвед некалькіх літаратурных эпох, пераплаўляюцца найноўшыя літаратурныя адкрыцці. Гэткім чынам і ў нарвежцаў, і ў нас былі засвоены і пераасэнсаваны еўрапейскі дэкаданс, мадэрновыя навацыі. Выспелі ўласныя мадыфікацыі літаратурнага пошуку.

Феномен паскоранасці ў тым, што пераход ад рэалізму да дэкадансу і ад дэкадансу да мадэрнізму, які адбыўся ў стамлёнай Заходняй Еўропе, на яе ўсходзе, поўначы і ў цэнтры, сутыкнуўся з пасіянарнай нястрымнасцю творчых інтэлігентаў-адраджэнцаў (у Чэхіі, Польшчы, Беларусі, Украіне, Нарвегіі, Літве ды інш.). Працэс спарадзіў адмысловы тып мастака, сацыяльна або нацыянальна заангажыраванага, але чуйнага да літаратурных навацыяў, "будзіцеля" паводле тэмпераменту і сінтэтыста паводле творчай палітры.

Вельмі часта гэта былі сялянскія дзеці, самавукі, чыё юнацтва, споўненае барацьбой за фізічнае выжыванне, мазольнай працай дзеля кавалка хлеба, вандроўкамі і пераменамі занятку, выглядала як замкнёнае жыццёвае кола. Творчае "я" шукала выйсця праз апантанае і бессістэмнае чытанне, самаадукацыю, першыя эклектычныя літаратурныя вопыты.

"Школу жыцця", якую можна назваць "колам жыцця", прайшоў і Кнут Гамсун, сын вясковага краўца, партовы рабочы, абшчынны пісар, хатні настаўнік, вандроўны гандляр ("каравачнік"), памочнік ленсмана, дарожны рабочы, журналіст, кандуктар трамвая ў Чыкага, найміт на ферме ў Паўночнай Дакоце... Чытаў усё, што траплялася пад руку, і, між іншым, творы найноўшых пісьменнікаў ды філосафаў – А. Стрындберга, Э. Хартмана, А. Шапэнгаўэра, С. К'еркегора.

"Чытаць кнігі я пачаў рана. Памятаю яшчэ ў Прудзішчы, калі бацька адпраўляў мяне з сястрой у начное (начлег) пасвіць коні, я браў з сабою кнігі і пры святле вогнішча альбо месяца чытаў. Вядома, не абыходзілася без таго, што я засынаў, а коні траплялі ў шкоду. Разумеецца, бацька за гэта мяне не шкадаваў і часцяком не даваў мне браць з сабой кнігі. Вядома, чытаў я без разбору, усё, што магло трапіцца пад руку ў глухой правінцыі, – ад "Северо-Зап. календаря" да "Філасофіі польскай гісторыі", – гэта піша пра сябе беларускі пасіянарый, сын збяднелага шляхціца, хатні настаўнік (дарэктар), пісар у судовага следчага, малодшы прыказчык у памешчыка, памочнік вінакура на бровары, бібліятэкар – пакуль не стаўся літаратарам, Янкам Купалам.

Досвед бязладнага чытання мабілізуе творчую волю мастака, які мусіць у сціслы час прарабіць тое, што зрабіла за тысячы гадоў цывілізацыя, – упарадкаваць здабытае, прывесці да сістэмы. Адбор адбываецца па-за існаваўшымі сістэмамі, без піетэту перад аўтарытэтамі – уласны. Гамсун у спавешчаннях "Нарвежская літаратура", "Псіхалагічная літаратура", "Модная літаратура" абвяшчае бездапаможнасць традыцыйнага рэалізму і з сумнівам выказваецца пра мастацкі досвед чатырох нарвежскіх класікаў – Ібсена, Б'ёрнсана, А. Х'елана і Ю. Лі.

Купала ў слынных лістах да Клейнбарта шчыра распавядае пра свае колішнія сімпатыі ды антыпатыі і, у прыватнасці, пра часткавае непрыманне Пушкіна: "Тое месца, дзе ён дзесьці згадвае пра "чэрнь", мне не асабліва падабалася, абражала". Кола ўлюбёных аўтараў, пералічаных Купалам, амаль не змяшчае ў сабе рэалістаў: тут рамантыкі Славацкі, Міцкевіч, Лермантаў, Байран, Шылер, дэкадэнты Пшыбышэўскі, Андрэеў, Салагуб, Гаўптман. І нарвежцы: Гамсун, аўтар п'есы "Каля брамы імперыі" і Генрык Ібсен з ягонымі "Брандам", "Будаўніком Сольнесам", "Жанчынай з мора".

Прыцягненне дзвюх творчых асоб не вытлумачваецца агульнай літаратурнай модай – Купала досыць крытычна ставіўся да многіх эстэтычных навацыяў і не любіў "хадзіць на паклон" да навaспечаных мэтраў. Блізкасць праглядаецца на ўзроўні светаадчування, бачання Сусвету і чалавека ў ім. Чалавека перадусім прыроднага, перапоўненага жыццёвымі клёкамі, чалавека, падуладнага таямнічым поклічам маткі-прыроды. Адсюль – абвешчаны пантэізм Гамсуна: "Я кроўю адчуваю, што звязаны з усім існым, з усім элементарным. Магчыма, аднойчы... людзі перастануць быць людзьмі і стануць істотамі... якім не трэба будзе любіць іншую істоту, якія павінны любіць што заўгодна – ваду, агонь, паветра".

Адсюль і язычніцкі тэмперамент Купалы, што быў "як агонь, як вада", адсюль міфалагізм ягоных паэтычных зборнікаў "Гусляр" і "Шляхам жыцця". Купалаўская міфатворчасць складаней за наіўны этнаграфізм, які не вытлумачыш маладосцю літаратуры, блізкай да фальклорных каранёў. Купала міфалагізаваў новы Сусвет, з ягонай дысгармоніяй, вытокі якой хаваюцца ў глыбінях трансцэндэнцыі.

Мікрасвет "натуральнага" чалавека не менш загадкавы і багаты на праявы, чым макрасвет. Але суверэннасць чалавечага "я" абарочваецца страшэннай адзінотай, ад якой пакутуюць героі-індывідуалісты гамсунаўскіх раманаў "Голад", "Містэрыі", "Пан". Іх мройнае ўнутранае быццё, створанае з элементарных перажыванняў (голаду, любоўнай млосці, агрэсіі) ды з менш праяўленых, таямнічых імпульсаў, таксама ўтварае замкнёнае кола.

Герой купалаўскай драматычнай паэмы "Сон на кургане" Сам блукае ў коле ўласных трызнаў, якія вядуць яго то ў пушчу з русалкамі, то на зачараванае замчышча, то на пажарышча, то ў шынкоўню. Сон доўжыцца да апошняй дзеі паэмы – кола не разамкнёнае. Імя персанажа – "Сам" – азначае перадусім "адзін", "адзінокі", "самотны".

Гамсунаўскія індывідуалісты або адкрыта варагуюць з грамадствам, або вядуць замкнёнае, паралельнае існаванне. Кволаму, сярэднестатыстычнаму прадстаўніку соцыуму ў гамсунаўскай прозе проціпастаўленыя моцныя, надзеленыя звышвітальнасцю асобы – версіі ніцшэанскага звышчалавека. "Я верую ў прыроджанага ўладара, у дэспата паводле прыроды, у валадара, які робіцца праваадыром вандроўных хеўраў! Я верую ў вяртанне найвялікшага тэрарыста, квінтэсенцыю чалавека, Цэзара!.. Я смяюся з адвечнага міру і заклікаю вайну, няма чаго клапаціцца пра захаванне нейкіх там жыццяў!" – пад гэтым маналогам Івара Карэна з п'есы "Каля брамы імперыі" мог бы падпісацца і ніцшаўскі Заратуштра.

Купалаўскі Сам не менш грэбліва ставіцца да безаблічнага мізэрнага натоўпу:

*Людзі!.. Што людзі? Ці ёсць дзе між іх*
*Годны адзін хоць у людзі:*
*Мутнасцю, трупам нясе ад усіх,*
*Пошасцей поўныя грудзі.*

З ніцшэанскай ідэяй "памерлага бога" перагукаецца наступны пасаж Сама: "К богу звярнуўся – маўчыць нема бог"...

Марна спрабуюць знайсці паразуменне з натоўпам купалаўскія героі месіянскага кшталту – Прарок з аднайменнага верша, князь з паэмы "На Куццю", Незнаёмы з "Раскіданага гнязда". І мусяць сыходзіць у адзінокае, мройнае, "паралельнае" існаванне.

Гэтак нечакана трансфармуюцца асобныя рысы купалаўскага рамантычнага героя, калі прымераць да яго тогу "звышчалавека". Зрэшты, "новы рамантызм" пачатку дваццатага стагоддзя фармаваўся пад моцным уплывам ніцшэанства – усюды.

Бязмежная адзінота "звышчалавека" або таго, хто прэтэндуе на звышчалавецтва, – таксама замкнёнае кола. Ягонае размыканне можа абярнуцца стратамі, расчараваннем, нарэшце, катастрофай. Альбо – вызваленнем. Купала прадбачыў абодва варыянты. Беларускі дух перажывае сімвалічнае разняволенне, пазбаўляецца путаў зямной экзістэнцыі ў вершы "І вецер, і сокал, і я...". Сам абуджаецца ад трызны ў самым фінале драматычнай паэмы і бачыць жонку, змерзлую каля ўвахода ў шынок. "Звышгерой" Машэка з "Магілы льва" пераступае цераз чалавечыя і Боскія законы, крывава помсціцца ўсяму свету і гіне ад рукі Наталькі.

Чалавецтва яшчэ не зведала перараджэння "звышчалавека" ў "звышдэспата", яшчэ не адбылася фашызацыя ніцшэанства – а Купала ўжо засцерагаў пра тыя катастрафічныя наступствы, якімі абарочваецца прага сацыяльнай помсты або гвалтоўнае ажыццяўленне размаітых праектаў "выратавання" або "аздараўлення" цывілізацыі.

Часам крытыкі Гамсуна наўпрост выводзяць фінал ягонага жыццяпісу – падтрымку нарвежскага фашызму, ухваленне акупацыі Нарвегіі, інакш кажучы, калабарацыянізм, – з логікай ягонага творчага шляху. Калабарацыянізм Гамсуна, мара пра "моцную асобу" вынікае з дэградацыі той ідэалагемы, якую насілі ў сабе Нагель, Глан, Карэна, гавораць яны.

Але не выключана, што Гамсун-мастак адчуваў згубнасць гэтай ідэалагемы сам, пра што ўскосна сведчыць сімвалічная назва рамана, напісанага ў тым самым фатальным 1936 годзе: "Кальцо замыкаецца". Тое, што жыццёвы шлях не супадае з творчым, ёсць феномен асаблівых узаемастасункаў жыцця і мастацтва, вонкавых акалічнасцяў.

Землякі пісьменніка ўзяліся пасвойму разамкнуць кола, у якім заблукаў, на іхнюю думку, амаль дзевяностагадовы літаратар. Быў вядомы судовы працэс 1948 года, сімвалічныя вырок і пакаранне. Ясна, што мастацкую праблему, якая часам уяўляе з сябе фантастычна складаны згустак супярэчнасцяў, такім шляхам развязаць немагчыма.

Думаецца, што спроба разам-

кнуць кола была зробленая Гамсунам раней – і абярнулася нобелеўскім творам, раманам “Плёны зямлі”.

Селянін з біблейскім імем Ісак абрабляе лясную пустку; на зямлі, з яе плёнаў узводзіць будынак уласнага дабрабыту, падымае сям'ю, дае шлях дзецям. Фабула гэтага твора магла б падацца банальнай, ягоная ідэалагема – дыдактычнай і старасвецкай, калі б не той філасофскі універсалізм, з якім Гамсун трактуе стасункі чалавека і зямлі.

Купала ў паэме “Адвечная песня” трактаваў зямное быццё Мужыка як замкнёнае кола і прымушаў героя, пасля ягонай смерці, паўстаць з магілы бесцялеснай зданню – у апошняй спробе пераадолець фатум існавання. Гамсун не бачыць трагедыі ў прыкутасці чалавека да зямлі – усё жывое жывіцца зямнымі сокамі, чалавек таксама. Зямля, глеба – невычэрпная крыніца вітальнасці.

У гэтым пункце філасофія Гамсуна стаіць бліжэй да пазіцыі Якуба Коласа, які вуснамі свайго персанажа Міхала сцвярджаў: “Свая зямля – вось што аснова”. Тыпалагічным супадзеннем можна лічыць тое, што адзін з сваіх раманаў нарвежац таксама назваў “Новая зямля”.

Апантанасць зямлёю, фізічнае суіснаванне з ёю – кардынальная тэма, якую распрацоўвае беларуская літаратура. Селянін за плугам – яе Сізіф, які марна рухае камень экзістэнцыі.

“Гаспадар усё цягавіта і цярпліва, як вол у ярме, пагукваў на свайго каня, конь пяўся, выцягаўся, як мокрая п'яўка. Гэтак яны ўдвух поўзалі па гэтай камяніцы, аж пакуль не прыгнуўся сашнік, скрыгануўшы аб падземны камень, і не парваўся пастронак. Конь, відаць, прывык даўно да гэтай радасці: ён адразу спрытна, не па гадах і сіле сваёй, падаўся назад, але раптам зноў звяў. Пакуль сабраўся нагнуцца і, уціснуўшы ў зямлю губы, згрызці травы, доўга стаяў, аддыхваючыся і спусціўшы мысу пад свае ногі. Адна нага папстрыквала ў калене, сама па сабе, як на спружыне, пакуль ён не аддыхаўся. Гаспадар, угнуўшыся, звязваў пастронак. Пасля, падняўшы плуг і ўпёршы яго ў камень сашнікам, пачаў біць другім каменем зверху: адгінаў. Ён стараўся як мага шпарчэй зрабіць гэта: сонца стаяла высока, недалёка было да паўдня, а ён усяго некалькі разоў прайшоў з плугам. Неўзабаве ён зноў прычапіў плуг да барка і адарваў каня ад салодкага забыцця. Цяпер яны прайшлі ўсяго адзін раз, і то не да канца: конь не браў больш. Гаспадар выцягнуў плуг з зямлі і пусціў плытчэй. Конскіх сіл хапіла на тое, каб паволі паўзці, але пастронак зноў трэснуў. Араты абліваўся потам. Ён сарваў з галавы шапку і кінуў на зямлю. Пасля скінуў з сябе камізэльку. Конь зноў павярнуўся ўбок грызці траву”. Гэтае невыносна доўгае, пакутлівае апісанне з рамана “Бацькаўшчына” Кузьмы Чорнага. Сваю камяніцу, абліваючыся потам, узворвае Леапольд Гушка. Ранейшая крытыка рабіла з твора чыста сацыялагічныя высновы, не зважаючы на назву твора. А яна кажа пра універсалізм паняцця “зямля”.

Беларус трымаецца за сваю зямлю, як расліна карэннямі – за глебу. Адсюль “тутэйшасць” – ідэалагема беларускага шляху, які ў канчатковым пункце ёсць вяртаннем да зямлі, да Бацькаўшчыны. На жаль, “тутэйшасць”, як яе разумелі літаратары следам за Багушэвічам і Купалам, – прамежкавая стадыя, палова кола.

Сёння, калі параўнаць беларускі шлях з нарвежскім, навідавоку незавершанасць і непрадказальнасць першага. Беларуская нацыянальная драма, якая шмат агульнага мела з нарвежскай (у яе экспазіцыі), яшчэ не перажыла свае кульмінацыі. Літаратурны досвед Гамсуна паказвае магчымыя варыянты: спадзяванне на моцную ўладу, на ўладара-месію з наступным расчараваннем. Альбо вяртанне да зямных вытокаў, да “глебы”, з наступным “дабудоўваннем” нацыі, фармаваннем нацыянальнага фундаменталізму. Але гэта адно версіі, якія могуць спраўдзіцца або не, прычым кожная тоіць у сабе небяспеку.

Беларускі шлях – у яго асэнсаванні літаратарамі дый філосафамі палягае ў руінах і завалах, і нешта бракуе ахвотнікаў вызваляць яго ад камянёў. Творчыя памкненні, імпульсы літаратараў не збіраюцца ў фокус, яны раскіданыя ў перыферыйныя сферы, бы веер. Магчыма, гэта вынік “паскоранага” ўваходжання беларускага пісьменства ў стадыю постмадэрнізму. Але і на гэтай стадыі давядзецца дбаць пра беларускі шлях. Кола не прарванае – яно яшчэ не паспела замкнуцца.

Пятро ВАСЮЧЭНКА

# Плач без слёз

*Прысвячаю Вользе*

1

Кнут Гамсун пачынаў сваё вялікае жыццё еўрапейскім правінцыялам, а скончыў яго сусветным ізгоем.

2

У маладосці двойчы пабываў у Амерыцы – краіне, якая выратавала яго ад галечы і абудзіла ў ім творцу. Праўда, ніколі ўхвальна не гаварыў пра гэта, бо не любіў Амерыку. Прычына нелюбові – грошы. Еўрапейскаму правінцыялу, калі ён у душы паэт, такое даруецца. Існавала й яшчэ адна прычына антыамерыканізму – дэмакратыя. На гэты конт безапеляцыйна заўважыў: дэмакратыя – улада самых горшых. Аднак жа вакханалія даляра найбольш абурыла маладога нарвежца. Ён проста-такі ўзненавідзеў саму сутнасць Амерыкі – жоўтага д'ябла, таму, вярнуўшыся на радзіму, акрамя сваёй гнеўнай публіцыстыкі, вырашыў яшчэ напісаць і “антыамерыканскі” раман – гэта значыць, такую мастацкую кнігу, якая поўнілася б “нянавісцю да Мамоны”.





У 1890 годзе такая кніга была створана – раман “Голад” – сімфонія пра нарвежскага Донкіхота, які верыць больш людзям, чым вэксалям і распіскам, якому лягчэй забіць сябе, чым прызнаць сваё непрагляднае жабрацтва; плач без слёз пра беднага Апалона, паэта-вандроўніка, якога нясцерпны голад прымусіў за некалькі крон прадаць старызніку сваю ліру...

Дык вось, ліра ў старызніка, пра вершы няма чаго й думаць, таму паэту-вандроўніку застаецца адно – пісаць артыкулы для газеты, каб атрымаць на хлеб усё тыя ж некалькі крон.

Дарэчы, на працягу ўсяго апавядання гаворка ніколі не заходзіць пра сотні і тысячы[1] – толькі пра біялагічна неабходныя некалькі крон. Грошы – не мэта разбагацець, а толькі сродак пазбыцца голаду. Вось гэта й ёсць антыамерыканскі пафас, калі грошы не мэта, а толькі сродак, калі ім адведзена не рацыянальная, а біялагічная роля...

3

“Голад” – своеасаблівая музыка годнага індывідуалізму, паэзія рыцарскай роспачы, у якой крытыка хрысціянства прысутнічае як адна з неабходных формаў існавання. Амаль паводле Ніцшэ.

За свае жыццёвыя няўдачы нарвежскі Донкіхот гневаецца на Бога, нават зневажае яго, аднак жа сам не адпавядае ніцшэанскаму вобразу “звышчалавека”, – бо надта слабы ў сваім гневе, хваравіта-ірацыянальны.

4

Раман літаральна наскрозь прасякнуты ірацыяналізмам, калі так можна сказаць – неразумнай логікай. Асноўны з “неразумных” матываў кнігі ў тым, што нарвежскі Донкіхот абыякавы да грошай. У гэтым сэнсе гамсунаўскі герой зусім не падобны на герояў, скажам, класічнай французскай прозы, – і з гэтай прычыны, дарэчы, “Голад” можна лічыць і “антыфранцузскім” раманам...

Свет існавання – імпульсіўны. Паводзіны алагічныя. Нарвежскі Донкіхот спрабуе, напрыклад, пісаць артыкул на халоднай начной вуліцы, прытуліўшыся да ліхтара; кусае палец і сваю адарваную кішэню, а таксама смокча кавалачкі дрэва, каб заглушыць голад. Уночы радуецца дзіўнаму, прыдуманаму ім самім, слову “Кубоа”, а ўдзень, ушчэнт стомлены, горача пераконвае сябе, што ежа прыносіць толькі шкоду. Падуладны бясконцым трызненням, на кожнай старонцы паперы, на якой збіраўся пісаць сваё новае эсэ, выводзіць незразумелую лічбу ці дату “1848” і сваю каханую называе таксама незразумелым, хоць і прыгожым імем – Ілаялі...

Пералік ірацыянальных учынкаў і дзеянняў можна доўжыць і доўжыць.

Раптоўнае пачуццё да Ілаялі – імправізацыя на тэму магчымага кахання, але, відавочна, не на тэму магчымай сям'і, дому, дабрабыту. Развітанне з Ілаялі адбываецца зноў жа нелагічна – у той самы момант, калі, здавалася, Гіменей ужо аб'яднаў два маладыя памкненні.

Зрэшты, у гэтай нелагічнасці развітання схаваны слушны падтэкст: каханне заўсёды завяршаецца расчараваннем. Асабліва, калі паэт кахае даму з буржуазнымі замашкамі. І таму, каб не спазнаць яшчэ і атруты гэтага расчаравання, лепей за ўсё, адыходзячы, пакінуць сваё каханне без апошняга пацалунка, але з велікадушным кампліментам: “Якое ты цудоўнае!”

5

Існуе літвыкладчыцкая догма: голад для Кнута Гамсуна толькі нагода для фантазій, хваравітых уяўленняў, паэтычных мрояў.

Магчыма.

Але больш верагодней тое, што голад паводле антыамерыканіста Гамсуна (удакладню: той голад, ад якога не паміраюць, а пакутуюць) – філасофская процілегласць сытасці.

6

Які ўсё ж такі тып раманнага героя будзе асноўны ў прозе новага стагоддзя?

Можа, амерыканскі (імкненне да грошай і моцнай сям'і)?

Ці французскі (таксама імкненне да грошай, але са схільнасцю да адзюльтэра)?

Ці нямецкі (адначасова філасофія і філістэрства)?

А, можа, рускі (прыгнечанасць гіпердзяржаўнасцю, царквою, брутальнасцю пачуццяў і пакаяннем, з якога, дарэчы, па сутнасці нічога не вынікае)?..

Ёсць яшчэ і раннягамсунаўскі[2] тып – чалавек без грошай, без сям'і, без крывадушных паводзін, брутальных пачуццяў і пакаяння. Чалавек – балючая паэзія. Вандроўнік, які верыць, што абавязкова выкупіць у старызніка ліру і прапяе зычлівай і здрадлівай Ілаялі самую пяшчотную песню кахання...

7

Я не хачу, каб у новым стагоддзі кожны значны пісьменнік пачынаўся з варожасці да Амерыкі і дэмакратыі і ўрэшце станавіўся сусветным ізгоем, але капрызна жадаю, каб раннегамсунаўскі раманны тып у прозе новай эпохі атрымаў сваю пачуццёвую перамогу.

14 ліпеня 1996

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

---

[1] Калі ж і згадваецца вялікая сума (напрыклад, 72 тысячы крон), то не ў практычным, а ў чыста летуценным варыянце. У адным з эпізодаў безыменны герой Кнута Гамсуна мімаходзь прыкідвае, што гэтай сумы хапіла б, каб перанесці(!) будынак Геаграфічнага інстытута на адну з плошчаў Хрысціяніі дзеля яе ўпрыгажэння (**Л.Д.-М.**).

[2] Назваць гэты тып нарвежскім не магу па прычыне імгненнага абрыву сусветна вядомых літаратурных нарвежскіх імёнаў – Ібсен, Б'ёрнсан, Гамсун...

# Апалёнія САВЁНАК



*Маладосьць, энэргія ды асаблїва нацыянальная сьведамасьць і ўздым перамагалі ўсе цяжкасьці.*

## *Пра Апалёнію САВЁНАК*

Яна прыйшла на свет у 1901 годзе ў засценку Аўгустова сярод маляўнічых пагоркаў Лагойшчыны. Дзед Апалёніі, Пётра Раткевіч, за ўдзел у паўстанні 1863 года быў пазбаўлены шляхецтва.

На пачатку стагоддзя сям'я Раткевічаў пасялілася ў Менску, дзе Апалёнія скончыла царкоўна-прыходскую школу і настаўніцкія курсы, пазнаёмілася з Антонам Лявіцкім (Ядвігіным Ш.) і ягонай дачкой Вандай, якія ўзялі здольную дзяўчыну пад сваю апеку.

У семнаццаць гадоў Апалёнія ўпершыню павіталася з вучнямі і з таго часу ўсё сваё жыццё заставалася настаўніцай, не пакідаючы ўлюбёнае працы і ў час навучання ў Беларускім дзяржаўным універсітэце – спачатку на педагагічным, а потым на факультэце мовы і літаратуры.

1946 годам пазначаны выдадзены Апалёніяй Савёнак у Нямеччыне першы на эміграцыі беларускі лемантар, па якім у лагерах перамешчаных асобаў вывучалі мову сотні дзяцей і дарослых.

З 1950-га разам з мужам Лявонам Савёнкам, вядомым беларускім журналістам, а затым вязнем ГУЛагу, яна жыла ў Злучаных Штатах Амерыкі. Зямная дарога Апалёніі абарвалася ў перадвелікодную суботу 1982 года. Незадоўга да гэтага яна перадала ў Беларускую бібліятэку-музей імя Францішка Скарыны ў Лондане рукапісы перакладзеных ёю на родную мову хрысціянскіх малітваў.

Першым біёграфам Апалёніі Савёнак сталася яе дачка Зора Кіпель, чыё імя ўжо знаёмае чытачам "Крыніцы".

Уладзімір АРЛОЎ





# ПАЧАТКІ БЕЛАРУСКАГА ШКОЛЬНІЦТВА Ў МЕНСКУ

Найбольш канкрэтным, фактычна адчувальным беспасярэднім вынікам абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, побач пэўне-ж найважнейшага – гістарычнага значаньня – было заснаваньне беларускага школьніцтва Ёсьць мудрасьць, якая кажа Плянуеш на год – сей збажыну; плянуеш на дзесяткі гадоў – садзі дрэвы, плянуеш на стагодзьдзі – гадуй чалавека!

На сэсіі Рады Беларускае Народнае Рэспублікі ў 1918 годзе Алесь Гарун, між іншага, заклікаў: "Паны Радныя!.. Ці падумалі вы, што мітынговыя прамовы пара скончыць. а разважаць пра тое, як пачаць, з чаго пачаць наша дзяржаўнае будаўніцтва. як абараніць нашых сялян ад рэквізыцыяў; як уцекачоў нашых пераправіць на Бацькаўшчыну, як накарміць іх; як школы адкрыць ." (А. А-к. Алесь Гарун (Аляксандар Прушынскі) Мае ўспаміны "Беларускі Сьцяг", Коўня, № 1, красавік, 1922 г , б. 19)

Вось і ўзяліся за школы. Лета 1918 году. Фронт. Менск зьбянтэжаны, зруйнаваны вайной. Ваеншчына, раненыя, лазарэты. Уцякацтва-"бежанства" з Захаду да нас, ад нас на Ўсход. Але вось ад нейкага часу прыціхла Нямецкая армія заняла Менск

Абываталь разгублены· якая цяпер улада? Ці-то нямецкая? – але кайзараўскія немцы ня ўтручваліся ў нутраныя справы гораду. Ці-то бальшавіцкая, бо ішло далей рабаваньне вёскі паборамі й канфіскацыямі. Толькі нацыянальна сьведамае ядро, актыў ведаюць і вераць, што **наша, свая, беларуская**. На доме былога губэрнатара лунаюць два бел-чырвона-белыя сьцягі, хоць, праўда, і ня гэтак даўгі час.

У гарадзкой Управе, на Юраўскай вуліцы, у пераважнай бальшыні старыя працаўнікі, але ўжо ад беларускага Ўраду, у вaддзеле асьветы, – нашыя Тамаш Грыб, Паўлінка Мядзёлка, Палута Бадунова, Мікола Шыла, можа й яшчэ хто – не прыпамінаю.

Школы, пэўне-ж, расейскія, – на тую пару ўсе школы ў Менску былі расейскія – будынкі разваленыя, запушчаныя, шмат якія занятыя ўцекачамі, большыя школы ператвораныя на лазарэты ды казармы. У тых будынках, што былі пакінутыя як школьныя, зьмяшчаліся па 3-4 школы і, працуючы па дзьве-тры зьмены, даканчвалі навучальны год.

Пачаліся канікулы. Трэба рыхтавацца да новага навучальнага году У цэнтры гораду яшчэ сяк-так захаваліся й будынкі, і мэбля, і падручнікі. Старыя настаўнікі, што яшчэ засталіся ў Менску, – шмат хто эвакуаваўся на ўсход – згрупаваліся ў гэтых школах, учэпіста трымаючыся расейскае мовы. Ды ім і да галавы ня прыходзіла, што можа быць інакш.

Засталіся ўскраінныя, найбольш зруйнаваныя школы. Камароўка, Старажоўка, Татарская Слабада, Кальварыя, Весялоўка, Ляхаўка, Грушаўскі пасёлак, Залатая Горка Вось тут і ўзяліся засноўваць першыя беларускія школы. Трэ было аслабаніць будынкі, агледзець іх, сяк-так абсталяваць мэбляй, але асноўнае, найважнейшае і бадай найцяжэйшае – укамплектаваць беларускімі настаўнікамі.

І знайшліся такія. Першымі пачынальнікамі-настаўнікамі ў верасьні 1918 году, як памяць падсоўвае, былі:

**Кудзелька Міхась,** пасьля – паэта Міхась Чарот, – настаўнік, скончыў Маладзечынскую сэмінарыю.

**Косьцевіч Макар,** паэта Краўцоў Макар, – ведамы беларускі дзеяч

**Пашкевіч Мікола** – малады настаўнік, нядаўна скончыў Маладзечынскую сэмінарыю.

**Пашкевіч Янка** малодшы брат Міколаў, з Маладзечынскай сэмінарыі.

**Мядзёлка Паўлінка** – першая выканальніца ролі Паўлінкі ў Купалавай "Паўлінцы".

**Гіркаонт Апалёнія** – старэйшая настаўніца, прыехала зь Вільні.

**Пуроўскі Канстантын** – малады настаўнік, скончыў настаўніцкую сэмінарыю

**Яноўская Кацярына** – маладая настаўніца, пасьлей жонка Пуроўскага. Абое перайшлі пасьля ў тэатр.

**Гладкі Казімер** – старшы брат ведамага на эміграцыі беларускага пэдагога, фальклярыста й лексыкографа Язэпа Гладкага.

**Бялькевіч Янка** – пазьней навуковец, мовавед-лексыкограф.

**Бадунова Палута** й ейная малодшая сястра, імя якой не прыпамінаю.

**Раткевіч А., Багдановіч Мікалай, Ламака Канстантын, Берднік, Рамаsucceeded**

У пераважнай бальшыні гэта былі маладыя, недазнаныя настаўнікі, шмат хто толькі са школьнай лаўкі. Вучні-ж, поруч із нармальным векам, ня раз былі векам блізу як і настаўнікі, а ростам часам і большыя за іх, бо апошнія два-тры гады школы працавалі нерэгулярна, а некаторыя і зусім былі зачыненыя. Працаваць даводзілася без падручнікаў, у вабставінах спаборніцтва са старой расейскай школай Але маладосьць, энэргія ды асабліва нацыянальная сьведамасьць і ўздым перамагалі ўсе цяжкасьці.

Усе мы ўжо так ці інакш бралі ўдзел у беларускай грамадзкай працы· хто у гуртку школьнай моладзі пры Беларускім Нацыянальным Камітэце; хто ў хоры Тэраўскага, або Равенскага, або Чарняўскага; хто ў аматарскім беларускім тэатры братоў Ждановічаў, або Галубка, пасьлей і Аляхновіча, а шмат якія й самі ўжо ладзілі спэктаклі ў сябе ў вакругах, як, прыкладам, Пашкевіч у Глыбокім. Выпісвалі й чыталі беларускія газэты й кніжкі, а шмат былі ўжо й беларускімі дзеячамі й пісьменьнікамі, як Краўцоў Макар, Міхась Чарот.

Як мы пачыналі? Перш за ўсё – самі вучыліся. Усе мы былі гадунцамі расейскай школы. Дык вось, пасьля дзённай працы ў школе, наведвалі курсы беларусаведы. Лектарамі былі Ўсевалад Ігнатоўскі, Язэп Лёсік, Браніслаў Тарашкевіч, Аркадзь Смоліч. Гэтыя курсы пасьлей ператварыліся ў Вышэйшыя Курсы Беларусазнаўства, дзе выкладалі Язэп Лёсік, прафэсар Васіль Дружчыц ды іншыя. Вывучалі граматыку, гісторыю, геаграфію Беларусі, а галоўна чыталі.

Чыталі "Сымона Музыку" Якуба Коласа – першыя часткі друкаваліся якраз у "Беларускім шляху" і ў газэце "Вольная Беларусь", якая тры першыя часткі выдала й асобнаю кніжкаю. Чыталі вершы Янкі Купалы з кнігі "Шляхам жыцьця", апавяданьні Максіма Гарэцкага з "Руні", Тараса Гушчы з "Родных зьяваў", вершы з "Матчынага дару" Алеся Гаруна, зь "Вянка" Максіма Багдановіча. Успамінаюцца яшчэ кніжыцы: "Абразкі" Зьмітрака Бядулі, "Бярозка" Ядвігіна Ш , "Дудка беларуская" і "Смык беларускі" Ф Багушэвіча, "Скрыпка беларуская" Цёткі, жартаўлівыя вершы Альбэрта Паўловіча, ягоны "Снапок" І, ведама-ж, падручнікі для школаў: "Другое чытаньне" Якуба Коласа й "Першае чытаньне" Цёткі. Пасьлей ужо зьявіліся сцэнічныя творы Алеся Гаруна, часапіс "Зорка".

Усіх гэтых кніжкаў было мала, толькі для курсаў і настаўнікаў, і самая цяжкая справа ў нашай працы была, што ня было падручнікаў да чытаньня для вучняў З арытмэтыкай, прыродаведай, геаграфіяй, пісаньнем давалі сабе рады. Асабліва любілі лекцыі сьпеву. Бадай усе настаўнікі бралі ўдзел у хорах, пры аматарскім беларускім тэатры ды й так.

З чытаньнем было найцяжэй Выручалі вершы. Так, вершы. Калі цяпер чуеш часам "вершыкамі жывіліся" – так, "вершыкамі"! Яны былі лёгкімі для памяці ды так адпавядалі актуальнаю тэматыкаю тагачаснаму ўздыму нацыянальнай сьведамасьці маладых настаўнікаў, якія імкнуліся перадаць яе дзецям і іхным бацьком.

Дзеці й бацькі любілі вершы Янкі Купалы, Алеся Гаруна, Максіма Багдановіча, Цёткі, але асабліва Якуба Коласа, як школьныя й маладзежныя, гэтак і кавалкі з "Сымона Музыкі" Чэсьць і слава нашым паэтам! Гэта яны прабудзілі нацыянальную сьведамасьць, а пасьлей у 1918 годзе памаглі маладым настаўнікам-энтузіястым панесьці ідэі беларускай дзяржаўнасьці ў народную гушчу. А Купалаўскае "Ворагам беларушчыны" як бы для нас на той час было напісанае.

Трэба сказаць, што нашыя беларускія школы былі часам тут-жа ў падсуседзях з расейскімі, як гэта мела месца на Аляксандраўскай вуліцы, рог Старажоўскае. У расейскай школе былі настаўнікі ранейшыя, спрактыкаваныя, яны ведалі жыхарства ды вялі агітацыю супраць новых беларускіх школаў Але нашыя ўскраіны – Старажоўка, Камароўка, Траецкі Рынак – ня так лёгка было збаламуціць. Дапамагалі хор Міколы Равенскага, хор Уладзімера Тэраўскага, беларускі аматарскі тэатр пад кіраўніцтвам Ждановічаў, часта паасобныя выступы тэатру Галубка, пазьней тэатру Аляхновіча, якія ладзілі свае імпрэзы ў Беларускай Хатцы.

Усёй гэтай працай акалічнае жыхарства было ўсьведамленае, што яны беларусы, што мова іхная беларуская, а ня "простая мужыцкая", ды ставілася прыхільна да сваей школы. А чуючы, як іхныя дзеці вучаць і дэклямуюць:

*Чаго вам хочацца, панове,*
*Які вас выклікаў прымус*
*Забіць трывогу аб тэй мове,*
*Якой азваўся беларус?*

самі ўзмацоўваліся й цешыліся.

Нам заўсёды даводзілася змагацца на два бакі. Калі з расейскімі ўплывамі выступала старое настаўніцтва, якое старалася ўзьдзеіць на жыхароў, то ў час польскае акупацыі – 1919, пачатак 1920-га году – адміністрацыя зьверху старалася разбурыць беларускую школу. Арыштаваныя былі тады Тамаш Грыб, Паўлінка Мядзёлка, Палута Бадунова.

Увесну 1920-га году польскае кіраўніцтва склікала сход настаўнікаў беларускіх школ. Сход прызначылі ў беларускай школе, далёка на ўскраіне, каля самых Старажоўскіх магілкаў Неяк несамавіта чуліся мы на школьных лаўках, як вучні. Ужо ведалі пра арышт Грыба й Мядзёлкі. За сталом – інструктар. А пытаньні былі: увядзеньне польскае мовы ў школы й гаспадарскія справы.

Нудны, блытаны агіткавы ўступ інструктара ў слабой польскай мове – відаць, прыгарадны "модны шляхцюк", – і прапанова: увесьці польскую мову ў беларускія школы Менску. Усе маўчаць. "Што-ж, няма супярэчнасьці? – Прагаласуем!" Апалёнія Гіркант, адна з дазнаных старэйшых настаўніцаў, мірганула вачыма на дзьверы, узьнялася ва ўвесь свой высокі рост ды спакойна паплыла да дзьвярэй За ёй, як па камандзьдзе, падняліся ўсе і шнурам, так сама спакойна й павольна, выходзяць з клясы. Зьбянтэжаны інструктар мамліць: "Пачакайце, панове! Пачакайце! Я маю яшчэ гаспадарскія справы". Нехта з чарады: "Ня трэба нам вашых гаспадарскіх справаў!" А Краўцоў Макар: "Вы нам тут бздуры ня праўце ў нашай хаце!" Вельмі добра помню гэтыя словы, такія яны былі ёмкія, моцныя й на месцы, што я расьсьмяялася ўголас. За мной іншыя.

Але як выйшлі на вуліцу, усё-ж пайшлі ня гуртам, а разыйшліся па адным у розныя бакі, так параіў нехта із старэйшых. Больш ужо ніхто нас ня зьбіраў і не турбаваў, ды й часу ня мелі, бо ў ліпені палякі вынесьліся.

Між іншага, у часе польскай акупацыі некаторыя расейскія школы далучыліся да беларускіх, можа толькі фармальна, але далучыліся А польскіх школаў было вельмі мала. У цэнтры гораду на Губэрнатарскай, пры Залатой Горцы і на Грушаўскім пасёлку – больш не прыпамінаю.

Гэта была пара першага больш-менш масавага ўвядзеньня беларускай мовы ў школы, бо адразу адчынілася 9 беларускіх школаў, пасьля паступова далучалася больш.

Пэўне-ж, былі й перад гэтым паасобныя навучальныя ўстановы зь беларускай мовай. Так, у 1915-16 годзе пры Земскай Управе стараньнямі Беларускага Нацыянальнага Камітэту (памятаю Лявіцкага, Зямкевіча, Бядулю, Паўловіча, Л. Сівіцкую) быў адчынены дзіцячы прытулак для дзяцей-уцекачоў, якія ў ваенных пературботах згубілі бацькоў. Улетку 1916 году прытулак зьмяшчаўся ў доме Лявіцкага (пісьменьнік Ядвігін Ш.) у Карпілаўцы. Загадчыцай была Ванда Лявіцкая, узгадавальніцай – Ядзя Роткевіч. Узгадаваньне дзяцей вялося выключна ў беларускай мове. Увосень прытулак быў перанесены ў Менск. Зьмяшчаўся ў будынку Школы Сьляпых на Захараўскай вуліцы, за Чырвоным Касьцёлам (усё гэта было зьнесена пазьней пад пабудову Дому Ўраду).

Пазьней Ванда Лявіцкая занялася выключна выдавецкай справай – была сакратаркай газэты "Вольная Беларусь". Загадчыцай дзіцячага дому сталася Мальвіна Зароўская (другая пасьля Мядзёлкі выканальніца ролі Купалавай Паўлінкі). Гэта ўжо была поўнасьцяй Беларуская школка пры Беларускім дзіцячым Доме.

А шмат, шмат раней на Палесьсі Якуб Колас ды іншыя намагаліся ўводзіць беларускую мову ў школы. Для гэтага перад Першай Сусьветнай вайной былі

складзеныя й выдадзены школьныя чытанкі Цёткі-Пашкевічанкі й Якуба Коласа. Некаторыя настаўнікі пробавалі завесьці беларускую мову ў народныя школы шляхам афіцыйным, паколькі расейская мова беларускім дзецям была незразумелая. Пакліканая была нават камісія для вывучэньня гэтае справы, якая прызнала дамаганьне справядлівым, але заводзіць беларускую мову ў школы царская ўлада не дазволіла. (Глядзі ўспаміны Яўхіма Кіпеля "Як нас вучылі", "Запісы", кн. 15, 1977, б. 54—68)

У Вільні-ж, захадамі галоўна Івана Луцкевіча й Цёткі-Пашкевічанкі, беларускія школы пачалі засноўвацца за нямецкай акупацыяй ад восені 1915 году (пра гэта ў успамінах Ю Вітан-Дубейкаўскай пра Цётку, надрукаваных у "Конадні", кн 3, 1955, б. 53—54).

Улетку 1920-га году Менск быў заняты бальшавікамі Шэрая маса змучаных, галодных, дрэнна апранутых, ледзь абутых, зь вінтоўкамі на вяроўках салдатаў літаральна запаланіла горад. На вуліцах стаялі абозы й гарматы. Салдаты разьмясьціліся ў прыватных дамох.

Калі пачаўся навучальны год, настаўнікі й вучні зьявіліся ў школы. Тут агледзіліся, што шмат каго ня стала Але прыбылі й новыя – група настаўнікаў з Глыбоччыны Вось іхныя прозьвішчы

**Сабалеўскі Аляксандра** – дазнаны кваліфікаваны настаўнік, выдатны адміністратар.
**Савёнак Лявон** – толькі што скончыў Глыбоцкую сэмінарыю.
**Зарэмба Пятро** – таксама сьвежы сэмінарысты.
**Дрозд Вольга, Вайцяхоўская Галена, Драздовіч Язэп,** мастак.
З групай заходніх дзеячоў прыехала **Захарка Палагея.**

Адэская група беларусаў прывезла беларускі дзіцячы дом, – дзяцей, загубленых у вайне. Прыехаў разам Міхась Грамыка, Баліцкія, муж і жонка, Рытар Ліда і ейная сястра Іна, зусім яшчэ малая тады дзяўчынка. Паступова прыяжджалі новыя настаўнікі й з раёну Бурвель, Бандарчык, Сілка, Мешалкіна, Манцывода, Ахрамовіч, Калевіч, Міляшкевіч, Раманоўская, Пыліла.

З Расеі на заклік Усевалода Ігнатоўскага вярнуліся на Бацькаўшчыну настаўнікі, што былі ў уцякацтве, або на навуцы: Пучкоўскі Пётра зь сям'ёй, дзьве старэйшыя дачкі былі ўжо таксама настаўніцамі, Сушчынскі, Мазур Ігнат, Калінчэнка, Федасенка, Шукалевіч, Касмовіч. Успамінаецца таксама Бяганская Ядзя, Ніна Улашчык, Раманоўская Гэта ўжо было ў 1920 годзе, калі беларуская школа была афіцыйна прызнаная дзяржаўнай.

Настаўнікаў прыбывала, але і ўбывала. Так, камісар асьветы Усевалод Ігнатоўскі паклікаў у прэсу Міхася Кудзельку, Лявона Савёнка, Пашкевіча Янку, Зарэмбу Пётру – тады пачала выходзіць штодзённая газета ў беларускай мове "Савецкая Беларусь". У адміністрацыю Камісарыяту Асьветы адыйшоў Баліцкі, у гарадзкі аддзел асьветы – Янка Бялькевіч, Міляшкевіч, Калевіч, у прафсаюз – Манцывода, Ахрамовіч У тэатр пайшлі Гурскі, Кастусь Пуроўскі, Кацярына Яноўская, Ламака, Кавалеўская Шмат настаўнікаў паехала ў свае раёны й там засноўвалі беларускія школы, прыкладам Гладкі, Бандарчык, Бялькевіч

Усе мы тады верылі, што будуем "беларускі дом" і шчыра, аддана працавалі. Шмат-шмат хто пасьля за гэтую працу быў рэпрэсіяваны, зьняволены й згубіў сваё здароўе або й жыцьцё на поўначы ці ў Сібіры.

Беларуская школа сталася дзяржаўнай Але й пасьля гэтага ейны шлях быў цяжкі, блытаны, часта нават крытычны дзеля розных праектаў, зьменаў і шуканьняў, якія былі мукаю вучням, а яшчэ больш настаўнікам Але гэта ўжо апісана на балонках друку.

Хочацца яшчэ зазначыць, што, засноўваючы беларускія школы, настаўнікі, разам з бацькамі й вучнямі, змагаліся ціраз з голадам і холадам Хадзілі ў Камароўскі лес Ваньковіча пілаваць дровы для школы. Вадзілі вучняў парамі ў сталоўкі на абеды. Тут трэба прыпомніць амэрыканскую дапамогу, што так тады дапамагла ўтрымаць моладзь пры жыцьці, асабліва пасьля эпідэміі тыфусу

Не зважаючы на ўсё, дзякуючы працы й ахвярнасьці настаўнікаў і бацькоў беларуская школа аднак трывала, працавала Зь якім таму сумам і жалем даведваемся, што сяньня ў Менску ізноў няма ніводнае беларускае школы.

*"Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва"*
*№ 16, 1978.*



# Мая БУДЗЬКО

Я маю твор...



## БЕЛАЯ СУКЕНКА

Сукенка белая, белая, белая
На адзіны пашытая вечар.
І ў ёй ты такая нясмелая,
Дрыжаць ціхенька плечы.
Напаўжывое нешта – са станам тонкім,
З таемнай душой імклівай і звонкай

А потым прадам я сукенку белую,
Стану звычайнай, упэўненай, смелаю.
І буду думаць сабе. ці праўда я
Такая як ёсць, без сукенкі, сапраўдная?

У сне страпянуся – уся знямелая
Навошта ж была мне
Сукенка белая?

# ЯНЫ | Моніка МАРОН

# ВУЛІЦА ЦІХАЯ ШЭСЦЬ

Раман

***

Я прачнулася, і мне балела галава, і даціналі нейкія дыфузныя ўспаміны пра пагрозлівы сон Была пятніца, базарны дзень і дзень Берэнбаўма. Ужо шэсць тыдняў я працавала ў Берэнбаўма, і гадзіны, калі я шкадавала, што дапусцілася да такой справы, множыліся Праўда, я строга трымалася сваёй пастановы выключыць галаву з любой вытворчай дзейнасці, змаўчаўшы тым часам Берэнбаўму, што я думала пра яго і ягоныя мемуары. Але што я шмат над гэтым думала, што я цэлыя дні і па паўночы распіналася ў звягах з Берэнбаўмам, гэтаму перашкодзіць я не магла.

Пры нашай апошняй сустрэчы ён прадыктаваў мне: "Абапіраючыся на багаты скарб вопыту ленінскай партыі і на яе братэрскую дапамогу, наша партыя павяла рабочы клас да перамогі і назаўсёды збудавала сацыялізм у першай рабоча-сялянскай дзяржаве на нямецкай зямлі". Нічога асаблівага ў сказе, усяго адзін з тысяч напісаных і сказаных сказаў, якія з часам гэтак жа мала кідаюцца ў вочы, як і колькасць сівых валасоў на галаве ў чалавека, якога бачыш кожны дзень. Але гэты сказ я павінна была напісаць сваёй рукой. За гэта мне плацілі, каб я пісала. Не будзь я такая пэўная, што Берэнбаўм чакае майго пярэчання, я спыталася б у яго пра пяць фальшаў, якія былі ў сказе.

Была пятніца, быў Берэнбаўмаў дзень. Снедаючы, я як бы перажывала пачуццём сон, які пакінуў ува мне нейкую ліпкую няўдобасць. Успамін пра яго лунаў па пакоі, як фантом, і як толькі я да яго набліжалася, распускаўся ў нішто Я выпіла адну таблетку ад галавы. Было палова адзінаццатай Яшчэ чатыры з палавінай гадзіны да службы ў Берэнбаўма.

Я якраз хацела прыняць гарачую ванну, калі пазваніла Ірма прыйшла з рынку. Яна пашлёпала міма мяне на кухню У цябе яшчэ ёсць час, сказала яна і паставіла кош з пакупкамі каля халадзільніка Я купіла марынаваныя гуркі, мае дзеці так любяць марынаваныя гурочкі А ты любіш марынаваныя гуркі, спыталася Ірма, ідучы па калідоры ў пакой Я прабегла за ёю. Яна з уздыхам упала ў чорнае крэсла. Ірма была няўклюдная, але не тоўстая. Нягледзячы на гэта, тры крэслы былі занятыя, як яна села. Заўсёды, сядаючы за маім сталом, Ірма займала тры крэслы. Было немагчыма сядзець у адным, калі злева і справа ад таго, на які села Ірма, стаялі яшчэ два. На задняе білца левага яна паклала руку, а над сядзеннем правага падымалася вострае каленца нагі, костачкі якое ляжалі ў Ірмы на сцягне. Я лічыла такую позу напружлівай, Ірма – не.

Мне трэба з некім пагаварыць, сказала Ірма, ты не ўяўляеш сабе, якая я разбітая.

Я падумала, што яна была такая ж разбітая, як заўсёды, калі званіла мне ў дзверы Неразбітая Ірма не заходзіла. Толькі пры кожнай новай разбітасці даведвалася я, што пазаўчора ёй сапраўды страшна добра пасвяткавалася з некалькімі страшна добрымі сябрамі.

Я лічыла немагчымым ненавідзець Ірму

Што, спыталася я.

Ты не слухаеш навін. У навінах яны сказалі, што на руска-кітайскай граніцы зноў стралялі. Ідзе вайна, гэта ж ясна.

Ірма ўзяла адну з маіх цыгарэт.

Мне абсалютна ясна, што цяпер ідзе вайна, сказала яна, разявіўшы пры гэтым толькі ўнутраныя дзве трацiны свайго шырокага рота, куточкі губ трымала амаль закрыта, – манера гаварыць, якую я ведала ў Ірмы і якая давала слухачу зразумець, што толькі што паведамленае само сабой разумелася і наўрад ці варта было дзеля таго расхлябеньваць рот на ўсю сцежу.

Пачатак савецка-кітайскай вайны Ірма аб'яўляла ўжо каторы раз, так што я аж была паверыла, каб устрымацца ад лішніх праяваў здзіўлення, што Ірма зноў упарола дурноту. Яна разявіла рот на ўсю поўніцу дзеля шырокай усмешкі, якая вываліла верхні рад зубоў разам з дзяснамі, і сказала. я думаю, ты няправільна разумееш мяне, вайна ёсць. Рускім цяпер якраз патрэбен вораг. Яны не могуць пракарміцца, неверагодна, але яны не могуць пракарміцца, разумееш ты. Ірма ўсё яшчэ выскалялася. У Еўропу сунуцца не важацца, вось ім і трэба пракруціць вайну з кітайцамі. Гэта ж абсалютна ясна. Ірма пахітала сваёй вялікай галавой, узмацніла ўсмешку да глыбокага, спачувальнага смеху і сказала. значыцца, я магу табе зусім нічога не гаварыць, і так усё ясна.

У сваім інтымна-глыбокім веданні рускай палітыкі Ірма спасылалася на рускую бабулю, якая ў дваццатыя гады прыехала ў Берлін артысткаю і там выйшла за немца. Доля рускай крыві ў ёй, сцвярджала Ірма, робіць яе здольнай на глыбокі зазірк у рускую душу, як гэта наўрад ці даступна рацыянальным немцам.

Думаеш, гэтым разам сапраўды вайна, спыталася я.

А што ж яшчэ, сказала Ірма, рэзка хіхікнуўшы, тады і цяпер з амаль закрытымі куточкамі губ: значыцца, сапраўды, так, калі б у мяне не было дзяцей, я пакончыла б з сабой. Хто гэта вытрывае, каб толькі чакаць, што яна пачнецца. І нельга нікуды з'ехаць, ні ў Новую Зеландыю, ні табе ў Аўстралію. Ужо нават дзеці мае мараць пра вайну.

Я змоўчала, не сказала, што ніколі не марыла пра вайну

Я ўвогуле не разумела, чаму людзі больш баяцца ўсеагульнай смерці, чым сваёй уласнай. Нібыта яно лягчэй паміраць аднаму. Ноччу прачнуцца, разумеючы, што вось цяпер якраз і маеш памерці, адзін, без развітання, і каля цябе няма нікога, хто паабяцаў бы нешта манлівае пра той свет, нікога, хто сказаў бы, што вось скора там і пабачымся зноў; гэта была б страшная смерць.

Боль у галаве перапез на патыліцу і аж да плячэй. Я не ведала, як суцешыць Ірму. Калі вайна ўжо ідзе, ты заўсёды яшчэ можаш забіць сябе, сказала я.

У цябе што, фантазіі няма, спыталася Ірма, ці гэта зусім цябе не цікавіць.

Я сур'ёзна лічу, сказала я, усё сваё жыццё мы ведаем, што мусім памерці, а тым часам жа не забіваем сябе, прынамсі, большасць гэтага не робіць. Ірма, сказала я, мне страшэнна баліць галава. Ірма падцягнула калена і руку. Я думаю, усе мы тут павар'яцеем, ты не думаеш, што ўсе мы тут павар'яцеем. Ці ж не смех: усе мы вар'яцеем, але зусім гэтага не заўважаем, бо ўсе разам памалу вар'яцеем, а таму і не можам заўважыць гэтага.

А такі ж бо смешна, сказала я.

Раптам Ірма прыціхла і ўмасцілася ў адным крэсле. Спадніца ў яе закачалася вышэй худых каленяў, на якіх звычайна мясістыя і калонападобныя ногі лёгка ўбіраліся у мышцы, занадта вялікія, кранальна дзіцячыя ногі, нязграбнасць якіх кідалася ў вочы праз Ірміну любоў да ярка-чырвоных ажурных гольфікаў. Мне было шкада яе. Так у мяне было з Ірмай заўсёды: альбо ненавідзела яе, альбо шкадавала.

Хочаш чаю, спыталася я.

Я зраблю марынаваных гуркоў, дзецям, мне ўжо й самой палепшала, праўда. Можа, яно было б найлепш, калі б мы ўсе павар'яцелі, не думаеш, што было б самае лепшае.

Я сказала, што і па-мойму гэта было б няблага такі, і падумала, што я звар'яцею тут, на месцы, калі яна не перастане.

Зачыняючы за ёю дзверы, я рашыла, што цяпер ужо адчыню не раней, чым калі буду выходзіць на працу да Берэнбаўма. Ці магла я рашыцца яшчэ й ісці на рынак, калі б нарэшце выкінула з галавы Ірму з яе крутымі ідэямі, і тады не дайшло б да спрэчкі з Берэнбаўмам. Але так вось яно склалася з Ірмай, яна пайшла задаволеная, як наедзены вампір, а я засталася, спустошаная і бяскроўная. Ірміна думка, што ўсе мы разам павольна,

*(Заканчэнне. Пачатак у № 24.)*

не заўважаючы таго самі, вар'яцеем і такі павар'яцеем, чаплялася за мяне аж да самага Берэнбаўмавага дома. Была пятніца, Берэнбаўм адчыніў сам. На ім была светла-блакітная кашуля пад цёмна-сіняй, мне яшчэ не вядомай вязанай кофтай, шэрыя штаны і не як заўсёды бардовыя скураныя пантофлі, а чорныя зашнураваныя чаравікі Ён усмешліва, у добрым настроі, павітаўся, нібыта толькі што перажыў нешта нязбыт якое радаснае альбо нечагась такога чакаў. Мне ўсё яшчэ балела галава, і Берэнбаўмаў непрыхавана радасны настрой дражніў мяне

Такім ён, відаць, бываў раней, калі рука яшчэ не боўталася на суглобе, калі ён яшчэ падпісваў ёю назначэнні і звальненні, уладна паляпваў па сталах, засядаючы на нарадах, альбо падаваў яе, вітаючы іншых магутаў свету гэтага. Неразбуральны, адораны вечным жыццём Берэнбаўм

Добра, што Вы тут, сказаў ён, я чакаю незвычайнага госця Сёння мы пачнём трошкі пазней

Ён правёў мяне ў пакой, у які прымаў мяне першага разу і ў які з таго часу я ні разу не заходзіла

Я мушу сёння пазлоўжываць Вамі, але не палохайцеся, фраў Палькоўскі, ніякай працы галаве, ніякай разумовай працы Зараз вось прыйдзе пісьменнік, Віктар Сэнсман, ён, кажуць, напісаў некалькі вельмі цікавых кніг, я іх не ведаю, не чытаў, але мне дакладвалі. Я б хацеў папрасіць вас пабыць на сустрэчы і занатаваць ход гутаркі.

Вы не давяраеце яму, спыталася я

З мастакамі трэба быць асцярожным, яны лёгка заводзяцца, калі заходзіць пра іх мастакоўскую свабоду Вы што-небудзь ведаеце пра яго?

Я чытала дзве яго кнігі, лёгкія, на лёгкую ж пацеху палітычныя раманы, якія абавязаны сваім поспехам непаразуменню, сваёй крыклівасці Сусветна вядомыя ісціны Сэнсман пераказаў так спаважна, аж можна было падумаць, што сярод іх крыецца ягоная, асабістая, гэтым разам ужо самая сапраўдная ісціна Я сказала, што сама хоць і чула пра Сэнсмана, але каб чытаць, дык нічога ягонага не чытала

Берэнбаўм папрасіў дапамагчы накрыць стол пад каву. Левай рукой ён адчыніў шкляныя дзверцы шафы, у якой стаяў мэйснэраўскі кафейны сервіз, дэкараваны вінаградным лісцем. Тры кубачкі і ўсё, што да гэтага яшчэ патрэбна, сказаў ён і пайшоў, шпарчэй і спаважней, напружаней, чым звычайна, у кухню, паставіць вады на каву

Берэнбаўм і я разам накрылі кафейны столік для госця, якога мы разам чакалі. Я адзначыла свае руціннія, звыклыя рухі. Рабіла ўсё машынальна. Сподачкі, кубачкі, дзе, калі ласка, лыжачкі. Вось гэтак сама я з мамаю, калі яшчэ жыў тата, кожнае нядзелі накрывала кафейны стол Нешта фамільярнае пайшлося паміж Берэнбаўмам і мною, нейкая забароненая нармальнасць.

Нарэшце пазванілі. Берэнбаўм трошкі памарудзіў, ідучы да дзвярэй, нібыта не хацеў ствараць уражанне, што чакаў госця нецярпліва.

Віктар Сэнсман выглядаў як і на фота, якое я бачыла· бледны твар, на якім рэзка праступалі шырокія косці сківаў, маленькія, нібы агорнутыя вечнай усмешачкай вочы, высока ўскінутыя бровы пад наўскаса змаршчыненым лобам, усё выдавала намаганне кожнае хвіліны рабіць уражанне цікаўнага і разважлівага чалавека. На ім былі джынсы і зямлістага колеру ваўняны жакет са скуранымі налакотнікамі. Берэнбаўм прадставіў мяне як сваю правую руку і ў доказ таго паклаў на стол дрыготлівы кавалак мяса, які я мела замяняць яму.

Ён не давярае мастакам, сказала я, каб растлумачыць маю прысутнасць.

Законна, законна, паспешліва сказаў Сэнсман, з чаго ніяк не вынікала, ці ён ухваляў Берэнбаўма, ці яму пагражаў

Я наліла кавы. Сэнсман падзякаваў лёгкім мігам вачэй Што прывяло яго сюды – гэта непаўторна яркая біяграфія Берэнбаўма, сказаў ён. Мне здалося гэта залішне, але даравальна, зрэшты ж ён мусіў неяк дагадзіць Берэнбаўмаваму настрою, пры патрэбе, можа, нават улесціцца, калі ўжо хацеў нешта выкалупаць з яго Мне нават хацелася ягоную перабольшаную ветлівасць – амаль кожны свой сказ ён пачынаў з "гер прафесар" – прыняць да ведама як іронію альбо знак суверэннай пагарды. Берэнбаўм жа, праўда, не даў сабе клопату распазнаць у гэтым нешта іншае, чым толькі высокі рышпект. Не трэба было быць Сэнсманам, каб ведаць, што ён ніякі не агітатар, не "патрасацель умоў і ваабражэній" У ягоных кнігах таксама не было ніякіх мяцежнікаў духу, толькі нейкія безабаронныя стварэнні з высахлымі душамі, так што я, чытаючы, пыталася ў сябе, як ён мог на працягу ўсяго пісання дабравольна вытрымліваць кампанію гэтых герояў, не зрабіўшыся мяцежнікам за іх ці супроць іх. Ён быў танчэйшы, чым я думала, сухашчавае цела без плоці і мышцаў, перад якім ён накрыж і вуглавата трымаў свае верхнія канечнасці, чым вельмі нагадваў садовае крэсла-складанчык. Ён крануў мяне, і хоць кволая постаць і яе адбітак у ягоных кнігах хутчэй адгіджвалі, я не магла выносіць самога дапушчэння, што ён думае пра мяне, як я думала пра хатнюю служанку, што менавіта яна і была Берэнбаўмава крэатура. Мне падціскала і падпірала намякнуць яму, што ён, калі хоча займець хаўрусніцу супроць Берэнбаўма, можа мець памянёную ўва мне і што ён мог бы разлічваць на мяне.

Недзе праз паўгадзіны я ўжо стаяла паміж люстранымі дзверцамі шафы і абцягненым аксамітам гарнітурам, вішчала і палівала, як магла, Сэнсмана, называла яго смярдзючым дрыстуном, а Берэнбаўма вузкалобым бонзам, чыёй падручніцай я ні хвіліны больш быць не хачу. Прычына майго шалёнага прыпадку, дзіцячай неабмежаванасці якога я засаромелася ўжо ў момант самога выбуху, была смешная, не менш смешная, як і дапушчэнне, што такому чалавеку, як Віктар Сэнсман, хай сабе ён і худзюшчы, бы Хрыстос на крыжы, патрэбна маё заступніцтва

Сэнсман расказаў, што працуе над раманам пра жыццё ў Берлінскім універсітэце на пачатку шасцідзесятых гадоў, і як што Берэнбаўм у тыя часы ва універсітэце чыніў важныя функцыі, ён спадзяецца атрымаць меркаванне гера прафесара пра пэўныя дакументальна мала зафіксаваныя падаплёкі. Яшчэ пакуль Сэнсман гаварыў, на твары ў Берэнбаўма расплылася амброзія боскай шчырадушнасці, міласлаўя і гатоўнасці шчодра і любадушна ўзычыць таго, падзяліцца чым ён ласкава папрошаны. Гэта быў хвалюючы час, як Вы можаце сабе ўявіць, і так неяк адразу пасля пабудовы нашага антыфашысцкага абарончага вала, сказаў ён

Адно толькі запрашэнне ўпісаць гэтыя словы, нібыта былі яны як словы, скажам, "кветка, сабака і мур", абурыла мяне. Я занатавала: Б.: час пасля збудавання антыфашыва быў хвалюючы.

Сэнсман сказаў, што тады яму было чатырнаццаць, гэта мела азначаць, што ён быў занадта малы, каб нешта цяпер успомніць, альбо што ён быў недастаткова дарослы, каб асмельвацца цяпер успамінаць адназначна дакладна. Толькі паведамленне, што Сэнсман у той час быў на дваццаць чатыры гады маладзейшы, чым цяпер, здалося мне банальным, залішнім для пратакола

Тады, сказаў Берэнбаўм, перад гістарычным жніўнем 61-га, яму, калі раніцай, перш чым увайсці ва універсітэт, ён зірнуў на ліпы, часта бывала ўява, быццам ён бачыць, як патокі жыццядайнага соку маладой рэспублікі, чырвона-пульсіўна выліваюцца з Брандэнбургскай брамы проста на прагныя, драпежныя целы ворага.

Сэнсман маўчаў, запаліў цыгарэту; выпускаючы дым першай зацяжкі, ён глядзеў на мяне Гэты позірк, ды яшчэ і разнапружанае, падобнае на ўздых, выдыханне дыму, справакавала мяне на подумку, быццам ён хоча пасігналізаваць мне пра палёгку, якую ён, глянуўшы на аднадумніцу, мог бы атрымаць Я падумала нават, што разгледзела просьбу ў Сэнсманавых вачах. Сэнсман не мог адважыцца на адкрыты пратэст ці нязгоду, і я павінна яму дапамагчы

І тады Вы самі рашылі, што лепей пускаць кроў, і пабудавалі мур, каля якога маглі б дзюравіць людзям целы, сказала я.

Дзве-тры секунды было так ціха, нібыта ўсім дух перахапіла. Тады выступіў Берэнбаўм, усміхнуўся Віктару Сэнсману· але ж бо так, фраў Палькоўскі, і з такімі поглядамі, як у вас, мы тады ва універсітэце мусілі змагацца.

А Сэнсман сказаў Берэнбаўму тонам, які гучаў, быццам разумныя дарослыя паразумеліся за плячыма ў недальнабачнага дзіцяці. я таксама думаю, што гэта было неабходнае рашэнне

Я шпурнула аловак у мэйснэраўскае чарэп'е з вінаградным дэкорам і закрычала.

***

Сярод няшчасцяў майго дзяцінства было і тое, што мой бацька быў дырэктарам школы, у якую паводле распарадку пра параённае размеркаванне школьнікаў я мусіла хадзіць. Мой бацька некалькі разоў спрабаваў аберагчы мяне,

а найперш сябе самога, ад гэтай пакуты. Але па няўмольнай волі ўладаў мы, нават і па-за хатняй сямейнасцю, дзесяць гадоў заставаліся адно да аднаго прыкаваныя.

Адсутнасць бацькі ў першыя сем гадоў жыцця зрабіла маё выхаванне справаю Іды і мамы. Бацька ўмешваўся толькі тады, калі ён лічыў патрэбным абараняць маму ад мяне, альбо, што здаралася часцей, калі трэба было заняцца маім палітычным выхаваннем. Тады ён падсаджваўся да мяне за круглы стол, засланы белым з блакітнымі гарошынкамі абрусам, і гаварыў пра аплот сацыялізму, які ўсупрацівіўся імперыялістычным падпальшчыкам вайны, пра слаўную барацьбу камуністаў за канчатковае вызваленне чалавецтва, пра апошнія кроплі крыві і святыя ахвяры, якім і ён даў прысягу. Цікавей было, калі ён расказваў, як ён, просты рабочы хлопец, біўся з гімназістамі, што ён азначаў як "мая школа класавай барацьбы". Перад словамі "гімназія" і "гімназісты" ён заўсёды рабіў кароткую паўзу, нібыта збіраў іх, як сліну ў роце, каб потым з пагардаю выплюнуць.

Не мела значэння, пра што ён гаварыў. Толькі — што ён сам-насам са мною сядзеў за сталом і свае словы адрасаваў толькі мне, было адзінае, што значэнне мела. Часам я ледзьве слухала яго, а больш рабіла так, каб ён паверыў, што я слухала яго. Я намагалася выглядаць разумнай і ўважлівай, час ад часу згодліва ківала, каб ён не страціў апавядальніцкага імпэту. Нягледзячы на гэта, яго педагагічныя высілванні ніколі не зацягваліся больш як на дваццаць мінут Тады ён звычайна прыціскаў абедзве далоні да канта стала, адціскаўся назад, казаў: так, тады мы яшчэ разок, і ішоў у свой кабінет.

Я прыдумвала сабе пытанні, якія, лічыла, яму падабаюцца. Кожныя колькі гадоў нараджаецца такі геній, як Сталін? — Кожныя сто, а можа, толькі кожныя дзвесце. Ці будуць пры камунізме забойцы? — Не, тады забойцаў больш не будзе. Гэта былі фальшывыя пытанні, на іх лёгка было адказваць. Я ўсё яшчэ стаяла каля стала, чакаючы, калі ён зноў пакіне пакой.

Я пачала прыдумляць пытанні, на якія ён не адкажа адным сказам, раздзяліўшы яго на чатыры-пяць крокаў каля мяне, і пры гэтым зрабіла адкрыццё, без якога маё дзяцінства, маладосць і, чорт яго ведае, што яшчэ, склаліся б інакш. Над гэтым пытаннем я працавала цэлы тыдзень. Я была ўпэўненая, што яно азадачыць яго, зробіць уражанне і што яно будзе дастаткова складанае для даўжманай размовы за сталом. Я перачакала адзін вечар, калі мама пазней вярталася дамоў і я магла спадзявацца, што ніхто не адцягне яго ад мяне і ад майго пытання. Ён і я сядзелі за вячэрай Ён еў памідоры. Калі рабочы клас самы прагрэсіўны клас, сказала я, ён, як адзіны такі клас, мог бы запабегчы фашызм; чаму рабочы клас не зрабіў гэтага. Ад цынгі ў час палону бацька страціў усе зубы. Калі ён еў хлеб, дык часта высоўваў язык і злізваў крошкі. Ён высоўваў ніжні рад дзяснаў над ніжняй губой, і гэта выглядала, быццам ён шчэрыць зубы. Праглынуўшы нарэшце такім спосабам адкушанае, ён спытаўся, хто мне набрахаў усяго гэтага глупства.

Горш і быць не магло. Не толькі таму, што пытанне яму не спадабалася, ён паставіў нават пад сумненне маё аўтарскае першародства. Я баранілася, сама ўжо не ведаю, як. А бацька быў перакананы, што я стала ахвярай варожых падкопаў, але так і не змог растлумачыць мне, хто ж апрача рабочага класа мог бы заступіць дарогу фашызму.

Ты хочаш сказаць, што віна не на злачынцы, а на самой ахвяры, грымеў бацька.

Калі ахвяра не абараняецца, дык і яна вінаватая, крыкнула я Я змагалася за віну ахвяры, як за сваё жыццё. Напал гэтага вечара глыбока залёг мне ў памяць, аж да сёння разбірае, калі раўняюць ахвяру і невінаватасць, што, зрэшты, часам зводзіць мае думкі на небяспечныя сцежкі

Але найперш у той дзень я засвоіла, што я толькі тады магла зацікавіць сабою бацьку, калі мае пытанні яму не даспадобы. Пра віну рабочага класа мы спрачаліся, пакуль не вярнулася мама і не спыніла.

Як што мне не ўдалося спадабацца яму, думала я з таго часу толькі пра тое, як яму не падабацца. Я больш не пыталася пра гераічныя подзвігі камуністаў; я сумнявалася ў іх. Мне больш не трэба было тлумачыць, што гэта значыла, калі я дзе-небудзь чула, што свабоды меркаванняў няма. Я сцвярджала гэта сама. Мае бацькі не маглі растлумачыць спусташальны пашкоджаны паварот маіх палітычных поглядаў нічым іншым, як што я падупала варожым уплывам у маім бліжэйшым атачэнні. Падазрэнне ўпала на клас, і бацька, дырэктар, пайшоў на меры, каб усупрацівіцца ідэалагічнаму разброду ў 7 Б класе.

Адразу ж увялі ўрок з аглядам газет, і кожны настаўнік, здавалася, зацяўся не аддаваць нам ні ў якім разе часткі сваіх ведаў без гэтых палітычных уступаў. Матэматык быў не проста матэматык; матэматыка ў руках класавага ворага была інструментам прыгнёту пануючага класа, гэтак сама біялогія, хімія і спорт.

Становішча было жахлівае. Толькі адно само маё існаванне ўжо рабіла мяне вінаватай, мяне, дачку дырэктара, якая спасобіла ўвесь клас на педагагічныя тартуры і тое толькі таму, што паспрачалася з бацькамі.

Да таго ж я бачыла недавер у вачах аднакласнікаў, якія павінны былі падазраваць, што я даносіла на іх. Каб рэабілітавацца перад імі, я павінна была больш адназначна, чым іншыя, пратэставаць супроць выхаваўчых мерапрыемстваў, часцей за іх падкідаць настаўнікам падступныя пытанні; я павінна была, калі хацела выжыць у сваім класе, станавіцца на чале супраціўлення.

Мне было трынаццаць. Я дабілася, што бацька цяпер нарэшце зацікавіўся мною Засынаючы, я часта нават жадала, каб ён памёр.

У тым годзе вышэйшае школьнае кіраўніцтва ўказала бацьку дэманстрацыю школьнікаў на 1 мая спачатку пяць разоў прарэпеціраваць, гэта было ўказанне нашай школе, майму класу і майму бацьку, школе, якая самым ганебным чынам звярнула на сябе ўвагу сваёй недысцыплінаванасцю і бяздарнасцю ў ваеннай падрыхтоўцы. Дома бацька бушаваў Школьная інспектарка — ідыётка, дурная гуска, асталопка-каза; у вынаходстве новай брыдкай лаянкі яго фантазія далёка не сягала, ён увогуле быў без фантазіі. Зрэшты, ён вам не які там казарменны гофшляйфэр, гоп-брык-дагарынагамі, ды і школа вам не муштравальны пляц. Ён нешта такое прыдумае. Але нечагась такога ён не прыдумаў. І мы маршыравалі. Па Курт-Фішэр-Штрасэ, міма гайка Шэнгольцэр Хайдэ да могілак, на якіх цяпер хавалі Берэнбаума, і назад, кожнае папаўдні з чацвярга да суботы; у суботу падаў дождж. Падчас маршыроўкі па Курт-Фішэр-Штрасэ, каля дома, у якім жыве пісьменнік Штэфан Хермлін, рад, на правы фланг якога мяне паставілі, рашыў унікнуць тартураў уцёкамі. Мы дачакаліся невялікай дарожкі, куды выходзіў ледзь бачны пячорападобны ўваход, які прадзерлі дзеці праз густое кустоўе, якое аддзяляла вуліцу ад Шэнхольцэр Хайдэ. Там мы і растварыліся, шпарка і бязгучна, як Вінэту, і калі б Рэнхен Баўдэ не данесла на нас школьнаму кіраўніцтву, нашыя ўцёкі, падобна на тое, засталіся б без наступстваў. Але Рэнхен Баўдэ накляпала на нас, хай і не таму, як яна, прыціснутая намі да паказанняў, патлумачыла, што прынцыпова не ўхваляла нашага ўчынку, а таму, што іншых, і яе ў тым ліку, мы пакінулі на пропадзь. Уцекачы дамовіліся, што я, як дачка дырэктара, менш за каго яшчэ мела баяцца, а таму павінна ўзяць на сябе ролю завадатаркі, так сказаць, канавода, — даручэнне, якое я ўдзячна прыняла, бо яно давала мне нагоду даказаць, што я сапраўды была адна спасярод іх, свая, іхняя, і срала я на тое, што я дырэктарава дачка, і я ўвогуле мочаспускала на тую іхнюю школу, і на бацьку, і на маці. Але што я клала з прыборам на ўсё чыста ўсенька — гэта ці не залішне падазрона, як на іхнія вочы і вушы.

Так я трапіла ў трохкутнік паміж ван Гогавымі сланечнікамі, бацькам і маці. Усе ўтапырыліся на мяне. тыя раўнадушна, бацька поўны нянавісці, маці — у роспачы. Усе былі адзіныя ў адным, схаўрусаваліся. Бацька з інспектаркай, якая ўжо больш не была дурная гуска, нават з Рэнхен Баўдэ, хоць яна і была двоечніца; маці з бацькам, бо то ж ён меў рацыю; сланечнікі віселі на сцяне і зросліся з ёю. Жалезнае адзінства, якое я нечым, сама не ведаю чым, закляла, перад якім стаяла бязрадная з немым крыкам адчаю.

Гэта было такое самае адзінства, якое я зноў пазнала паміж Сэнсманам і Берэнбаўмам. яно спляло поўнае супадзенне паўсталых з агульных інтарэсаў правілаў гульні. Гэтым разам я была служанка такога адзінства, а не ахвяра. І зноў я стаяла паміж сценкаю шафы і абабітай мэбляй і крычала. Што ці ж ніхто не ведае, што ўсе мы разам спакваля, не заўважаючы таго, дурнеем і вар'яцеем, крычала я, ці ж бо ніхто не чуў апошніх навінаў. Ідзе вайна, ясна ж як божы дзень, што ідзе вайна, вайна паміж чыстымі вар'ятамі, якія не ведаюць, што

яны вар'яты, і хто ведае, чаго толькі яшчэ я ім там панакрычала.

Калі я бразнула за сабою дзвярыма, перад домам стаяў кармазінава-чырвоны аўтамабіль, а праз гародчык ішоў худы, высокі чалавек. У яго быў, не — на ім быў бледны, амаль белы твар і на ім шэрыя, нерухомыя вочы, тупыя і бліскучыя адначасова, быццам яны не маглі нічога бачыць, альбо бачылі ўсё. Ці яно тое залежала ад майго развярушанага настрою, ці ад таго, што балела галава, хай не ўся, а толькі правая палавіна, ці можа гэта былі толькі вынікі Ірмінага візіту, але мне здалося, быццамкі я заглянула ў вочы смерці. Гэта была мая першая сустрэча з Міхаэлем Берэнбаўмам.

Ніякага шуму, толькі шалясценне апалага жухлага лісця пад маімі нагамі. Безжыццёва ўлёгся "гарадок" у кастрычніцкім туманным чадзе На флагштоках у прадмесцях нябачныя жыхары павывешвалі сцягі, якія абвісла анучыліся ў поўнай бязветрані Я ўзбегла на насыпную дарогу, адразу каля каменнай рыны, куды вецер нагурбаваў сухога лісця, і шумна павалачыла нагамі праз гэтую ўжо загніласць, пакуль так не выйшла з паўкола "гарадка", дзе шнуравалі машыны. Усё належыць вам, думала я, брук, дамы, дрэвы, святло за вокнамі Усё належыць Берэнбаўму і гэтаму чалавеку з мёртвымі вачыма, магчыма, нават і Сэнсману. Я таксама належала ім, калі ўвайшла ў іхні дом, пракляты дом нумар шэсць на Ціхай вуліцы з персідскімі дыванамі і квяткастымі гардзінамі, са сценкаю-шафай і мяккім гарнітурам і заржавелым бярэзнікам на сцяне замест ван Гогавых сланечнікаў.

Дома, бадай што, не мела сэнсу паліць святло. Я сядзела на чорным крэсле і ўяўляла сабе, якой брыдкай і смешнай я павінна была выглядаць, калі ўзвілася перад Сэнсманам і Берэнбаўмам, як разбушаванае дзіця. Усё, што робіцца, — фальш, думала я, можна рабіць толькі фальш. Кожны мой крок вядзе да памылкі, кожны рух скранае нешта фальшывае Што гэта за свет, у якім не зробіш нічога правільна. Напрыклад, мая цётка Іда, якая ўбухала трыццаць гадоў жыцця, скупляючы нататнікі, маленькія фальклорныя лялькі, шчаўкунчыкі і насценныя талеркі, якія таварыства, у якім Іда зарабляла мізэрныя грошы і назва якога гучала так хораша. Таварыства ўзаемаразумення ўсіх народаў, раздорвала ўсім сваім сябрам за мяжою. Што магло быць у тым фальшывага — купляць маленькія лялькі, каб нехта дарыў іх на знак дружбы Калі я расказала Ідзе, даведаўшыся, што менавіта Таварыства ўзаемаразумення ўсіх народаў было філіялам сакрэтнай службы, яна засмяялася, сказала, што яна ўвесь час кажа, што людзям мрояцца розныя прывіды, і — купляла гэты хлам далей, дзень у дзень, аж пакуль не памерла. І хто мог ведаць, чаго нарабілі тыя Ідзіныя лялькі Іх можна было б падарыць, напрыклад, амерыканцу нямецкага паходжання ў Лексінгтоне, Кентукі Усе нямецкія амерыканцы займаюцца даследаваннем генеалогіі, таксама і гэты, чые продкі дзвесце гадоў таму назад перабраліся з Мекленбурга ў Амерыку. Чалавек з Лексінгтона, Кентукі, захаваў да Мекленбурга тайную замілаванасць, якая праз ляльку, апранутую, натуральна, па-мекленбургску, так развінулася, што чалавек быў гатовы даведацца пра хаванае ў тайнасці імя самага надзейнага скакавога каня з Лексінгтона, Кентукі, і выдаць яго таму, хто перадаваў тую лялечку, аж у выніку балгарская сакрэтная служба перад адным забегам здолела пусціць у ход свой парасон з атручаным вастрыём супроць каня-фаварыта, якому прадказвалі будучыню, падобную на будучыню легендарнага Мэна о'Вара, і тым самым забяспечыць перамогу рускаму вогіру Аніліну, кавалеру ордэна Савецкага Саюза, перамогу на вялікім міжнародным дэрбі. Іда не змагла абвергнуць сваёй віны ў саўдзеле ў злачынстве, нават з улікам таго, што яна не мела ніякага ўяўлення пра падступныя махінацыі дзялкоў з Таварыства ўзаемаразумення ўсіх народаў і ведаць не магла, якое палітычнае значэнне надавалася забойству такога каня, як Мэн о'Вар, вывы якога віселі на сценах у Кентукскіх адміністрацыйных офісах і броварах, як у нас партрэт кіраўніка дзяржавы. Мне выпадкова расказаў пра гэта адзін праязны студэнт-германістыкус з Лексінгтона, Кентукі, якога аднойчы ўвечары граф падгроб з сабою ў кнайпу

Калі я мусіла выслабаніць Ідзін пакой ад усяго, чаго яна за сваё жыццё паназвалакала, я знайшла тры кардонныя скрынкі, набатаваныя гэтымі лялькамі, якія Іда зберагала для дэманстрацыі праяваў сваёй, нашай дружбы Я раздарыла іх дзецям, якія гулялі каля бачкоў са смеццем, туды я выкінула Ідзіну бялізну, стары абутак і ўсякую іншую спадчынную непатрэбшчыну, перш чым Іда сама абярнулася ў попел.

***

Я больш не хацела працаваць на Берэнбаўма, хоць, калі ўсё як след прыкінула, магла б быць вінаватая не больш за машынку, на якой друкавала. Хто закіне віну той машынцы толькі за тое, што нейкі забойца на ёй выстуквае сваю споведзь. Але я была не машынка, нават калі ў дачыненні да Берэнбаўма і рабіла так, быццам мною карысталіся менавіта як безгалосай машынкай. надзейная, непасрэдная, гатовая чакаць, нямецкая вартасная праца Тым часам толькі мной адной правільна зразуметае разыходзілася, распальвалася, разрасталася ў нейкі бясформны вырост, які аплятаў мае жылы, як ліяна, буяў вакол майго сэрца і шнураваў спазмамі страўнік, аж я нават часам баялася, што маёй грудной клетцы не хопіць прасторы на дыханне

А не хапала мне, як тое даказаў мой выбух, духоўнай дыстанцыйнасці даследчыка прыроды, які можа спакойна назіраць, як леў задзірае зебру, бо яго цікавіць толькі адно: як леў задзірае зебру, як ён яе высочвае, як цікуе за ёю, за што найперш хапае, ці адразу забівае, а ці спакваля. Што леў задзірае зебру — гэта ў яго, даследчыка, натуральна і не падлягае ніякім маральным ацэнкам. Калі б мне ўдалося пацікаваць за Берэнбаўмам вачыма натураліста, а яшчэ лепш, бяздушным вокам кінакамеры, я ні ў якім разе не магла б пачуцца ягонай ахвярай, не больш, чым той даследчык пачувае сябе ахвяраю льва Даследчык не ненавідзіць ільва; а я ненавідзела Берэнбаўма.

Калі яго ногі, успамінаючы свае колішнія самастойныя крокі, сімулявалі юнацкую выхадку, я ненавідзела яго; калі ён, каб падумаць, эфектна адкідваў галаву і заплюшчваў вочы, я не магла адвесці позірку ад яго напятай шыі, на якой пад маршчыністай скурай выразна праступаў гарляк, і мне запомнілася, быццам я часам чула, што чалавеку, каб яго хутчэй задушыць, трэба запхнуць у горла пад'язычную костку. Мяне гідзіла далікатная, завялая скура на яго моцных руках; мяне раздражняла пэўная ўзнёсласць у ягоным голасе, нейкая падхалімская мяккасць, якую ён укладваў, пачынаючы гаворку са мною па-за межамі нашай дамовы. Я ненавідзела нават заняпаласць яго цела, якое ён спрабаваў схаваць пад дарагой вязанай куртай і якое мне, калі б тады я мела адназнача растлумачыць сваю бязмежную агіду, хутчэй павінна было б даць пачуццё задаволенасці Мне было так, быццам я ненавідзела Берэнбаўма ў натуры, быццам ува мне існаваў нейкі генетычны код, які перасцерагаў ад Берэнбаўма, як певень ад шуляка Певень баіцца шуляка, ён не ненавідзіць яго Я пыталася ў сябе, што ж гэта такое, чаму ў чалавеку страх перарастае ў нянавісць. Я не павінна была ненавідзіць Берэнбаўма, калі б я яго не баялася

Пазней, калі я ўбачыла ўжо, бадай, спісанага Берэнбаўма ў ложку за рашоткай, як ён там ляжаў, падначалены нейкай іншай уладзе, перад якою Берэнбаўмава ўлада ў жыцці выключалася, як лямпачка перад сонцам, я магла б з ім замірыцца. Ён быў пераможаны, хай не мною, але я чулася ў тыя хвіліны пераможцай. Тады, прагны і бессаромны, Берэнбаўм працягнуў да мяне сваю трупна-белую руку Нават надмагільнага Берэнбаўма я баялася, і сапраўды, ён быў пераможаны, толькі калі сканаў.

Увечары пасля візіту Сэнсмана я рашыла ніколі больш не бываць у доме на Ціхай вуліцы шэсць. Я больш не хацела працаваць на Берэнбаўма. Я хацела вучыцца на фартэпіянах.

***

Тэкля Фляйшэр аж лёгенька сумелася і ўскрыкнула, убачыўшы мяне ў сваіх дзвярах. Якая неспадзяванка, сказала яна, прычым засталося няясна, парадаваў яе мой візіт, а ці не Яна правяла мяне ў пакой з балконам, дзе на авальным стале свяціўся чайны падагравальнік. Праз акно лілося белае святло вулічнага ліхтара. Прабачце, сказала Тэкля Фляйшэр, і ўключыла таршэр, я тут трошкі залетуценілася. Яна паставіла на стол другі кубачак, падставіла мне крэсла, а сама села на сафу, дзе яна, відаць, упоцемках і летуценіла. Яе вочы за тоўстымі шкельцамі акуляраў блішчалі трошкі больш вільготна, чым звычайна. Яна, мусіць, плакала, ад шчасця або з няшчасця Яна прагрэбла пальцамі валасы, нібыта хацела закруціць іх у куклу,

якою ўжо даўно ахвяравала свайму каханню, да чаго рукі яе ніяк не могуць прывыкнуць і толькі збянтэжана тузаюць завіўку.

Да мяне ніколі не заходзяць, сказала яна, акрамя вучняў, нікога не бывае, сказала яна. Раней, калі жыла мама, заглядвалі яе сяброўкі, а ўжо тым часам і яны паўміралі. Яна пагладзіла вышытую настольніцу і ўсміхнулася, нібыта была абавязана перапрашацца перад мною за сваё адзіноцтва.

Гэта так добра, што зайшлі да мяне, сказала яна, тонкім голасам забалансаваўшы гэтае "так" на пачатку фразы.

Ага, сказала я, мы жывём ужо дзесяць гадоў у адным з Вамі доме, а ўсё яшчэ адна адну не наведвалі.

Яна паглядзела на мяне з чаканнем, і я адчула сябе мусовай растлумачыць, чаму мне ў гэты дзень аж так зарупела пастукацца ў дзверы да Тэклі Фляйшэр. Яна падазравала, што я проста зайшла ў госці, а я не магла адважыцца сказаць ёй неверагоднае — што прыйшла толькі як вучаніца, а не візітантка, што сапраўды ніхто ў яе не бывае, і я таксама.

Во такі выдаўся дзень сёння, сказала я. Прынамсі, хоць тут не схлусіла.

Яна спакойна сядзела на бідэрмаераўскай сафе Яе цёмна-чырвоны аксамітны касцюм, шырокі, мяккі кіцель, з такімі самымі шырокімі штанамі-пірамідамі былі такога самага колеру, як і невялікія ружы на абшыўцы сафы Я ніколі не задумвалася, як добра выглядае кватэра Тэклі Фляйшэр. Цяпер, пабачыўшы, не магла сабе ўявіць ніякай іншай. Далікатны сакратэр, камода, стары медны таршэр з пажоўклым шаўковым абажурам, вялізазны мірт каля акна, прыгожы, ужо добра-такі стаптаны дыван каля дзвярэй, усё ад перастаялае гістарычнасці, як і сама Тэкля Фляйшэр, пастарэлая Тэкля Фляйшэр у абвіслай вопратцы, заўсёды такой крыху смешнай, калі яна з сарамлівым разлётам сваіх барочных клубоў ішла па нашай вузкай, застаўленай прыпаркаванымі машынамі вуліцы.

Усё тут спадчыннае, сказала яна, я ўсё тут ведаю, колькі сябе памятаю. Якое шчасце, што мама нічога не выкідала, пры ўсім тым хламе, які можна купіць. Мне патрэбны рэчы прыгожыя.

Я згадала свае чорныя крэслы і сказала, што ўсё тут вельмі добра ўпасавана, і яна, і мэбля. Што яна прыгожа глядзіцца на сафе, дадала я

Яна запляскала ў далоні, як малая. О, усклікнула яна, вы робіце мне кампліменты. Які сёння цудоўны дзень. Гэта нам трэба адсвяткаваць, у мяне там драбнюточка лікёру, што прыслала цёця Хільдзі да дня нараджэння. Што, калі я Вас пачастую.

Не чакаючы адказу, пабегла на кухню і вярнулася з дзвюма лікёрнымі чарачкамі і з непачатай пляшкай лікёру

Нешта італьянскае, сказала і потым па складах: а-ма-рэ-та.

Даволі салодкая штука, нам добра ўсмакавала. Тэкля Фляйшэр расказала, што яна з таго часу, як сорак гадоў таму перабралася з Гюстрава ў Берлін, жыла ў гэтай кватэры, спачатку ўтраіх, — бацька, маці і яна, пасля, як памёр бацька, удзвюх, а цяпер вось адна. Яшчэ і маці давала ўрокі па фартэпіяна. Так вось і жывём далей, праўда ж.

Я сказала, што мне здаецца, быццам чалавек у сваім жыцці асуджаны рабіць адны і тыя самыя памылкі. Нават радыкальна памяняўшы ўсе вонкавыя абставіны і верачы, што ўжо раз і назаўсёды прадухілены паўтор нейкага пэўнага канфлікту, раптам зноў сутыкаешся з нечым падобным да перажытага і зноў непазбежна даешся злавіць сябе.

Але ж фраў Палькоўскі, яна адставіла на стол сваю пустую чарку Вы не павінны гаварыць такога, Вы такі моцны чалавек. Як мама. Мама таксама была чалавек моцны. Мне расказвалі, што Вы пакінулі добрую пасаду, хоць Вы на часе разлічваеце толькі на сябе. Мне б Вашу мужнасць, мілы мой Божа, я даўно пасекла б піяніна на дробныя кавалкі і павыкідала б іх у акно.

Крыху схіліўшы галаву, ад чаго ўпарта выстаўляўся яе круглы, бясконтурны схаваны ў шыі падбародак, гледзячы панад міртам кудысьці бязмэтна ў акно, сядзела яна сярод ружаў на сафе

І Вы не любіце граць на піяніна, спыталася я. А я вось дык мару іграць на піяніна, нязбытная мара мая, бо бацькі калісь да дня нараджэння замест піяніна падарылі акардэон, з педагагічных меркаванняў Спярша я павінна была даказаць сур'ёзнасць сваёй любові да музыкі, перш чым у цесны пакой будзе ўбатавана такая чорная гаргара. Але ж як я магла даказаць сваю прыкіпеласць да музыкі — на акардэоне.





Яна не слухала мяне, усё глядзела ў акно, у якое марыла выкінуць піяніна.

Я б хацела быць тэрарысткай, сказала раптам, тэрарысты не адзінокія. Калі яны шпурляюць свае бомбы, дык усё адно не адны, а пазней, у турме калі, дык цэлы свет падымае гвалт, што вось каторы там мусіць сядзець у адзіночцы. А я кожнага дня сяджу адна, і ніякіх табе гвалтаў. Яна выцягнула ногі на сафе і адным глытком выпіла лікёр. Так, сказала яна, аж вось так далёка ў мяне заехала. Ці ж гэта не страх. Мама перавярнулася б у труне, калі б ведала, што я кажу такія жудасныя рэчы. Мама была супроць усякага гвалту Такі моцны чалавек, як мама, можа сабе лёгка дазволіць выступаць супроць любога гвалту. Ну вядома ж, я супроць, каб забіваць людзей, але я і супроць таго, каб чалавек вечна заставаўся адзін, каб не бачыць нікога, апрача бяздарных гультаёў вучняў.

Невялікае полымца падагравальніка адбівалася ў тоўстых шкельцах яе акуляраў і надавала ёй нейкага блізіру дзікай адвагі. Калі б не яе цяжкія клубы, я сапраўды магла б уявіць яе тэрарысткай, такой старамоднай рускай анархісткай у прыталеным дарожным касцюме і зашнураваных высокіх чаравіках, забойцай тыранаў, якая няўмольна дзівіцца ў вочы сваёй ахвяры, мецячы ёй прамусенька ў лоб.

Апошнім часам Вы рабілі ўражанне шчаслівай, сказала я.

Калі б я раней не пыталася, ці магу стаць яе вучаніцай, я, прынамсі, магла б абгрунтаваць, што падазравала за дзіўнымі пераўвасабленнямі Тэклі Фляйшэр. З той гарачнай жывасці, якую я ў ёй назірала ў апошнія тыдні, цяпер я не адчула нічога Замест — бездапаможная ўзрушанасць, поцяг да забароненых чынаў, якія я вельмі добра ведала, каб адразу ж не паддацца яе настрою. Але што было з Тэкліным каханнем, можа нават, адзіным у жыцці, якому яна ахвяравала свае доўгія валасы, дзеля якога яна раскрыла ўсё тое, што дзесяцігоддзі цнатліва хавала.

Ах, фраў Палькоўскі, сказала яна, і яе тонкі голас затрымцеў, як злоўленая птушка, калі б Вы толькі ведалі. Зараз я зноў заплачу.

Яна схавалася ў нервовы смех. А можна, я пакажу Вам нешта вельмі прыгожае, сказала яна, нарэшце ўжо зноў з прыдуркаватай усмешачкай, якое апошнюю гадзіну мне так не хапала на яе твары. Яна падняла падушку, пад якой ляжала чорна-белая фатаграфія, партрэт мужчыны, таямніца Тэклі Фляйшэр. Асцярожна, каб не пакінуць пальцаў на блішчастай паверхні, яна ўзяла фота за краі вялікім і сярэднім і паклала мне на далоню. Мужчыну на фота было шэсцьдзесят—семдзесят гадоў, ён нагадваў мне Курта Гёца, знешнія краі вачэй былі лёгка ўзнятыя, пасмы сівых валасоў спадалі на лоб, вузкія, прыгожа ўразлётныя губы, твар без слядоў, якія выклікаюць агіду. Зусім не тое, што Берэнбаўм, хутчэй адзін з нямногіх сімпатычных старых людзей, колішні мяцежнік, самнамбула, толькі ўжо здольны прымаць жыццёвыя ўрокі з аказіі недалёкай смерці.

Гэты мужчына, сказала яна, паўгода таму назад, папярэдне не назваўшыся, не аказаўшыся, пазваніў у дзверы і стаяў на парозе, трымаючы за руку сямігадовага ўнука, і спытаўся, ці не мог бы ён навучыць у мяне хлопчыка іграць на піяніна. Тры разы прыводзіў на ўрок, сам ціха сядзеў на сафе, слухаў і пры гэтым глядзеў, не спускаючы вачэй, аж яна, Тэкля, занервавалася. Пасля трэцяга ўрока ён сарваў хлопчыка, хоць таму яўна не хацелася, на пад'ём, праз тое дзіця нават ноты забылася, па якія праз паўгадзіны вярнуўся дзед. Яны пілі чай, і гаварылі пра музыку Ён, сказала Тэкля Фляйшэр, любіў Шуберта. Ён быў мастак, жывапісец, які яшчэ замаладзь пазнаёміўся з Куртам Швітэрам. У тую гадзіну ён гаварыў ёй рэчы, паўтарыць якія яна не адважваецца, і не таму, што яны непрыстойныя, не, такія дзівосныя рэчы, што пра іх проста і не скажаш, іх нават не працытуеш З таго дня яны сустракаліся рэгулярна Няшчасце, што вочы Тэклі Фляйшэр цяпер нарэшце набегліся слязьмі, было толькі, што мужчына, якога Тэкля Фляйшэр называла ЁН, быў жанаты, і што ягоная дачка, маці хлопчыка, жыла на нашай вуліцы, у доме насупраць нашага.

Я цяпер зусім не ведаю, шчаслівая я ці нешчаслівая, яна затуліла твар у свае вялікія, моцныя рукі піяністкі. У шырокім цёмна-чырвоным аксамітным адзенні яна зашылася ў куточак сафы з ружамі, паблытаныя шэрыя валасы зліліся са святлом таршэра ў адзін суцэльны прамяністы вянок на галаве. Я падліла нам яшчэ амарэта і сказала, што ва ўсёй яе гісторыі не бачу ніякага няшчасця.

Кахаць — заўсёды шчасце, нават непрынятае каханне — шчасце, меншае, вядома, чым прынятае, але шчасце таксама.

Я думала пра Берэнбаўма, якога я ненавідзела.

Ведаеце, што ёсць няшчасце, сказала я, няшчасце — гэта калі ты не можаш больш бачыць шыю пэўнага чалавека, не думаючы пра тое, што ў гэтае горла можна было б запхнуць яго ж пад'язычную костку. Калі невядомы страх ператвараецца ў нянавісць і, як атрутная слізь запаўняе сны і мроі, калі спазнаеш, што чалавек можа быць забойцам, і не жахаешся. Вось гэта ўжо няшчасце.

Я гаварыла горача, а яна глядзела на мяне так спалохана, што я замоўкла. Тады я палічыла, што нагаварыла дужа многа, каб не працягваць далей. Я расказала ёй пра Берэнбаўма, як я з ім пазнаёмілася ў кафэ, што на ім была такая самая вязаная курта, такія самыя бардовыя скураныя пантофлі, як і ў майго бацькі, што Берэнбаўм пісаў мемуары, а я адмовілася аддаць яму сваю галаву

Спачатку я яго проста не любіла, з часам выявіла, што ненавіджу Я мушу думаць пра яго, хоць думаць не хачу. Я трызню ім. Калі ступаю на парог ягонага дома, сэрца маё заходзіцца, быццам я павінна сустрэцца з тым, каго кахаю Калі выглядае блага, я трыумфую, мне нават прыходзіць на мыслі, што — а што, калі б яго, вось пакуль я так стаю каля яго, раптам узяў ды разбіў паляруш А ён жа нічога мне не зрабіў Ён плаціць мне пяцьсот марак у месяц. Ён тое, што я ненавіджу, але што ж я так ненавіджу

Кінь і забудзь, што ты ненавідзіш, і пашукай, што ты любіш, шаптала яна сама сабе Мама вечна казала мне так. Мама была моцны чалавек. Я не павінна была ненавідзець фартэпіяна, каб не яно, дык і ён не прыйшоў бы, праўда ж.

Пра Берэнбаўма яна раней нічога не чула, не чула і пра гатэль Люкс. У палітыцы яна не разбіраецца, сказала.

Што ў ёй можна разумець, спыталася яна, у той дзень ці іншы, рана ці позна, ты проста ведаеш, што гэта так. Пакуль ты не спытаешся Чаму, толькі пасля Што ўсё вельмі проста. усюды на вуліцах заўсёды ёсць нешта, што называецца Ўлада У скрынках з пляшкамі, у кнайпах, у офісах, у трамваях, у ложках, усюды яна ёсць. Кожны бярэ сабе трошкі, і многім гэтага мала, тады яны ідуць у паліцэйскія, дворнікі альбо ў палітыкі Больш зразумець немагчыма

Самае горшае, калі там, на вуліцы, пануе такая самая ўлада, такі самы закон, як у сваім доме Мой бацька панаваў над маёй школай, і ён жа панаваў дома. Нават калі мне раніцай ісці ў ванну — вызначаў ён. Супроць яго не было ніякіх абскарджанняў; не было нікога, хто мог бы яму запярэчыць. Тут, у Вас, сказала я з позіркам, які ўвабраў у сябе і лямпу, і сафу і ўсю астатнюю мэблю, і спыніўся на піяніна, бо не мог нічога сказаць.

Гэтага мама не дазволіла б, сказала яна.

Мы падзялілі рэшту амарэта, сказалі, што завуць нас Тэкля і Разалінд, што мы з таго часу будзем гаварыць адна адной ты, і пацалаваліся ў вусны. Нашыя губы былі клейкія ад лікёру. Я паабяцала ёй, што неўзабаве зноў наведаюся. Пра ўрокі я нічога так і не сказала

У студзені мы згулялі вяселле Тэклі Фляйшэр У вёсцы, у дзень, калі выпаў першы снег

***

Пыдбараддзе села на сваё крэсла ў першым радзе Скрыпачы зашчамілі інструменты падбародкам і плячом, тупа зірнулі адзін аднаму ў вочы, першая скрыпка кіўнула. Гэтым разам гралі “Ave verum corpus”.

Перад труною ляжалі вянкі і букеты, пасярэдзіне самы вялізны вянок, ледзь не як трактарная гусеніца, усыпаны кветкамі, нябеснымі ключыкамі і незабудкамі Я была зачараваная. Ігрок на гармоніуме ўзяў, прынамсі, два тоны і перашкодзіў мне высачыць пастаўшчыка халтуры Жоўтыя і светла-блакітныя кветачкі глядзеліся на велізарным коле як заношаная вопратка ваўчыная морда ўсярэдзіне міленькага чэпчыка бабулі Чырвонай Шапачкі. Я стаяла далекавата, каб можна было расшыфраваць залатыя надпісы на жоўтых, старанна задрапіраваных стужках. Пытанне было, ці вянок задуманы як сімвал мёртвага, ці велізарны памер яго ўшаноўваў значэнне нябожчыка, а далікатныя кветачкі павінны нагадваць пра пяшчотлівасць ягонай душы; альбо можа ці не служыў ён самапартрэту пераносчыка. Хоць нябесныя ключыкі і незабудкі хутчэй дазвалялі думаць пра жаночага жальбіта, я хутка адкінула гэтую думку. Жанчыны не маглі б насіць такіх рэчаў. Гэта магла і павінна была быць фінансава моцная, пераважна з мужчын рэкрутаваная інстытуцыя альбо партыя. Вакол Берэнбаўмавай труны ляжала дванаццаць вянкоў; дзевяць з чырвонымі, два вельмі малыя з белымі, штучнага шоўку стужкамі, што ўшаноўвала саму смерць, і той загадкавы монстр з кідкай жоўтай стужкай, якая не спавядалася ні ў якім вызнанні розуму

Хто адважыўся дзеля развітання з Берэнбаўмам устрымацца ад чырвонай фарбы, злева, дзе сядзіць сэрца, чырвонае, як кроў Я бачыла Берэнбаўмаву кроў Яна раптам палілася з яго правай ноздры, тры цяжкія, светла-чырвоныя кроплі ўпалі на белую паперу перад ім, перш чым яму ўдалося дастаць левай рукой з кішэні хустачку і зацiснуць ёю нос Я ўпершыню спыталася ў яго пра гатэль Люкс. Ці ведалі яны, ці ведаў ён. Лямпа на пісьмовым стале гарэла і кідала рэзкае бакавое святло на твар Берэнбаўма.

Што, спытаўся ён, ведаў, пра што я спыталася, спыталася тым не меней, нібыта гэтым вербальным рэфлексам можна было ўхіліцца ад адказу.

Гэта, сказала я.

Не ведалі нічога. Ён паглядзеў на мяне. Ён хацеў, каб я яму верыла.

Але падазравалі?

Яго левая рука сціснулася ў кулак. Мы змагаліся супроць Гітлера. Ён расцягваў склады і кожны супраўаджаў ледзь стрымліваным ударам кулака па стале, нецярплівы, заклінальны, канчатковы.

А перамогшы Гітлера?

Будавалі дзяржаву. Вучыліся, вучыліся і яшчэ раз вучыліся.

І не шкадавалі, што з вамі не было Вашых таварышаў, з якімі Вы жылі ў гатэлі Люкс дзверы ў дзверы?

Ён паспрабаваў глыбока ўздыхнуць. Губы дрыжалі, твар збарвовеў А тады пацякла кроў з правай ноздры, расплылася маршчыністай дэльтай па яго верхняй губе, закапала на запісаную паперу перад ім

Мне зрабілася млосна. Не ад Берэнбаўмаваў крыві, мяне ніколі не нудзіла ад крыві, нават ад сваёй. Толькі калі я аднаго разу паранілася і мусіла злізваць кроў з пальца, каб не запырскаць дыван ці вопратку, мне замлосціла ад яе клейкай саладжавасці. Не Берэнбаўмава кроў, не, калі яна расцяклася паўз ледзь бачных вусікаў па скуры, мяне згідзіла, а таму што ён замест адказу прапанаваў мне сваю старую, затручаную пілюлямі, штучна разводжаную ад трамбозаў кроў, што ён паспрабаваў гэтым жалю вартым трукам ператварыцца ў ахвяру і не адказваць на мае пытанні Нарэшце ён знайшоў хустачку.

Ці не хацелася б Вам ведаць, што сталася з Вашымі таварышамі пасля таго, як сярод ночы іх паздзіралі з ложкаў у гатэлі Люкс.

Я не магла спыніцца. Яго твар быў закрыты хустачкай, відны былі толькі вочы, поўныя нянавісці, а то і ўмольныя. Чаму ў мяне ніякай спагады. Вы не баяліся, што прыйдуць і па Вас? Альбо па Вашу жонку? Як яны схапілі жонку Эрыха Мюзама, як схапілі Алісу Абрамовіч, якую выслалі на лесапавал у Сібір, але яна выжыла і вярнулася калекаю. Ці бачыліся Вы пасля таго з Вашым таварышам Алісай Абрамовіч?

Ён не адказваў, прыціскаў хустачку да вуснаў і да носа. Настольная лямпа цяпер сляпіла яго, хворай дрыжачай рукой ён павярнуў абажур да сцяны

І што Вы ёй сказалі Вы сказалі, што сказаў ёй і ваш сын, калі яна змагла пабачыцца з ім праз пятнаццаць гадоў Ён не сказаў ні слова, бо верыў у тое, што яму сказалі ў дзіцячым доме: што ягоная маці нацысцкая шпіёнка.

Толькі калі хусцінка зусім намокла Берэнбаўмавай крывёю, я адляпілася ад яго, як насмоктаная п'яўка

Нібыта нехта трымаў у мяне перад тварам люстра, я ведала, як цяпер выглядала. рот перакрыўлены, сківіцы і шыя перанапружаныя, вочы вузкія Апошнія сказы гучаць у вушах груба і агульна, як чужыя, і аднак жа гэта мой голас.

Ці не магла б я памагчы яму, спыталася я, пачакаўшы Ён патрос галавой.

Я пакінула яму чатыры папяровыя хустачкі, якія знайшла ў сваёй сумачцы.

Якога колеру была кроў у Берэнбаўма цяпер, калі ён васкова белы, апрануты ў свой галубіна-блакітны гарнітур, ляжаў сярод шаўковых падушак і ніякай фразай нельга было яго параніць да крыві Не чырвонай, як кроў у жывых.

У наступную пятніцу ён прадыктаваў першы сказ: “Мая жонка Грэта была арыштавана ўвосень 39-га года”

Мае пальцы так здзеравянелі, што я не магла пісаць. Ён паглядзеў на мяне як

чалавек, які зрыхтаваўся да ўдару і цяпер фіксуе цэль.

"Яна трапіла ў канцэнтрацыйны лагер Равэнсбрук".

Ён устаў, узбуджаны, бездыханны, падышоў да дзвярэй, павярнуўся да мяне: і ён не ў Сібіры, крыкнуў ён і выйшаў з пакоя.

Я ўтаропілася ў тое месца, дзе ён толькі што сядзеў, за акном святло няпэўнага часу, голыя галіны букаў нерухомыя, усё вакол мяне ціхае і маўклівае, быццам я трапіла на фатаграфію. Вы заўсёды маеце рацыю, думала я, што б я ні казала, усякае няшчасце належыць ім, шчаслівым уладальнікам біяграфій. Ледзь толькі я разявіла зяпу са сваімі крыўдамі, як яны адразу запхнулі мне кавалак у зубы — Равэнсбрук, альбо Бухенвальд. Глытай альбо задушыся тым кавалкам. З аўторка да пятніцы ён рыхтаваў гэтую адну хвіліну, гэтыя тры сказы, ён уявіў сабе, як я, са здзеравянелымі пальцамі, без'языкая ад сораму буду сядзець тут, няздольная паўтарыць сваё пытанне пра гатэль Люкс, бо я ў сваім жыцці не мела нічым падаткнуць яму, ніякага козыра на права задаць такое пытанне.

Я напісала: "Грэта была арыштавана ўвосень 39-га. Яна трапіла ў канцэнтрацыйны лагер Равэнсбрук. Сібір — недалёка ад Равэнсбрука".

***

Скрыпачы склалі інструменты ў футаралы, але яшчэ не зачынілі іх. Чалавек іграў на гармоніуме "Інтэрнацыянал", як піяніст з бара сігнал вышыбалу "Да сустрэчы, да сустрэчы, не заседжвайся так доўга..." Праз шпалеры жалобнікаў нейкі невялікі чалавек пранёс на далонях чорную аксамітную падушачку з Берэнбаўмавым ордэнам. Абапал ордэна ішлі чацвёра мужчын, далей следавала труна з мёртвым Берэнбаўмам, за труною вялікія вянкі, кожны несены двума мужчынамі. Малыя вянкі і букеты неслі жалобнікі ў журботным шэсці. Я чакала вянка з незабудкамі. Калі двое ў уніформах праносілі яго міма мяне, на той палавіне стужкі, якая звісала з майго боку, я прачытала: "апошняе прывітанне ад байцоў нябачнага фронту".

Натуральна, каласальны вянок, пераапрануты пад летні луг, штазі, хто ж яшчэ. Толькі цяпер я пазнала Міхаэля Берэнбаўма, ён быў сярод носьбітаў вянка. Я першы раз убачыла яго ў уніформе. Скрыпачы сядзелі, гатовыя падхапіцца, інструменты гарызантальна, на сцёгнах, як кульбакі, на якія ім прыйдзецца абаперціся, як толькі апошні чалавек пакіне капліцу. Яны прапіхвалі сваімі вачыма жалобную працэсію праз партал.

Апошняя была я. Калі я ўсміхнулася ім, двое з іх кіўнулі мне на развітанне.

Шлях ад капліцы да зямнога прастакутніка, які Берэнбаўму выкапалі ў тым спецараэле могілак, пралягаў праз галоўную алею ў кірунку да выхаду. Я пайшла за працэсіяй на адлегласці трох – чатырох метраў. Ніхто гэтага не заўважыў бы, калі б я збочыла і ішла сярод магіл, паклала фрэзіі на магілу забытага нябожчыка і пакінула могілкі праз бакавы выхад.

Цяпер я магла б ісці дамоў. Самае большае праз паўгадзіны Берэнбаўм будзе ляжаць на сваім месцы, пад яшчэ мяккай пух-зямлёй; яшчэ некалькі дзён нагрувашчаная гара вянкоў будзе пазначаць месца новага прыбыльца, пакуль жонка Міхаэля Берэнбаўма альбо аплачаны імі садоўнік з могілак не ператворыць свежы курган у звычайную магілу, з бляшанымі кветкамі і якойнебудзь хвойнай пасадкай. Тым не меней я пайшла далей за ўсімі. Я яшчэ недастаткова нагледзелася.

***

Праз тры дні пасля візіту Сэнсмана Берэнбаўм затэлефанаваў мне. У яго была адна вельмі тэрміновая дамоўленасць з урачом і заўтра, у аўторак, нашу сустрэчу канечне адмяніць, на жаль, аж мы здолеем прадоўжыць нашу працу толькі ў пятніцу.

Берэнбаўм быў самы сабакамі падшыты стары чалавек, якога я калі ведала. Ён здагадваўся, што я рашуча пастанавіла больш не паяўляцца ў яго доме А ўтрымаць мяне хацеў Менавіта мой шал на яго і на ўсё, што ён для мяне ўвасабляў сабою, здаецца, якраз і ажывіў яго, быццам ён толькі дзеля таго і дыктаваў, каб даказаць мне, што мой шал на яго гаўна варты, што ён ім а зусім жа не пераймаецца, што я яму сваім гневам нават паслужылася на добрую дагоду.

Званок застаў мяне знянацку. Я ўжо была сабралася пазваніць яму заўтра роўна ў тры гадзіны папалудні і, зусім няўзрушана, спакойна, наколькі мяне на тое станецца, паведаміць яму, што разглядаю нашыя працоўныя адносіны закончанымі, і адразу, не даючы яму часу на адказ, пакласці трубку.

Я складала фразу, якая добра ўпасавала б яму; фраза не давалася. Трэба было сказаць проста: я не прыйду і ў пятніцу, альбо: я наогул больш не прыйду, альбо толькі: не Сказаць "не" і пакласці трубку, гэта можна было б.

Я дапускала, што ён борздзенька згорне гаворку, сказаўшыся на спех, тым самым запабегне маёй адмове, на якую я пасля доўгага роздуму ўсё-такі адважылася б, і што ён тады са сваёй рыторыкай: у такім разе — да пятніцы, супроць якой я не пярэчыла, наш дагавор на аўторак застаецца ў сіле, як бы пра тое і пытанне не стаяла.

Так яно ўсё і праясніцца. І інакш таксама.

Барацьба з Берэнбаўмам была, калі я разам з ім накрывала стол, ужо не толькі барацьба толькі супроць яго. Калі б я хацела толькі пакончыць з ягонай уладай над мною, я б засталася пры сваім — не бываць больш у ягоным доме. Але я ўжо пакутавала на той стадыі варажнечы, якая спараджае жарсць.

На другое папалудне, адразу пасля трох, я пазваніла яму, каб праверыць, ці праўда ён пайшоў да доктара. Пасля чацвёртага гудка ён зняў трубку, я сказала яму тры разы "алё" і паклала.

***

Берэнбаўм выставіў на стол дзве чаркі і пляшку вінаграднага віна. На прымірэнне, сказаў ён і сеў насупраць. Паміж намі стаяла машынка маркі "Rheinmetall". Ён папрасіў мяне распячатаць пляшку. Я наліла ў чаркі да палавіны.

Не так, каб напаўсэрца, сказаў Берэнбаўм, інакш і замір'е будзе напаўсэрца.

Фраў Палькоўскі, сказаў ён, альбо дазвольце мне называць вас Разалінд, а яшчэ лепей Роза, як нашую Розу, нашу Розу Люксембург.

Я не ведала, як мне стаць яму папярок, і сказала, што хай будзе яго праўда.

Апошнімі днямі я многа думаў пра Вас, Роза. Вы маладая, прыгожая жанчына ў самых, як кажуць, лепшых гадах. Я не ведаю Вашага жыцця, толькі Вашу дзіўную максіму, што вы не хочаце мысліць за грошы. Калі вы напярэдадні такая ўзбуджаная пакінулі гэты дом, я спытаўся ў сябе: чаму яна такая зжарсцвелая. Я ведаю, што Вы не хочаце гаварыць са мною пра гэта. Але вы бачыце, я стары, прагны да ведаў чалавек і хацеў бы зразумець, што такое можа Вас настройваць супроць мяне Я адчуваю, каб быць шчырым, што быў несправядлівы з Вамі

Ён скіраваў на мяне свой жабіны твар, чакаючы адказу. Я глядзела ў акно, на дзверы, як дзіця, якое стаіць перад настаўнікам і не ведае адказу. Каб выйграць час, я выпіла каньяку. Я хачу быць, як той даследчык прыроды, думала я, я мушу качацца ў брудзе, абдзіраць сабе цела аб вострае каменне, цэлымі днямі напралёт спакойна ляжаць на гарачым пяску, не адчуваючы сябе львом. Цяпер я не мела права сказаць: такія людзі, як Вы, згаўнялі мне ўсё жыццё. Я павінна была панадзіць яго, спакусіць, гаварыць пра яго, а не пра сябе. Ён сядзеў не за пісьмовым сталом, я нічога не натавала. Я мусіла нешта спытаць, на што ён у легендзе свайго жыцця, у якую ён тым часам паверыў сам, не змог знайсці адказу; нешта, што ляжала па той бок палітыкі.

Размовы, у якіх мужчыны хочуць кожны пераканаць другога ў сваёй значнасці, робяць мяне вар'яткай, сказала я.

Ён засмяяўся і паказаў зубы, так цэльна і роўна заякараныя ў штучнае паднябенне, што я бачыла іх, быццам яны плавалі ў двухфазным ачышчальніку.

А Вы што, хіба яшчэ і праціўніца мужчын, спытаўся ён Жаночы канчатак не дазволіў яму вымавіць слова "праціўніца" коратка і рэзка, як гэта было ягонай звычкай: вораг, класавы вораг.

Чаму хіба яшчэ?

Яму спатрэбілася некалькі секунд, каб зразумець, пра што я спыталася.

Не, не, сказаў ён, толькі дурная манера гаварыць, Вы не вораг у маіх вачах, Роза, наадварот. Чаму Вы нагадваеце мне нават Грэту, маю жонку. Я дастаткова бачыў ворагаў за сваё жыццё, каб ведаць, што Вы не належыце да іх.

Я першы раз убачыла, што ён піў. Рух, якім ён падымаў да вуснаў чарку — крыху вывернутая вонкі рука, пругкі суглоб локця, — ці не такі, як у звычайнага выпівохі. Альбо яшчэ з маладосці завучыў і з таго часу ўсё так і засталося, альбо яшчэ і цяпер ён піў больш, чым я думала.

Ён кульнуў чарку шнапсу ў рот, і вадкасць па языку роўна палілася ў горла, без булькання. Я б вельмі хацела ведаць, чым такім у ягоных вачах я адрознілася ад ворага, але не спыталася, бо падазравала, што, можа, ён якраз і хацеў справакаваць пытанне

А Грэта таксама была праціўніца мужчын, спыталася я.

Ён адкінуў галаву, але не прыплюшчыў вачэй, як у роздуме, а пусціў позірк паблукаць па століі, быццам хацеў там вычытаць тое, што хацеў мне цяпер сказаць. Грэта, ён вымавіў імя горача, як імя святога, о так Грэта ўмела ненавідзець, з усёй палкасцю, як яна ўмела і любіць. Яна была для сваіх ворагаў няўмольная праціўніца, гэтым Крупам, Шэйдэманам, Гіндэнбургам, Гітлеру, і іхнім жонкам Але, сказаў Берэнбаўм і зірнуў на мяне, яна любіла сваіх таварышаў — Тэльмана, Дзімітрова, Піка і іхніх таварышаў Герберта Берэнбаўма, бо яна была камуністка, мая таварышка, на ўсё жыццё.

Берэнбаўм схіліў галаву набок, заплюшчыў вочы, сканцэнтраваўся, нібы прыслухоўваўся да ледзь улоўнага голасу, падняў здаровую руку на вышыню грудзей і прадэкламаваў, вібрыруючы літару *р*, як Аляксандр Муасі.

*"Калі, паняволіўшы, зневажалі цябе,*
*калі айчыну ахуталі ночы,*
*а я на чужыне служыў барацьбе,*
*тады стрэліся нашыя вочы,*
*і ў будучым нам засвяцілася мэта, —*
*Дзякуй табе, таварыш Грэта.*

*Калі слабасць ледзь не адужала нас*
*і Масква святая ледзь не гарэла,*
*я думаў пра золата тваіх валос*
*і пра сэрца, што страху не мела.*
*Толькі мужнасць твая*
*адолела слабасць; за гэта*
*Дзякуй табе, таварыш Грэта".*

Ён апусціў руку, якой суправаджаў верш палка-значнымі, рытмічнымі жэстамі, і сказаў, усё яшчэ прыплюшчыўшы вочы: так, я гэта напісаў ёй Я ведаю, я не паэт, але мае словы падзякі пакладіся вершам. Вы занадта маладая, каб ведаць, што гэта азначае, быць у часы варварства пэўным за шчырага, сумленнага чалавека. Наліце яшчэ раз, Роза, на адной назе стаіцца кепска. Грэта і я яшчэ былі нежанатыя, калі партыя рашыла пасдаць мяне ў эміграцыю. Грэта засталася ў Германіі. Перад маім ад'ездам мы паабяцалі адно аднаму: калі толькі пераўжывём нацызм, мы сустрэнемся ў нядзелю пасля вайны а палове дзесятай каля Фрыдрыхштатпаласта. Грэта паспела туды на шэсць тыдняў раней за мяне. Яна прыходзіла кожнае нядзелі, у шостую нядзелю прыйшоў і я, з вялікім букетам маргарытак, які я купіў у садзе разбомбленай вілы. Маргарыткі былі любімыя кветкі Грэты.

Як першы, так і другі каньяк ён рашуча выліў у сябе Хоць, як на мяне, верш быў агідны, я не магла перабароць сябе і першы раз паверыла яму. Я проста бачыла яго перад сабою, як ён, яшчэ даволі малады чалавек, з адкрытым каўняром і закасанымі рукавамі, з маргарыткамі ў руцэ, бяжыць па горах руінаў цэнтра Берліна. Я носам чула вапнавы пыл, які падымаўся з руінаў і дамешваў пах вайны ў ранішняе летняе паветра, бачыла, як маладая жанчына, гнаная чаканнем і сагнутая пад цяжарам страху перад магчымым расчараваннем, пераходзіла мост па-над Шпрээ; як яны ляцелі насустрач адно аднаму і паверыць не маглі, што вось яны зноў знайшліся. Усе вобразы закаханых, якія зноў знайшліся, якія я бачыла ў жыцці і ў кіно, сумясціліся ў гэтай пары.

А Вашы таварышы не казалі Вам, што Грэта жывая і была ў горадзе, спыталася я

Я прыбыў у Берлін у суботу і заначаваў у Панкаве ў таварыша з групы Грэты, але ён не ведаў, дзе яна жыла Было якраз так, як я Вам і расказаў Грэце было трыццаць тры, а мне сорак. Паверце, я плакаў, зноў убачыўшы горад. Куды ні гляну, толькі развалiны, разбураныя дамы, разбураныя людзі, кожны другі — нацыст, рэшта — прыспешнікі. І мы, жменька паўгалодных разбітых камуністаў і антыфашыстаў, павінны былі выцягваць з дзярма тачку. Паўстацца з руінаў насустрач будучыні, так, так яно было.

Тады, як і пры маім першым візіце ў дом Берэнбаўма, найшло на мяне ачмурэнне, якое прымусіла мяне паверыць, што я ўжо гэта раз перажыла, што ведала кожную фразу, якая пойдзе за толькі што сказанай, а нават і тон, у якім будзе сказана. Усё гэта амаль слова ў слова я ўжо чула.





Гэта быў цудоўны, але цяжкі час, сказала я, бо я ведала, што менавіта гэты сказ мае быць зараз сказаны

Так, сказаў Берэнбаўм, гэта быў цяжкі, але цудоўны час. І мы многага дасягнулі.

І вы будзеце бараніць гэта ад кожнага, хто .

...хто хоча павярнуць кола гісторыі Вядома, мы будзем бараніць, сказаў Берэнбаўм Толькі пасля гэтага ён здзіўлена паглядзеў на мяне.

Я і не падазраваў, што ў гэтым мы такія аднадумцы.

Я толькі працытавала свайго бацьку, сказала я.

Ваш бацька камуніст?

Ён быў дырэктарам школы. Цяпер ён мёртвы.

Берэнбаўм уздыхнуў, спрабуючы гэтым разам адкаркаваць бутэльку сам Яго правая рука дрыжала, як хранічна хворы перад калапсам, але ён даў рады. Па яго твары прабег лёгкі цень болю і страху, нібыта я загаварыла з ім пра, магчыма, блізкую ягоную смерць, а не пра смерць майго бацькі Я часам пыталася ў сябе, як яно будзе, калі яны ўсе перамруць, а Тэкля, Бруна і я пастарэем, што ў нас было б абараняць і што мы маглі б выдаваць за рух кола гісторыі наперад. Мне было дваццаць чатыры, і я не вылучыла нічога, што варта было б бараніць. Я таксама не верыла, што нешта такое было і ў Бруна Магчыма, Бруна сказаў бы, што ён безнадзейна абараняе правы лацініста ад ордаў пладавітых нелацініста, Лорэнс Стэрн супроць Петэра Гакса, Шопэнгаўэр супроць Лукача, "Дон Джыавані" супроць "Вестсайдскай гісторыі", што ўрэшце толькі азначала, што Бруна рабіў тое самае, што і я. ён абараняў сам сябе У мяне не было чаго абараняць, апрача сябе, тым часам як Берэнбаўм разглядаў рух кола гісторыі як сваю справу, якую ён павінен абараняць, калі спатрэбіцца, са зброяй у руках, як часта гаварыў мой бацька і як, можна меркаваць, сказаў бы і Берэнбаўм У гэтую хвіліну я зразумела, што ўсё ўзалежнілася ад смерці Берэнбаўма, ад яго і ад ягонага пакалення. І толькі калі іхняя справа іншым не святая, толькі калі яе патрэбнасць вырашыць яе існаванне альбо пагібель, толькі тады і я зразумею, што я ў сваім жыцці рабіла б з ахвотай Але тады было б запозна. Часам мне прыходзілі на памяць фразы, якімі я не мысліла. Яны падымаліся з таемнасці, якая гнездавалася недзе ў маёй печані, касе ці ў іншых вантробах, дзе яна ўначы, калі я спала і сніла, бушавала. І вельмі мала калі, неспадзявана, яна пасылала ў маю чуванасць фразы, як па бутэлечнай пошце.

Усе гэтыя фразы пачыналіся з паслязаўтра Паслязаўтра заледзянее пустыня Паслязаўтра затрубяць у ружовыя ракавіны і абвесцяць царства нябеснае Паслязаўтра раскрыецца бездань нябесная — увага! хто не ўмее плаваць! Ніколі не гаварылася — заўтра. Заўтра не было яшчэ маім днём. Што магло быць заўтра — гэта пазначана ў Берэнбаўмавым календары тэрмінаў Паслязаўтра было днём пасля смерці Берэнбаўма

Мы сядзелі насупраць як двое людзей, што разам прапускаюць па шнапсіку Ягоныя вочы ўжо блішчалі Ува мне алкаголь паступова будзіў той безнадзейны поцяг да спагады, з якім мы ўсе нарадзіліся і які большасць нас трацяць, перш чым памерці

Я ўявіла сабе, як я яму, асцярожна і стараючыся не пакрыўдзіць яго, растлумачыла, чаму існуючыя, у тым ліку і ім створаныя адносіны, прымусілі мяне жадаць ягонай смерці. Я была б радая, сказала б я, калі б Вашая смерць мне была абыякавая, нават вартая шкадавання. Не думайце, што Вашае каханне да Грэты, якая перажыла дванаццаць гадоў чакання, не кранула мяне. Альбо што Вашага страху, які ноч у ноч катаваў Вас у гатэлі Люкс, я не адчуваю Больш за тое, я жадала мець права ганарыцца Вамі, чалавекам, які выстаяў, які не быў нацы, які не быў хітрым крывадушнікам. Тым не меней я сказала б яму, я вымушана вітаць Вашу смерць, бо Вы кожны дом, кожны кавалачак паперы, кожную вуліцу, кожную думку, бо Вы ўсё, што мне было патрэбна на жыццё, — укралі і не аддалі назад. Вы вымушаеце мяне рабіць самае агіднае, што толькі магу падумаць: жадаць смерці кожнаму Як магла б я хацець, каб Вы жылі далей І тады я спыталася б у яго Вы разумееце мяне

Я не чакала, што ён згадзіўся б на сваю смерць. Ён павінен быў бы толькі зразумець, што я яе, як што так склаліся рэчы, мусіла жадаць. Немагчыма ўявіць, каб ён сказаў: так, я разумею Вас Бо што такое мусіў бы ён зразумець, каб

згадзіцца. Мне было дзесяць гадоў. Бацькі мае паехалі на канікулы ў Цюрынгію. Я засталася з Ідаю ў Берліне. Бацькам мусова было адпачыць ад цяжкай працы, якою яны займаліся больш года ў школе, сказала Іда, пры гэтым я толькі заважала б ім Бацьку я ведала і памятала з трох гадоў. Аднаго разу раніцай ён увайшоў на кухню, дзе ў куточку за дзвярыма стаяў мой ложак, узяў мяне на рукі, і мама сказала. гэта твой тата. Я хацела мець бацьку. Мам маюць усе. Але хто мог бы сказаць: гэта забаранїў мне бацька, таму, лічыце, пашанцавала, у таго каштоўнасць у руках. Іда, якая датуль жыла з намі, выбралася, а бацька пераехаў да нас. Маці прайшла паскораныя курсы на настаўніцу, і бацька, які падчас вайны і палону, мабыць, забыў пра свае мары, узяў з яе прыклад. Улетку, калі мне было дзесяць гадоў і бацькі паехалі ў Цюрынгію адпачыць, я ўжо тры гады як ведала бацьку, але яшчэ ні разу не звярталася да яго з тым словам, якое вызначала нашыя сваяцкія адносіны. Яшчэ ні разу не назвала яго бацькам, татам альбо яшчэ як, хоць усёй душою жадала зрабіць гэта і толькі чакала хоць якога малюпасенечкага знаку ягонай згоды, каб я, як толькі вымавіла б гэтае слова, не стаяла б перад ім і перад сабою як ашуканка і манюка.

Тым летам я далася Ідзе паказаць мне, як гатуецца лімонны крэм. Лімонны крэм быў любімым бацькавым дэсертам, які, як толькі Іда прыносіла яго ў цяжкім сподачку, быў здольны вынадзіць з яго выразныя гукі пахвалы. Кожнага вечара я круціла і збівала бялок, цукар, смятану і лімонны сок, пакуль нарэшце мне ўдаўся круты крэм, які ўжо нічым не адрозніваўся ад шматхвалёных Ідзіных ласошчаў і смакошчаў Да прыезду бацькоў з Цюрынгскага адпачынку я збіла з дваццаці яек вялікую місу лімоннага крэму, якую такую мой бацька ці бачыў калі за ўсё сваё жыццё і ўявіла сабе, як ён будзе вялікай лыжкай зусім адзін есці яго, час ад часу кідаючы на мяне ўдзячныя позіркі, адной мне

Ён на маіх вачаў упароў паўмісы лімоннага крэму. Гэта зрабіла Розі, ціха сказала Іда. Як незамужняя швагерка яна пачувала сябе ў нас падсуседкай, якую толькі трывалі, і жыла ў вечным страху, што калі-небудзь бацька папросіць-такі яе, як заваду ў доме. Мусіць, ён не пачуў Ідзінага ўказання на маё аўтарства лімоннага крэму, магчыма, гэта яго і не цікавіла. Хто ведае, што здараецца з людзьмі на вайне. Для майго бацькі здавалася зусім нармальным, каб яго любімы дэсерт у дастатковай колькасці стаяў на стале, заўдзячацца і перападаць за гэта нікому не збіраўся Ён жор і жор А мяне неўзабаве запхнулі ў ложак.

Нейкая дзіўная ў Вас логіка, Роза, сказаў Берэнбаўм. Я пытаюся ў вас, ці Ваш бацька камуніст, а Вы адказваеце, што ён быў дырэктар школы і што цяпер ён мёртвы. Дык жа ці быў ён камуніст?

Ён гэта разглядаў так.

А вы?

Я не ведаю, што такое камуніст.

Камуніст ёсць кожны, хто змагаецца за камунізм А камунізм, сказаў Берэнбаўм, ёсць, як сказаў Брэхт, самае простае, што цяжка зрабіць. Вы хочаце справакаваць мяне, Роза, натуральна, як гісторык Вы гэта ўсё ведаеце

Я сказала, што камуніст кожны, хто дзіцяці, якое яму дорыць вялікую міску лімоннага крэму, не дзякуе, бо ён якраз заняты сусветнай рэвалюцыяй. Гэтая дылема вызначае жыццё камуністаў ад пачатку да канца, і я апасалася, што камуністы хутчэй падымуць у паветра ўсю зямлю, чым дапусцяць, каб яна была некамуністычнаю, бо для камуністаў няма нічога больш важнага за камунізм. Зайшло ўжо аж так далёка, што ўсякае свінства, якое яны ўчыняюць, называюць камуністычным, бо вытрываць не могуць, каб нешта заставалася не камуністычным. Магчыма, што мой бацька ўсю гэтую прыгоду з лімонным крэмам таксама называў камуністычнай, бо не мог сабе ўявіць нічога іншага і інакш. Па Берэнбаўме я бачыла, што ён не мог прыняць маёй праяўленай шнапсам логікі. Лімонны крэм. Што камунізму да нейкага там лімоннага крэму. Ён з прыкрасцю патрос галавой. Відавочна, што ў мяне былі цяжкія адносіны з бацькам, сказаў ён, і ў яго ўсё перамяшалася, прыватнае з грамадскім, што якраз і не сведчыць пра навуковае бачанне свету

Я эмпірычка, сказала я. Толькі эмпірыкі мелі б магчымасць паразумнець пад старасць, бо вопыт – гэта адзінае, што з узростам прыбаўляецца, тым часам як усё астатняе, таксама і здольнасць мысліць лагічна і навукова, у старасці памяншаецца, што закладзена ў дэфектах нервовых канчаткаў і памылковых сувязях у мозгу і што нельга паправіць ніякім трэнінгам і добрай воляй. Я рашыла абгрунтаваць мой вобраз свету толькі на сваім вопыце, бо як яно з узростам ні мяняецца, вопыт застаецца. І мой вопыт падказаў мне, што камунізм і лімонны крэм вой як жа добра спалучаюцца, як толькі натрапіш на камуніста, які любіць есці лімонны крэм. Калі той, хто жарэ лімонны крэм, — камуніст, дык для дзіцяці, якому ён не дзякуе, тое і другое навекі звязана. І хто напарацца на камуністычнага забойцу, назаўсёды ўведае, што камунізм таксама чалавеказабойчы.

Жылы на лобе ў Берэнбаўма набрынялі і пасінелі. Я не была ўпэўнена, ці магла б я адстойваць сваю тэорыю гэтак сама і ў цвярозым стане, але ў той момант яна мне здавалася дасканалай

Камунізм, сказала я, наліваючы яму, а пасля і сабе шнапсу, камунізм не можа быць лепшы за камуністаў, не лепшы за Герберта Берэнбаўма і Фрыца Палькоўскі.

Берэнбаўм зафіксаваў свой шнапс, але не дакрануўся да яго. Фраў Палькоўскі, сказаў ён, больш не Роза, а фраў Палькоўскі. Ён пытаецца, дзе я, адукаваная, дзе я магла страціць розум Ён не мог наведваць ніводнай вышэйшай школы, ні універсітэта, ён, аўтадыдакт, самавук, але што цэлае ёсць больш, чым сума яго частак, гэта ён ведае Ён хацеў бы прымірыцца са мною і ўсё яшчэ гэтага хоча, але не дапусціць, каб я праклінала ідэал, якому ён прысвяціў усё сваё жыццё.

Ён шумна праглынуў сліну, ад хвалявання ці то з прагнасці да шнапсу

Я спыталася, ці сапраўды ён думае і верыць, што людзі будуць нараджаць пакаленні дзеля таго, каб камуністы маглі выпрабоўваць на іх свае ідэалы. Мой ідэал — быць кошкай, бо каты не паддаюцца ні камунізму ні чаму-небудзь іншаму

Роза, сказаў ён, цяпер зноў Роза, ці ставілі Вы калі-небудзь сабе пытанне, кім Вы былі б пры нацызме

Магчыма я стала б камуністкай, сказала я.

***

Павольным крокам ішлі Берэнбаўмавыя жалобнікі паміж аднастайных помнікаў абапал дарогі Пад кожным каменем папярэднік, былы, кожны асуджаны магільніцкім парадкам быць успамінаным паводле прадпісанага надпісу на надмагільным блоку аднолькавага вымярэння. Магільніцкая цішыня, магільная цішыня Здалёку толькі стогны матораў аўтобусаў, якія то спыняюцца, то ад'язджаюць. Раней я бегала праз могілкі, як праз казкі, даверлівыя, як праз месцы, у якіх схаваныя самыя цёмныя таямніцы. Безлічныя гісторыі, якія пачыналіся з аднолькавых формул· было раз Тут ляжалі яны ўсе, без скаргі, пластамі адзін над адным. Нейкую хвілінку яны яшчэ маглі заставацца на зямлі і ўспамінаць сваё жыццё, пакуль наступнае пакаленне мёртвых не адапхне іх глыбей. Мая ўласная смерць занадта далёка, каб я не паспрабавала яе пparticularly павабіць: прыйдзі, акажыся, пагуляй са мною. З трыумфам тых, якія толькі што пачалі сваё жыццё, ішла я на шпацыр паміж мёртвых, якім я, пераможца, паказала, што цяпер маё жыццё Тут, ля аплоту безабароннай маўклівасці, я дала сабе пацвердзіць тое, што свет жывых дарослых не дазваляў. Тайна пахавала я тут сваіх бацькоў, цётак, дзядзькоў, настаўнікаў і перадаверылася часу, які стане маім Цяпер адбывалася так, што я чула сябе бліжэй да тых пад зямлёю, чым да бяскрыўдных шчырадушцаў, якія, як я дваццаць гадоў таму назад, пахаджалі сярод іх

Берэнбаўм памёр праз тры дні пасля таго, як я наведала яго ў бальніцы Даведалася я пра гэта з газеты

***

Мая апошняя ўява Берэнбаўма. разяўлены, бяззубы рот, у ім брудны, як бы зацягнены цвіллю язык, радужная абалонка яго вачэй пустая і празрыстая, два невялічкія круглыя акны ўсярэдзіну Берэнбаўмавай галавы. І Берэнбаўмава рука; як беласкурая яшчарка, стрэліла яна з-пад коўдры і скокнула разяўленымі пашчэнкамі мне на грудзі Адчуванне, як калі б ён дакрануўся да майго голага сэрца. Пазней я паспрабавала думаць, што гэта ж ён, мабыць, хацеў схапіць мяне за руку альбо за плячо, і толькі нямоглась адвяла руку ад мэты Але я не магла забыць паўразяўлены выскалены рот і бясколерныя вочы, у якіх зрэнкі збегліся ў адну маленькую кропку. Калі паміраў мой бацька, было

яму шэсцьдзесят тры гады Памёр ён дома ў сваім ложку, недзе каля гадзіны ночы, адзін. Спальня маці была побач з бацькавай, з пакоя ў пакой былі дзверы. Ён не клікаў маці ў тую ноч. Ён не бачыў, як прыйшла смерць, альбо ён хацеў застацца з ёю сам-насам. Бацька памёр седзячы на краі ложка, калі курыў цыгарэту Калі цыгарэта дагарэла, ён ужо быў мёртвы Фільтр паміж ягоных пальцаў абвугліўся Гэтага ён ужо не адчуваў Маці, калі знайшла яго такога раніцай, падумала, што ён седзячы заснуў Калі яна асцярожна хацела разбудзіць яго, ён, спруцянелы, адкінуўся назад на ложак. І з рота выпала сківаца

Я думаю, ён ведаў, што памірае Ён сеў, на развітанне закурыў цыгарэту, як гэта робяць курцы яшчэ адну цыгарэтку, а тады пайду. Ён нават таршэра не ўключыў Ён не хацеў больш нічога бачыць, нічога чуць і нічога казаць, нават маці Ён ужо даўно не хацеў нічога казаць Часам, калі вымушаны быў гаварыць, яго твар крывіўся, як ад болю Ён выкладаў у школе да дня смерці. Пытанні, нават простыя, былі яму пакутай. Калі я наведвала бацькоў, наведвала я, зрэшты, толькі маці, ён выходзіў у свой кабінет, аддзелены ад жылога пакоя шклянымі дзвярмі. Дзверы былі занавешаны і цяжка адчыняліся. Кожнага разу, як бацька адольваў гэтую цяжкасць, твар яго скажала маска злосці, быццам ён ашчадзіў усю сваю нянавісць і ўсю роспач, каб укласці іх у гэты акт. Безжыццёвае супраціўленне дзвярэй, якое ён ведаў як неадольнае, мусіла для яго значыць больш, чым цяжкая перашкода. Інакш бы ён паклікаў сталяра. Па ім можна было падумаць, што ён хацеў выхаваць дзверы, раз і назаўсёды высветліць свае з імі дачыненні У апошнія тыдні перад смерцю ён быў такі слабы, што барацьбы з дзвярмі зусім не пачынаў і асланяўся ад нашых гаворак гучнымі пласцінкамі Больш за ўсё любіў слухаць Мірэй Мацьё Тады я не адчувала да яго ніякай спагады Мне было нават прыемна назіраць, як ён спакваля слабеў. Я пыталася ў сябе, як што не магла папытацца ў яго, як гэта ён вытрымлівае дзень у дзень стаяць перад вучнямі і гаварыць пра гісторыю класавай барацьбы. Кожныя два гады новыя, яшчэ і не паслабленыя ворагі. Некаторыя ёсць заўсёды, якія не саромеюцца пытацца. Што адказваў бацька, калі такі вось адважнік хацеў даведацца, што ж там такога было з тым гатэлем Люкс і з архіпелагам Гулагам Мяркую, ён такі распытваўся, адкуль такі цікаўнік чэрпае свае веды пра так званыя працэсы, дзе ён пра гэта вычытаў, ад каго прачуў, каб тады ўжо адразу дыфамаваць крыніцу гэтай подлай ілжы альбо злосных перабольшанняў і перасцерагчы школьніка, каб у будучым ён не прынікаў вухам да варожай прапаганды Гэтым самым ён пасняхова адбіваў атаку А пытанне заставалася З ім бацька ішоў дамоў, з ім ішоў у ложак, з ім і ўставаў раніцай Што бацька рабіў з мноствам пытанняў Проста забываўся пра іх. Разглядаў як правакацыі аслепленых падлеткаў Калі ён таемна шукаў адказаў, спакушаны недаверлівымі вучнямі, пра якіх ён ведаў, што яны высмейвалі яго і пагарджалі ім, бо даць адказы, якія яны і самі ведалі, ён не хацеў.

Ён не павінен быў рабіцца настаўнікам Калі б ён застаўся токарам, ён мог бы пытацца сам у сябе Ён бы баяўся не толькі падкольных і забароненых пытанняў За кожным пытаннем ён ўнюхваў бы пагрозу, якая павінна была б даказаць яму, былому рабочаму, яго непрыдатнасць да гэтай прафесіі Ягонае настаўніцтва было яму адзіным, на трыццаць гадоў расцягненым экзаменам, на якім ён мог кожны дзень праваліцца. Лексіка — любімая тэма ягоных урокаў Ён вывучыў іх на памяць, строга па алфавіце, каб кампенсаваць сваю недастатковую з прычыны паходжання, вайны і палону адукацыю Ён не слухаў опер, а толькі агляды іх Ён не пакідаў сабе часу ні на што ад страху застацца тым, кім быў, падвучаным токарам з народнай адукацыяй

За заслоненымі букамі вокнамі яго кабінета, сам бачны толькі абрысам, Берэнбаўм аддаўся маім роспытам За гэта ён плаціў мне 500 марак штомесяца. Магчыма і ён хацеў толькі даведацца, ці ён, сын рабочага з Рура, аўтадыдакт, прафесар-саматужнік, выстаіць перад маімі пытаннямі, якіх ён публічна ніколі цярпець не мог.

Цяпер, калі Берэнбаўм памёр, а я, сведка яго пахавання, іду за труною, я ўпершыню адчула спагаду да бацькі.





***

У панядзелак пасля абеду я паляцела на Аляксандэрплац распытацца ў музычным магазіне, ці не пападалася ім двухмоўнае выданне "Дона Джыавані". Я знайшла там коратка пастрыжаную прадаўшчыцу, якую я падкупіла за дваццаць марак. Яна стаяла, са штабелем нотаў у руках, перад паліцай, паказала свабоднай рукой, каб я пачакала, і са значнасцю падміргнула Яна знікла за занавескай і вярнулася са светла-зялёным сшыткам, да якога быў прымацаваны канцылярскай скобкай цэтлік, які яна цяпер зняла. Нарэшце раздабылі, сказала яна і пры гэтым усміхнулася як чалавек, які пасля зробленага задаволена скідае з сябе стому У мяне не было ахвоты рассыпацца ёй у пахвалах, яна і без таго ж мела дваццаць марак, але тым не меней зрабіла гэта. Без Вас я прапала б, сказала я. Сшытак каштаваў марку восемдзесят пяць. Я падзякавала, падміргнула ёй таксама адным вокам на той выпадак, калі здолею разгадаць таямніцу рэчытатываў з "Дона Джыавані" і разважыць магчымасці перакладу іншых опер

***

Кнайпа была яшчэ пустая і пахла палацёрным воскам Сімона стаяла за канторкай і чысціла арматуру

Ну, Розі, сказала яна Я сказала: Ну, Сімона

Піва?

Віно.

Вінца, сказала Сімона і ўзяла з халадзільніка пачатую пляшку

Я спыталася ў яе пра амерыканца.

Ён напісаў, сказала яна, што хоча прыехаць.

А калі? Яна пацепнула плячыма і паказала пустыя далоні Сімона была з Мекленбурга, дзе Эберхард, папросту Эбі, гаспадар кнайпы, пяць гадоў таму назад пазнаёміўся з ёю і адарваў яе ад ейнага жыцця аранжыроўшчыцы букетаў у маленькім гарадку Тры гады жылі яны разам. А тады Эбі вярнуўся да сваёй разведзенай жонкі, а Сімону пакінуў служачай у сваёй кнайпе

Такое сумленнасці я больш нідзе не знайду, сказаў ён.

Амерыканца Сімона сустрэла год таму назад на карнавале З лета ён зноў вучыўся ў Лансінгу, Мічыган, дзе жыла ягоная сям'я

З бацькамі ён ужо перагаварыў, сказала Сімона, але ўсе паперы, у Амерыцы патрэбна столькі папер, калі ты хочаш ажаніцца.

Амерыка, сказала я.

Але ж такі, Амерыка, сказала Сімона і кінула анучу ў вядро, абы толькі выбрацца адгэтуль, Розі

Яна, бадай што, сапраўды верыла, што выйдзе за амерыканца Яна была каталічка і хадзіла ў нядзельную школу Зрэшты ж, Эбі выцягнуў яе ў Берлін, чаму ж бо тады ёй і не перабрацца з амерыканцам у Лансінг, Мічыган.

Так, Розі, сама ты нічога не зробіш, давядзецца пачакаць, сказала яна.

Пасля сабраліся гульцы ў скат, як кожнага панядзелка. У Сімоны больш не было на мяне часу Я сядзела каля канторкі, піла віно, і пачувалася мне добра

Кнайпа гэта не толькі апошняя станцыя мужчынскай свабоды, сказаў Бруна, чым хацеў сказаць, што кнайпа – прыпірышча свабоды толькі на горшы канец, бо не было жаночай свабоды паза граматыкай і Бруна ніколі не прыходзіла ў галаву сцвярджаць нешта такое Жанчын Бруна лічыў прыроднымі ворагамі свабоды, а тэлефон самай страшнай рэпрэсіўнай машынай у руках жанчыны Пытанне: чаму ты не пазваніў, магло яго, калі ён са змрочнымі вачыма пасля распрапойнай ночы раніцай вяртаўся дамоў, укінуць у яму глыбокае роспачы Ён толькі распранаўся, здымаў чаравікі, свечкаю падаў на ложак, казаў, што тэлефон гэта інцыдэнт для камісіі па правах чалавека, ён напіша ў ААН, заўтра ж раніцай

Кнайпа была, свецкая і таямнічая адначасова, антысвет, Оркус, дзе дзейнічалі іншыя законы і панавала урбаністычнае прыроднае права Хто ўступаў у свет кнайпы, вымыкаў сябе з сілы прыцягнення верхняга свету і падпарадкоўваўся іншаму парадку

Кутэ Клюге, пенсіянер, колішні кельнер, з шырокім вузкавокім тварам азіяцкага божышча, перавёў, як толькі ўвайшоў у кнайпу, прынамсі, пяцёх прысутных у нервознае ўзбуджэнне, яны абарвалі свае размовы і з чаканнем паглядзелі на яго

Кутэ Клюге быў не толькі, як Бруна, кнайпная асоба, ён быў яшчэ шахматная асоба З недакуркам таннай цыгарэты ў куточку рота ён з хвіліну пастаяў у дзвярах,

быццам хацеў даць усім іншым магчымасць заўважыць ягонае з'яўленне, тым часам як сам ён шукаў годнага сабе праціўніка, коратка і без ніякіх там ласкавых авансаў, знайшоўшы, кіўнуў яму, пасля моўчкі сеў за свабодны столік, куды яму пасля першага піва без ніякага заказу была прынесена шахматная дошка, і чакаў, пакуль ягоны выбранец зойме месца. Кутэ Клюге пабіваў лаціністаў і нелаціністаў, проста вучоных і вучоных са ступенямі, усіх, каму ён усё сваё жыццё падаваў на стол качак у фламбіры і ў заключэнне дзякаваў за выпіўку.

Кнайпа, здавалася, спрыяла развіццю жыцця да больш высокай справядлівасці, якая хоць і не ўключала мяне, была аднак жа і мне суцяшэннем У кнайпе канчалася ўлада Берэнбаўма, тут яму не было чаго сказаць, як і ў доме ў Тэклі Фляйшэр, калі яшчэ была жывая яе маці. У кнайпе ён мусіў бы, калі б толькі хацеў выстаяць, дыспутаваць з Графам пра геаграфічныя граніцы паміж рознымі напісаннямі прозвішча Шмідт – Шмідт з *дт* ці Шмід з *д* ці Шмітт з *тт* ці нават Шмітц з *тц*; альбо павінен быў бы хітра прайграваць Кутэ Клюге ў шахматы, як Пеці, умець даставаць па блату ванны і унітазы

Калі Бруна нарэшце прыйшоў, быў ён на маё шчасце ўжо не зусім цвярозым. Відаць, ён скараціў сабе дарогу за сасісачным стаяком каля гатэля "Сафія" на Фрыдрыхштрасэ на скорую руку куфлікам піва, з якога ён ні ў якім разе не мог захмялець, не тое каб упіцца, але і ўжо быць не тое каб зусім цвярозым, нібы ў роце ў яго клеіўся пыл ад кніг і актаў.

Бруна ўбачыў перад мною светла-зялёны сшытак на канторцы, адкінуўся назад, каб павялічыць дыстанцыю паміж ім і мною і такім чынам засведчыць сваё здзіўленне: што з табою сталася, Роза, не магу паверыць, што ты сапраўды цікавішся операмі. Можа тым часам ты і па гарах лазіш, і па акіянах лётаеш?

Магчыма, Бруна і я маглі б зрабіцца парай як Філемон і Баўкіда, калі б я, не хлусячы, магла адказаць на Брунава пытанне "Ага" Але сама думка, што гэта ж бы я мардавалася, успінаючыся на тую гару, можа, з небяспекаю для жыцця, каб дабрацца да вяршыні нават невялічкай горкі, была для мяне такая нехлямяжая, што я западозрыла ў Бруна праз ягоную жарсць да такога альпінізму некі псіхічны дэфект. А каб лётаць па акіянах, што было ў Бруна любімым нядзельным заняткам, пакуль мы з ім не пазнаёміліся, дык гэта абсурд і прыніжэнне годнасці. Нібыта ты з усім палам і калам ціснешся да лёсу Сізіфа: гадзінамі мардуйся, каб апынуцца там, дзе пачынаў

Аднаго разу Бруна паспрабаваў тайна правесці мяне вакол возера Зумтэр. Праз паўгадзіны мы раптам апынуліся на прагаліне, адкуль свабодна адкрывалася возера. Калі я зразумела, што планаваў Бруна, я абурана павярнула назад па той самай дарозе, па якой прыйшлі, хоць другой дарогай было карацей і, як бажыўся Бруна, ландшафтна намнога прыгажэй. Мне гэта было лішне.

Я ахвотна цікавілася б операмі, сказала я, але я не магу, яны не цікавяць мяне.

Роза, табе пазайздросціш, сказаў Бруна, аднаго разу, калі ты будзеш старая і разумная, ты зацікавішся операмі. Тады ты зможаш адкрыць сабе ў дадатак яшчэ цэлы свет, а я буду нудзіцца, і так ужо ведаючы ўсё

Пра знуджанасць у старасці Бруна любіў пагаманіць, калі заўважаў, што я ведала не ўсе кнігі Дастаеўскага, Бэкета альбо Джойса Тады ён уздыхаў і казаў, ах, табе пазайздросціш, Роза, тым часам як я чырванела, бо я, хоць мы з Бруна і былі равеснікі, і палавіны таго не чытала, што ён.

Бруна пагартаў светла-зялёны сшытак. Раптам ён падняў руку, нібы трымаючы дырыжорскую палачку, напучыў жывот, як оперны спявак, і заспяваў:

*"E non voglio piú servir*
*і я больш не хацеў бы служыць*
*e non voglio piú servir*
*і я больш не хацеў бы служыць".*

Пасля ён апусціў руку на стойку і ўзяў куфаль з півам.

Што ж ты будзеш рабіць, калі не будзеш служыць, спыталася я.

Viva vita contemplativa, усклікнуў Бруна міма мяне на ўсё памяшканне, туды, дзе якраз Граф нязграбна сядзеў на краёчку крэсла і чакаў, што Бруна папросіць яго падысці да нас.

Viva vita contemplatissima, крыкнуў яму Граф у адказ, падхапіўся, аж расплюхалася рэшта яго піва, і пачаў прадзірацца да нас. Мадам Разалія, ён пацалаваў мне руку, Брунох, я не хацеў заважаць, сказаў Граф, каб паказаць свой такт.

Роза хоча ведаць, што мы рабілі б, калі б мы не мусілі болей служыць.

Граф уздыхнуў. Я сказаў Вам, Брунох, з гадамі гэта забываецца. Часам я думаю, я рабіў бы тое, што раблю кожны дзень. шукаў бы словы ў слоўніках, за цэлае жыццё гэта робіцца натурай чалавека. Да таго ж узрост, Граф трымаў руку каля вуснаў, каб прыглушыць голас, гэта, ну Вы ж разумееце, Брунох, пардон, мадам Разалія, жах. Ён у роспачы паглядзеў на столь. Бруна, які быў на пятнаццаць гадоў маладзейшы за Графа, засмяяўся. Я засмяялася таксама. Вам смех, сказаў Граф. Ужо і не бярэшся выпіць куфель піва. Дрэнь, дрэнь, дрэнь.

Здавалася, ён зараз заплача, а мы праглынулі рэшту свайго смеху з півам.

Што робіць твой пісучы ранцье, спытаўся Бруна.

А ты ведаеш Герберта Берэнбаўма, спыталася я. Бруна адступіў на крок. Разалінд Палькоўскі, сказаў Бруна, ці не хацела ты мне толькі што паведаміць, што пенсіянер, якому ты замяніла правую руку, прахвост, обер-прахвост Герберт Берэнбаўм, якога назначылі прафесарам, бо ён на памяць ведае таблічку множання. Разалінд Палькоўскі з бургундскім гонарам, якая лепей табе будзе курыць танныя цыгарэткі, чым пацягне на сабе нягоднае канцылярскае жыццё, як Вы і я, Граф, як пісарчук у заплечнага майстра

У гэты момант, таму што Бруна загаварыў з ім, мы абое паглядзелі на Графа, які, пабялелы ў твары, стаяў паміж намі і яўна хацеў нешта сказаць, але толькі тупа мыляў губамі. Бруна забыўся пра свае кляветы, падняў Графа на табурэт і ўсунуў яму ў руку куфель. Граф нядбалым жэстам правёў па сухіх вачах, нібы хацеў ацерці слязіну.

Пардон, шапнуў ён, невялічкая хворасць, але гэтае імя, мадам Разалія, ён схапіў мяне за руку, не, гэта ж бо менавіта Вы...

Ён уткнуўся тварам у далоні, так што пасмы валасоў, якія ён прылізаў памадай на голым чэрапе ад аднаго вуха да другога, упалі збоку на плечы. Бруна і я стаялі злева і справа ад яго, паляпалі яго па плячах і сказалі, што ў такіх выпадках гаворыцца, калі трэба каго суцешыць, а не ведаеш, як і чым.

Нібы здань прабегла па пакоі, сказаў Граф. Дастаткова, каб я, непадрыхтаваны, натыкнуўся на гэтае імя, каб адразу ж страціў контэнанс. І гэта ж бо ўжо дваццаць тры гады, мадам Разалія, дваццаць тры гады.

Бруна заказаў яму гарэлкі, пасля чаго твар і голас Графа спакваля зноў ажывіліся.

Гэтаму, сказаў Граф, чыйго імя Вы з маіх вуснаў апрача як з фекальным атрыбутам, які я хацеў бы ашчадзіць дзеля датклівасці Вашага слыху, не пачуеце, занеўздзячаю я тыя тры гады, Брунох, Вы ж ведаеце, якія гады я маю на ўвазе.

Пра гэта Вы не расказвалі, сказаў Бруна.

Граф заўважыў тры тонкія пасмачкі валасоў, якія апалі яму на плечы, памачыў кончыкі пальцаў у піве і зноў прыклеіў валасы паміж ілбом і патыліцай. Ах, Брунох, сказаў ён. Вы ж ведаеце, я чыстая плісачка — вечна хвост ад страху трасецца.

А было так: увосень 1962 года асістэнту з інстытута сіналогіі і японалогіі Т. удаліся ўцёкі праз Прагу ў Заходні Берлін. Незадоўга перад тым ён прынёс Графу манускрыпт сваёй доктарскай дысертацыі, нібыта каб Граф праверыў правільнасць раздзелаў пра трэцюю дынастыю Мінь. З Заходняга Берліна Т. напісаў Графу ліст, у якім прасіў даслаць яму манускрыпт. Граф паехаў у Потсдам і здаў там пакунак пад чужым імем адпраўца А між тым як Т. так і Граф забыліся, што быў і трэці, які выпадкова завітаў у пакой, ведаў пра перадачу рукапісу. Гэты трэці, калі адкрылася пра ўцёкі, данёс Берэнбаўму, які тагачасна займаў хай і не вельмі рашаючае, але даволі ўплывовае становішча ў універсітэцкім кіраўніцтве Графа гукнулі да Берэнбаўма і сказалі — аддай рукапіс, які ён два тыдні таму назад паслаў з Потсдамскага паштамта Граф аспрэчваў, што бачыў калі-небудзь той рукапіс на вочы, пасля чаго Берэнбаўм падаў у паліцыю. У той самы ж дзень, не забавіліся, Графа арыштавалі. Пазней ён даведаўся, характарыстыка з універсітэта, якая зачытвалася на працэсе і якая характарызавала старшага навуковага асістэнта Карла-Гайнца Барона як рэакцыйнага суб'екта, варожа настроенага да высокіх мэтаў новага парадку, была напісана асабіста Берэнбаўмам і

паслана да ведама дырэктару інстытута праз паштамт. Графу ўклеілі тры гады.

Даносчык праз некалькі гадоў улез у аўтамабільную аварыю і памёр, сказаў Граф

Раптам, не будучы вінаватай, я аказалася ўблытанай ў Графавыя ліхабедствы. Я адчула, што жыццё падступна зашчыкнула мяне ў пастку, быццам мне хацелі даказаць, што так проста не вырабішся Ганьба мысліць за грошы, вядома. Але што ў нас не ганьба.

Вы, зрэшты, таксама працуеце ў тым самым універсітэце, сказала я Графу.

Я быў нават рады, што мяне ўзялі тады назад, чым я абавязаны выключна заступніцтву не вельмі заплямленай асобы, якая бачыла ў маёй прысутнасці пэўныя выгоды свайму навуковаму поступу. Я тады гэтай асобе вымушаны быў наплямкаць больш за шэсцьдзесят працэнтаў дысертацыйнага матэрыялу. Вы памятаеце, Брунох? Было б неразумна, мадам Разалія, за нешта ўшчуваць.

Бруна кіўнуў, але не глянуў на мяне

Мы ўсе жылі ў стане ганьбы, працытавала я адзін з любімых Брунавых пастулатаў, на што Бруна сказаў: ты запамінаеш толькі тое, што хочаш, Роза.

Вечар быў невясёлы. Бруна паспрабаваў угаварыць мяне кінуць працу ў Берэнбаўма Я абяцала падумаць, хоць ведала, што вытрымаю сваю дамоўленасць з Берэнбаўмам Хацелася давесці ўсё да канца. Я хацела перамагчы Берэнбаўма. Я ўзялася за яго як за задачу, падрыхтаваную мне самім жыццём Гэта я больш адчувала, чым ведала Я хацела дадаткова выйграць ужо прайграную бітву з Берэнбаўмам.

Чаму ненавідзяць чалавека, спыталася я ў Бруна, што будзе са мною, калі я ненавіджу.

А ты ненавідзіш? Пытанне Бруна прагучала спагадліва, нібыта ён даведаўся, што я хворая

Так мне здаецца.

Чалавек ненавідзіць, калі ён быў падмяты.

Альбо калі кахаў і не быў каханы, сказала я.

А значыцца, быў падмяты, сказаў Бруна

А ты ніколі не ненавідзеў?

Ай ну, сказаў Бруна, неяк так выкручваўся. Граф, і Вы?

Граф патузваў за свой цёмна-блакітны упрыгожаны срэбнымі зоркамі гальштук. Гэта не ў маім тэмпераменце, я пагарджаю, Брунох, я пагарджаю

Бруна правёў мяне да дарогі. Мы былі адны на вуліцы, за плячыма толькі рэха нашых крокаў, у некаторых вокнах мігатлівае святло — ад тэлевізараў Як заўсёды, калі мне было золка, Бруна паклаў мне руку на плечы, і я зайздросціла яму за гэты дазволены прыродай жэст. Мабыць, Бруна і сам прамерз бы, калі б змалку не ведаў, што ў яго вырастуць доўгія, моцныя рукі, якія ён будзе класці на плечы кожнай жанчыне, якой зазябідца каля яго. Але, мусіць, Бруна таксама зябнуў.

Вадзіцель гнаў трамвай па рэйках, як дзіця, якое гуляе ў аварыю на сваёй мадэлі чыгункі. Мы кружлялі, тармазілі, грукаталі па заснулым, ашчадліва асветленым горадзе Пустыя вуліцы былі як варожыя, мы самі былі як чужыя, як у хвіліну пасля прыходу першых людзей у гэта богам забытае месца, дзе пяцьдзесят ці то сорак гадоў таму назад вайна і чума забівала і выганяла жыхароў За сценамі дамоў ляжалі шкілеты на прагнілых ложках, альбо яны сядзелі за сталамі і перад тэлевізарамі як у секунду смерці. Калі мы выходзім, нам даводзіцца прабівацца праз орды пацукоў, якія тым часам апанавалі ўвесь горад, мільёны тлустых пацукоў павыпаўзалі на святло з каналізацыі, бо ім ніхто цяпер не высыпаў недаедкаў І гэты трамвайшчык толькі шкілет пад уніформай Ён мог бы і не тармазіць, перш чым памёр, і вось ужо пяцьдзесят гадоў ехаў у гэтым забойчым тэмпе з цэнтра ў Панкаў, з Панкава ў цэнтр. Жыў толькі Бруна. І я

***

Вяселле Тэклі Фляйшэр мы згулялі ў студзені. Ён, сказала мне Тэкля, вельмі ж бо хацеў, каб я яму не адмовіла, хоць я ведаю, што гэта грэх. Мама ў труне перавярнулася б, калі б даведалася

Яна паглядзела на мяне праз свае тоўстыя шкельцы, нібыта цяпер я павінна была суцешыць яе

Яна нічога не ўведае, сказала яна.

Ты думаеш?

Яна пра гэта не даведаецца, сказала я яшчэ раз з упэўненасцю недаверка і падумала, што, калі касмэя мела рацыю, дык Тэкліна мама цяпер была альбо кошка, альбо сука, альбо страказа і пра





ўсякія маральнасці меркавала зусім інакш, чым у свой чалавечы час.

Геру Солаву стрэліла ў галаву ажаніцца з Тэкляй Фляйшэр. Але як што ён ужо трыццаць гадоў як быў жанаты і не меў нічога закінуць фраў Солаў, як толькі тое, што задоўга ведаў яе, ён пастанавіў развесціся. Фраў Солаў звалі зрэшты, фраў Вітыг, бо Солаў гэта было мастакоўскае імя, якое Тэадор Вітыг, следуючы традыцыі, прыняў у канцы саракавых. Солаў — ў не вымаўлялася — азначала б пячатку яго тайнага халасцякоўства, на якое ён рашыўся перад аблічцам палітычнай катастрофы, што была за ім, і той, якая, як яму падавалася, насоўвалася на яго Установе, перад якою ён павінен быў абгрунтаваць выбар псеўданіма, ён, Солаў, растлумачыў дакладней· Уладзімір Мікалаевіч Солаў — ў вымаўлялася, — быў савецкі камуніст, з якім ён пазнаёміўся пасля вайны і які неўзабаве пасля гэтага памёр ад тыфу.

Гер Солаў хацеў ажаніцца з Тэкляй, не парушаючы законаў і правілаў прыстойнасці. Ён хацеў ажаніцца з ёю перад Богам, хоць і не верыў у Бога Але ж ён верыў у нешта, што было большым і значнейшым за мінуўшчага чалавека, і перад гэтым, мінушчым і безыменным, ён хацеў бы назваць сябе мужам Тэклі Так сказала мне Тэкля Сама я ніколі не сустракала гера Солава. Ідэя з магільніцкай капліцай была Брунава. Яна стаяла гадамі некарыстаная, паблізу нашага вясковага аседлішча ў Ніжняй Памераніі, пасярэдзіне падобных на садок магілак за паўразбураным замкам, з раскалупанага фасада якога ў загадкавай сіметрыі раслі дзве бярозкі, быццам нехта ўсадзіў іх туды замест сцягоў У адным старым дарожным даведніку капліца была анатавана як будынак аднаго вучня Шынкеля, пра якога ў вёсцы ўжо ніхто нічога не ведаў і, мабыць, ведаць не хацеў Пяць гадоў таму назад пачалі яе рэстаўраваць і неўзабаве зноў перасталі, спынілі рамонт 3-тага часу, шырока расставіўшы ногі пад блакітным, размаляваным срэбнымі зоркамі купалам, якія мне заўсёды нагадвалі зорачкі на гальштуку ў Графа, стаяла драбіна

З галоўнага боку капліцы вялі тры прыступкі да галерэі, дзе на жалезным цокалі шматкі штучнай дзярніны, молат і разбітая статуя Хрыста схілялі і надзілі да дзівоснага ціхага жыцця.

З цэнтра купала ў пустату памяшкання звісала і боўталася пацёртая, на канцы зашморгнутая ў пятлю вяроўка Калі я аднаго разу ні пра што не думаючы пацягнула за яе, загучаў светлы скрушлівы звон, і я цалюткі божы дзень баялася, што а ці не наклікала я на сябе смерці. Але нічога не здарылася, ва ўсякім разе нічога, пра што я даведалася б Гэты забыты храм смерці, сказаў Бруна, вартаснае месца для вяселля Тэклі Фляйшэр і гера Солава Хоць Бруна ведаў гера Солава толькі з маіх расказаў, здавалася, прасякнуўся да яго вялікай сімпатыяй Ён нават прапанаваў, каб мы, Бруна і я, удваіх справілі ім вяселле, а сам ён гатовы ўзяць на сябе вянчанне. Тэкля жахнулася ад адной падумкі пра вянчанне ў капліцы, доме мёртвых. Гэта блюзнерства, сказала яна.

Тэкля, сказала я, калі няма Бога, яго нельга і зняважыць. А калі ён ёсць, дык ёсць у яго і розум і ён парадуецца, убачыўшы столькі любові і фантазіі

Гер Солаў быў у захапленні. Як што толькі смерць мацнейшая за яго каханне да Тэклі, дык ён бачыць, што ўвогуле толькі капліцы самае прыдатнае месца на пабранне шлюбу, якога ён хоча і прагне

Тэкля ўсё ж баялася, але падупалатакі нашай эўфарыі.

Калі фраў Вітыг абвясціла, што ў канцы тыдня паедзе ў Фогтланд адведаць даўнюю школьную прыяцельку, я і Тэкля купілі казіную грудзіну, віна, шнапсу і піва, Тэкля ўпакавала белую, накрухмаленую пасцельную бялізну і лепшы з яе касцюмаў, шэры, па костачкі аксамітны кіцель з рукавамі кімано. У суботу перад палуднем а адзінаццатай мы падсадзілі гера Солава непадалёк ад ягонай кватэры і паехалі ў сяло

На палях ляжаў снег, а на небе стаяла белае сонца Які цудоўны дзень, сапраўдны вясельны дзень, усклікнула Тэкля Бруна нагрэў печы, пакуль я тым часам у садзе сабрала вясельны букет з замерзлых ружавых бутонаў, плюшчу, шыпшыны і хваёвых галінак. Тэкля заслала ложак сабе і геру Солаву накрухмаленай бялізнай, стараючыся схаваць сваю сарамлівую збянтэгу пад гаспадыньскай увішнасцю. Гер Солаў стаяў пры гэтым і расказваў, як ён, яшчэ тады маладым

хлопцам, апошнім летам перад 1933 годам, з заплечнікам і дваццаццю маркамі ў кішэні вандраваў па Правансе, і я падумала была, што геру Солаву, ага, ужо семдзесят, а з выгляду не дасі. Ён насіў джынсы і марацкі пуловер з зашпількамі на плячы, да яго цёмна-чырвоны шаль, якога ён не скідаў, нават калі ў доме стала цёпла.

Бруна нашпігаваў грудзінку. Пасля мы пераапрануліся і паехалі ў суседняе сяло, дзе стаяла капліца.

Па вузкай сцежцы паміж магілаў, якія выглядалі так, быццам пахаваныя ў іх толькі што паўміралі, мы дабраліся да прасекі, якая праз невялікі парк вяла проста да капліцы, былая прысада, над якою дрэвы ўлетку ўтвараюць суцэльны шчыльны дах і апалыя, пераплеценыя галіны якіх цяпер наводзілі мяне на роздум пра шкілеты, што, мусібыць, пазбіраліся нябось у апошні карагод і разам з намі гуляюць у старую гульню: праскоч, прахвост, праз залаценькі мост.

Гер Солаў трымаў у левай левую руку Тэклі, тым часам як яго правая свабодна ляжала на яе руцэ. Так і павёў ён яе асцярожна і беражліва па замшэлай і ўжо зарослай лесвіцы, у канцы якое стаяў Бруна, сустракаючы пару, каб павесці іх усярэдзіну капліцы. Я замыкала вясельны поезд.

Бруна сказаў кароткую, вельмі прыгожую прамову. Ён сказаў, што лёс звёў гера Солава і Тэклю на адной жыццёвай дарозе хай сабе і пазнавата, але менавіта праз гэта яны і павінны пераканацца ў справядлівасці, якая дазваляе ім упіцца шчасцем, а перанесеныя нягоды дадаткова ўзвысяць іх і без таго светлы розум. Бо ты, Тэкля Фляйшэр, не змагла б спазнаць велепекнасці душы Тэадора Солава, калі б угоньвалася ў сваім жыцці за лёгкім шчасцем. А ты, Тэадору Солаве, не змог бы спазнаць разукраснай красы душы гэтай жанчыны, калі б сэрца тваё не засталося маладым і ўспрымальным для мілашчаснай любові.

Гэта сказаў Бруна, і я не паверыла сваім вушам. Тэкля плакала.

Бруна спачатку даў слова геру Солаву, пасля ягонай Тэклі, а тады ўжо запрасіў абаіх укленчыць, каб самому дабраславіць іх.

А цяпер пацалуйцеся, сказаў Бруна.

Калі мы выйшлі з капліцы, неба было чорнае. Загадка была — адкуль насунуліся магутныя чорныя хмары.

О Божа, сказала Тэкля, неба ўгнёвалася.

Не, сказаў гер Солаў, яно толькі паказвае свой сур'ёзны твар. Белая маланка распаласавала хмару, і праз нейкую секунду магутны гром скалануў вакол пашлюбаванай пары сыру зямлю.

Ён грае ў гонар вам сімфонію лёсу, сказаў Бруна.

Востры ледзяны дождж секанув па нас, і нам было нялёгка вяртацца ў наш дом па голай вуліцы. У шэрых валасах Тэклі блішчалі безліч ледзяных крышталікаў, а гер Солаў сказаў, каб Тэкля хутчэй паглядзелася ў люстэрка, каб ужо далей не баялася, бо ж тады яна сама пабачыць, што навальніца — гэта вясельны дарунак неба, тысячы дыяментаў фраў Тэклі. А як што маладая надзявае вясельныя строі адзін толькі раз, дык і азнака нябесная — непаўторная. Праз мінуту Тэкліны вясельныя дыяменты паплылі слязьмі-ручаямі па твары. Гэта быў дзень — як з тамтэйшага жыцця! Кроза нябесная! Я ні хвіліны не думала пра Берэнбаўма.

Увечары, падчас шпацыроўкі па вёсцы, я нарэшце спыталася ў Тэклі, ці магла б я павучыцца ў яе на піяніна. Мы дамовіліся на другі тыдзень. Тэкля і гер Солаў неўзабаве сышлі, Бруна і я засталіся адны і сядзелі насупраць адно аднаго ў маленькім пакоі з нізкаю столлю, як раней, калі мы яшчэ не былі ў разводзе.

Можа, і нам пабрацца, сказала я Бруна.

Пазней, Роза, сказаў Бруна, мы яшчэ занадта маладыя, каб былі аж так удзячныя лёсу.

***

З таго часу, як я даведалася, што Берэнбаўм быў вінаваты ў арышце Графа, я старалася ўявіць сабе, як распытаюся ў яго пра гэта. Я бачыла сябе за столікам з машынкай, строгую, выпрастаную. Я чакала, пакуль на дварэ трохі пацямнее і Берэнбаўм змусіцца запаліць настольную лямпу і я змагу бачыць ягоны твар. Тады я спытаюся: а Вы ведаеце Карла-Гайнца Барона, сінолага? Я задам пытанне нібы так сабе, знехаця, быццам імя ягонае толькі што ўсплыло ў памяці, быццам





хацела расказаць пра Яго нейкую пацешную гісторыю. Альбо я пагляджу Берэнбаўму проста ў вочы, як Жанна д'Арк інквізітару, запрысягаючыся загадамі анёлаў, і спытаюся ў яго ясным, няўмольным голасам: Вы ведаеце Карла-Гайнца Барона, сінолага? Альбо адкрыю карты без ніякіх выкрунтасаў: Вы ж ведаеце Карла-Гайнца Барона, сінолага, і пры гэтым падмяшаю ў свой голас лёгкай пагрозы. Берэнбаўм пачне адпірацца, што ніколі не чуў гэтага імя. Паспрабуе спаслацца на аслабелую памяць. Больш дваццаці гадоў, дзе ж тут, каб і хацеў, усяго не ўзгадаеш.

Але я не дам яму ўвінуцца. Вы, гер Берэнбаўм, скажу я вельмі спакойна, сын рабочага з Рура, прафесар з адукацыяй народнай школы, нелацініст з класавым інстынктам, у той час упаўнаважаны па ідэалагічных пытаннях у Берлінскім універсітэце, засадзілі філолага еўрапейскага рангу на тры гады ў турму за тое, што ён з Потсдамскага паштамта паслаў бандэроль.

Берэнбаўм будзе пасаромлены. Не за тое, што запраторыў Графа за рашотку. Гэта ён мог бы ўчыніць з палітычнай, хай сабе і жалю вартай прычыны, гэта ўжо, так сказаць, — маргіналіі класавай барацьбы. Яго пасароміць усведамленне, што ён з прычыны сваёй недастатковай адукацыі сам не быў здольны да навуковай працы.

Я вазьму плашч і, ідучы да дзвярэй, скажу, больш не азіраючыся на Берэнбаўма: вы так баяліся адукацыі, што садзілі і выганялі толькі ад страху.

Так, рашыла я сабе, я пакіну пераможанага Берэнбаўма.

Я залішне нервавалася, каб чытаць, альбо каб праслухаць "Дона Джыавані", якога набыла два тыдні таму. Дзень быў мяккі, і я рашыла тыя дзве гадзіны, якія яшчэ заставаліся да ўмоўленай сустрэчы з Берэнбаўмам, пагуляць па парку. Парк быў суцяшальным прывітаннем з іншага часу. Спачатку гэта быў парк замка, у які Фрыдрых Вялікі, называны Брунам Эф Два, саслаў сваю жонку, калі ўжо не мог трываць яе пры сваім двары. Шырокая вуліца вяла ад панкаўскай кірхі ў прызамкавыя пасадкі да былой Плошчы Міру, сённяшняй Плошчы Асецкага ў Нідэршэнгаўзене, пра што ведалі толькі старыя панкаўцы. З часу, калі ў 1949 годзе замак быў абвешчаны ўрадавай рэзідэнцыяй, вуліца з абодвух бакоў канчалася плотам, які з боку Нідэршэнгаўзена быў цалкам загароджаны, нават засланяў від на замак з панкаўскага боку, быў абаронены ўзброенай вартай ад розных некампетэнтных разяваў. Каб дабрацца з аднаго трамвайнага канца ў другі, трэба было праехаць усяго толькі пяць прыпынкаў альбо ісці пеша паўгадзіны. Я жыла ў гэтым раёне ўжо трыццаць гадоў і ніколі не звязвала разам гэтыя трамвайныя канцы. Толькі Бруна, які вельмі цікавіўся гарадскімі планамі і картамі як і сапраўднымі ландшафтамі і жылымі кварталамі, якія пазначаны на тых картах, надаў некі парадак у маёй галаве тым панкаўскім вуліцам. Кожнага разу, калі мы мусілі падначальваць нашыя прагулкі сваволі валадароў замка, ён праклінаў звар`яцелых носьбітаў улады і пагвалтавання вуліц, якія не толькі замыкалі грамадскія дарогі, як ім было зручней, але яшчэ і пераназвалі нічым не вінаватую плошчу ў гонар Карла фон Асецкага, каб гэта ўвесь свет паверыў, быццам Асецкі быў добры сябар Вальтэра Ульбрыхта.

Парк быў спланаваны плоска і ўшыркі, так што ва ўсе бакі яго можна было азіраць і кожнага разу ўбачыць там знаёмых, нават калі яны гулялі з другога боку. Цяпер, апоўдні, было амаль пуста. На невялікім гарбатым мастку стаялі дзве старыя кабеты, кідалі ўніз у раку хлебныя крошкі качкам, якія і зімой і летам насяляюць Панку, вузкую брудную рачулку, якая перасякае парк з усходу на захад і імем якой названы і наш раён. На лужку гарэзавалі тры сабакі. Гаспадары, стоячы зводдаль адзін ад аднаго, цярпліва чакалі.

Тут гэта не так кідаецца ў вочы — гэтую фразу нейкі час таму назад падчас прагулкі па парку з уздыхам сказаў Граф. З таго часу мы цытавалі яе кожны раз, калі адкрывалі які-небудзь хоць напалавіну не ссабачаны аазіс. Там гэта не так кідаецца ў вочы. Што гэта было тое, што не так кідаецца ў вочы, не патрабавала ніякага тлумачэння, нават "так" вычэрпвалася ў намёку: не так пагана, як усюды. Ужо колькі-колькі я дзіву давалася, што яны нічога не ўчварылі з паркам, не бетанавалі дарожак, не спілавалі яго двухсот- а то можа і трохсотгадовых дрэў з мурамі-камлямі. Яны ж яго нават не

абгарадзілі, як замак альбо "гарадок". Куды мы ні ўвойдзем, там вяне лісце, неяк сказала Анна Зэгерс. Нейкім дзіўным чынам гэта Зэгерсіна МЫ абышло бокам панкаўскі замкавы парк. Я шукала на кустах бутонаў; як маленькія жывоцікі пузаціліся яны на галінках.

Ужо шэсць тыдняў, кожнае серады з трох да чатырох я бяру ўрокі фартэпіяна ў Тэклі Фляйшэр Як зацятая, практыкавала я абедзве рукі рухацца living рознымі спосабамі, цэлы тон левай, дзве палавіны правай: "Куку, куку..." Старым вучням, як я, фартэпіянная літаратура не складзена, сказала Тэкля Спаўненне неакрэсленай страсці, якое я спадзявалася ад фартэпіяннай ігры, ніяк не прыходзіла. Але Тэкля лічыла, што я добра матываваная, і магла б расправіць мае застылыя суглобы, да пэўнай ступені, вядома. Кожны дзень я паўгадзіны грала гамы. Ты і праўда думаеш што будзеш шчаслівая, калі зможаш сыграць сабе кавалачак Шуберта, спытала Тэкля

Ну, прынамсі, не нешчаслівая, адказала я, ды большага жанчына ў сорак гадоў і жадаць не можа, як толькі быць не нешчаслівай

Добра, сказала Тэкля, якраз гэтым самым і мяне суцяшала мама, калі я засмучалася Дзіця, цяпер ты марыш пра вялікае шчасце, казала мама, а праз некалькі гадоў ты будзеш лічыць шчасцем, калі цябе абыдзе вялікае няшчасце

Для мяне фартэпіянная ігра значыла, нават калі гэта толькі гамы і дзіцячыя песенькі, нешта падобнае на парк. Не так кідалася ў вочы.

***

Вам не званіў таварыш маёр? Ахмістрыня, гэтым разам у светла-блакітным фартуху з фальбонкамі на шыі і плячах, прытрымлівала рукою клямку, нібы хацела тут жа зачыніць дзверы

Які таварыш маёр? Я паспрабавала ўвайсці ў дом, але яна адставіла ўбок нагу і сваім пагрозлівым клубам прыкрыла вузкую шчыліну ў праёме дзвярэй

Малады гер Берэнбаўм, хто ж яшчэ, таварыш маёр

Ён жа Вам тэлефанаваў, каб сёння не прыходзілі.

Раней я ніколі не заўважала, што яна мяне цярпець не магла. Яна выцягнула кароткую шыю па-над фальбонкамі і варожа ўтаропілася на мяне. Гер прафесар пачуваецца блага, і таму таварыш маёр затэлефанаваў вам, каб Вы сёння не прыходзілі

Ён не дазваніўся.

Хх-ха, яна перасмыкнула плячыма, што мела азначаць: табе не пашанцавала

Відаць было, яна намацала нейкую сувязь паміж станам Берэнбаўмавага здароўя і мною. Яна была набожная душа і нехта, магчыма Міхаэль Берэнбаўм, павінен быў падбадзёрыць яе, каб яна так нахабна і пераможна заступіла мне дарогу. Вугалок анучкі звісаў з кішэні яе фартуха Яна засмяялася, як пераможца, а я ж зусім не ведала, што ваявала і з ёю. Што ў дом, пераступіць парог якога мне кожны раз каштавала насілля над сабою, будзе заслонены доступ вось гэтым цэрберам у светла-блакітным фартуху з белымі фальбонкамі, здавалася мне сімвалам самай прыкрай сітуацыі, у якую я сама, як у нешта, уступіла

Я ўжо была хацела перадаць праз яе пажаданні выздараўлення, калі за яе плячыма ў шарсцяным халаце паявіўся сам Берэнбаўм. Але ж бо не, фраў Карл, сказаў ён, як што яна тут, давайце папросім у дом.

Яна адсланіла дзверы і знікла на кухні. Сервіруючы пазней каву, яна ўсміхалася, як звычайна. Цукар зараз прынясу. У яе была цалкам бессістэмная манера блытаць усё, што толькі можна зблытаць.

Берэнбаўм быў слабы Маршчыністая шэрая скура на твары звісала і нават дужа залішне на падбародку, нават рука ягоная дрыжала больш чым калі, як бы адмовіўшыся ад апошняга супраціўлення Ён прысёрбваў каву, пры гэтым ледзь падымаў кубачак, а бяссіла апускаў сагнутае тулава яшчэ трошкі ніжэй, пакуль рот не дастаўаў да беражка кубачка Я прапанавала яму прыйсці іншым разам, але ён адмовіўся Мы зоймемся вясёленькім раздзелам, над якім нам няма чаго спрачацца, сказаў ён. Пішыце: "Вяртанне ў Германію Момант, калі цягнік перасёк граніцу Германіі, належыць да самых шчаслівых у маім жыцці Дамоў у вызваленую Германію, вызваленую Савецкай Арміяй. Таварышы ў цягніку плакалі ў далоні. У гэтую хвіліну мы ведалі· гэта будзе наша Германія, навекі вызваленая ад прагных захопніцкіх імперыялістаў і забойцаў-фашыстаў. Мы наперад ведалі, які цяжкі шлях, паліты потам і слязамі, ляжаў перад намі".

Мне хацелася б уставіць сюды верш, сказаў ён, верш Ёганэса Р. Бэхера, які ад шчырага сэрца сказаў нам цудоўныя словы.

Ён прачытаў так патэтычна, як толькі, па-мойму, мог:

*"Вы знайце адно:*
*Хапіла сіл змагацца,*
*Хоць па усіх шляхах*
*Праз кроў і смерць ішлі.*
*Мы ведалі даўно:*
*Павінны мы падняцца,*
*Свабоды нашай сцяг*
*Каб рэяў на зямлі!*

*Здзяйсненняў нашых лёт!*
*Народ куе свабоду*
*І новы гімн пяе*
*І славіць новы край!*
*Улада ваш аплот,*
*Яна — слуга народу.*
*Народзе мой, яе*
*З рук больш не выпускай!"*

Паветра, якога ён мог назапасіць у лёгкіх, хапала толькі на кароткія радкі, апошнія склады іх ужо задыхаліся ад нястачы дыхання, аж такі слабы ён быў. Занадта слабы, каб я магла распытваць пра ягоную віну ў арышце і асуджэнні Графа.

Ён дыктаваў: "Страшна, што тварылася ідэалагічна ў галовах людзей Яны ўсё яшчэ стаялі бліжэй да забойцаў, чым да ахвяр Глыбока ў свядомасць рабочага класа ўкаранілася антысавецкая прапаганда. Выхаваць гэтых людзей — задача гіганцкая".

Ён адхіліўся назад з заплюшчанымі вачыма. Я ўважліва сачыла за ім. Як у тых людзей у метро, якія самазабыўна тупа вядуць спрэчку з апанентам, шэфам, жонкай, супернікам і прабег размовы напісаны ў іх на твары, часцей як трыумф летуценніка з перапынкамі на няўзрушлівасць і спакойную абыякавасць, калі можа гаварыць другі, пасля зноў гордая пагарда на вуснах, калі ён сам пярэчыць, так праслізнуў цяпер і на Берэнбаўмавым твары ўспамін пра былыя перамогі. Пакуль я сачыла за пыхлівымі рэмінісцэнцыямі яго гульні мінаў, раптам адчула, што зусім без ніякага намыслу, міжвольна пераймаю яго, адцягваючы назад куточкі вуснаў, падымаючы бровы, недаверліва моршчачы лоб, і, як ужо непазбежная праява ўздзеяння гэтай маскі, ува мне прачнулася адчуванне, што кожны іншы цяпер можа западозрыць ува мне выведніка і падслухача. Нейкая варожая самаўпэўненасць сфакусавала мой зрок на злядашчаным Берэнбаўме, які з асалодай рэпеціруе перад мною свае перамогі. Яго залішне фанабэрыстая, вальяжная самаўпэўненасць, падкрэсленая слабасцю, якая ў ім была вельмі відна, раздражніла мяне да самай крыві. Ці мо наадварот: гэта была слабасць, якая непакоіла мяне і будзіла ўспамін пра Берэнбаўмаву кроў, якую я бачыла, тады, калі мучыла яго сваімі пытаннямі пра гатэль Люкс, аж пакуль у яго нарэшце не пайшла носам кроў. Ён усё яшчэ не расплюшчваў вачэй, сядзеў, безабаронна выцягнуўшыся на сваім крэсле. Я думала пра яго пад'язычную костку недзе паміж падбародкам і глоткай І тады спыталася. Вы ведаеце Карла-Гайнца Барона, сінолага?

Ён выпрастаўся, ветліва ўсміхнуўся, не зразумеў, нічога ж не адбылося. Але я спыталася яшчэ раз: Вы ведаеце Карла-Гайнца Барона, сінолага?

Ён адказаў, не марудзячы, толькі расцягваючы словы, быццам хацеў выйграць часу, так, ён яго ведаў, праўда, гэта было даўно.

Ці ўспамінаеце Вы пра Вашу апошнюю сустрэчу з ім?

Іх было дзве, я памятаю абедзве. Ён падняў руку, як прамоўца, які запрашае да цішыні; жэст, які паходзіў з яго мінулага, калі ён яшчэ сядзеў за пярэднімі сталамі на сходах і даваў слова прамоўцам альбо пазбаўляў Апошні сказ Вы запісалі, спытаўся ён. "Выхаваць гэтых людзей — задача гіганцкая"

Я ўявіла сабе, як ён гэтым рухам рукі асудзіў Графа на маўчанне, калі той нервова і крыху неабачліва спрабаваў знайсці не каральную сувязь паміж беглым здраднікам, ім самім і бандэроляй, якую ён здаў у Заходні Берлін на галоўпаштамце Потсдама

Успамін пра наступнае даецца мне цяжка, не, таму што я не ўцяміла, што здарылася. Я ведаю гэта так дакладна, быццам двойчы перажыла тыя хвіліны, як глядачка і як акторка. А зрэшты, я нават

тройчы была сведкаю, бо як акторка я таксама была раздзеленая, на адну, якая нешта рабіла, і другую, якая хацела нешта рабіць. Я ведаю ўсё, нічога ад мяне не вымкнулася. Вось гэта і робіць успаміны такімі цяжкімі.

Я бачу іх перад сабою, Бераэнбаўма і Разалінд. Ён за пісьмовым сталом, у жоўтым святле настольнай лямпы. Яна насупраць яго, за два крокі, забарыкадаваная машынкай маркі "Rhein-metall". Пакуль я яшчэ вагалася, ці дае мне справядлівасць права помсты за Графа альбо патрабуе скідкі на хваробу Берэнбаўма, я ўбачыла, што Разалінд ужо рашылася. Кароткія валасы на руках ніжэй локцяў і сканцэнтраваны, нацэлены супроць любой спагады замкнуты позірк выдавалі агрэсіўнасць. Я бачыла гэта, і Берэнбаўм адчуваў.

Яго апошнюю спробу абараніць размову, калі ласка, Роза, іншым разам, толькі не сёння, яна недачула. Чаму ён проста не ўстаў і не пакінуў пакой, не ведаю. Магчыма, нават на гэта яму не хапіла сілы.

Разалінд не пачула яго. Адкуль Вы ўзялі сабе такое права? Ці думаеце Вы пра сваю віну? Спачатку яшчэ спакойная, царавала яна як багіня помсты за машынкай. Берэнбаўм здаўся. Можна было падумаць цяпер, што ён уліваецца ў нешта даўно чаканае. Мяне самога пераследавалі, сказаў ён амаль бязгучна, Грэта ў канцлагеры. Нялёгка паслаць чалавека ў турму. Мы не недачалавекі. Камуністы змагаліся супроць недачалавекаў. Мы не мелі магчымасці вучыцца. Мы плацілі за права іншых вучыцца, заўсёды, спачатку як пралетарыі нашым потам, пасля грашыма нашай дзяржавы. Грошы рабочых. Гэтая адукацыя была нашай уласнасцю, хто з ёю ўцякаў, той — злодзей і рабаўнік, Ваш сінолаг злодзей, канечне. А злодзею месца ў турме.

Разалінд нахілілася наперад, паклаўшы рукі на клавіятуру машынкі. Пад кожны склад слова яна падымала галаву ўгору, як сабака, калі брэша. Канфіскаваць мазгі. Вы канфіскавалі мазгавую масу, бо ў вас яе мала. У наступным стагоддзі вы яе ампутавалі б і павесілі б на дроце, каб ашчадзіць турэмныя выдаткі. Свая форма прыгону: не ўласнасць на чужое цела, а ўласнасць на чужыя мазгі, у вас, вызвольнікаў чалавецтва. Цела ў вас хапала ў саміх, мазгоў не хапала. Вы, можа, ведаеце латынь? Латыні Вы не ведаеце, і таму Вы забаранілі іншым людзям вывучаць латынь. А хто ўжо яе ведаў, таму месца ў турме, каб астатнія забылі, што яна ёсць: латынь, — пражывуць без латыні. Усё павінна быць забыта, каб не выплыла наверх тое, чаго не ведалі вы.

Абапершыся на здаровую руку, Берэнбаўм паспрабаваў яшчэ раз выпрастацца ў сваім крэсле. Ён гаварыў натужна, не дыхаючы ці то ад болю, ці то ад шалу· мы нічога не забываем. Ніколі. Мы заўсёды ведалі, што такое голад і холад, сырыя кватэры, рахіт, беспрацоўе, вайна. Наш універсітэт быў — класавая барацьба Наша латынь гэта Маркс і Ленін. Наперад і не забываць. Вы забылі. Што ж вы ведаеце?

Нічога мы не ведаем, закрычала Разалінд з такой грымасай, што я сама яе ледзь пазнавала, нічога, бо мы не павінны былі жыць. Вашага ўласнага жыцця вам не хапала, вы былі ўшчэрбныя, вы спажылі таксама і наша жыццё, вы людаеды, рабаўладальнікі з вашым войскам заплечных майстроў.

Я слухала крыкі Разалінд, бачыла, як яна пры гэтым пырскала слінай і біла кулакамі па машынцы. Самае горшае я бачыла ў яе вачах, у якіх адлюстроўвалася ўсё, што толькі яна рабіла: Разалінд перад Берэнбаўмам, кулак занесены для ўдару, другая рука на Берэнбаўмавым горле паміж падбародкам і кадыком. Удар у твар. З рота выпала сківіца. Яна зноў ударыла яго, аж ён упаў з крэсла. Шарсцяны халат расхінуўся на ягоных каленях, і вялае сцягно расцягнулася на падлозе, пад мяккай бялізнай відны вялыя геніталіі. Яна шпыняла яго ў рэбры, у галаву, у яйцы, абедзвюма нагамі скакала на грудную клетку. Ён ужо не варушыўся Толькі калі кроў пацякла з вушэй, яна, стомленая, перастала.

Берэнбаўм абаперся на крэсла за машынкай адзінай жывой у яго і асуджанай на вечнае дрыжанне рукою. Вы вораг, прашаптаў ён.

Хоць яны цяпер маўчалі, паміж абаімі завісла пагроза. Толькі Разалінд, здавалася, ведала, што павінна было адбыцца. Строга зірнула на разгромленага Берэнбаўма. Ён павольна падняў галаву, і тады нават я разгледзела смяротны страх на ягоным твары. Паўразяўленым ротам ён задышліва хапаў паветра. Здаровая рука сутаргава дрыжала на ягоных грудзях, там, дзе дыханне канчалася хрыпеннем Другая рука хапала, шукаючы апоры, пустату. Разалінд глядзела на працягнутую да яе руку, глядзела на паміраючага Берэнбаўма і чакала ягонай смерці. Калі я нарэшце зразумела, што яна пальцам не варухне, каб памагчы яму і ўратаваць яго, я зноў здабыла свой голас.

Ахмістрыня ведала, дзе ляжала пушачка з нітрагліцэрынавымі капсуламі. Я званіла па ўрача скорай дапамогі. Берэнбаўма даставілі ў бальніцу. Пасля гэтага я бачыла яго ўсяго адзін раз.

***

Мяне забівае, што я магу радавацца, калі іншыя паміраюць. Другі раз іду за труною і развітваюся без смутку. У Ф. трыццацідвухгадовы рабочы-падсобнік задушыў сваю нявесту за тое, што яна кінула яго. Што яна будзе жыць далей, не кахаючы яго, — гэтага ён не мог вынесці. Ён сцёр яе нелюбоў, як памылку ў камп'ютэры, адключыўшы ад энергіі саму жанчыну. Берэнбаўмаву пад'язычную костку я шукала толькі вачыма. Я не накладвала рук на ягоную глотку, не ціснула вялікім пальцам на ягонае горла, гэтага я не рабіла Але як той падсобнік з Ф., адзіным выйсцем я лічыла смерць Берэнбаўма. Чаму падсобнік з Ф. не пашукаў сабе іншай жанчыны і не забыў з ёю нанесенай яму крыўды. Што звязвала яго з ягонай нарачонай, якая больш не захацела мець яго ў сваім жыцці. Чаму я не пайшла сваёй уласнай дарогай, не вучылася ў Тэклі Фляйшэр фартэпіяннай ігры, не пачала, нарэшце, перакладаць рэчытатывы з "Дона Джыавані". Чаму не падключылася да адказу, які я падазравала за Толеравым пытаннем: так, дзейны павінен стаць вінаватым, заўсёды і заўсёды, альбо, калі ён не хоча рабіцца вінаватым, сканаць. Нібы я толькі таго і шукала: маёй віны Быць чым хоч, толькі не ахвярай. Гэта ведаў і Герберт Берэнбаўм, рабочы з Рура: чым і кім хоч, толькі не рабіцца больш ахвярай.

Цяпер толькі, у перадапошнім радзе, я пазнала ахмістрыню. Пад вузкім чорным паліто паперамення падымаюцца і апускаюцца яе шырокія клубы. Клыбаватая хада яе і, у параўнанні з масіўным тулавам, тонкія, жылістыя ногі нагадваюць у ёй вярблюда. У замерзлых да чырвані руках яна трымае невялікі букецік гваздзікоў і насовачку, якою сюд-туд падцірае вочы. Фраў Карл з тых людзей, якія пра сябе саміх гавораць, як пра маленькія маякі: я толькі маленькае свяцельца. Фраў Карл паставіла сваё маленькае свяцельца на службу прафесару, якога яна лічыла святлом вялікім. Я падазраю, што фраў Карл не лічыць сабе за пахібу быць ахвярай. Гэтым яна адрозніваецца ад Берэнбаўма і мяне Павінны ж быць і маленькія людзі, кажа яна, і праца не ганьбіць. Раней, калі фраў Карл была маладзейшая, яна некалькі гадоў працавала наглядчыцай у жаночай турме. Гэта не заўсёды было хораша, сказала яна, калі я аднаго разу з ёю на кухні чакала Берэнбаўма.

Пакуль яна трымала руку Берэнбаўму і пры гэтым няспынна гаварыла яму: толькі спакойна, урач скора будзе, толькі спакойна, яна некалькі разоў з нянавісцю зіркнула на мяне, забойцу яе гаспадара. Я ж ёй казала, каб сёння не прыходзіла, шыпела яна, калі Берэнбаўма выносілі на насілках у машыну хуткай дапамогі. Цяпер ідзіце сабе, геру маёру не канечне з вамі бачыцца. І з плачам пабегла ў дом.

Я чулася хворай, мой лоб быў гарачы, у мяне ляскаталі зубы. Я легла ў ложак. І як толькі заплюшчыла вочы, убачыла паўжывога Берэнбаўма, які працягваў да мяне руку. Ён шчэрыў зубы, рыхтык як мой бацька, калі языком высмоктваў зубы на ніжняй сківіцы. Я склала рукі пад коўдрай і малілася, каб ён не паміраў, бо я яго не забівала б. Я малілася, як малілася дзіцем, калі суседскія дзеці потайкам бралі мяне ў нядзельную школку: мілы Божа, зрабі...

Я магла б і не пытацца ў яго. Магла б і не пытацца ў яго? Яму было семдзесят восем. У яго было хворае сэрца.

Калі яму было пяцьдзесят пяць і ён быў у здароўі, ён выдаў Графа паліцыі бяспекі. Ніхто тады не адважыўся б спытацца, паводле якога такога права людзі, падобныя да яго, пасылаюць другіх людзей за краты. А цяпер ён хаваецца за сваю нямогласць. Мае зубы стукаталі. Зрабі так, каб ён не памёр, мілы Божа. Я не павінна была б яго так ненавідзець.

Увечары прыйшла Тэкля і згатавала фенхельную гарбату з чабаровым сіропам. Так і мама заўсёды рабіла, калі ў мяне была гарачка, фенхельная гарбата з чабаровым сіропам і халодны кампрэс на лыткі, казала яна і абвязала мне ногі мокрымі хусткамі.

Калі ён памрэ, вінаватая буду я, сказала я.

Глупства, сказала Тэкля. Яна загарнула мяне ў коўдру, як мумію. Цяпер ты прапацееш. Калі хто-небудзь у сваім жыцці робіць рэчы, сказала яна і паваліліся на ложак у маіх нагах, калі хто робіць страшныя рэчы, што аж памірае, бо ў яго тады спытаюцца, ці вінаваты ён сам. Яна выцягнула ногі на ложак і так шырока адкінулася назад, што праз верхнюю трацiну адчыненага акна магла ўбачыць першыя паверхі дома насупраць, дзе жыла дачка гера Солава.

Раскажы мне пра яго, сказала я

Праўда? усклікнула Тэкля і пляснула рукамі. Толькі ўчора яны сустрэліся б, у адзінаццаць гадзін каля алтара Пергамон, нібы выпадкова. Усярэдзіне многіх цудоўнасцяў абышлі б яны вакол, як у абернутым свеце. Пасля гер Солаў вывеў бы яе ў рэстаран "Масква" Ён, сказала Тэкля, ніколі не мог бы зрабіць нечагась падобнага, як Берэнбаўм, гэта яна ведае дакладна.

Так, сказала я, але я спаткала Берэнбаўма, а ты гера Солава; я баюся, гэта было невыпадкова.

Тэкля засталася, пакуль я не заснула

***

Насільшчыкі асцярожна на паясах апускаюць труну ў магілу. Міхаэль Берэнбаўм, яго жонка, сын і пыдбараддзе стаяць поплеч, за два метры ад магілы. Пазней, калі падышла мая чарга кінуць у магілу тры жмені зямлі на Берэнбаўмаву труну, я прайду калі іх. Я працягну руку, баючыся, каб ніхто не схапіў яе, і мушу буду сказаць: шчыра спагадаю. Я ўсё яшчэ нявыкрытая стаю за чорнымі спінамі, якія адна за адной падыходзяць да магілы, дзе могілкавы службовец парупіўся пакінуць паміж вянкамі і букетамі лапік месца на пару ног, каб стаць. Тройчы бярэ кожны з іх металічны шуфлік і кідае сырую зямлю ў яму. З праху ты прыйшоў, у прах ты і вернешся. Гулка падае зямля на драўлянае века дамавіны. Я тут, каб пачуць гэты стук.

Ахмістрыня выпускае з рук у магілу свой букецік гваздзікоў. Бяссіла падымае сваю скасцянелую руку, павольна растуляе жменю, якую яшчэ колькі імгненняў трымае ў паветры з растапыранымі пальцамі, як бы з апошнім прывітаннем свайму гаспадару; элегічны жэст, які яна падгледзела ў кіно. Кідаючы зямлю, яна ўсхліпвае ў хустачку. Я не магу пазнаць, ці шчыра яна смуткуе, ці проста думае, што завінавацілася яму гэтага доказу вернасці. Яна, поўная спачування, паціскае руку Міхаэлю Берэнбаўму, ягонай жонцы, хлопчыка абдымае. Перад мною яшчэ пяць чорных спін, я зноў апошняя Ахмістрыня становіцца на прыстойнай дыстанцыі за сямействам. Цяпер яна пазнае мяне Я гляджу на яе, каб яна пра гэтае імгненне магла сказаць. я думала, мяне лясне ўдар. Фрэзіі падаюць паміж труною і свежа выскабленай сцяной магілы. Пад разьблёным векам труны, у якой сярод шаўковых падушак у галубіна-блакітным гарнітуры ляжыць Берэнбаўм Я забараняю сабе думаць пра Берэнбаўмаву руку. Усё мінулася. Я бяру халодны пясок. Той кінуў бы першы .. камень. Пясок паміж пальцамі струменіцца на труну. Усё прайшло. Паварочваюся, стаю якраз перад імі ўсімі, і ўсе яны глядзяць на мяне. І вочы Міхаэля Берэнбаўма з матавым шкляным бляскам глядзяць на мяне. Перш чым я праходжу да яго тры крокі і працягваю яму руку, ён адварочваецца Мне адлегла. Я соваю рукі ў кішэні, кідаю скамечаную газету на кучу старога смецця ад вянкоў за букавай агароджай. Маленькімі групкамі засмучанцы ідуць да галоўнага выхаду Толькі ахмістрыня ідзе адна. Я трымаю дыстанцыю. Ахмістрыня нахіляецца, папраўляе шнуроўку, бачыць каля сябе мае ногі, выпростваецца, вострымі губкамі плюе ў пясок. Вы бессаромная асоба, кажа яна І гэта яна, вядома, выгледзела з нейкага фільма. І пасля спехам далучаецца да ўсіх.

Я іду павольна, даю сабе столькі адлегласці паміж чорнымі спінамі і сабою, што ўжо магу чуць свае крокі. Усё яшчэ халадна. Неба вісіць над магіламі нерухома і шэра, як закураная столь. Нічога не здараецца. Чаму гэта праклятае неба не асунецца, не абрыне вадаспаду альбо сонечнага жару, каб высмаліў усё дачыста, альбо якую хоць якую навальніцу, як ў вясельны дзень Тэклі. Берэнбаўм мёртвы, пахаваны. І ўсё, як і раней. Паслязаўтра дзень пасля смерці Берэнбаўма Калі гэта паслязаўтра? Заўтра, заўчора, паслязаўтра? Паслязаўтра, яно ці ўжо было, а я не заўважыла?

Калі мне было дваццаць адзін, я першы раз ездзіла за граніцу У вечаровым сонцы я стаяла на Пражскім Карлавым мосце і чакала нечагась пачварнага, нечагась, чаго я не магла б даведацца, не будучы тут Але я не магла нічога даведацца Як зачараваная слухала я чужую мову, якое не разумела, глядзела на пражскую Малу Страну з яе вузкімі, неразбуранымі вулкамі і не адчувала нічога акрамя бязраднага расчаравання Мая душа, здавалася, была занадта малая, каб дапусціць цуд, якога я чакала, што ўсё застанецца на векі вечныя, што я ніколі не перажыву таго, чаго так прагну, пакуль я сама тут Я плюнула ў Влтаву і паднялася ў Градчаны Многа пазней ужо я адкрыла ў сваіх успамінах гэтыя мінуты на Карлавым мосце і свой пагляд з замка на дахі Прагі, якія ў познім вечаровым сонцы блішчалі так залаціста, як пра іх і гаварылі Але найперш я ўспомніла пра бянтэжлівае пачуццё, што не належу да гэтага, да прыгожага чмуру заграніцы Гэта сышло мне, як тым братам, якія па запавеце свайго паміраючага бацькі абкапалі цэлы вінаграднік, каб знайсці схаваны скарб, і, не знайшоўшы ні золата, ні каштоўных камянёў, скардзіліся на бяссэнсавасць сваіх намогаў і на шкадліўца-бацьку А налета братам адкрылася ісціна· напарочаны ў тастаманце скарб абярнуўся звышбагатым ураджаем вінаграду на перакапанай імі зямлі

Людзі тым часам выйшлі праз каменную браму на вуліцу Толькі калі ўжо аўтобус адышоў ад брамы ўбок горада і я магла быць спакойная, што не апынуся сярод Берэнбаўмавых жалобнікаў на прыпынку, я пайшла шпарчэй Дома я нап'юся гарачага чаю, можа, паслухаю "Дона Джыавані", пазней калі мае рукі зноў сагрэюцца, пайграю гамы

Выйшаўшы на вуліцу, бачу на паркавай плошчы кармазінава-чырвонае аўто Міхаэля Берэнбаўма, які ў гэты самы момант адчыняе дзверцы машыны і выходзіць. Ён ідзе на мяне. Ва ўніформе ў яго раптам твар вайскоўца, не твар таго святара ці патолага. І сама хада нейкая іншая, салдацкая. У руках ён трымае загорнуты ў газету пакунак. Тут, кажа ён, апынуўшыся каля мяне, ён хацеў, каб Вы гэта атрымалі Голас ягоны не выдаў, ці ўхваляе ён бацькаву волю. Я ведаю, што ў пакеце. Мне гэта не трэба, не хачу Не хачу больш з гэтым мець нічога супольнага Але бяру

Я ўсё яшчэ стаю перад могілкамі, калі кармазінава-чырвонае аўто знікае за паваротам, трымаю ў руках пакунак, загорнуты ў газету, як фунт селядцоў. Я не буду разгортваць. Я выкіну гэта ў бліжэйшую урну са смеццем Я пахаваю гэта ў гарах папер на ніжняй паліцы свайго кніжнага стэлажа Ні ў якім разе не разгарну

**Пераклаў з нямецкай мовы**
**Васіль СЁМУХА.**



**МОНІКА МАРОН нарадзілася ў 1941 годзе ў Берліне. Пасля школы год працавала ў цырульні. Вывучала тэатр і гісторыю мастацтва, працавала рэпарцёрам у газеце "Вохэнпост". З 1976 года — вольная пісьменніца. Яе раман "Баваўняны попел", апублікаваны ў 1981 годзе, меў вялікі поспех. У 1982 годзе выйшаў томік прозы "Непаразуменне" з чатырма апавяданнямі і п'есай, а ў 1986 годзе раман "Перабежчыца". У 1988 годзе з'явілася кніга перапіскі "Тым не меней шчырыя віншаванні" (у сааўтарстве з Ёзэфам фон Вестфаленам), у 1993 годзе — зборнік артыкулаў і эсэ "Суразмерна сіле і майму разуменню". Яна лаўрэат шматлікіх прэмій, сярод іх — прэміі імя Клейста (1992). Жыве ў Берліне.**

***ЗАМЕСТПАСЛЯСЛОЎЕ, альбо «ГУЧНАЯ» СПРАВА МОНІКІ МАРОН, у наступным нумары.***

# Мікола КАСЦЮКЕВІЧ



***

Заместа веры
у verbum humanum
(у змесце
пошукаў першапрычыны)
Ты даў мне жанчыну,
Нябесны Ойча,
як сірочую
варожасць,
абгрунтаваны давер,
ці
засцеражэнне,
і сціжму шанцаў
раздарожвацца двойчы –
у смерці
і ў нараджэнні.



# ЗАПІСЫ НА КУЛІНАРНАЙ ФОЛЬЗЕ

## ЯНО

***

**Есці – гэта чытаць твор кулінарыі. З гэтага пункту гледжання, наша планета – самая "чытаючая" сярод планет Сонечнае сістэмы... Не ведаю, ці ёсць мастацтва кулінарыі на Марсе. Можа, гэта – унікальнае, чыста зямное мастацтва?**

***

**Наша жыццё падобнае да малака. Спачатку яно – салодкае, потым – кіслае, а потым – цвёрдае і цяжкае, як тварог. Але пад канец і тварог з'ядае бяззубая Бабуля ў Цягніку.**

***

**Свежы, цэлы яблык – гэта паэзія. Надзёрты на тарцы, для вінегрэту – проза. Парэзаны на часткі для дэсерту – драматургія... Печаны яблык – дзіцячая літаратура. (Яблычны самагон – літаратура, насычаная табуіраванай лексікай.)**

***

**Дзіця пытаецца: "Мама! А чаму кава не сіняя?.." Сапраўды: чаму? Чаму яна не сіняя?**

***

**Кулінарыя – гэта лірыка духа, момант яго найвышэйшай расчуленасці...**

***

**Кухня – самае прыцягальнае месца ў доме. Тут жывуць духі (ці жывяцца). Я не раз іх тут бачыла.**

***

**Кахаць – гэта карміць і есці, есці і карміць...**

***

**Здаецца, кулінарыя – адзін з самых эратычных відаў мастацтва! Згадваю кінастужку "9$^1/_2$ тыдняў"... Таму не здзівілася, калі ўбачыла на афішы "Арт-прагнозу-96" фразу: "Сумесная акцыя мастакоў, літаратараў... кулінараў і фармаколагаў". (Праўда, мастацкія здольнасці фармаколагаў падаюцца мне падазронымі...)**

***

**На нашай вуліцы адкрыўся новы прадуктовы магазін. Ён называецца "Давер". Бо, сапраўды, есці – гэта давяраць.**

***

**Жывёлы хаваюцца, калі ядуць (ці імкнуцца схавацца: адбягаюць, адварочваюцца ад іншых). А людзі чамусьці не. Больш таго, яны набудавалі сабе грамадскіх ядальняў – сталовых, рэстаранаў, бараў...**

**Людзі хаваюцца, калі кахаюцца. Гэтым яны адрозніваюцца ад жывёлаў. Кахаць – гэта "думаць пра нябёсы", а есці – "пра зямлю".**

***

**Не ведаю, чаму я хачу навучыць *найперш* цябе, любы: кахаць або правільна есці... Я хачу, каб ты жыў доўга-доўга. І не толькі ў маёй душы, але і на маёй зямлі.**

***

**Праявіць найвышэйшую страсць – гэта, як ні дзіўна, з'есці аб'ект сваёй любові, свайго жадання (раман П. Зюскінда "Парфума", апошнія старонкі). Але следам за гэтым найвышэйшым наталеннем... ідзе зноў 0 (нуль), як быццам дно ў талерцы, з якой толькі што з'едзены суп. Значыць, задача таго, хто беражэ любімага чалавека, – не даводзіць сваёй любові, свайго пачуцця да найвышэйшага стану, быць больш гуманным...**

***

**У рамане Умбэрта Эка "Імя ружы" маладая дзяўчына з беднай сям'і павінна**

**была аддаць сваё цела аднаму старому манаху за яду (сэрца быка). Мяса быка было мёртвае, а яна – жывая. Манах аддаваў не сваё цела, а частку чужога; а яна – сваё. Нераўнацэнны чэйндж (абмен)! Юны Адсан так і *павінен быў* узнікнуць у гэтай сітуацыі, каб згарманізаваць яе, ураўнаважыць... У ідэале, фізічная блізкасць – гэта раўнацэнны чэйндж.**

***

**З пункту гледжання кулінарных асацыяцый, у беларускага паэта Леаніда Дранько-Майсюка – вельмі смачнае прозвішча: "Дранікі для Майсейкі"... Так і хочацца абмакнуць іх у смятану свайго белага, чыстага ад эратычных памкненняў пачуцця і з'есці!**

***

**Калі чую прозвішча іншага паэта – "Разанаў", – мне бачыцца, як хлеб наразаюць. Ён кладзецца роўненька, акуратна: луста да лусты... Яго паэзія і сапраўды стала мне "хлебам надзённым". Толькі не ведаю, да каго мне звяртацца ў маёй малітве аб ім: да разумнага Айца? смелага Сына? ці няўлоўнага Святога Духа?..**

**Хлеб, нарэзаны на лустачкі вобразаў.**

***

**Лепш памру з голаду, чым мяне будзе "есці" багацейшы, але нялюбы. Блізкім мне можа быць не любы. Як "ежа" я не для ўсіх. Я вельмі *пераборлівая* як "ежа" (калі ўявіць, што ежа можа выбіраць сабе спажыўца)... Мая мама часта мне гэта слова гаварыла ("пераборлівая").**

***

**"Крыніца" – цудоўная назва для кулінарнай кнігі! Для элітарнага культуралагічнага часопіса – таксама (і не таму, што ў нас разнастайна, рацыянальна і смачна харчуецца толькі эліта!)**

**"Крыніца"... Як у вінегрэце, адчуваюцца імёны-складнікі. Напрыклад, "Карміца" (поўная духоўнай ежы, кармоў; ну, і "карміцелька"...) "Карніца" (пра вечную інкарнацыю творчых душаў). Яшчэ навязліва лезе назва "Кірніца". Не, часнаку, перцу, солі ў гэтай *страве* не павінна быць шмат!.. Лепей бумбамлітаўскае – "Клініца" (лякарня...); ці тэвээлаўскае – "Крыціца" (тонкакасцявая, імпэтная літаратурная крытыка). А для мастацкіх вобразаў і ідэй гэты часопіс, безумоўна, – боскі "клірас": "Клірніца"...**

***

**"Бум-Бам-Літ" – малое дзіця на кухні: забаўляецца з пустымі каструлямі, грукае ў іх лыжкамі, пакуль маці гатуе абед. Маці, відаць, прыхільніца дэмакратычнага выхавання па доктару Споку... (Амерыка стала нам зараз незвычайна блізкай у духоўным сэнсе: сваімі ідэямі выхавання, праблемамі індзейцаў і эмігрантаў, ды й інш.)**

***

**Ёсць нешта агульнае паміж спажываннем ежы і спектаклем (тэатрам увогуле). Я не кажу пра фармальны падзел часу: на дзеі, акты – і закуску, першую, другую стравы... Я маю на ўвазе найперш сакральны змест таго й гэтага з'яўшча рабіць чужое сваім і пераджываць яго як сваё. І рабіцца больш моцным, энергетычна насычаным у выніку гэтага.**

***

**"Толькі не гавары маёй маме..." падлетак напіўся... Беднае дзіця! Яно лічыць, што спазнаць свет – гэта прапусціць яго ўвесь праз уласны страўнік. У гэтым ёсць нешта наіўнае, прастадушнае і старое-старое ("архаічнае", але гэта слова не падыходзіць да гэтага пісьменніка).**

**Наогул, у творчай скіраванасці Адама Глобуса адчуваецца нешта ахвярнае і ў той жа час традыцыйнае, ад Адама – нашага міфічнага продка (ой, падышло...), якога калісьці спакусіла (шчыра накарміла) Ева. "Толькі не кажы свайму тату..."**

***

**Паэт Усевалад Гарачка на "Арт-прагнозе-96" склаў з пірожных свой верш, а ўдзячныя гледачы (чытачы? "едачы"?) яго з'елі. Якое гэта гуманнае мастацтва ў галоднай цяпер краіне!**

***

**Ілля Сін пакуль што для мяне – кітайская кухня: усе хваляць, кажуць, што гэта экзатычна і перспектыўна, але я пакуль не разумею... Напрыклад, у кнізе Г. Ліндэ і Х. Кноблаха "Смачна есці" нядаўна прачытала, што ў кітайцаў ёсць такая нацыянальная страва, як парэзанае скрылькамі і зваранае ў булёне ластаўчына гняздо.**

**З гэтай жа кнігі даведалася, што "кітайцы гатуюць незвычайна хутка", "лічаць непрыстойным разразаць яду нажом на талерцы (і таму нажы ўвогуле на стол не падаюць!) і што яны "любяць злучаць, здавалася б, незлучальнае"... Ну, гэта мне блізка! Ужо "цяплей".**

***

**У гукавога комплексу "СТР" ёсць не толькі "стрававальнае", але і "эратычнае" значэнне. Страла ў сэрца – страсць – агульнае стравâванне – і страта... Каторы раз дзіўлюся майстэрству нашага моўнага арганізма (ці лінгвістычнага цела, як вызначае яго Ю. Барысевіч)!**

***

**Адзін даследчык – Д. Майбарада – піша, што можна назваць архаічную свядомасць жаноцкай ці тэатральнай...**

**Так, хто кажа "тэатр" – кажа "жанчына". Хто марыць пра жанчыну – марыць пра тэатр... "Мілы, прыйдзі да мяне паглядзець мой новы спектакль! Ён толькі для цябе..."**

***

**Ева была не толькі першай жанчынай, але і першай актрысай. Але тады гэта было нова, і яе вядучую ролю зблыталі з яе біяграфіяй, бясцэнным жыццём (паставіліся да гэтага занадта сур'ёзна, калі не сказаць – жорстка).**

**І чаму ў чалавецтва ва ўсёй яго далейшай гісторыі атрымалі папулярнасць і развіццё ідэі менавіта "тэатра жорсткасці" ў бясконцых грамадствах, а не якога іншага, напрыклад, "тэатра любові" (які быў выразна і цэльна праманіфеставаны дзве тысячы гадоў таму наскрозь "жаноцка-тэатральным" І.Х.)?..**

**Не веру, што на ўсім "мужчынскім", моцным ляжыць каінава пячатка! Ды й Каін – ён проста сыграў сваю ролю ў гэтым асветніцкім спектаклі! Ён – цудоўны актор, у жыцці – цікаўны, добры чалавек. І, як маці, любіць яблыкі, садавіну...**

***

**"А куды гэта ставіць?" – як бы рытарычна пытаецца сам у сябе спадар Акудовіч пры "сервіроўцы стала". Ён – галоўны цырымоніймайстар і распарадчык "культуралагічнага балю", прыёму дарагіх гасцей.**

**О "Крыніца"!**

***

**Змажу вусны лімонам, каб жыццё табе мёдам не здавалася. Цалуй мяне й такую, мілы!**

***

**Дон Кіхот Ламанчскі быў закаханы ў выдуманую ім Дульсінею ("Салодкую"), Дон Пушкін Віцебскі – у Беларусь, гэтаксама простую сялянку, якую ён уяўляе высакароднай сіньёрай і якой прысвячае свае рыцарскія подзвігі.**

***

**Усё, што напісала на гэтай фользе, – скамячу і кіну ў гарачую духоўку: "Пусть всё, что не чудо, сгорает"! (Вольга Седакова)**

***

**І ў спажыванні ежы, і ў каханні час ад часу патрэбнае ўстрыманне, пост. Пост – ачышчэнне, аднаўленне і нараджэнне – post посту! – "новага чалавека", здольнага на далейшы плённы працяг гуманістычнай *збіральнай дзейнасці,* якая завецца жыццём...**

**Людка СІЛЬНОВА**

1996

**КРЫНІЦА № 10**

**1996**

**ШТОМЕСЯЧНЫ КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ЧАСОПІС**

**ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1988 ГОДА**

**Заснавальнікі:**
**СП Беларусі, калектыў рэдакцыі**



**Выдаецца на беларускай мове**

**Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца**

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11**

**Званіце:**
**366-071, 366-142**

Падпісана да друку з арыгінала-макета 25. 11. 96. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера друкарская № 2. Ум.друк.арк. 13,02. Ум.фарба-адб. 14,35.
Ул.-выд.арк. 14,52.
Тыраж 2000 экз.
Кошт дагаворны. Зак. 1883.

**Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва**
**«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.**